# Маладосць

# 6

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(739) ЧЭРВЕНЬ, 2015

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**В ы д а в е ц — рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**
**Дырэктар — галоўны рэдактар КАРЛЮКЕВІЧ Аляксандр Мікалаевіч**

## У НУМАРЫ:



### *ПАЭЗІЯ*



### *ПРОЗА*



### *ПЕРАКЛАДЫ*



### *КРЫТЫКА*



### *ПУБЛІЦЫСТЫКА*



***У пятым нумары часопіса «Маладосць» за 2015 год была дапушчана памылка ў напісанні прозвішча аўтара артыкула «Гісторыя Беларусі ў інтэрпрэтацыі Язэпа Драздовіча: на матэрыяле рамана Язэпа Драздовіча "Гарадольская пушча"» Маргарыты Петуховай (№ 5, с. 111 Пятухова). Рэдакцыя просіць прабачэння ў спадарыні Маргарыты і чытачоў.***



*БДУ. Сустрэча будучых журналістаў з Васілём Быкавым і Алесем Адамовічам, арганізаваная прафесарам Еўфрасінняй Бондаравай. Яна, як многім вядома, ладзіла такія мерапрыемствы для студэнтаў рэгулярна. У архіве яе, часткова перададзеным выкладчыку Інстытута журналістыкі Арцёму Кавалеўскаму, шмат не менш цікавых фотаздымкаў.*

# РАЗВАГІ АБ ПРАВІНЦЫІ

*Культурнае жыццё віруе не толькі ў нашай сталіцы. Фотамастак Дзмітрый Лось стварыў у Віцебску незвычайную фотавыставу «Правінцыя». Ён злучыў фотавобразы з аўдыявізуальнай стужкай. Атрымаліся не проста фотаздымкі, да якіх мы ўжо прызвычаіліся, а тэатр у фотакартках. З запісам размоў мастака і яго герояў, з шумамі горада. Мастак, натуральна, даў слова ўсім. І чалавеку, і прасторы. Разам з Дзмітрыем мы паразважалі аб правінцыяльнасці мыслення і дакументальнасці мастацтва. І дайшлі да філасофскіх разваг аб жыцці.*




**— Ты ўжо не ўпершыню звяртаешся да тэмы правінцыі. Як ты да яе падступаўся?**

— Думкі аб адносінах да правінцыяльнасці з’явіліся даўно і шмат абмяркоўваліся ў коле сяброў, часам — смешна, часам — сумна, але чамусьці заўсёды вельмі цікава. Калі задумацца, то ў многіх праектах можна знайсці перадумовы з’яўлення гэтай выставы. Магчыма, яны будуць і надуманыя, бо я жыву і здымаю ў так званай правінцыі. У 2013 годзе мы з мастачкай Таняй Лісоўскай пачалі, але пакуль так і не давялі да канца праект з працоўнай назвай «ВЫВАРАТ». У ім мы разважаем над правінцыйнай модай і правінцыяльнасцю ў цэлым, праўда, з дапамогай зусім іншага падыходу і стылю фатаграфіі. Там больш «фана», выразаных чалавечкаў і моды. Для яго мы здымалі відэарад, які, спадзяюся, у будучыні стане дынамічным дадаткам да праекта. У Мінску мы зрабілі выставу ў нашых сяброў — студыі SKYLINE. Праект называўся Pas une image juste, juste une. Мы здымалі нашых віцебскіх сяброў-танцоўшчыкаў, разважалі пра маладосць і існаванне ў вобразах. Цікавым вопытам у сумесным праекце было тое, што працавалі мы асобна і пэўны час не паказвалі адно аднаму напрацоўкі, каб у выніку звесці ў адну выставу два абсалютна розныя погляды.

**— Як ты думаеш, правінцыяльнасць звязана толькі з месцам жыхарства ці з мысленнем?**

— Напэўна, і з тым, і з другім. Але ж правінцыяльнасць — гэта хутчэй стаўленне. Пры гэтым з’яўляюцца пытанні: чым вымяраецца правінцыяльнасць, хто больш правінцыяльны, а хто — менш? Добра гэта ці дрэнна?

**— Ты пастаянна жывеш у Віцебску?**

— Так. І нарадзіўся ў Віцебску. Працуючы ў тэатры, я шмат ездзіў на гастролі па нашых гарадах і мястэчках, у Расію, на Украіну. І цяпер люблю падарожнічаць. Але, калі шчыра, не ўспомню месца, пра якое мог бы сказаць: «Я застануся тут назаўсёды». Усё ж такі, напэўна, мой горад — гэта людзі, з якімі мне добра. Пакуль мне камфортна ў Віцебску, у горадзе, дзе мая сям'я, мае планы і жыццё. Я цяжка перажываю, калі хто-небудзь з блізкіх з'язджае з Віцебска. Хоць разумею, што гэта абсалютна нармалёва і нават многім неабходна.

**— Як жыхары Віцебска прынялі выставу? Ці бачылі яны ў ёй сваё адлюстраванне? Як думаеш, ці сталі яны саўдзельнікамі твайго даследавання?**

— Мне здаецца, што выставу ўспрынялі добра. Усіх зацікавіла такая форма падачы. Прычым бачыліся прыярытэты ў працах, да некаторых вярталіся, каб паглядзець і паслухаць яшчэ раз. Сумняваюся, што людзі ўбачылі сваё адлюстраванне. Я і не ставіў такую мэту. Героі праекта — канкрэтныя людзі з пэўнымі гісторыямі або віды горада, якія наўрад ці заўважыць турыст. Выстава сама па сабе ўяўляла невялікі і агульны «зрэз», стварала простую і празрыстую карціну таго, што я бачыў ці хацеў бачыць, пакуль рыхтаваў гэтую серыю. Таму мне было б больш прыемна, калі б гледачы адчулі мой настрой і маё стаўленне да месца, дзе я жыву. Ці сталі яны саўдзельнікамі, мне цяжка сказаць. Наколькі ведаю, гэта праблема не толькі Віцебска, але і іншых гарадоў, — усюды бяда з фідбэкам. Глядач, можа, саромеецца казаць пра свае ўражанні, можа, не жадае, а можа, яму проста няма чаго сказаць. Для мяне гэта вялікае пытанне: я практычна не атрымаў зваротнай сувязі ад звычайных гледачоў.

**— Цікава, аб чым задумваліся гледачы?**

— Мяркую, многія задумаліся аб «сваёй правінцыі». Радасна, што, мой эксперымент натхняе. Пасля выставы мне напісала маладая мастачка пра ідэю свайго праекта і жаданне таксама папрацаваць з гукам да сваіх прац. Ідэя не новая. Я бачыў падобныя прыёмы ў галерэях Варшавы і Берліна. Натхніўся. У маім выпадку гэта спроба пашырыць узровень успрымання.

**— Мне твая выстава падалася дакументальным тэатрам, толькі з фотаздымкамі акцёраў замест іх саміх на сцэне. Як думаеш, ці можна назваць тваю выставу не проста дакументальнай фатаграфіяй, а дакументальным тэатрам?**

— Ох, складана самому назваць гэта тэатрам. Але, калі пафантазіраваць, то можна, напэўна, назваць горад — дэкарацыямі, персанажаў і лакацыі — акцёрамі. У фатаграфіі мяне больш захапляе форма. Мне нецікава атрымліваць прыгожыя карцінкі, я хачу разбірацца, даследаваць з дапамогай фатаграфіі свет. У «правінцыі» грае ролю менавіта погляд збоку. І няхай я выбіраў персанажаў, размаўляў з імі і націскаў на кнопку, усё роўна гэта былі тыя самыя «людзі з вуліцы». Я наўмысна не здымаў сяброў і знаёмых (толькі з адным я быў знаёмы раней, але гэта выключэнне з правіла). Так, мне здаецца, больш сумленна. Некалькі гадоў таму ў мяне быў цікавы вопыт. Я здымаў людзей, якія працуюць у гандлёвых цэнтрах, павільёнах, заваленых таварамі. Сярод гэтага пластыку, тканіны, скуразамяняльнікаў быў «чалавек», якога, як мне здаецца, паглы-










нулі рэчы, ён змяшаўся з імі. Было вельмі складана, я здымаў без прамога кантакту, але чамусьці працэс захопліваў мяне ўсё болей і болей. Напэўна, таму што рабіць дакументалістыку было складана для мяне. Дарэчы, пастановачную фатаграфію, калі працэс падпарадкаваны і накіраваны, мне здымаць нашмат камфортней.

**— Ці могуць мастацкія здымкі даследаваць праблему правінцыі?**

— Вядома, могуць. Усё залежыць ад канцэпцыі і жаданняў. Праблемы ў правінцыі такія ж, як і не ў правінцыі, толькі мініяцюрныя: і дарожныя пробкі, і паверхавасць дамоў. А праблемы ў тым, што хтосьці жыве ў вялікім або галоўным горадзе, а хтосьці — на перыферыі, я не бачу. Праблемы могуць быць у галовах, але ў Беларусі я не сустракаў людзей, якія б тыкалі ў мяне тым, што я не з Мінска.

**— Як ты выбіраў герояў для сваіх здымкаў? Увесь час хадзіў з камерай і дыктафонам? Ці рабіў спецыяльныя вылазкі?**

— Я на самай справе практычна ўвесь час хаджу з камерай, але яна за спінай, таму і дастаецца вельмі рэдка, толькі з добрай нагоды і пры вялікім жаданні. Для гэтага праекта спецыяльна выбіраў час і выходзіў на любімыя вуліцы. Мне быў неабходны пэўны настрой, па-іншаму шчыра не атрымалася б.

**— Як рэагавалі на камеру і дыктафон?**

Рэагавалі, як рэагуюць звычайна на камеру. Некаторыя згаджаліся з радасцю, некаторыя какетнічалі, некаторых трэба было ўгаворваць. А вось гук я пісаў утоена, таму гэта не перашкаджала размаўляць. Праект яшчэ ў працы, але гэта зусім нязначная частка ўсяго матэрыялу, які я раблю ўжо другі год. Толькі выбарка. Калісьці настане момант (я спадзяюся), і ўсё мне стане зразумела ў гэтым пытанні — і праект скончыцца. Які ён будзе ў выніку, я пакуль нават не магу ўявіць. Тады і з’явіцца вялікая, больш цікавая і змястоўная выстава.

**— Пагутарыўшы са шматлікімі людзьмі, думаю, ты цяпер можаш адказаць на пытанне: хто ён такі, правінцыйны жыхар?**



— Не ведаю. Пакуль не ведаю. За час, калі я здымаю гэты праект, мяняюся я, ён змяняецца разам са мной, як і маё меркаванне і стаўленне да правінцыі. Мне неяк складана вызначыць «правінцыйнага жыхара»: мы такія розныя.

**— Можа, былі нейкія вельмі запамінальныя, незвычайныя сустрэчы з жыхарамі?**

— Вось успамінаю самы добры выпадак. Вечар, да выставы заставаўся тыдзень. Раніцай я павінен быў аддаваць у друк ужо гатовыя працы. Я прыехаў да кавярні, дзе ў мяне была запланавана сустрэча, раней за патрэбны час. Стаўшы пад брылём ратушы, закурыў і глядзеў на дробны дождж. Недалёка ад мяне пад дажджом пераступаў з нагі на нагу хлопец з букетам у руках. Было бачна, як ён нервуецца, глядзіць на гадзіннік, чакае і, мяркуючы па змоклай куртцы, даволі даўно. Я ўжо збіраўся сыходзіць у кафэ, як раптам з'явілася ЯНА. Хлопец урачыста ўручыў дзяўчыне букет і нешта сказаў, ад чаго яна засмяялася. Гэта было вельмі кантрастна на фоне свінцовага неба і цёмнага вясновага вечара. Проста іскры ляцелі ад іх, мне здавалася, што цяпер сонца абавязкова павінна з'явіцца. Яны прайшлі міма мяне — і я зразумеў, што мне трэба іх даганяць. Аказалася, гэта было іх першае спатканне, яны доўга распавядалі мне пра сябе, вучобу і такі цудоўны вечар.

Раніцай іх фотаздымак адправіўся ў лік дзесяці адабраных у друк.

**— Нядаўна са мной у метро раптам загаварыў абсалютна незнаёмы мужчына. Ён быў стомлены пасля працы і сумны-сумны. Спачатку спытаў у мяне, што такое футзал, а потым пайшло-паехала... Яго дачка з'ехала, ён застаўся зусім адзін, працуе з 8 раніцы да 8 вечара, у чым сэнс такога жыцця? Для чаго гэтае жыццё? Ён вельмі шчыра адкрываў перада мной усё сваё хворае, змучанае жыццём сэрца. Якія ўражанні засталіся ў цябе пасля дыялогаў з людзьмі? У мяне — поўная апатыя і думка пра тое, што большая частка людзей вельмі няшчасная…**

— Не, ты ведаеш, у мяне няма адчування няшчаснасці беларусаў. Енчыць, сумаваць часам мы любім, гэта дакладна. Але я б не стаў вешаць на нас такое ярмо, усё гэта перманентна.

*Гутарыла Паліна ЛІСОЎСКАЯ*

# БАГДАН РАНІШЭНКА: «НАВОШТА ТЭЛЕФОН З ЧАТЫРМА ЯДРАМІ, КАЛІ Ў ГАЛАВЕ ІХ ДВА?»

*Калі я бегла ў інтэрнат Акадэміі навук браць інтэрв'ю ў Багадана Ранішэнкі, трапіла пад дождж. Прамокла. Багдан мне паспачуваў, але дадаў: «Я дык ужо два гады без прасона хаджу». «Хімік вады не баіцца», — падумала я тады. Але пасля размовы з ім хочацца па-іншаму інтэрпрэтаваць гэты факт: «Сыдзе Ён, быццам дождж на траву...» (Пс. 72, 6).*

*Вы толькі паслухайце яго гісторыю.*



— У мяне з дзяцінства дар хіміка: з сямі гадоў цікаўлюся гэтай навукай. У дзявятым класе пайшоў на гарадскую алімпіяду і заняў першае месца, потым цудоўным чынам (ледзь не вылецеўшы) перамог на абласным этапе, а «на рэспубліцы» атрымаў «другі дыплом». У дзясятым і адзінаццатым класах Бог дабраславіў узяць першае месца па рэспубліцы. У 2009 годзе я ездзіў на міжнародную алімпіяду ў Ашхабад, Туркменістан, дзе ўзяў золата на мендзялееўскай алімпіядзе краін СНД. У тым жа годзе ў складзе беларускай каманды з 4 чалавек трапіў на алімпіяду ў Кембрыдж. Тады я адзін з усёй каманды атрымаў золата.

Вучыўся на хімфаку, паступіў без экзаменаў. Навукай пачаў займацца на першым курсе. Я патрапіў да аднаго з лепшых навукоўцаў Беларусі — Міхаіла Валянцінавіча Арцем'ева, які займаецца нанахіміяй у навукова-даследчым інстытуце фізіка-хімічных праблем БДУ. У тамтэйшай лабараторыі я працаваў з першага курса да пятага. Першыя чатыры курсы некалькі разоў мяняў тэму даследавання з-за таго, што ламаўся мікраскоп і не атрымліваліся эксперыменты. Але на пятым курсе, падчас напісання дыплома, эксперыменты прайшлі ўдала. Зараз плануюцца дзве публікацыі па тэме майго дыплома. Мы займаліся паўправадніковымі наначасцінамі (квантавыя кропкі, квантавыя стрыжні і паўправадніковыя нанапласціны). Пакуль вынікі нашых даследаванняў неапублікаваны, але нам удалося зрабіць нешта новае і перспектыўнае.

**— Растлумачце, калі ласка, каб гуманітарыі лепей зразумелі: якая практычная карысць у вашых даследаваннях?**

— Мы рабілі электрафарэтычнае асаджэнне наначасцінак з атрыманнем тонкіх

плёнак. Гэта можа выкарыстоўвацца, напрыклад, для вырабу дысплэяў ці дыёдаў на квантавых кропках, якія ў бліжэйшай будучыні, думаю, увойдуць у шырокае ўжыванне. Ёсць ужо прататыпы. Праўда, з пэўнымі недахопамі, але наша тэхналогія можа прымяняцца. Мы займаліся таксама арыентацыяй паўправадніковых анізатропных наначасцінак у электрычным полі. Гэта можа прымяняцца ў лазернай і оптаэлектроннай тэхніцы. Наша даследаванне хутчэй фундаментальнае, але ў перспектыве яно можа мець практычны вынік. Гэтым пытаннем зараз займаюцца ў свеце.

**— Якія ў вас асабіста навуковыя планы? Ці збіраецеся абараняць дысертацыю?**

— Я збіраюся ісці ў навуку, таму што бачу ў гэтым перспектыву. Зараз пішу магістарскую дысертацыю. Наперадзе мяне чакае паступленне ў аспірантуру, напісанне і абарона кандыдацкай дысертацыі. Я бачу, што займацца навукай — абсалютна рэальна. Прынамсі, у нашай лабараторыі для гэтага ёсць усе магчымасці.

**— Вернемся да пачатку гісторыі. Як можна ў сем гадоў адчуць сябе хімікам?**

— Я намагаўся самастойна вырабіць порах: увесь час у бацькі выпытваў яго рэцэпт. У дзяцінстве порах у мяне так і не атрымаўся: гэта адбылося падчас удзелу ў алімпіядах, але ён мне быў ужо непатрэбны. Цікавасць да хіміі ў мяне, можна сказаць, генетычная: бацька ў дзяцінстве ўзарваў печку ў вёсцы. Дзеці хадзілі ў школу з буквамі, а я — з «Даведнікам юнага хіміка». Спачатку я проста разглядаў малюнкі, чытаў апісанні хімічных элементаў, любіў нешта змяшаць, паэксперыментаваць. На заняткі практычна не хадзіў, бо мне было нецікава: школьная праграма вельмі нудная. Я доўга чакаў, пакуль у школе пачнецца хімія, — не ведаю, чаму яе так позна ўводзяць, ажно ў восьмым класе, — думаў, што яна цікавая.

## Я доўга чакаў, пакуль у школе пачнецца хімія, — не ведаю, чаму яе так позна ўводзяць, ажно ў восьмым класе

Але мяне чакала расчараванне: усе звесткі ў падручніку былі ўжо мне знаёмыя. У школьнай праграме мала момантаў, якія могуць зацікавіць вучняў (прынамсі, так было ў мае гады). Я лічу, што школьны курс хіміі варта было б па-іншаму пабудаваць: разам з неабходным для вывучэння матэрыялам трэба даваць нешта захапляльнае. Можна сказаць, што базавыя веды былі здабыты мной самастойна. Акрамя таго, калі я пачаў удзельнічаць у алімпіядах, мне дазволілі вольнае наведванне прадметаў. Іншымі словамі, куды хочаш, туды і ходзіш. Я меў пэўную свабоду, і гэта было зручна.

**— Каб вучыцца ў такіх умовах, пасадзіць сябе за падручнікі, трэба мець самадысцыпліну.**

— Якраз тады я і навучыўся самастойнасці. Наконт самадысцыпліны: аналізуючы сваё мінулае, я зразумеў, што насамрэч усё упіраецца ў сэнс жыцця. Майму жыццю надавала сэнс вера ў Бога. Калі Бог ёсць, то ёсць і сэнс рабіць нешта добрае. Я бачыў, што мой удзел у алімпіядах шмат добрага прынёс: і дырэктару школы было прыемна, і настаўніцы, і маёй маці. Але калі быць эгаістам і жыць толькі для сябе, то няварта і мучыцца. Бог указвае, што добрае і што кепскае, заахвочвае імкнуцца да лепшага. Удзел у алімпіядах — гэта ахвяра часу, стасункаў з сябрамі і адпачынку. Каб зрабіць гэтую ахвяру, трэба разумець, навошта яна патрэбна. Многія людзі адмовіліся ад яе, бо не бачылі сэнсу. Я ўвайшоў у лік пераможцаў алімпіяды для школьнікаў у Кембрыджы.

## Калі алімпіяднік прыходзіць ва ўніверсітэт, ягоныя дасягненні нічога асабліва не значаць

Што датычыцца ўніверсітэта, аналагічнай міжнароднай алімпіяды сярод студэнтаў не праводзіцца. Ёсць асобныя алімпіяды, якія ладзяцца рознымі фірмамі і арганізацыямі, але гэта не з’яўляецца наладжаным рухам у сістэме адукацыі. Толькі аднойчы на хімічным факультэце праводзілася алімпіяда за кошт фінансавання Міністэрства адукацыі. Кожны год на хімічным факультэце праводзіцца алімпіяда BASF, адной з

## Беларусь — гэта мая радзіма, і пераезд у іншую краіну я разглядаю як здраду самому сабе

найбуйнейшых фірм у свеце, якія выпрабляюць хімічныя рэчывы. Яна з'яўляецца міжуніверсітэцкай.

Большасць удзельнікаў школьных алімпіяд ва ўніверсітэцкія гады ніяк не могуць выйсці з алімпіяднага руху. Некаторыя мае знаёмыя зараз з'яўляюцца арганізатарамі школьных алімпіяд. Мне некалі таксама было складана ад гэтага адысці. Навука і алімпіяда — рэчы розныя. Алімпіяда — гэта конкурс рашэння задач. У навуцы іншая сістэма: там патрэбны вынік, дасягненне практычных мэт. На першы план выступаюць публікацыі, удзел у канферэнцыях, і гэта фарміруе рэйтынг навукоўца. Калі алімпіяднік прыходзіць ва ўніверсітэт, ягоныя дасягненні нічога асабліва не значаць. Калісьці гэта мела значэнне пры паступленні, а цяпер — не. Вядома, алімпіяднік, у адрозненне ад большасці, многія рэчы ва ўніверсітэцкай праграме бачыць не ўпершыню. І для мяне ўніверсітэцкі курс быў пераважна паўтарэннем ўжо вывучанага. А паўтораныя веды лепей запамінаюцца. У алімпіядах выпрацоўваецца здольнасць рашаць задачы, крэатыўнасць мыслення. Але ў лабараторыях гэта не заўсёды ўлічваецца і цэніцца. Часам цэняцца людзі-робаты, якія будуць выконваць загады і сядзець на працы з ранку да вечара за мінімальную плату. А крэатыўнасць мыслення далёка не заўсёды мае значэнне. І гэта жахлівы недахоп нашай навукі.

**— У вас не ўзнікала думкі з'ехаць за мяжу?**

— Увесь час змагаюся з тым, што мне навязваюць гэтую думку. З той пары, як атрымаў золата на міжнароднай алімпіядзе, мяне намаўляюць з'ехаць. Мы жывём у спажывецкім грамадстве, у якім людзі не хочуць нічога аддаваць, а толькі спажываюць. Пануе постмадэрновая філасофія, а для постмадэрністаў няма абсалютаў, аўтарытэтаў і высокіх маральных каштоўнасцей. Спажывецтва і постмадэрнізм вельмі звязаныя. Спажыўцы жывуць там, дзе ім лепш. Як казаў мой знаёмы, постмадэрнізм — гэта эгаізм і індывідуалізм, узведзеныя ў крайнюю ступень. Мне прапаноўвалі паступаць у МДУ без іспытаў. Але гэта ілюзія, што толькі дзесьці за мяжой цябе нечаму навучаць. Вядома, на захадзе лягчэй з умовамі і фінансаваннем, а тут ты мусіш яшчэ дзесьці падпрацоўваць. Але што датычыцца навучання, магчымасцей у нас дастаткова. Беларусь — гэта мая радзіма, і пераезд у іншую краіну я разглядаю як здраду самому сабе. Нават калі тут пачнецца вайна і ўсё разваліцца, я нікуды не збіраюся ехаць ці ад кагосьці бегаць. Я супраць такога тыпу паводзін: з'язджаць адтуль, дзе кепска, туды, дзе лепей. Калісьці і на захадзе былі складаныя ўмовы, але цяперашні тамтэйшы дабрабыт — гэта вынік вялікай працы людзей, якія ў свой час прынялі рашэнне нікуды не з'язджаць. Я раней думаў паехаць куды-небудзь у аспірантуру на пару гадоў, але цяпер разумею, што не паеду. Хіба толькі на кароткую стажыроўку. Я патрэбны ў Беларусі. Справа яшчэ ў тым, што навука ў мяне далёка не на першым месцы. І нават не на другім. Навука — гэта не ўсё маё жыццё. Я не гатовы ахвяраваць сабой дзеля навукі. Яна не з'яўляецца для мяне ідалам ці прадметам пакланення, як для некаторых. Ёсць рэчы важнейшыя за навуку, хоць яе зараз надта ўзвышаюць. Яна сапраўды зрабіла крок далёка наперад, людзі нават не паспяваюць за ёй. З'явіліся тэлефоны з чатырма ядрамі, і ў мяне ўзнікае пытанне: навошта чатыры ядры, калі ў галаве два? Чалавечы розум не паспявае за камп'ютарамі. З навуковым прагрэсам людзі не змяніліся: незалежна ад таго, ці ёсць у чалавека айфон, ён застаецца такім жа злым і грэшным, якім быў. Войны працягваюцца, людзі па-ранейшаму забіваюць адно аднаго, і навука ім у

Як казаў мой знаёмы, постмадэрнізм — гэта эгаізм і індывідуалізм, узведзеныя ў крайнюю ступень. Мне прапаноўвалі паступаць у МДУ без іспытаў. Але гэта ілюзія, што толькі дзесьці за мяжой цябе нечаму навучаць

гэтым дапамагае. Усім вядомая філасофская ісціна: мараль з навукі не выводзіцца. Навука не задае аніякіх каштоўнасцей. Яна палепшыла чалавечае жыццё, але з-за таго, што людзі маюць больш вольнага часу, яны пачынаюць займацца непатрэбнымі рэчамі. У сувязі з гэтым узніклі вялікія праблемы. Навука як рыбалка. Ніколі не ведаеш, які эксперымент у цябе атрымаецца, а які не, не ведаеш, у якім кірунку навука пойдзе. Тое, што ты даследуеш, можа быць пасля нікому не патрэбным. Памятаю, як мы выкідалі з лабараторыі 50 кілаграмаў дыпломных прац, кандыдацкіх дысертацый і іншых матэрыялаў ранейшых супрацоўнікаў, многія з якіх зараз абсалютна неактуальныя. Напрыклад, пэўныя навукоўцы займаліся распрацоўкай бяссрэбранай фатаграфіі, але зараз з'явілася лічбавая фатаграфія, і тая бяссрэбраная ўжо нікому не патрэбна. А людзі змарнавалі шмат часу. Навука, як аб'ект пакланення — вельмі сумная справа. Па-мойму, гэта наступства савецкай ментальнасці.

**— Прадчуваю адказ, але запытаюся: што ж для вас на першым месцы?**

— Бог і імкненне выканаць Яго волю. У гэтым свеце ёсць дзве вечныя рэчы (навука сюды не ўваходзіць): Бог і душа чалавека. Я жыву вечнымі каштоўнасцямі. Я знаходжуся на зямлі, каб любіць Бога і людзей, што вельмі звязана. Я хачу несці людзям дабро. Бог ёсць любоў, а любоў — гэта адносіны. Нехта прыдумаў мабільнік, але ніхто не ўспамінае гэтага чалавека. Людзі проста няўдзячна спажываюць. Адносінаў няма. Але толькі тое, што будуе адносіны, мае сэнс. З гэтага пункту гледжання працаваць дворнікам ці рабочым на заводзе і быць навукоўцам у вачах Бога — адно і тое ж. Праца — гэта не мэта, а сродак для таго, каб праяўлялася любоў у гэтым свеце. Яна дазваляе будаваць адносіны і камусьці

**З'явіліся тэлефоны з чатырма ядрамі, і ў мяне ўзнікае пытанне: навошта чатыры ядры, калі ў галаве два? Чалавечы розум не паспявае за камп'ютарамі**

**Крэатыўнасць мыслення далёка не заўсёды мае значэнне. І гэта жахлівы недахоп нашай навукі**

дапамагаць. Усё міне, навукоўцы таксама памруць. Можа, на нябёсах яны парадуюцца сваім адкрыццям, але я буду больш радавацца людзям, якім дапамог.

**— А ці адкрыла вам навука нейкую праўду пра Бога?**

— Як сказаў Фрэнсіс Бэкан, мы можам пазнаваць Бога па дзвюх кнігах: Бібліі і прыродзе. Прывяду яшчэ адну цытату Бэкана: «Маленькія веды аддаляюць ад Бога, а вялікія набліжаюць». Навука звязана з творчасцю, і за гэта я яе люблю. Гэта праца для стварэння чагосьці лепшага. Можна сказаць, навука — выкананне загаду Божага: Ён стварыў зямлю і аддаў яе на валоданне чалавеку, каб той яе спазнаваў. У сучаснага чалавека вера і розум размежаваны. Людзі цяпер вераць проста дзеля таго, каб верыць, і не звязваюць гэта з аб'ектыўнай рэальнасцю. Яны не ставяць пытанні, хто стварыў свет і чаму ўсё так прыгожа. У галаве раздзяленне, няма цэласнага светапогляду. Вера ўспрымаецца як нешта ірацыянальнае, як нейкае вар'яцтва, сродак вырвацца з рэальнасці. У адрозненне ад таго, як было 200—250 год таму, людзі не спрабуюць лагічна абгрунтаваць сваю веру, не імкнуцца назіраць, думаць, ці адпавядае іхняя вера рэчаіснасці, не аналізуюць гісторыю. Калі б людзі пачалі гэта рабіць, яны прыйшлі б да Бога. Размаўляючы з магістрантамі, фізікамі і хімікамі, я бачу, што постмадэрнізм трывала сядзіць у іхніх галовах. Яны кажуць, што ёсць шмат тэорый, і незразумела, ці ёсць сярод іх правільная. Маўляў, праўда ў кожнага свая, аб'ектыўнай рэальнасці не існуе. Але ж навука базуецца на пошуку ісціны, аб'ектыўных заканамернасцей. Зараз гэта адмаўляецца. Я вывучаю біяграфіі людзей, якія заклалі падмурак навукі: Н'ютана, Блеза Паскаля. Вялікія навукоўцы ў абсалютнай большасці былі веруючымі. Але сучасныя людзі і гэтага не заўважаюць.

*Гутарыла Тамара МІНЮТКА*

*Наталля АЛЕЙНІКАВА*

# СОНЕЙКА П'Е ВЕЧАРОВЫ КАГОР



***Наталля Алейнікава нарадзілася 5 красавіка 1978 года ў Брагіне. Жыве ў Мінску. Скончыла факультэт прыкладной псіхалогіі БДПУ імя Максіма Танка. Друкавалася ў штотыднёвіку «ЛіМ», часопісе «Нёман», калектыўным зборніку «Мы — маладыя». Піша вершы на беларускай і рускай мовах. Акрамя паэзіі захоплена жывапісам.***

* * *

Цвіце чаромха, дзіўны пах,
расплюшчыў майскі вечар вочы,
узлезу ціхенька на дах,
каб паяднацца з цудам ночы
і быць да дальніх зор бліжэй,
утульна лягу на салому,
і неяк зробіцца цішэй…
Прыгадваю таго, якому
аднойчы сэрца аддала,
і чырванеюць мае шчокі,
чаромха і тады цвіла,
адзіны мой, мой адзінокі.

* * *

Кудзер лясны залаты і ігрывы.
Шэпча ласкава восеньскі бор.
Ветрык лагодны яму гладзіць грыву.
Сонейка п'е вечаровы кагор.

Лезу на вышкі. Прысяду на сене,
звесіўшы ногі. За поўнач даўно.
Сон не ідзе. Захапіла натхненне.
Што мне пакажа яно?..

Неба і яркія зоры Сусвету…
Як я хачу дакрануцца да іх
і патрымаць у далонях сваіх,
каб наталіцца таемнасцю гэтай.

**ЛЯЦЯЦЬ БУСЛЫ З ГЛЫБІНКІ КРАЮ**

Дубы магутныя шумяць,
разлівы рэчкі,
над лугам заліўным ляцяць

буслы з мястэчка,
дзе нарадзілася калісь…
…Глыбінка краю,
там мае думкі пачалі
жыццё. Апавядаю:
Збіраеш ў лесе жалуды —
збірай, не раскідай,
калі нясеш вядро вады,
нясі, не расплюскай,
калі грыбы кладзеш у кош,
грыбніцу беражы,
а як заробіш першы грош,
бацькам дапамажы.
І да Сусвету то твае
разумныя дары.

…Стаю на маладой траве
з развагай у бары.

* * *

Казалі мне —
гармоніі няма,
яе ты не шукай нідзе
у гэтай долі.
А я яе, сябры,
знайшла сама —
у жытнім полі,
і ў срэбранай вадзе
крынічнай,
яна — і пах сунічны,
і ліст зялёны,
што на волі,
яна і
ў канюшыны
цвеце.

Паўсюль,
паўсюль
у свеце…

**ТЫ ВЯРТАЙСЯ, ПЕСНЯ…**

Парыжэла восень. Лісце закружыла,
і па сцежках ляжа жоўты ліст часцей.
Восень задрыжала. Восень задажджыла.
Ветразь сілу чуе, дзьме, ірве мацней.

Прахалода. Восень рызманы ўсё носіць.
Што ж узяць ад долі? Лістапад ідзе.
Ураджай сабраны. Басаножай ходзіць.
Песню сіратліва ў полі завядзе…

Гой, ты песня, песня, лісся праз даліны,
лісся цераз горы на прастор зямны,
абыдзі ты, песня, розныя краіны,
і вяртайся, песня, выраем вясны,
ты вяртайся, песня, клёкатам бусліным
у наш край багаты,
у наш край лясны…

* * *

Узняць бы ўверх далоні, дый… махнуць.
Мо як само сабой рашыцца?
Хіба ж то можна, долю падмануць?..
Стаіць без працы капаніца.

Радзіма… Брагін. Родны кут,
з табой прайшло маё маленства.
Ну як стаіш, пасёлак, тут,
ці хто гадуе каралеўства?

Бацькі пабудавалі дом.
Але даўно ён разабраны.
Чарнобыльскім палавіком
раён палешчыны засланы.

Дык хай з зямлі адыдзе боль,
свячоны колас узыдзе!
Гасподзь, памілуй і дазволь,
хай кара гэтая спадзе…



Крысціна БАНДУРЫНА

# АПАВЯДАННІ



***Крысціна Бандурына нарадзілася 15 чэрвеня 1992 года ў Мазыры. Студэнтка ГДУ імя Ф. Скарыны. Піша ў тых рэдкіх выпадках, калі прыходзіць натхненне або рэзка ўзрастае крытычнасць да ўсяго акаляючага.***

## СЛЯДЫ НА ЧЫСТАЙ ПАПЕРЫ

Пайшла я сёння ў банк пакласці грошы на рахунак. Стаю ў чарзе, чытаю аб'явы. Тут адчыняюцца дзверы, і заходзіць бабуля з дзіцем. Становяцца ў чаргу акурат за мною. Каса № 1, дзе мы ўсе стаім, знаходзіцца ў самым закутку, а побач з ім — лесвіца, у якой жалезныя парэнчы не да канца прыкручаны да падлогі. Паміж гэтымі парэнчамі знаходзіцца невялікі пралёт, куды і лезе ўзгаданая мною малая дзяўчынка.

Залезла і сядзіць, пазірае на мяне. Маленькая, смешная і прыгожая-прыгожая. Вялізныя і круглыя блакітныя вочкі, хітраватая ўсмешка і такі цікаўны носік! Напэўна, я ёй спадабалася, і яна хацела неяк звярнуць на сябе ўвагу.

Я толькі адвярнула галаву ў іншы бок, як дзяўчынка паднялася і пачала нагою ляпаць па непрыкручаных парэнчах. Парэнчы дзынкалі на ўвесь банк, што вельмі раздражняла яе бабулю. Бабуля не вытрымала і пачала чытаць ёй натацыі: «Супакойся! Зараз прыгод заробіш на сваю галаву!»

— Не зараблю! Усё будзе добра! — хітравата ўсміхалася малая, гледзячы мне ў вочы. Бабулю такая ўвага да мяне яшчэ больш раззлавала: — Атрымаеш зараз.

— А вось не атрымаю, — і так усміхалася! На выгляд ёй гады чатыры, напэўна, а такая ж разумная.

Бабуля, нахмурыўшы бровы, вырашыла перайсці на пагрозы:

— Я табе зараз сапсую настрой.

— Не сапсуеш, — упэўнена парыравала малая, паранейшаму не адрываючы ад мяне позірку. А мне так смешна было. Яна глядзела мне ў вочы, і я бачыла сябе ў яе ўзросце. Тут падышла мая чарга, і далейшае развіццё падзей мне ўжо было невядома.

Скончыўшы ўсе свае справы, я накіравалася да століка, каб спакаваць рэчы, і раптам убачыла: пазіраюць на мяне з-пад стала знаёмыя цікаўныя вочы. Малая не дала мне апамятацца і тут жа пачала скардзіцца: «Яны там

сёння з кімсьці яблыкі не падзялілі! Вось мне дасталося, а камусьці не дасталося, дык што я, вінаватая?»

А я стаяла і разглядала яе. Памятаю бірузовага колеру ці то куртку, ці то паліто на ёй, маленькія карычневыя угі. Шапку не запомніла, але памятаю, што на ручках былі вясёлкавыя пальчаткі. І яна так гэтымі ручкамі ў розныя бакі махала, так эмацыйна мне расказвала!

Спакавала я ўсе свае паперкі, ужо сабралася выходзіць. А малая мне ўсё расказвае і расказвае. Ну, што рабіць? Стала, гляджу на яе, слухаю. І галоўнае, што людзі вакол таксама на нас глядзяць: там жа недзе бабуля ў касе, а яна мне тут балбоча. І тут гэтае дзяўчо бярэ мяне за руку. Трымае моцна, а я разумею, што яна не хоча мяне адпускаць ці наважылася ісці са мною.

Хачу спытаць: «Ты мяне не адпусціш?» — і заўважаю, што хвалююся. Маю руку трымае чужое дзіця, мяне гэта неяк непакоіць, і я пачынаю заікацца. Гляджу на яе, а яна — здзіўлена — на мяне і кажа: «Не, не адпушчу». Я збянтэжылася яшчэ больш: людзі ж глядзяць! Гэта чужое дзіцё! І мне на пары трэба ісці. А як растлумачыць дзіцёнку?

«Усё, мне трэба ісці, пакуль», — ледзь выціскаю з сябе. Яна мяне адпускае, я амаль ужо выходжу за дзверы банка і чую: так адчайна крычыць мне ўслед: «Пакааа!» Паварочваюся: стаіць, махае сваімі маленькімі вясёлкавымі ручкамі і пасылае мне паветраны пацалунак.

Я ішла па вуліцы, усміхалася і думала: вось цуд, бывае ж такое! Тады да мяне прыйшло ўсведамленне, што няма на свеце нічога важнейшага за ўвагу дзіцяці. Больш шчырага — дакладна няма. І я ўспомніла сябе...

...Калі мне было дзевяць гадоў, я адзіны раз у сваім жыцці пабывала за мяжою. Мая бабуля працавала ў школьнай сталоўцы, і ў гэтую школу кожны год прыязджалі ірландцы з нейкай місіяй кшталту «Дапамогі дзецям Чарнобыля», прывозілі гуманітарку і розныя карысныя рэчы. І гэтая гуманітарка звычайна разбіралася паміж настаўнікамі і адміністрацыяй. Напэўна, калі б вось зараз выкінулі на вуліцу гару рэчаў з якога-небудзь Colin's, — таксама б так разбіралі. Гэтыя ірландцы паводле нейкай дамовы бралі беларускіх дзяцей да сабе на аздараўленне. І мая бабуля (я не ведаю, чаго ёй гэта каштавала) дамовілася, каб мяне (а навучалася я ў іншай школе) узялі ў гэтую групу. Так я на 24 дні апынулася ў Ірландыі. Дзевяцігадовае саплівае дзяўчо ўпершыню ляцела ў самалёце ды, што называецца, убачыла свет. Найбольш яскравы ўспамін адтуль — гэта зялёныя-зялёныя палі. У іх там усё зялёнае.

Я трапіла ў вельмі заможную сям'ю. У іх быў свой вялізны дом на тры паверхі. Спачатку гэта падавалася дзівам, нейкай казкай, пра якую я і марыць не магла. Так атрымалася, што я трапіла туды са сваёй аднакласніцай, у якой таксама былі нейкія сувязі. Мы жылі з ёй у адным пакоі.

Нас апраналі аднолькава. Гэта было першае, што зрабілі нашы гаспадары: цалкам памянялі нам гардэроб. Кармілі нас кожны дзень у МакДональдсе. Гаспадыня ніколі не гатавала дома, акрамя тостаў, і тое гэта былі рэдкія выпадкі. Я дагэтуль памятаю стандартнае меню: «бульба-фры», «чыкен макнагетс» (як іх цяпер называюць) і кола. Іх я не ела, напэўна, гадоў дванаццаць пасля Ірландыі, калі не болей. Пакаштавала зноў адносна нядаўна, і гэта былі неперадавальныя пачуцці: той самы смак з далёкага казачнага дзяцінства.

Я часам была драпежная, таму што мне вельмі не падабаўся сын гаспадароў, ён быў тоўсты, руды і падобны да свінні. І я яго часта біла, а ён да мяне заляцаўся і, калі я яго крыўдзіла, скардзіўся гаспадыні. Я не разумела ні слова з іх гаворкі, бо не ведала мовы. Мы размаўлялі часцей за ўсё пры дапамозе жэстаў, але я разумела, што мне — «ну-ну-ну» — выгаворваюць.

У гэтай сям'і была шматгадовая традыцыя коннага спорту. Гаспадары трымалі ферму і некалькі коней. Мне нават давялося тады адзіны раз у жыцці пакатацца на кані. У доме было шмат усялякіх кубкаў, медалёў — напэўна, дзякуючы коннаму спорту яны і сталі такімі заможнымі.

Грошы ў іх, асабліва дробныя манеты, валяліся паўсюль, па ўсім доме. Мне вельмі падабалася іх збіраць і прыносіць гаспадыні. Рабіла я гэта не таму, што было цікава лазіць паўсюль, а таму, што мне не хапала ўвагі. Я збірала манеткі, гаспадыня мяне хваліла, і я адчувала сябе патрэбнай.

З часам атрымалася так, што я пазбірала ўсе грошы, якія толькі валяліся ў доме. На нашым паверсе знаходзіўся пакой старэйшага сына, які там не жыў (быў, можа, дзесьці ў іншым горадзе, але пакой яго заставаўся), і нам з маёй аднакласніцай заўсёды было цікава там важдацца. Мы знайшлі ноўтбук, толькі не ўключылі яго, бо не ведалі як. Упершыню ў жыцці мы пабачылі тады ноўтбук. У нас жа яшчэ такога не было, што камп'ютары сустракаюцца на кожным кроку.

Неяк у тым пакоі мы натрапілі на цэлы слоік з манетамі. Прынеслі яго ў свой пакой, раскідалі тыя манеты па падлозе і пачалі лічыць. І не тое, каб мы хацелі сабе іх забраць. Я пазбірала манеты па ўсіх магчымых закутках, хваліць ужо не было за што, а мне хацелася гэтага, хацелася, каб мяне заўважалі. Я ўявіла сабе, як жа абрадуецца гаспадыня, калі я ёй цэлы слоік прыцягну гэтых манет!

І вось у той самы момант, калі мы разглядалі грошы на падлозе, у пакой зайшла гаспадыня. Я не знайшла нічога лепшага, як легчы спінаю на гэтыя манеты. Але было позна: гаспадыня ўжо заўважыла іх. Яна ўсё спрабавала мяне падняць, а я не паднімалася, плакала, прасіла адпусціць. Прычым аднакласніца адразу «саскочыла»: яна тут ні пры чым, быццам нічога не ведае. А гаспадыня вырашыла, што я гэтыя грошы хацела ўкрасці.

Яна расказвала ўсім сваім сябрам, хто бачыў нас і хто не бачыў, пра тое, што яны запрасілі да сябе з Беларусі, так бы мовіць, злачынцу. Прычым гэтыя размовы часта адбываліся пры мне, я сядзела і назірала за тым, як незнаёмыя людзі на мяне пазіраюць, тыкаюць у мяне пальцамі, нешта кажуць на незразумелай мне мове.

На наступны год мяне не запрасілі. Запрасілі маю аднакласніцу, а мяне — не. І я ні тады, ні пасля не магла патлумачыць, што я не злачынца. Дарослыя сказалі, значыць, так яно і ёсць. Мне было адначасова сорамна і крыўдна настолькі, што я доўгія гады насіла гэты сорам у сабе, баючыся каму-небудзь сказаць.

Яшчэ я памятаю, што, як і ўсе іншыя рэчы, нам аднойчы купілі аднолькавыя плэеры, а гаспадыня запісала спецыяльна дзеля нас аднолькавыя касеты Брытні Спірс. І я гэты плэер па неасцярожнасці згубіла ў нейкім парку атракцыёнаў пасля здарэння з манетамі. Памятаю, як я тады плакала, бо было крыўдна, як з мяне смяялася аднакласніца, а гаспадыні было ўсё роўна. Новы плэер купляць мне яна не стала. Дзевяцігадовых злачынцаў не шкада.

У апошнюю ноч перад вылетам у Беларусь, калі я збірала рэчы, да мяне прыйшоў сябар сям'і гаспадароў — вельмі добры дзядзька, які мне падабаўся.

Звалі яго Майкл. Спачатку ён дапамог мне закрыць мае сумкі (цэлыя тры штукі), цалкам забітыя адзеннем. Я везла рэчы ўсім: і маме, якая суткамі прападала на працы, і бацьку, якога не бачыла ўжо паўгода пасля чарговага скандалу, і малому брату — яго бацька забраў з сабою, калі сыходзіў з хаты. Сябе, канешне, не абдзяліла таксама.

А потым Майкл дастаў з-за спіны плэер. Ён купіў новы, ад сябе. Як цяпер памятаю, чорны з моднымі навушкамі — круцейшы за той, што я згубіла. Зайздрасці маёй аднакласніцы не было мяжы. А я была такая шчаслівая! Зараз ужо не памятаю, ні як звалі гаспадыню, ні яе сына, з цяжкасцю ўспомніла гаспадара, але Майкл — ледзь не адзіны мужчына ва ўсім маім свядомым жыцці, якога я ўспамінаю з пяшчотай.

Чалавечая памяць даволі пераборлівая. Мне хацелася б памятаць добрае, але яно заўжды хаваецца пад пластамі пылу і бруду. У вачах незнаёмага дзіцяці я ўбачыла тое, што ніколі больш не вернецца да мяне самой: сваю наіўнасць, казачныя мары, жаданне сапраўднага, цёплага, светлага. А галоўнае — у гэтых вачах я ўбачыла веру. Веру ў дарослага — адзінага бога для гэтых маленькіх цудаў. Мне хацелася б застацца добрым успамінам у памяці маёй маленькай незнаёмкі, але ці здольныя мы ісці супраць жыцця?

## ДОЖДЖ З ПРЫСМАКАМ КАВЫ

Тыдзень таму мне патэлефанаваў былы шэф і запрасіў папрацаваць на вакацыях. Праз дзве з паловай гадзіны цягнік прывязе мяне ў мясціны майго дзяцінства.

Я цудоўна памятаю, з якім жаданнем і ўпартасцю ў апошнім класе я шукала працу летам. Мяне не столькі спакушала магчымасць зарабіць грошы, колькі вымушала гэта рабіць патрэба ні ад каго не залежаць. Пошукі мае цягнуліся доўга, таму што пачаліся занадта позна для сезона. Каб не знаёмыя, якія замовілі за мяне слова перад будучым шэфам, зараз я наўрад ці вярталася б сюды.

Першае ў маім жыцці працоўнае лета запомнілася вельмі добра. Чамусьці менавіта яно найбольш яскрава бачыцца мне зараз. Я прадавала людзям успаміны, як мне казалі, — марозіва «як у Савецкім Саюзе». Рабіла яго сама: даводзілася па тры-чатыры разы на дзень бегаць у кафэ гатаваць сумесь, бо народ разбіраў ражкі з пламбірам так, што я ледзь паспявала рабіць новыя порцыі. Гандляваць улетку пламбірам — справа не вельмі бяспечная з боку розных санстанцый, і бывала ўсялякае; але мой шэф мяне цаніў, бо толькі я магла знайсці «агульную мову» з маразільным апаратам, які ніяк не жадаў нармальна працаваць і вельмі часта ламаўся, таму што быў перакуплены ў кагосьці з рук. У такія моманты я, стоячы па локаць у малацэ (якое з таго часу на дух не пераношу), малілася ўсім багам, каб толькі не прыехала якая-небудзь чарговая праверка.

Майго шэфа ў горадзе не любілі. Не сказаць, каб ён быў дрэнным. Наадварот, як па мне, дык ён добры кіраўнік, дый чалавек неблагі. Справа ў тым, што гарадок наш маленькі, усе адно аднаго ведаюць. Таму многім вельмі коле вочы, калі хтосьці, каго бачылі яшчэ нядаўна ў калысцы са слюняўкай, раптам прыязджае на бялюткай Audi Q8 і кіруе парадам намётаў з марозівам, цукровай ватай і ўсялякай іншай лухтой, на якой, дарэчы, і зарабіў сабе гэтую самую Audi. Сам. І на кожны такі «парад»

намётаў у якое-небудзь свята ён абавязкова ўласна працуе ў адным з іх. Ад званка да званка. Вось таму, нягледзячы на такую напружаную і часам проста ідыёцкую працу, якая з’ядае ўсе нервы, я з задавальненнем пагаджаюся працаваць у яго, калі ён мяне запрашае.

Для жыхароў горада тым летам мой пламбір быў сапраўды настальгічным «back in the USSR». У спякотныя сонечныя дні ні я, ні мой апарат не паспявалі перавесці дух і адпачыць: чэргі не заканчваліся да самага вечара. Усім хацелася асвяжыцца, і кожны пры гэтым лічыў сваім абавязкам запытаць у мяне, што ўваходзіць у склад пламбіра, які ёсць асартымент (а паколькі мой пламбір быў толькі аднаго віду — ванільны — пыталі, чаму асартыменту няма), чаму я накручваю такія кошты, а яшчэ нагадвалі, што ў мінскім МакДональдсе пламбір у вафельных ражках нашмат смачнейшы, чым у мяне. Кожны вечар я гаўкала на людзей.

Дажджлівыя дні ў апошні летні месяц здараліся даволі часта. Калі шэфу трапляўся на вочы варты яго даверу прагноз надвор’я, ён загадзя папярэджваў мяне пра тое, ці трэба заўтра на працу. Калі ж прагноз даверу не выклікаў альбо аказваўся падманам, мне даводзілася дзень мерзнуць у сваім намёце, пакуль шэф не зробіць ласку адпусціць мяне дадому. Адзін з такіх дзён запомніўся мне асабліва яскрава. Звечара абяцалі сонейка, але ранкам неба зацягнула хмарамі, пайшоў лівень, і асабіста я цудоўна разумела, што выручкі ў мяне не будзе. Шэф спадзяваўся на іншае. Карацей, сяджу я ў гэтым намёце, трасе мяне, як кляновы ліст, з носа цячэ бы з дзіравай бочкі. І галоўнае, што вакол — ні душы.

Увогуле я люблю дождж. Людзі бягуць ад яго, нацягваюць капелюшы ледзь не да носа, хаваюцца пад парасоны, а я так не ўмею. Не магу. Бегчы ад таго, што, магчыма, ёсць самым жывым на зямлі. Каб не намокнуць ці не захварэць. А навошта? Можа быць, гэта апошні дождж, які я бачу ў гэтым жыцці. Шкадаваць потым, што хавалася, як усе?

Калі я была маленькая, бабуля гаварыла мне, што вялізныя бурбалкі на вадзе азначаюць, што дождж хутка скончыцца. У маім выпадку заканчвацца дождж не збіраўся. Напэўна, я падхапіла б запаленне лёгкіх, калі б не хлопец, які працаваў побач у краме электроннай тэхнікі. Мы пазнаёміліся з ім выпадкова: ён прыйшоў аднойчы пад канец працоўнага дня пачаставацца марозівам, пра якое ўсе вушы яму прагудзелі калегі. Я была стомленая, вельмі хацелася дадому, народу ўжо амаль не было, а тут ён! Ён падаўся мне нейкім страшным барадатым двухметровым дзядзькам, які забыўся на свой рост і час ад часу, пакуль я яму ўсміхалася і загаворвала зубы, чапляўся галавою аб дах намёта. Ён не падышоў яму па росце.

Зайшоў адзін раз, другі, трэці. Потым, як кажуць у народзе, праходу не даваў. Дык вось у той дзень гэты хлопчык (як выявілася, яму ўсяго 24 гады было) прынёс мне спачатку сваю куртку, бо мая так і не паспела высахнуць з раніцы, а потым яшчэ вялізны кубак кавы, якую мне ўжываць нельга.

Я шчыра зайздрошчу тым людзям, якія могуць сабе яе дазволіць. Я — не магу. Мне даводзіцца выбіраць: спакой і зялёная гарбата (якую я таксама люблю) ці кава і сардэчны прыступ.

Але тады мне было ўсё роўна, што можа здарыцца потым. Хацелася сагрэцца як мага хутчэй і — што крывіць душой — адчуць на вуснах гэты спакуслівы смак. Я глытала гарачую каву, якая апякала мне вусны. І было балюча-балюча, але пры-

емна, горка і соладка. Салёна. Я маю дурную звычку кусаць вусны, калі баліць сэрца ці калі я пра нешта задумваюся. Яны ў мяне амаль ніколі не зажываюць. Мне падабаецца смак уласнай крыві, а калі яна перамешваецца з кавай у роце, атрымліваецца нейкае дзіўнае спалучэнне, ад якога адчуваеш незвычайную асалоду. Часам гэта аддае мазахізмам.

Дождж ліў як з вядра. Я сядзела пад пахмурным шэрым небам з кубкам кавы ў руках. У тую хвіліну так многа супярэчлівых думак адначасова праносілася ў маёй галаве: пра тое, што такія моманты абавязкова трэба дзяліць з кімсьці і што адзінота ўсё-такі часам бывае лепш, калі ты сам-насам з дажджом і кавай разважаеш, дзе заканчваецца жыццё і пачынаецца смерць; што зараз прамінае адзін з самых цудоўных момантаў жыцця, які больш ніколі не вернецца, і што вечнасці не існуе.

Я рэдка ўспамінаю той дзень. Гэтак жа рэдка, напэўна, дастаюць старыя фотаздымкі, каб успаміны не сціраліся з памяці. Незвычайна тое, што нікога важнага для мяне тады не было побач, а дзень стаў адным з самых запамінальных у маім жыцці.

...Унутры не сціхае хваляванне, быццам зараз я павінна спаткацца з далёкім сябрам, якога не бачыла шмат год.

Горад сустрэў мяне пахмурна і няветліва. Ужо на аўтобусным прыпынку я ўбачыла знаёмыя твары. Яны захоўваліся невядома дзе ў маёй памяці; я не ведала гэтых людзей, але дзесьці мы сутыкаліся, і яны пакідалі свой след у маіх успамінах. Гэта адна з галоўных адметнасцей маёй «маленькай Швейцарыі». Калі б ты сюды ні прыехаў, заўсёды табе будуць трапляцца на вочы знаёмыя аблічча, нават калі ты іх ніколі не ведаў. Тут нічога не мяняецца. Усё тыя ж савецкія дамкі, па-дурному расфарбаваныя малярамі з ЖКГ, безліч п’яніц пад крамамі. Па ўсіх вуліцах заўважныя то там, то тут аранжавыя камізэлькі прыбіральшчыц. Тыя ж самыя бабкі сядзяць на лаўках ля пад’ездаў і абмяркоўваюць адныя і тыя ж праблемы. Сярод людзей тут я заўсёды адчувала сябе, як рыба ў балтыйскіх кансервах. І вельмі рэдка гэты горад адгукаўся ў маіх успамінах пяшчотай і цеплынёй. Хутка скончыцца дзень. Сціхнуць успаміны. І пачнецца маё новае лета.



*Андрэй КОЗЕЛ*

# АДЗІНАЯ НОТА



***Андрэй Козел нарадзіўся 8 кастрычніка 1987 года ў пасёлку Новагарадзейскі Нясвіжскага раёна. Па адукацыі настаўнік, журналіст. Галоўная жыццёвая мэта — заставацца чалавекам у любых абставінах.***

## ЖОЎТЫ ЛІСТ

Спелаю лістотай
Упаду на слоту.
Хто я? Дзе я? Хто ты?
Ліст: ляжу пад плотам.

Мне тут сумна вельмі.
Дождж імжыць, як шэльма.
Нібы вуж з патэльні,
Б’юся ў час пякельны.

Быў раней зялёны.
Жыў з галінкай клёна.
Але стаў улюбёны
У палёт да скону.

Я ляцеў прыгожа.
Вецер, узяўшы ножык,
Шлях мой растрыножыў
Лёгка, хутка, гожа.

Восень, белых нітак
Не прайдзі хоць ты так! —
На мой свэтар рыжы
Свой адбітак вышый.

## СУСТРЭЧА

Клаўся снег на мяне калярова, карункамі,
не даваў больш сабрацца на гэты раз з думкамі,
замінаў, як ніколі, напэўна, да гэтага,
астудзіўшы мяне, так надзейна сагрэтага.

Выйшаў з хаты — прайсціся зімы намалотамі:
даць разбегчыся думам свавольна, з прыгодамі,
не збівацца каб ім той гаворкай з задругаю,
бо яе я ўсё роўна чамусьці не слухаю.

За сталом думы лезлі, глыбокія, плыткія,
часам добрыя, светлыя, часам — і брыдкія.
Я з надзеяй пайшоў скласці думку адзіную,
каб данесці яе прад сваёю сябрынаю.

Снег ішоў на мяне калярова, карункамі.
Ён дзяліўся са мною здагадкамі, думкамі.
Я ж расстаўся ўжо, ідучы скрыжаваннямі,
з мінакамі былымі, з былымі спатканнямі…

І пайшоў адваротна дарогаю новаю.
Быў і з роздумам новым, і з новай асноваю.
Падвёў рысу пад тлустаю назвай «мінулае»,
ды адпрэчыў з душы ўсё набраклае, чулае.

Думы склаў на паліцы, завесіў гардзінамі:
не дарэмна блукаў сам з сабою гадзінамі,
лёд падэшвай душыў я са снегам, са слотаю.
…Я ў пятніцу выйшаў, вярнуўся — суботаю.

## СЭНС

Быццам давершаны, ды непачаты,
самы спакойны я й самы зацяты;
бачны знутры, не разгледжаны звонку,
самы глухі, а яшчэ — самы звонкі;
ды векапомны, хвілінназабыты,
з тых, хто не пройдзе ў дзверы адкрыта;
мерыць зіму хто чаканнямі лета,
сонцам схаладжаны, ветрам сагрэты;
вольны — у каробцы, нявольны — на волі,
хто дадае замест цукру зноў солі;
вузкі, малы я, таксама — шматмерны,
той, хто заўважны звычайна і ў цемры,
я — сумны сэнс смешнаватай прыметы,
Кожным пачуты, нікім — зразуметы.

## ПАМЫЛКІ

Калі пасыплюцца падзеі,
Пачнуць шукаць, хто вінаваты.
Ураз замоўкнуць дабрадзеі,
Што так крычалі ўсе зацята.

Свабода будзе лепшы хабар
І канцэнтрат падзей для здрады.
Забудуць хутка, хто ёсць сябар
Пад смачным водарам улады.

І не ўзгадаюць, што за плата
Была ў нас паміж сабою:
Як прыкрывалі спіну брата
Мы ў няроўным тым двубоі.

Калі у твар нам кінуць глінай,
Не баючыся памыліцца, —
Мы пойдзем, узяўшы ўспаміны
І жменю роднае зямліцы.

## ДАДОМУ

Усё ж такі вецер мяне супакоіў:
Падзьмуў — і душу маю разам спатоліў.
Я мог бы сказаць табе, вецер, так многа
Пра зменлівы шлях свой, крывую дарогу.

Пра тое, што сёння мне так не шанцуе!
Што несправядлівасць мне вочы цалуе! —
Усё запрашае хутчэй падзівіцца
На той краявід, ад якога не спіцца.

Бо я тут ніхто, і абставіны лёсу,
Як будзе патрэбна, наточаць і лёзы,
Як надта захочуць, пакінуць і шнары,
Якім бы я зараз не здаўся б удалым.

Ты, вецер, са мной не чакай дыялогу!
Я — злосны мядзведзь, што брыдзе да бярлога.
Ты дзьмі, не спыняйся!..
Я маю патрэбу
Ісці і хістацца з парывамі ветру…

## ЯК МАЛА ЧАСУ!

Як жа часта нам не хапае часу
на погляд чалавеку роднаму ў вочы;
на размову шчырую з найлепшым сябрам;
на бацькоў, якіх даўно не бачыў;
на сына, нат калі ён ёсць адзіны;
на абдоймы каханай,
што назаўжды сваёю бачыш;
на званок чалавеку, які прасіў аб дапамозе;
на любімую кнігу, бо ёсць жа інтэрнэт;
на забытую сцяжыну, дзе ў маленстве крочыў;
на перагляд найлепшых здымкаў,

хоць пад рукою ёсць камп’ютар;
на прагляд жыцця карціны:
ззяння сонца, летуценнага палёту птушкі,
стракатання конікаў у траве…
Як мала, мала часу
зразумець, што ты спазніўся…

* * *

Хто не сышоў —
той сыдзе.
Пойдуць усе:
бязбожныя і вернікі;
багатыя і бедныя;
хлуслівыя і чэсныя;
і змагары, і здраднікі;
спакойныя, нервовыя;
шчырыя, двудушныя;
моцныя, слабыя;
добрыя і злосныя;
хто хоча, хто не хоча;
хто любіць і хто не…

P. S. Смерць — адзіная справядлівасць.

* * *

*Верабей спрабуе*
*дужацца з воронай:*
*у кожнага свая*
*вайна.*

* * *

*«Добра. Я зноў*
*з табой сябрую!» —*
*Як жа проста ўсё*
*ў дзяцей!*

* * *

*Кожны жарт*
*мае частку*
*праўды.*
*Можа, праўда —*
*частка хлусні?..*

Павел ПАДЗОРАЎ

# АПАВЯДАННІ



***Павел Падзораў нарадзіўся 16 ліпеня 1975 года ў Бабруйску. Мае жонку і двух сыноў. Вельмі хацеў бы, каб у нашай краіне людзі чыталі болей за ўсіх у свеце. Друкаваўся ў газетах «Чистый МИР», «Звязда», часопісах «Маладосць», «Эколог и Я», «Метаморфозы», у амерыканскіх рускамоўных часопісах «Чайка» і «Гостиная». Дыпламант конкурсу «ЭкоФэнтезі-2014».***

## АДКАЗНАЯ ПРАЦА

***Дзівацтвы мінулага***
***знаходзяць тлумачэнне ў будучыні.***

Аўтар

Антон выйшаў з дому ў добрым настроі. Летні ранак быў свежым, хоць ярка свяціла і ўжо пачынала прыпякаць сонца. Дзень абяцаў быць гарачым. Спехам паснедаўшы ў аўтаматычным кафэ (рысавыя шарыкі з салодкай бабовай пастай, кавалачак сёмгі, запечанай з гароднінай і сырам, і танізуючы чайны напой), ён накіраваўся ў Цэнтр. Можна было скарыстацца флаер-таксі (некалькі вольных пагойдвалася ў паветры на міні-станцы), але Антон вырашыў прагуляцца пешшу, балазе, будынак Цэнтра знаходзіўся недалёка.

Мембрана ўвахода, афармленая пад масіўныя дубовыя дзверы, імгненна прасканавала дадзеныя Антона і з ледзь чутным пашчоўкваннем усмактала яго ўнутр будынка. Назваўшы думкаліфту нумар свайго адсека, які называўся па-старому кабінетам, Антон імгненна перамясціўся на 237-ы паверх. Выпіўшы шклянку ахаладжанага грэйпфрутавага соку, ён палюбаваўся на выгляд, які адкрываўся з празрыстай сцяны-акна і, прагледзеўшы файл-заданне на сённяшні дзень, адправіўся ў суседні адсек, які служыў ангарам для персанальнага часалёта.

Андрэй ужо быў тут. Хоць у клопатах часатэхніка новенькі апарат не меў патрэбы, але, нягледзячы на гэта, той з пяшчотай праціраў паверхню часалёта аксамітнай анучкай.

— Добрай раніцы, Андрэй! — Антон усміхнуўся і ўскінуў руку ў рымскім прывітанні.

— Прывітанне, прывітанне, — Андрэй паглядзеў на файл-заданне ў руках Антона. — Куды нас сёння засылаюць?

— Так, нічога асаблівага, планавы рэйд. Паглядзець на месцы. Нагадаць, каб «хвасты не забылі падчысціць». Увогуле, усё, як звычайна.

— Тады давай адпраўляцца, апарат гатовы, — тэхнік нахмурыўся. — Праўда, новы кухонны блок мяне насцярожвае — гудзе штосьці... А павінен бясшумна працаваць...

— Можа, гэта ў вушах у цябе гудзе? Нябось, зноў ўчора думкакліп пра вайну на максімальную акустычную гучнасць выставіў...

Думкакліпы на гістарычную тэму былі захапленнем Андрэя. Асабліва яго вабілі баі мінулага. І ў яго была адна з найлепшых думкакліпатэк па гэтай тэматыцы, што выклікала справядлівы гонар яе ўладальніка. Сам Антон захапляўся гісторыяй у іншым ракурсе. Яго цікавілі загадкі гісторыі, невытлумачаныя падзеі, знойдзеныя артэфакты. Мабыць, гэтае захапленне і адыграла ролю пры выбары прафесіі. Пасля заканчэння ўсезямнога тэхнічнага ўніверсітэта ён стаў Інспектарам часу. Удваіх з часатэхнікам Андрэем (які, дарэчы сказаць, быў яго малодшым братам і пры гэтым лепшым дружбаком) яны складалі экіпаж інспекцыйнага часалёта.

Сябры ў Цэнтры жартам называлі іх Ан-1 і Ан-2. Інтарэсы і хобі ў братоў крыху адрозніваліся: Андрэй, акрамя гісторыі бітваў, займаўся шахматамі і боксам, і ў тым, і ў іншым меў ступені майстра і быў вельмі вядомы; Антон захапляўся мастацтвам, нядрэнна маляваў і займаўся разьбой па дрэве. Выставы яго работ праходзілі ў многіх гарадах Зямлі, і пры гэтым ён знаходзіў час займацца джыу-джыцу, у якім ужо дасягнуў трэцяга Дана. Але галоўнае, што іх аб'ядноўвала, — гэта любоў да гісторыі, працавітасць, невычэрпны аптымізм і дапытлівасць.

* * *

Неабходнасць стварэння Інспекцыі ўзнікла амаль адразу ж пасля пачатку масавых падарожжаў па часе. Папярэджанні навукоўцаў пра катастрафічнае ўздзеянне на сучаснасць пры ўмяшанні ў мінулае не апраўдаліся. Спрацаваў «закон згасання наступстваў на аддаленых адрэзках часу». Усё, што адбылося, ужо адбылося, з умяшаннем хронападарожнікаў або без іх. Але дзеянне «закона згасання» да канца вывучана не было, што паслужыла прычынай увядзення адзінага абмежавання, прынятага Усезямным Каардынацыйным Саветам (УКС) — забароны на наведванне часавых зон вышэйшых за XIX стагоддзе. Выключэнне рабілася толькі для вузкага кола спецыяльна навучаных назіральнікаў са строгай забаронай рассакрэчвання. Яны праходзілі адпаведную апрацоўку і, у выпадку чаго, думкаблок фізічна не даваў ім магчымасці распавесці штосьці пра сябе і свой час.

Часы ж больш старажытныя былі адкрыты нават для хронападарожнікаў. Але не проста задавальваненне дапытлівасці і цягі да вандраванняў жыхароў нашага часу з'явілася прычынай стварэння Цэнтра.

Мноства працэсаў у старажытнасці, як аказалася, патрабавалі ўмяшання нашчадкаў. Час няўмольна прыводзіў да заняпаду многія помнікі цывілізацыі, творы мастацтва і г. д. Каб не дапусціць іх разбурэння ў сучаснасці, паўстала неабходнасць правесці шэраг, так бы мовіць, прэвентыўных мерапрыемстваў у мінулым. Мала таго! Ужо ў працэсе разгорнутых работ у мінулым высветлілася, што без умяшання з будучыні многія рэчы нават не з'явіліся б! Нарадзіўся новы тэрмін — «парадокс зваротнай сувязі».

Усё пачалося з пірамід. Калі група даследчыкаў адправілася ў Старажытны Егіпет, спадзеючыся даведацца таямніцу пабудовы пірамід, іх чакала глыбокае расчараванне. Мяркуючы, што памыліліся з датай, пераскокваючы праз дзесяцігоддзі, збянтэжаныя даследчыкі не ўбачылі ніякага грандыёзнага будаўніцтва. Так, некалькі тысяч старажытных егіпцян у розныя перыяды секлі і цягалі каменныя груды, складалі грабніцы для сваіх правадыроў і іх прыбліжаных. Але вынікі іх дзейнасці выглядалі так убога, што не заслугоўвалі ўвагі. Гэтыя аб'екты — Мастабы — і сёння

можна бачыць на Плато Гіза і ў ваколіцах Ніла. Ніякіх слядоў будаўніцтва гіганцкіх пірамід — аднаго з Цудаў свету — даследчыкі не выявілі.

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, але тэхнік часалёта на ўсялякі выпадак скокнуў яшчэ на пару стагоддзяў наперад.

Тое, што ўбачылі даследчыкі, прывяло іх у шок. На плато было разгорнута велізарнае будаўніцтва. Дзясяткі людзей у форме будаўнікоў (мяркуючы па эмблеме — сучаснікі даследчыкаў) ударнымі тэмпамі вялі працу па ўзвядзенні пірамід. Паўсюль хадзілі антыгравітацыйныя каляскі, робаты-будаўнікі рыхтавалі формы і запаўнялі іх пенакаменем, які хутка цвярдзеў — сучасным матэрыялам з зададзенай праграмай. Пасля зацвярдзення яго немагчыма было адрозніць ад базальту (або граніту, мармуру) нават на атамным узроўні.

Больш нічога даследчыкі разгледзець не паспелі. Тэхнік імгненна рвануў апарат у свой час. Не марудзячы, па «чырвонай лініі» далажыў кіраўніцтву, і ўжо праз паўгадзіны адбылося экстраннае пасяджэнне службы бяспекі пры УКС, якое праходзіла ў рэжыме высокай сакрэтнасці. Выключэнне склалі толькі самыя галоўныя навукоўцы планеты, спецыяльна запрошаныя для абмеркавання.

Пасяджэнне доўжылася больш за дзесяць гадзін, і вердыкт яго быў нечаканым. Прыклад пірамід і аналіз архіўных дакументаў з вялікай доляй верагоднасці дазволіў выказаць здагадку, што на працягу ўсёй старажытнай гісторыі Зямлі ў найбольш значныя падзеі ўмешваліся нашчадкі. Быў сфарміраваны спецыяльны выведвальны атрад, мэтай якога было непрыкметнае наведванне асноўных знакавых аб’ектаў мінулага Зямлі. Адзін з навукоўцаў, акадэмік, які вывучае геалагічныя і атмасферныя працэсы, падаў думку, што нядрэнна было б абследаваць і месцы, дзе адбыліся прыродныя катастрофы. Яго ідэю зразумелі і ўхвалілі.

Інфармацыя назіральнікаў шоку не выклікала. Падсвядома ўсе былі да яе гатовыя. Факты паказалі, што практычна ўсюды ў мінулым сваю руку прыклалі людзі будучыні, то бок, яны самі! Дзесьці яны толькі дапамагалі і накіроўвалі продкаў, дзесьці, як у выпадку з пірамідамі, прымалі непасрэдны ўдзел.

А раз факт ужо адбыўся і, мала таго, ён адлюстраваны ва ўсіх гістарычных дакументах мінулага, то застаецца толькі прыняць яго і забяспечыць усё, што патрабуецца для работ у мінулым.

Велізарную групу навукоўцаў засадзілі за складанне Плана.

* * *

Аб’ектам наведвання на сёння ў Антона і Андрэя былі піраміды Хефрэна і Джосера. І ў цэлым абстаноўку праверыць, з каардынатарам будаўніцтва пагутарыць...

На гэта сышло гадзін пяць. Падчас гутаркі з каардынатарам высветлілася, што галоўнае — гэта наданне пірамідам формы ў дакладнай адпаведнасці з гістарычнымі апісаннямі, ды пры гэтым яшчэ трэба разлічыць усё так, каб у будучыні (дакладней, сучаснасці) яны мелі менавіта той выгляд, які маюць тут. Ступеньчатая піраміда Джосера, камбінаваная піраміда ў Мейдуме, Ламаная піраміда... Усё патрабавала вялізнага спрыту і дакладнасці. Нават з сучаснай тэхнікай і матэрыяламі.

Падобныя групы працавалі ў іншых месцах і эпохах: адны на будаўніцтве вісячых садоў Семіраміды, іншыя — на ўстаноўцы Калоса Радоскага...

Група спецыялістаў аддзела тэхнічнай бяспекі пры УКС займалася ўстаноўкай аўтарэгулятараў вывяржэнняў у найбольш небяспечных кратэрах дзеючых вулканаў, прыліўна-адліўным кантролем акіяна, выраўноўвалі адхіленні акіянічных плыняў,

атмасферныя працэсы і многае-многае іншае. Іх праца вонкава была абсалютна незаўважнай, і толькі людзі будучыні ведалі, якія намаганні прыкладаліся для падтрымання жыцця на зямлі.

Але асноўнай мэтай, безумоўна, было захаванне сакрэтнасці. Па завяршэнні работ патрабавалася з асаблівай дбайнасцю ліквідаваць усе сляды свайго знаходжання... У гэтым і заключалася асноўная мэта інспектараў — праверыць, як «замятаюцца сляды»...

Нягледзячы на працу інспектараў, невялікія накладкі часам здараліся. Так, аднаго разу служба выхаднога кантролю неадказна паставілася да сваіх абавязкаў і зрабіла вонкавы агляд закончанага аб'екта фармальна, без належнай дбайнасці. У выніку сярод арнаментаў, якія ўпрыгожвалі адну з пірамід, з'явілася некалькі сучасных апаратаў. Праўда, падабенства іх было вельмі прыблізным, але пагадзіцеся, што лятальны апарат на сцяне шматтысячагадовай пабудовы — не зусім звычайная з'ява. Спачатку хацелі ліквідаваць, але, пакапаўшыся ў архівах, высветлілі, што такія факты гісторыі вядомыя, і было вырашана пакінуць усё, як ёсць.

Заставаліся, вядома, людзі... Але за столькі стагоддзяў штосьці забудзецца, а астатняе абрасце такімі фантастычнымі дэталямі, што сур'ёзна гэтыя казкі ніхто ўспрымаць не будзе.

Прэтэнзій да каардынатара не было, і браты-напарнікі вырашылі перакусіць. Гарачы Егіпет ім ужо надакучыў, яны вырашылі адправіцца куды-небудзь «далей і глыбей», як выказаўся Андрэй.

— Слухай, Андрэй, — сказаў Антон. — Давай заскочым у адно месца. Гэта недалёка ад нас — у Калужскай вобласці. Толькі ў той час, калі яшчэ сушы амаль не было. Вельмі цікавы там артэфакт знойдзены. Каменьчык з «начыннем». Да гэтага часу яго загадка не адкрыта. Я грэшнай справай падумаў, што і туды нашы хлопцы ўлезлі. Хоць, што там было будаваць, пасярод акіяна, — не разумею.

— Ну, калі там няма такой спякоты, то, калі ласка. Там і перакусім, — Андрэй паклаў рукі на пульт, і часалёт плаўна растаў у паветры, якое дрыжала ад спякоты пустыні.

* * *

— Выдатнае месца, Антон, — прамовіў Андрэй з поўным ротам, седзячы на самым краі абрывістага берага. Яны размясціліся на астраўку, па ўсім відаць, вулканічнага паходжання. Вакол павольна каціліся хвалі старажытнага акіяна Тэціс.

Апошнія дзесяць хвілін яны займаліся тым, што паглыналі шчодра прыгатаваную кухонным блокам смакату. Абед у іх выдаўся шляхетны: расольнік з белымі грыбамі, масліны, смажаныя перапёлкі «па-французску», бліны (Антону — з ікрой, Андрэю — з тварагом) і моцная гарачая гарбата. Нягледзячы на прыкметнае гудзенне, кухонны блок выканаў заказ без нараканняў. Усё было вельмі апетытна на выгляд і прыемна на смак.

— Месца, вядома ж, выдатнае, — сыта уздыхнуў Антон, — толькі нікога тут, акрамя нас, няма. Палятаю я, мабыць, пагляджу. Не могуць архівы хлусіць. Менавіта тут яго знайшлі.

— Давай. Толькі не далёка. А я пакуль кухняй нашай займуся. Не павінна яна так гудзець...

Антон дастаў з часалёта антыгравітацыйны пояс, прыладзіў фіксатары і праз хвіліну ўжо плаўна лунаў над акіянам. Андрэй акуратна разабраў блок. Дастаў апі-

санне. Тут жа быў пластпакет з запаснымі дробнымі дэталькамі. Прычыну гудзення ён устанавіў хутка, і праз паўгадзіны кухонны блок зусім бясшумна працаваў.

У гэты час вярнуўся Антон.

— Нічога і нікога, — адказаў ён на позірк брата. — Не разумею... Добра, збірайся, — ён усміхнуўся. — Працу мы зрабілі, страўнікі парадавалі, на прыгажосць палюбаваліся.

Ён увайшоў у часалёт. За ім з пластпакетам запчастак да кухоннага блока палез Андрэй. На ўваходзе краёчак пластпакета зачапіўся за выпадковую задзірыну ашалёўкі, і з яго выслізнуў невялікі ніцік. Ні Андрэй, ні Антон гэтага не заўважылі, а пластпакет самааднавіўся і праз хвіліну выглядаў як новы. Ніт пакаціўся па нахіленай паверхні берага і з нячутным плёскатам упаў у ваду.

— Дадому?! — паўзапытальна сказаў Андрэй.

— Дадому, — адказаў Антон.

Часалёт завагаўся, пайшоў рабізной, як кругі на вадзе, і бясшумна знік...

* * *

У 1998 годзе пры пошуках аскепкаў метэарыта навуковай экспедыцыяй на поўдні Калужскай вобласці быў знойдзены незвычайны камень. На былым калгасным полі побач з пакінутай вёскай «Знамя» адзін з членаў экспедыцыі падняў з зямлі каменны абломак, які здаўся яму незвычайным. Уласна сам камень быў цалкам звычайны, але калі з яго сцерлі бруд, то на ім стаў бачны ніцік, які нейкім чынам трапіў унутр...

Даўжынёй ён быў каля сантыметра. Як апынуўся там? Зваліўся з трактара? Згублены, а потым затаптаны, уціснуты ў пароду? Але ніт з гайкай на канцы ў камені сядзеў шчыльна. А значыць, трапіў унутр яго яшчэ ў тыя часы, калі той быў толькі ападкавай пародай, доннай глінай.

— А галоўнае! — як аўтарытэтна заявілі потым геолагі, — каменю гэтаму ніяк не менш за 300—320 мільёнаў гадоў!

## НА ЗЯМЛІ ПРАЕЗДАМ

Прышэлец паўстаў проста пасярод ходніка ў сярэдзіне дня. Знешні выгляд яго быў падабраны і наладжаны загадзя так, каб асабліва не вылучацца сярод грамадзян, якія спяшаліся хто куды. Гэта быў зборны вобраз сярэднестатыстычнага зямляніна для гэтай мясцовасці.

Невысокі дужы мужычок у капелюшы, з доўгімі рудымі вусамі, у чырвоным пінжаку паверх паласатай майкі-цяльняшкі, у спартыўных штанах з лампасамі. На нагах былі шкарпэткі (аранжавая і зялёная) і самы распаўсюджаны ў гэтых месцах абутак — тэпцікі-сланцы.

Не звяртаючы ўвагі на снег, што валіў шматкамі, Прышэлец звярнуўся да бабулькі, якая праходзіла міма, гучным шаляпінскім басам:

— Скажыце, дзе тут у вас прымаюць касмічных падарожнікаў?

Бабулька падскочыла ад магутнага рыку.

— Цьфу на цябе, алкашня праклятая. Пазаліваюць зенкі з раніцы... — працягваючы бурчаць, яна паспешліва адышла.

Падрэгуляваўшы тэмбр і гучнасць голасу, Прышэлец звярнуўся да жанчыны з тым жа пытаннем.

— Дзе прымаюць?.. У псіхбальніцах прымаюць!.. Даўно там цябе зачакаліся, — сказала і хутка пайшла далей.

Падобна на тое, што са знешнасцю быў промах. Прышэлец агледзеўся і накіраваўся да бліжэйшай аркі.

* * *

Праз некалькі хвілін адтуль выйшаў вельмі рэспектабельны грамадзянін. У норкавай шапцы, дублёнцы і цёплых чаравіках. Руку Прышэльца ўпрыгожваў дарагі гадзіннік. Вусы зменшыліся да адпаведнага памеру і пачарнелі.

Цяпер грамадзяне не кідаліся ад яго. Але пасля некалькіх слоў пачыналі «таптацца», адчуваючы незразумелае жаданне спыніць размову.

Прышэлец здзіўляўся. Ён спакойна і грунтоўна распавядаў пра тое, хто ён, адкуль прыляцеў і куды накіроўваецца, пра мэты свайго кароткага візіту.

Мэта была простая. Як і любы высокаразвіты прадстаўнік цывілізацыі, што апераджала ў сваім развіцці Зямлю на тысячагоддзі, ён хацеў падзяліцца з яе насельнікамі ведамі і мудрасцю. Ён валодаў такой інфармацыяй, якая адразу ж магла спыніць усе войны і канфлікты, а чалавецтва падняць на такі ўзровень развіцця, дзе кожны мог бы быць шчаслівым, не закранаючы пры гэтым інтарэсы іншых.

Менавіта для гэтага ён змяніў маршрут і — што называецца, праездам — наведаў планету Зямля. Час яго знаходжання праз некаторыя прыродныя працэсы быў строга абмежаваны. І вось, частку яго Прышэлец выдаткаваў на марныя спробы камунікацыі з мясцовым насельніцтвам.

Вынікі перамоў прывялі яго да будынку з надпісам «Адміністрацыя». Час няўмольна сыходзіў. Прышэлец, уздыхнуўшы па-чалавечы, зайшоў у дзверы. У прасторным холе панаваў паўзмрок. Ён накіраваўся да лесвіцы, але вокрык незаўважанага вахцёра спыніў яго.

— Хто? Да каго? Па якім пытанні? — дзелавіта і павольна распытваў вартаўнік дзвярэй.

Прышэлец, ужо зразумеўшы, што не варта пераказваць кожнаму сваю гісторыю, быў нешматслоўны і адказваў асцярожна.

— Наведвальнік... Да самага галоўнага... Па вельмі важным і неадкладным пытанні, — адказаў ён, прыкідваючы, колькі часу застаецца да адкрыцця пазапрасторавага тунэля.

Пасля стараннага ўдакладнення ўсіх падрабязнасцей, вахцёр каліграфічным почыркам занёс дадзеныя, спехам прыдуманыя Прышэльцам, у спецыяльны часопіс уліку наведвальнікаў і адпусціў яго з мірам.

Наступная перашкода чакала за дзвярыма з надпісам «Прыёмная». Незвычайна суровая дама з журботным выразам твару рашуча спыніла наведвальніка.

— Куды? Вам прызначана? Ах, не... Тады прайдзіце ў агульны аддзел і запішыцеся на прыём. Прыёмныя дні кожны другі чацвер месяца ад 9 да 14...

— Але я прыбыў з іншай планеты дапамагчы чалавецтву, — разрумзаўся Прышэлец, прыгнечаны непрыступнай сакратаркай.

— Ды хоць з таго свету, — міміка сакратаркі не змянілася. — Парадак устаноўлены для ўсіх! І не бачу падстаў парушаць Інструкцыю.

Пры апошнім слове на твар сакратаркі лёг выраз глыбокай павагі.

Прышэлец кінуўся па калідоры, шукаючы на дзвярах надпіс «Агульны аддзел», не заўважаючы, што пры гэтым лаецца — пра сябе — цалкам па-зямному.

Як і чакалася, «Агульны аддзел» аказаўся ў максімальна аддаленым ад «Прыёмнай» куце будынка. Прышэлец павярнуў ручку і злёгку штурхнуў дзверы. Тыя не паддаліся. З-за дзвярэй чуліся жаночыя галасы і смех. Ён націснуў мацней.

— Абед, мужчына! — гучна заявіла дама, якая праходзіла па калідоры. Выразам твару вельмі падобная да сакратаркі, але з відавочна больш пагардлівым выразам.

— Абед... Гэта доўга? — захваляваўся Прышэлец.

— Чытаць умееце? Грамаце навучаны? Вось і прачытайце. Я вам — не даведачнае бюро, — вымавіла дама ледзяным тонам і павольна прайшла па дывановай дарожцы далей.

Не знайшоўшы ніякіх шыльдачак, зорны альтруіст кінуўся да вахцёра. Той, павольна пасёрбваў гарбату і чытаў газету. Выслухаўшы Прышэльца, пазіраючы на яго паверх акуляраў, ён кіўнуў на стэнд і зноў паглыбіўся ў чытанне анекдотаў, так і не ўдастоіўшы Прышэльца словам.

З неймавернай хуткасцю Прышэлец перачытваў мора інфармацыі. Нарэшце натыкнуўся на графік працы «Агульнага аддзела». Засталося дзесяць мясцовых хронаадзінак — хвілін. Але ўласны час яго няўмольна падціскаў. Каштоўнай была кожная секунда.

Прышэлец зноў уздыхнуў і, праігнараваўшы ўласную Інструкцыю, дэматэрыялізаваўся. Практычна адразу ж ён паўстаў у кабінеце «Агульнага аддзела».

— Людзі Зямлі! Я — Прышэлец... — але гучны жаночы крык перапыніў яго на паўслове. Дамы займаліся прымеркай новых убранняў. Дзве дэманстравалі абноўкі, астатнія пілі гарбату і займаліся іх абмеркаваннем. Тыя, ў каго абновак не было, былі настроены крытычна, тыя, у каго былі, — таксама.

— Як Вы сюды пранiклi?! — дама неабсяжных памераў, спапяляючы Прышэльца поглядам, прыўзнялася з-за стала. — Зараз жа пакіньце кабінет! Неадкладна. Ці я запрашу ахову.

— Але я... мне, — пачаў было зорны вандроўца.

— Я сказала — зараз жа! — ад ледзянога голасу начальніцы «Агульнага аддзела» кветкі ў кабінеце паніклі, нібы прыхопленыя раннімі замаразкамі.

Прышэлец зноў апынуўся ў калідоры. Ён раптам успомніў, што са сканчэннем абеду грозных модніц з «Агульнага аддзела» пачынаўся абед сакратара і Галоўнага начальніка. Дый усё роўна, запіс на прыём на наступны тыдзень яго не задавальняў.

«Будзь што будзе, — вырашыў ён. — Пайду напралом. Чорт з ёй — інструкцыяй».

Звяртацца да гіпнатычнага ўздзеяння на сакратарку, як ён збіраўся, на шчасце, не прыйшлося. Уваходзячы ў дзверы «Прыёмнай», Прышэлец нос да носа сутыкнуўся з Галоўным начальнікам, які выйшаў з-за дзвярэй. Ён быў у капелюшы і на хаду зашпільваў пакамечаны плашч.

— Добры дзень, я — да Вас! — зразумеўшы, што не паспявае, а галоўнае, яго не будуць слухаць, Прышэлец імгненным думкаімпульсам паслаў інфармацыю пра сябе і мэты візіту наўпрост у мозг Галоўнага начальніка. Вочы сакратаркі, якая схапіла «рыкашэтам» частку інфармацыі, шырока расплюшчыліся. Яна пахіснулася і ўчапілася за падлакотнік масіўнага офіснага крэсла...

Але Галоўны начальнік глядзеў на Прышэльца са скептычнай усмешкай. Гэта быў загартаваны ў закулісных баях адказны працаўнік. Такога звычайным думкаімпульсам не возьмеш!

Працягваючы ўсміхацца, ён накіраваўся да дзвярэй.

— Вы мне не верыце? — прамармытаў Прышэлец.

— Веру, грамадзянін. Ве-ру!.. З задавальненнем бы вас выслухаў... Сам мару пра ўсеагульнае шчасце, — ён зноў усміхнуўся, — для таго мы тут і працуем... Але на нараду да Першага спазніцца не магу — не маю права, — ён зрабіў незразумелы жэст, шоргнуўшы сябе рукой па горле. — Вось так. Зайдзіце на тыдні. Усё абмяркуем, абгаворым. Планы намецім. Камісію створым. Запішыцеся ў сакратара... Ізольда Мацвееўна, запішыце таварыша па-за чаргой. А цяпер прашу даравацць — спяшаюся.

І ён выскачыў з кабінета.

* * *

Міналі апошнія хвіліны знаходжання на Зямлі. Поўная няўдача. Правал місіі.

Але што ж рабіць? Што? Тут Прышэлец намацаў у кішэні думкадыск. Ён зрабіў запіс таго, што хацеў перадаць людзям планеты. Так, на ўсялякі выпадак. І, падобна, не памыліўся.

Як на злосць, паблізу нікога не было. Толькі нейкі малы гадоў пяці-шасці капаўся лапаткай у пяску. Усё, час мінае!

— Маляня! Гэй, маляня! Падыдзі-ка сюды, — той падышоў, з інтарэсам гледзячы на «дзядзечку», вакол якога разлівалася ззянне, яго сілуэт пачынаў плыць. — Вось, вазьмі гэтую штуку! Аддай дарослым, лепш — навукоўцам. Тут — Вялікае веданне і Шчасце чалавецтва. Глядзі, не згубі!

Ён сумна ўсміхнуўся і растаў у паветры перад здзіўленым, але ані не спалоханым малым...

* * *

Прышэлец з няўяўнай хуткасцю нёсся па пазапрасторавым тунэлі. Увогуле, ён быў задаволены. Рана ці позна запіс прачытаюць і мэта яго будзе дасягнута.

Хоць Зямля — самая дзіўная з бачаных ім планет.

* * *

Пеця павячэраў і, сагрэўшыся гарачай бабулінай гарбатай з плюшкамі, пайшоў у свой пакой.

«Цікавы дзядзечка, — думаў ён, паціраючы румяныя шчокі. — І свяціўся ўвесь, як навагодняя ёлка. А можа, гэта Дзед Мароз прыйшоў загадзя? Добра, гэта няважна, галоўнае — прыгожую цацку падарыў».

І Пеця, азірнуўшыся, — ці не бачаць дарослыя — беражліва схаваў вялікі мігатлівы гузічак у шкатулку...



Алёна ПАПКО

# ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ...



***Алёна Папко нарадзілася 24 лютага 1990 года ў вёсцы Сакалова Бярозаўскага раёна. Скончыла факультэт замежных моў БрДУ імя А. С. Пушкіна. Працуе настаўніцай нямецкай і англійскай моў. Лаўрэат рэспубліканскага літаратурнага конкурсу імя Максіма Багдановіча ў намінацыі «Паэзія» (2014). Любіць джаз і вандроўкі.***

* * *

У прыгаршчы
збіраю май духмяны,
І лашчыць думка ўтрапёна скронь.
Злавіць бы промень
шчасця вершаваны,
Празрысты, як нябесная далонь.

І запрасіць ў чаромхавыя госці
Цябе, цябе і — у соты раз — цябе…
Надзеі раскашуюцца калоссем,
І радасць ад чакання ў скроні б’е.

Сны ружавеюць соладка і ясна,
Адно, гарчыць глыток віна на дне.
Даспее нашых дзён скупая ласка —
Не адгукнецца болей ува мне.

* * *

Няхай кожны дзень будзе новым,
І ўсё ж такі крышку маім.
Лістотай святочна-маёвай
Убіраюцца дрэвы. Цяплынь…

У час расквітнелі чарэшні,
Пад ногі атава-трава
Расістаю сцелецца песняй…
Мой край, я навечна твая!

Чаромха над кручаным вірам
Губляе пялёсткі ў вадзе.
Прыроды вясновая шчырасць
Нас новай дарогай вядзе.

Высокае сонца ўладарыць
Над кожным дыханнем жывым.
Давайце па-простаму марыць
І шчасцем дзяліцца сваім!

* * *

Сярод сатканай белі лугавой
Чаромхавай, як злепак першамая,
Я песняй прагучу табе зямной
І з нотамі апошнімі растаю.

Сярод палёў пясчаных і трывог,
Агортваючы стомай увішнай спёкі,
Я пылам абдыму цябе дарог,
Няходжаных і што навідавоку.

Сярод святочных вопратак і дзён,
У чарзе людзей далёкай і няспыннай,
Я незагойнай праўдаю тваёй
Гучаць спрадвеку буду ў шуме ліўняў.

**ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ**

Лёгкі ветрык кране вербалозы,
Плёс змялелы, і галька да дна…
І жыццё — невымоўная проза,
І паэзія — радасць адна.

Залацее пшанічная ніва —
Час узгадваць свае карані.
І збіраць, што пасеем рупліва,
І губляць,
што ўзрасціць не змаглі.

За далёкім грыбным небакраем
Прасяваем пачуцці дажджом.
А ці верым яшчэ, ці кахаем?
Ці жывём дзень за днём?
Дзень за днём…

**НЕ ІНАКШ**

Не загоіцца, не загоіцца…
Нападрост не радзеюць дажджы.
Не інакш, нам з табою мроіцца:
І каханне, і боль тупы.

Не інакш, як вясна запознена
Белым цветам засыпала свет.
Падарыла цяплейшае сонцайка
І рамонкаў пахучы букет.

Не прыпомніцца, не прыпомніцца…
Не інакш, як гадоў капрыз.
Дзе твайго ачага ахоўніца,
Дзе пачуццяў салёны брыз.

Не інакш, як душу гартую
На смяротна-варожым агні.
Мяне, родную і чужую,
У добры шлях благаславі!



Дуэт ТАТМІР

# ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

*Апавяданне*



***ТАТМІР — імя гомельскага літаратурнага дуэта Дар'і і Уладзіміра Чараўхіных. Гэта зусім асобны, трэці аўтар, з прысутнымі толькі яму рысамі, не ўласцівымі нікому са ствараючых яго аўтараў паасобна. Ён вучыўся сам у сябе. Друкаваўся ў гарадской перыёдыцы і калектыўных зборніках. У інтэрнэце жыве хатні сайт ТАТМІР, на якім можна пачытаць яго творы.***

Сантыметраў за дваццаць ад левага локця, амаль ля самага краю стала, астывала кава. Не ў кубку, а ў лужынцы. Добра яшчэ, што на тэлефон не трапіла. Выціраць было лянотна. Вераніка сядзела, утаропіўшыся невідушчымі вачыма ў манітор кампа і самазабыўна аддавалася мізантропіі, апантана барабанячы пальцамі па клаве. Ліст быў да Жанькі. Злосны, выкрывальны, то бок з пераходам на асобы. Дзень нараджэння быў учора, а сёння Вераніка знаходзілася ў змрочным настроі з прычыны павальнага абжорства сам-насам з любімай кошкай і адсутнасцю віншаванняў ад яшчэ больш любімых цяпер сяброў.

Больш не дам табе пячэння.
І радкоў не прысвячу!
Мой калі Дзень нараджэння? —
Я цябе спытаць хачу.

Я чакала цэлы вечар
Ад каханага званка.
Дагаралі ціха свечкі,
Мерзлі ногі і рука.

Я надзьмулася надоўга.
Даравання не прасі!
Над тваёй сюды дарогай
Змрочны дожджычак імжыць.

Скончыўшы набіваць тэкст, дзяўчына помсліва пстрыкнула мышкай і пайшла на кухню за анучкай, каб усё-ткі прыбраць лужыну.

Кошка, як заззычай, падпільноўвала за вуглом. Ухіліцца таксама не атрымалася. Чорненькая важкая бомбачка (прабачце, маланка), распластаная ў паветры, удар усімі чатырма лапамі ў грудзі — і тупаценне, што імкліва аддаляецца па звонкіх маснічынах. «Малпа, блін! Дзіва ты маё найдзівоснае!» — раўнула ахвяра ўслед кацінаму азадку, які знік за вуглом. «Ах, ты!» — але скончыць думку Вераніка не паспела: зазваніў тэлефон. На хаду прыхапіўшы анучу, дзяўчына парысіла ў спальню.

Счакала, пакуль адгучыць дзевяць вінаватых званкоў, парывіста схапіла слухаўку і, як мага больш халодна і стрымана, адчаканіла сакраментальнае:

— Алё.

— Прывітанне, мая радасць! Прывітанне, маё сонца! — голас Жэнькі выпраменьваў такую мядовую ласкавасць, што Вераніцы закарцела згарнуцца ў клубочак проста ля тэлефона і завуркатаць. Але яна не паддалася гэтаму дэмаралізуючаму ўплыву.

— Ах, сонца? Ах, радасць? А калі дзень нараджэння тваёй радасці, ты забыўся?

— Нікуш, ты чаго? На каляндар паглядзі! У цябе ж сёння дзень нараджэння.

— Так? Табе, канешне, больш вядома, толькі мне мама апавядала, што трынаццатага мяне нарадзіла, у пятніцу...

— Дык сёння ж і ёсць трынаццатага!

— ...

— Вой!.. Зайка мая, віншую, сонца! Вось, блін! Выбачай, спадарыня, злітуйся над бэйбусам, што прасціраецца ля ног тваіх!

— Ха! Цяпер ты так лёгка не выкруцішся! Будзеш у пакаранне штодня на працягу года атрымліваць па пошце вершыкі ад мяне!

— О, малю, толькі не гэта! Добра, — раптам пасур'ёзнеў Жэнька, — раз ужо такая накладка выйшла, чакай мяне праз паўтары гадзіны. Будзем святкаваць.

— А як?.. — апошнія Жэнькавы словы прагучалі амаль што з пагрозай.

— Чакай. Пабачыш, — і павесіў слухаўку, гад!

— Ну, чакаю! — прабурчала Вераніка ў адказ на кароткія гудкі. — О, чорт! — выцерла нарэшце лужыну... Рукавом любімага пухнатага світэра.

Дзвярны званок заверашчаў якраз у той самы момант, калі Вераніка намагалася ўлезці ў любімую Жэнькам аксамітную спадніцу. Яна была сіняя і вельмі вузкая, таму ўсцягнуць яе на раскормлены суцяшальнымі ласункамі арганізм аказалася нялёгкай задачай. Сяк-так разгладзіла прыемную навобмацак тканіну, сунула нагу ў адну з фіялетавых лодачак і, падчапіўшы пальцам другую, паскакала адчыняць. На апошнім падскоку скончыла з абуваннем і расчыніла дзверы, што бразгацелі ад набату. Жэнька з ухмылкай пераступіў парог і працягнуў святочна загорнутую каробку.

— Гэта табе, любая, прымі ад усяго сэрца, што правалілася ў пятку левай нагі пасля тваіх суровых паэтычных філіпік! Або яўгенік?

— Не блазнуй! — топнула абцасікам Вераніка. — Сам вінаваты!

— Як скажаш, дарагая, — Жэнька імгненна пераўвасобіўся і нават аддаў не надта штукарскі паклон.

— Добра, праходзь, — Вераніка ўжо шамацела бліскучай абгортачнай паперай, адмахваючыся ад цікаўнай Малпачкі. — Будзем торт лопаць — дакладней, тое, што ад яго пасля ўчарашняга засталося.

Хлопец падхапіў кошку, якая адразу ж пачала выкручвацца з рук, шыкнуў: «Не какетнічай!» — і скіраваўся на кухню. Малпачка змікіціла, у якім кірунку валачэ яе выкрадальнік, і паслухмяна абвісла на руках.

Усім сваім вабным нутром утульна вуркатаў халадзільнік, быццам вялікі белы кот. Ссадзіўшы кошку на падлогу, Жэнька павярнуўся да Веранікі. Тая разгублена перабірала цэлы абярэмак календароў, толькі што вызваленых з падарачнай каробкі. Адрыўныя, насценныя, настольныя і кішэнныя — усе яны былі на 2012 год. І на ўсіх была абведзена фіялетавым маркерам адна-адзіная дата: 13 лістапада. Дзяўчына нейкі час няўцямна таропілася на падарунак, а, потым паволі павярнуўшы галаву, зірнула на Жэньку і жаласна прамовіла: «Жэнь, даруй, гэта я наблытала...» Апошнія яе словы патанулі ў какафоніі, што раптам усчалася: адначасова прачнуліся хатні і мабільны тэлефоны. А дзвярны званок наогул прымусіў падскочыць на месцы: гэта сябры прагнулі прынесці свае віншаванні з днём нараджэння. «Але чым жа я іх цяпер карміць буду?» — усхвалявана падумала Вераніка...

Арцём КАВАЛЕЎСКІ

# АКСАМІТ ПРАХАЛОДНАГА ДОТЫКУ



***Арцём Кавалеўскі нарадзіўся 18 сакавіка 1979 года ў Мінску. Паэт, эсэіст, перакладчык. Выкладчык на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі БДУ. Рэдактар аддзела крытыкі часопіса «Маладосць». Аўтар кніг «АдмыСЛОВЫя гульні» (2003), «Аддаленасць і Адданасць» (2008), «Мой сябра анёлак» (2010), «Акры» (2013).***

* * *

Сёння ноччу, недзе па трэцяй,
Седзячы ў вельмі нязручнай позе
За пісьмовым сталом,
Якому, відаць, было таксама нязручна
Ад цяжару паваленага на яго майго тулава,
Я падумаў:
А ўрэшце, чым ёсць паэзія?

Зірнуўшы ў акно,
Я ўбачыў за шклом дубэльты
Засохлую муху
І пачуў гукі кранаў-асілкаў
У блізкім порце.

І раптам я зразумеў,
Што паэзія —
Гэта заўсёдная немажлівасць (але імкненне)
Сумясціць біяграфію памёрлай мухі
І рытмы гукаў індустрыяльнай махіны.

Паэзія —
Гэта толькі спроба руху
У бок вузенькай дзіркі,
Якую прасвідравала недасвядомасць
Маленькай шэрай мышкі —
Паэта.

* * *

Кілішак «Vana Tallinn» расстаўляе акцэнты.
(У руцэ — еўрацэнты).

Мне прыемны выгляд дробных літараў,
Якія асадка пакідае на жаўтлявай паперы
высокай якасці.
(Верш зажорсткі, паболей бы мяккасці).

Так. «Vana Tallinn» спрабуе расставіць акцэнты.
(У Парыжы я б выпіў абсэнту).

Я прагну ветру, рытму і словаў, якіх застаецца ўсё менш.
(Мо так лепш?)

У зблытаных межах майго кволага мега-знікання
«Vana Tallinn» — сведка змагання

З маім
іншапланетным
акцэнтам.

* * *

***чалавеку-з-крыламі-кірлі***

Чалавек-кірля
Штодня прыходзіць на бераг
І прыпадабняецца да белай імклівай птушкі.
Яго рухі і расхрыстаны плашч
Стракацяць нудны ландшафт узбярэжжа,
І, здаецца, што чалавек вось-вось узляціць, залунае...

Чалавек-кірля
Штодня спрабуе ўзняцца ў неба
І штохвіліны марыць
Пра апярэнне,
А чарада белых птушак
Толькі здзічэла смяецца
З марных памкненняў
Гора-летуценніка.

Але чалавек-кірля
Свядома не зважае
На белае брацтва:
Хай сабе птаства рагоча,
Гікае і здзекуецца.

Чалавек-кірля ведае:
Вынік — бздура,
Галоўнае —
Гэта матыў.

* * *

*І. Р.*

Мне снілася сёння,
Як памірае маленькі,
Шэры й вытанчаны
Алень,
А на ягоных рагах
Песню спяваў
Салавейка...
На вейках аленя
Шчэ трымцела жыццё,
І толькі белыя матылькі,
Што кружлялі наўкола,
Ведалі:
Гэта канец...

Калі ты абудзіла мяне
Аксамітам прахалоднага дотыку,
Аленя ўжо не было,
Салавейка ўжо не спяваў
На ягоных рагах
І не кружлялі наўкола
Белыя крыльцы-пялёсткі
Лёгкіх, як пух, матылькоў...

Я ляжаў нерухома
І ўсміхаўся
Усмешцы тваёй.
Ты глядзела ў мае
Вадзяністыя вочы
І прапаноўвала шклянку
Халоднага малака.

Я, як заўсёды,
Адмовіўся...

Ты, як заўсёды,
Здзівілася.

Мы, як заўсёды,
Не вымавілі ані слова...

Менавіта так складаліся вершы
Нашых бляклых, як паркаль,
Гісторый,

У якіх пачаткам
Быў мой сон,
А фіналам —
Тваё бяссонне...

## ON-LINE

***Т. Ш.***

Калі няма выразных сведчанняў самоты,
Уласным сведчаннем робіцца
Лямпа,
Гэты вось кубак з засохлай гарбатай
І каматозныя спробы on-line камунікавання.

Так, я ведаю:
Часам усялякія там забароны роўныя
Забабонам,
А інстынктыўнасць сляпая
Разявае бяззубую пашчу
І праглынае цябе амаль
Цалкам.

А яшчэ я ведаю, што
Лямпа,
Кубак
І on-line ўзаеміны
Здрадзяць наўрад ці,

Бо

Менавіта яны
Тут-і-цяпер-і-заўсёды
Камуфлююць
Бязвольны займеннік
«Сам»
Пад агрэсіўны назоўнік
«Самота»...

## * * *

Гэты дзень,
Калі ўсе раптам збеглі
І схаваліся ад мяне
У свае дамкі-шкарлупінкі,

Мае шыза-бляклае адценне
Скандынаўскага краявіду…
І — я дранцвею.
Цяпер мяне прагна чакае
Эшафот вечара й
Шыбеніца ночы.
А мне так хочацца на
Пустэльны й выцвілы
Прасцяг Скандынавіі,
Дзе мяне сканаваць будзе
Толькі раз'юшаны сівер,
А ў кішэні раптам знойдзецца
Фотаздымак колішняга сябра.
І я шчыльна прыціснуся
Да шурпатага ўзбярэжжа,
І мяне ніколі не знойдуць тыя,
Што схаваліся сёння
У свае дамкі-шкарлупінкі.

* * *

Калі я
Да канца дапішу гэты верш,
Кволае сонца запунсавее над небакраем
І пяшчотна кране яго мужныя плечы,
Што ніколі не здолеюць здрыгануцца
Нават ад самых магутных грымотаў.

Калі я
Пастаўлю ў гэтым вершы
Перадапошнюю коску,
Чалавек, што хаваецца пад парасонам
Ці то ад дажджу, ці то ад уласных сумневаў,
Нарэшце наважыцца вымавіць запаветныя словы.
Ён складзе парасон, азірнецца і зойдзе ў пад'езд,
Які шчэ хвіліну таму падаваўся чужым,
Далёкім такім, непатрэбным.
Чалавек будзе вагацца
Не больш за секунду і —
Націсне на гузік званка.
Дзверы адчыняцца, і —
Ён назаўсёды патоне ў віры прабачэння.
Так, ён патоне,
Але стане шчаслівым тапельцам.

Калі я
Скончу гэты верш
І пастаўлю ўпэўнена кропку,
Святлафор аднастайна, нервова
Замігціць жоўтым вокам,
Імкнучыся пераканаць мяне ў тым,
Што ўсё пачынаецца
І заканчваецца
Шматкроп'ямі.

* * *

Першы снег —
Гэта страшна.

Пыл бялюткі
Балюе
За
Сарамлівай фіранкай,
За скалечанай форткай.

Ранак.

Ступнямі босымі
Мацаю
Цела зімы
На кафляных плітках
У кухні.

Так,
Першы снег —
Гэта страшна.

Краявід павялічваецца і
Разрастаецца.
Дарогі
Стужкуюць ландшафт,
Гмахі спальных раёнаў
Вертыкаляць прастору і
Гінуць
У без-
асабовым небе.

Першы снег —
Гэта страшна.

Палітон-шыбенік
На вешалцы ў калідоры
Прапаноўвае adultère...

Ён зімовы
(ён здрадзіў восені),
Ён надзейны,
Ён мае каўнер,
Што ў абдымках сваіх
Душыць мяне будзе
Бліжэйшыя месяцы тры...

Палітон зімовы —
Распуснік,
А першы снег —
Гэта страшна.

...люкі знаёмых пігулак —
Лекі на боль галавы —
Дапамагаюць пасрэдна...

Страх не лечыцца.

Снег.

Я хачу на ўзбярэжжа...

* * *

Пры святле савецкай дзедаўскай газніцы —
Уначы —
Раскіданыя па падлозе хайку падаюцца знічамі,
Аб якія спатыкаешся кожнага разу,
Калі ўваходзіш да мяне ў пакой.
Так, я пісаў іх калісь,
Так, я пакінуў іх тут, не спаліў і нават не пакамечыў.
Але я іх больш не люблю.
Таму заходзь ды не бойся,
Знічы не апякуць тваіх далоняў,
Калі будзеш складаць з іх стосы й прапішаш назаўсёды
У самай нізкай шуфлядзе камода.
Заходзь і не бойся,
Распранайся й не бойся,
Спі й не бойся духмені й сквару:
Знічы пазгасалі,
Засталася толькі старая дзедаўская газніца.

* * *

Калі ўпершыню сядаў на ровар —
Думаў пра небяспечнасць дарогі.

Калі аднойчы прапанаваў пракаціцца
Разам са мною дзяўчыне —
Думаў пра шлях
(мабыць, да зораў).

Калі пазаўчора раптам стукнуўся галавою
Аб сцяну ў незнаёмым пакоі —
Думаў, як калісьці сядаў на ровар
упершыню...
у дзяцінстве…

* * *

*Памяці Таццяны Сапач*

Калі снежыць жыццё зіма
І вецер арганна гучыць,
Як харал неўміручага Баха;
Калі ўсе шляхі і дарогі,
Праспекты, гасцінцы і сцежкі
Таямніча сплятаюцца
І ўтвараюць знак безвыходнай
Бясконцасці;
Калі немагчыма ўявіць,
Што — насуперак нашым чаканням —
Лёд не стопіцца ўраз
І на золак чакаць бессэнсоўна —
Нас агортвае коўдрай утульнаю
Восень —
Трапяткі ўспамін,
Час класічнае лірыкі і невымоўных спадзеваў.

…калі снежыць жыццё зіма,
Я пастаўлю старую кружэлку —
Шапэна —
І згадаю
Пра Вас.



*Фелікс БАТОРЫН*

# КАЛАЎРОТ



***Фелікс Баторын нарадзіўся 5 лютага 1948 года ў Мінску. Аўтар пяці паэтычных кніг. Перакладае з ідыш, нямецкай, рускай, польскай моў. Паэтычнае слова яго — гучнае і пяшчотнае, глыбокае і іранічнае, незвычайна свежае, лёгкае, заўсёды знаходзіць водгук у сэрцы кожнага чытача.***

* * *

Я быў мужчынам, урачом,
Я нават быў паэтам.
Я неба падпіраў плячом,
Зямлю круціў пры гэтым.

Усё, што я здолеў здабыць,
Я браў заўсёды з бою.
О, як жа хочацца пабыць
Хоць міг самім сабою!

* * *

За час, пакуль мігцела
У небе зорка
Мар,
Мне лёс мой звар'яцелы
Пераматычыў твар,
Мне лёс мой апантаны
Прарэдзіў сівы чуб.
Рэсурс мой скарыстаны.
Але чаму ўваччу
Віхурыцца, вірыцца
І шырыцца абшар,
Дваіцца, чацвярыцца
У небе зорка
Мар?

* * *

Свістун — вясёлы чайнік
Струменем па́ру гоніць.
Званок — гасцей вяшчальнік
З глыбінь прыхожай звоніць.
Хто гэты нечаканы
Трывожна-ранні госць?

«З якіх начных блуканняў
Да нас вы, вашамосць?»

Кашулю зашпілю я,
Папраўлю каўтуны.
Адказу я не чую,
Тужліва сэрца ные.
Інстынкт ляснога звера
Пажэр парэшткі сну.
Я прачыняю дзверы
І бачу там… вясну!

* * *

Ластаўкі лашчаць пяшчотнымі крыламі
Небу вясноваму пругкае цела.
Хвалям падтакваюць промні ігрывыя
Весела, лёгка, цнатліва і смела.

Цёплы пясок, а трава прахалодная,
Лес таямнічы і вабныя далі.
І ажыло пачуццё першароднае.
Тое, што тоўшчы гадоў пахавалі.

Поплаў пярэсціцца квеценню яркаю.
Кожны тупік мае тысячу выйсцяў.
Смерці прызнаць не хачу я ніякае:
Свет абнаўляецца зменаю лісця.

* * *

Калі ў радку сціскаю слова
Штораз мацней, штораз смялей,
То выцякаюць дзеясловы,
Як са сланечніка алей.

Счапляюцца так шчыльна рыфмы,
Што аж зрастаюцца ў адно.
На верш любыя стаўце грыфы —
Яму цяпер усё адно,

Бо ён не мурам — маналітам
Паўстаў ад долу да нябёс.
І можа быць паэт забыты:
Свой адмысловы ў верша лёс.

* * *

Дзе твой дом, Адам? — У Эдоме.
Дзе Эдом, Адам? — У Эдэме.
Спачывае месяц на доме.
Спачывае на дрэве дэман.

Даспявае панадны яблык
На густым забароннным дрэве.
І ўжо ведае хітры д’яблік,
Што́ салодка нашэптваць Еве…

* * *

Шамацелі тканіны адзення,
Шамацела лістота прысад,
Шамацелі згусцелыя цені,
Шамацеў і знікаў далягляд.

Шаркацелі і шоргалі крокі.
І гучнела вірэнне крыві.
Шаркацела абмацванне змрокам
Слепавокім — свайго візаві.

Хто ён быў — той загадкавы геній
Шаргатлівай начной цішыні,
Што згарэў у світальнай геене
На крывава-алтарным агні?

Не адкажа ў алькоўнасці дома
Ні гадзіннічны метраном,
Ні любоўная хмельная стома,
Паглынутая соладка сном.

* * *

Не зразумець, хто крыламі лапоча:
Пугач на дрэве ці на жэрдцы певень.
Напэўна, у тым і ёсць загадка ночы,
Што ў цемрадзі ніхто ні ў чым не пэвен.

**АДДАМ**

Аддам дама́м іх цені,
А да́мам — кавалераў,

Адамам — ласых Еваў
З раскошаю цялес,
А фаўнам, што хацелі
Свабоды ад манераў,
Аддам здзічэлых дрэваў
На цэлы ведзьмін лес.

На мёд цягніце вёдры,
На малако — цыстэрны:
Якая ахвяруе,
Не стоміцца рука.
Такі я сёння шчодры,
Такі шыракасэрны,
Бо ўсё, што аддаю я,
Бяру не з кашалька!

* * *

У чысты і светлы ўваходзячы ранак,
Не рушце грыбніц ні груздоў,
ні паганак,
Пабойцеся спудзіць што мышку,
што гада,
І вернецца ўсё да вас шчырай спагадай.
Не ўзяўшы на чынш за дабро анічога,
Вы ўбачыце побач ласкавага Бога.

* * *

Збудзіла сонца прамянём
Хваёвы пах смалы.
Халодным залатым агнём
Палаюць купалы.

Палёт маўклівых галубоў
Нябёсы рабаціць.
Жыццём напоўнілася зноў
Усё, што можа жыць.

Блакітных елак строгі строй —
Раўненне на партал.
Ступаю важнаю ступой,
Нібы той генерал.

Ах лета бабіна! Падман
Мне гэтак мілы твой,
Але ж гусцейшы ўсё туман
Штоноч над галавой.

* * *

*Л. Халадзінскаму*

На млын памалу плён свой звозім мы.
Здалёку рып вазоў чуцён.
Стракатая карова восені
Аджоўвае хвіліны ў дзён.

Азіміна пусціла парасткі —
Вясны далёкае заклад.
За годнасцю журботу старасці
Схаваць не ў сілах наш пагляд.

**ЧАСУ**

Ты з бегу пераходзь на крок,
А крок той запаволь,
Бо дзесь наперадзе курок,
Чырвоны снег і боль.

А зрэшты, лепей бег прыспеш —
Шпарчэй, яшчэ шпарчэй!
Няхай крывавы той капеж
Адкапае хутчэй.

Няхай паўстане шквал навал,
Бядою захлісне
І ўсё, што Бог наканаваў,
Надыдзе — і міне.



*Мікола КАЛЯДНЫ*

# ІЛЬВІНАЕ ВОКА*[1]

## *Метагістарычныя эцюды*[2]

**33**

Мальцы толькі што скончылі гуляць у лапту і, прытомленыя, ляжалі на грудку. Яны так ўтаўклі яго, што травы было як на лысай галаве валасоў.

Прыемна ахутваў спакой, не турбавала мітусяніна.

Адчуваючы подых вечаровай пары, наваколле таксама рыхтавалася да спачыну, пакрысе выдаляла начной прывіднасцю прыкметы дня.

Толькі на ўсходзе яшчэ царавала калматая хмара, ад якой ува ўсе бакі беглі цёмныя пасмы.

— Костусь! Дамоў!

Хлопчык хвіліну-другую пабавіў, без ахвоты падняўся, зірнуў на ўсход.

Сэрца абдала трывога. Аднекуль вынiклі і расцякліся па целе боязь, горыч, шчымота.

Каля весніцаў стаяў дзядуля і, заўважыўшы няскладнае з унукам, спытаў:

— Цябе хто пакрыўдзіў?

— Не, — млява адказаў той і паказаў рукой у бок хмары. — Што там?

— Масея, — бліснуў вачыма стары і адвярнуўся.

**34**

— Ці даўно вы зазіралі ў прастору над нашай вучэльняй? — вострым паглядам праціяў кожнага настаўнік лекавання Асклепій.

Усе апусцілі галовы і маўчалі.

— Нядобра абраннікам гэтак паддавацца нейкаму сіндрому, — іранічна дакараў Асклепій. — Ну, падхапілі кацьму[4] падчас вандравання, ну, трохі памучыліся — і досыць. Пара нанова шыхтавацца.

Бязмоўе класа яго пацяшала і падахвочвала. Ён адчуваў пакутныя выпарэнні вучняў і бачыў, хто хварэе больш.

— Дарма вы не вяртаецеся ў паветра. Там бы знайшлі лекі.

Апошнія словы выклікалі ўсеагульнае здзіўленне.

— Як гэта? — не вытрымаў Мікаэль.

У позірках іншых таксама адбілася гэтае пытанне.

---

* Працяг. Пачатак у № 5.

[1] Леў (эзатэр.) — сымболь агню адважнасці, сонца і золата.

[2] Метагісторыя — метакультура[3] ў руху ўсіх яе частак.

*[3] Метакультура — шматпластавая, розных вымярэнняў прасторы і часу, сістэма альбо злучво правідэнцыйных, фізічных і дэманічных працэсаў жыццядзейнасці планеты.*

[4] Кацьма — зараза.

— Мы вучым вас не спыняцца, пазнаваць сябе, праганяць слабасці. Прычыну заўсёды шукайце толькі ў сабе. Усё, што вас атачае, нясе з сабою вашыя адлюстраванні і адбіткі. Акаляючае асяроддзе — лепшы інфармацыйны масіў чалавека, а разрэджанае — найбольш аператыўны і рухомы. Яно прымае, дапаўняе, перапрацоўвае і вяртае ўсё. Вось прыклад. Андрэй, прабач.

Той падняўся, і яго адразу ахінула празрыстая флюідная сфера.

Увачавідкі цела стала выпраменьваць святло рознай танальнасці. Усе столкі прыкметна трымцелі і быццам ткалі з шматколерных промняў дзівоснае маляўнічае адзенне. Яно злёгку гайдалася, нібы ад ветрыку, і хвалямі вытрасала ў прастору квяцістыя пыркі і аблачынкі. Ад галавы адплывалі цёмныя, месцамі чорныя, пульсуючыя згусткі, ад якіх ва ўсе бакі кідаліся сквапныя языкі.

— У цябе баліць галава? — спытаў настаўнік.

— Не, — адказаў Андрэй.

— Пра што ты думаеш?

Хлопец маўчаў. Асклепій утаропіўся ў яго, ад чаго ён страпянуўся, — і аўра зашугала ўсімі барвамі непагадзі.

— Не трэба, — крывячыся, папрасіў Андрэй.

Клас занепакоіўся, красамоўна дэманструючы разуменне сітуацыі, і настаўнік палічыў лішнім даваць нейкія тлумачэнні.

— Працягнем, — вымавіў ён.

Сфера вакол Андрэя значна пашыралася, і ўсе ўбачылі, як энергетычныя хмаркі разлятаюцца далёка ад яе і на хаду чапляюць-збіраюць сабе падобных. Такім чынам некаторыя разрасліся да вялікіх памераў. Эфір гучаў і пах.

Знячэўку галава і сэрца Андрэя стрэлілі адмысловымі промнямі, якія хутка працыкнулі-нанізалі на сябе некалькі аблачынак і, узбагачаныя, вярнуліся назад. Ягоны твар перасмыкнула. Да аўры дадаліся новыя адценні.

Асклепій глядзеў засяроджана, не міргаючы.

Сфера ледзь здрыганулася і пачала паказваць асобныя сюжэты жыцця Андрэя: разнастайныя замалёўкі Масеі, вобразы сваякоў, сяброў, знаёмых, жорсткія і крывавыя схапкі людзей, карціны Самбалы, юначыя разборкі, цяперашняе становішча і шмат чаго іншага. Яскравыя, невыразныя, светлыя, цёмныя, незразумелыя, бессэнсоўныя — усе яны імчалі вокамгненна, уперамешку, блытана і пакідалі ўражанне хаосу і бязладдзя.

— Гэтак прырода сканue кожнага чалавека, — падагуліў Асклепій. — Як бачыце, парадку ў галаве і сэрцы мала, што характэрна амаль для ўсіх людзей, у тым ліку і для вас. Вось цяпер можаце ўявіць, як зараз выглядае прастора над нашаю вучэльняй і якімі міязмамі яна перапоўнена. Адсюль усе вашыя хваробы. Можна іх лячыць?

— Так, — амаль аднагалосна выгукнуў клас.

— І як? — пацікавіўся настаўнік.

— Інакш думаць і адчуваць, — апярэдзіў усіх Джордж.

— Гэта цяжка.

— Немагчыма.

— Доўга.

— Лепш вы нас сутнасна перафармуйце, — хітравата параіў Барыс, і ўсе весела закруціліся.

— Гэта можна, — строга парыраваў Асклепій. — Толькі вы згубіце індывідуальнасць і будзеце нагадваць зомбі. Вашая свядомасць і Сусвет страцяць прыклады адметнай практыкі самаўдасканалення. Навошта нам гэта? Тут такія непатрэбны.

Юнакі ў задуменні сцішыліся.

— А калі вакол сябе зрабіць заслону? — прапанаваў Ахмад іншы варыянт.

— Гэта самагубства, — ацаніў яго настаўнік. — Вы задушыцеся ад сваіх выпарэнняў.

— А мо зусім не лячыць? — успыхнуў Лао. — Што тады будзе?

— Тое, што цяпер адбываецца на Зямлі, — адказаў Асклепій. — Пры такіх абставінах вашае навучанне губляе ўсялякае значэнне.

**35**

Брацік занядужаў. Бацька і маці не ведалі, што рабіць. Да каго яны толькі не звярталіся — да лекараў, святароў, шаптух, знахараў, і ніхто не дапамог, не здолеў падняць хлопчыка з ложка.

Сэрцы родных сціскала скруха, уся хата нібы патанула ў тускноце.

Адным ранкам стары, які апошнім часам больш маўчаў і журыўся, разбудзіў Косціка. Той усхапіўся і спачатку не разабраў, што ад яго хочуць.

— Пойдзеш са мной?

Мальцу падабалася, што дзядуля заўсёды водзіць яго па цікавых месцах, і згодна матнуў галавой.

Калі яны апынуліся на бальшаку, унук спытаў:

— Куды мы ідзём?

— Да вельмі цікавага чалавека.

— Навошта?

— Каб вылечыць твайго брата.

— Ён — доктар?

— Ён — майстра, умее ўсё.

Косцік трохі памаўчаў і зноў да дзядулі:

— А чаму людзі хварэюць?

— Ад слабасці.

— Мой жа брат дужы: любога равесніка паваліць?!

— Я пра іншую слабасць — унутраную, тую, якая сядзіць у кожным з нас і бесперастанку трушчыць цела.

— І ў мяне таксама?

— Так. І ў цябе, і ў мяне.

— Я нічога такога не адчуваю. Якая яна?

— Выгляд у яе розны: па чалавеку. Якая ў каго натура — такая і яна.

— Нічога не разумею. Ты, дзядуленька, неяк складана кажаш.

— Прабач, унучак. Зараз патлумачу. Дасведчаныя яшчэ завуць яе недасканаласцю. Вось прыклад: я збіў услончык абы-як, а ты — добра. Што з гэтага атрымаецца?

— Твой будзе рыпець, хістацца і ўрэшце хутка разваліцца, а мой паслужыць доўга і на радасць усім.

— Вось так і з чалавекам: стварылі яго няўдалым альбо наўмысля, альбо неталенавіта. Таму ён і кідаецца то направа, то налева, пакутуе і, па сутнасці, не ведае, што рабіць. У сваёй недасканаласці людзі вінаватыя толькі крыху. Калі б мы былі гарманічнымі, суладнымі ад веку, тады б і не хварэлі, і не мучыліся. А насамрэч, унук, усё намнога складаней, чым я табе распавядаю. Падрасцеш — зразумееш. Ну, вось мы і прыйшлі.

Іх стрэў сівабароды дзед. Ён шырока і прыемна ўсміхаўся і, было відаць, узрадаваўся наведнікам.

— Якія госці! З такой далечы! Мабыць, стаміліся. Калі ласка, праходзьце, сядайце. Я вас зараз гарбатай з разнатраўя пачастую. Каго гэта ты да мяне прывёў, Міхал?

— Свайго ўнука. Кастусём зваць.

— А мяне — дзед Апанас. Ладны хлопчык. У школу ходзіш?

— Так.

— І якія поспехі?

— Ён здольны, — адказаў за яго дзядуля. — Вучыцца на выдатна. Усім цікавіцца, любіць марыць, назіраць неба.

— Малайчына, — пахваліў дзед Апанас і засяроджана паглядзеў у вочы Косціку.

Той не сумеўся і таксама неадрыўна пазіраў на яго.

— Выдатна! — задаволена сказаў гаспадар і патрапаў хлопчыка па плячы. — Я табе нешта падару.

Ён выйшаў у другі пакой і хутка вынес адтуль залаты кудмень у выглядзе сонца.

— Насі і беражы. Ён прынясе табе поспех.

— Косцік, ідзі пагуляй, — папрасіў дзядуля. — Мы з дзедам Апанасам сёе-тое абмяркуем.

Калі абодва вярнуліся дадому, брат ужо сядзеў на ложку і ветла ўсміхаўся.

**36**

«Колькі мы выхавалі адэптаў! Не пералічыць. Яны засвоілі навуку Вялікага Рабення і разляцеліся ва ўсіх напрамках Прасторы і Часу. Прыемна, што бальшыня з іх шчыруе па маіх канонах. Але ёсць і адрачэнцы, якія не паслухаліся мяне і ўсталявалі свае парадкі, маўляў, па праве выбару і з намыслам разнастаіць жыццё. Як творцаў, я іх разумею, але, як спадкаемцаў, асуджаю. Маёй ідэяй нельга пагарджаць. Яна мне дасталася няпроста, шляхам упартай барацьбы і неймавернага энергетычнага ўзрушэння. Яе трэба шырыць, распаўсюджваць у іншых сістэмах і галактыках. Аднаму гэта рабіць цяжка, а супольна, у злучве наступнікаў і аднамыснікаў — лягчэй. Нездарма я адчыніў сваю школу. Многія, баючыся складанасцей і хаосу, не пайшлі на гэта, не адважыліся. Мабыць, не хапіла спрыту, велічных жаданняў. У адрозненне ад іх мая справа пасоўваецца шпарка. Трэба выклапатаць у Сонца дадатковыя рэзервы і разам з пашырэннем мясцовых пластоў больш актыўна ўзяцца за суседнія зорныя сістэмы. Колькі наступных выпускнікоў варта накіраваць менавіта на гэтыя мэты.

Захапляе мяне моладзь. Багаццем патэнцыяў, імпэтам. Пашанцавала таму, хто трапіў пад маё крыло: няма той галечы і пустэчы, што ў іншых. Якія шырокія мажлівасці чакаюць кожнага ў мяне! Не тое, што было з намі, першапраходцамі: нас вырыгнулі мноствам у толькі што створаны ды некрануты Сусвет і загадалі дзеяць. І мы, гарачыя, неўгамаваныя, у цемры, навобмацак распачалі сваю тытанічную працу. Колькі не вытрымала, загінула, высілілася, захварэла! Але і многа выдужала, загартавалася, узмацнела. Я буду ўсё рабіць, каб маё імя было ў ліку пераможцаў і першых».

**37**

— Мне ўсё можна! — крычаў Косцік, калі дзядуля ў чарговы раз паўшчуваў яго за дурыкі на прыродзе.

— Гэта чаму ж?

— Нам сказалі ў школе, што чалавек — галоўны, вышэйшы за ўсіх.

— Глупства, — усміхнуўся дзед і ўнікліва паглядзеў на хлопчыка, ад чаго той сумеўся і заціх.

Яны сядзелі пад яблыняй у садку, хаваючыся ад гарачага ліпеньскага надвор'я. Дзед нахіліўся над лопухам і ахнуў:

— Што тут робіцца! Дзівіся, Косцік.

Малец зірнуў уніз і таксама ўразіўся.

— Ой, колькі тут кузурак! А што яны робяць?

— Хаваюцца.

— Ад каго? Ад нас?

— Не, ад навальніцы.

— Жартуеш, дзеду, — з недаверам зірнуў унук і, быццам спаймаўшы таго на хітрасці, тыкнуў пальцам у зямлю. — Тады чаму чарвякі павылазілі? Дый ластаўкі не баяцца. Вунь якземна лётаюць.

— Чакаюць дажджу.

— Усё ты маніш. Такая спякота, і на небе ні аблачынкі.

Гарэза ўскочыў на ногі і, заўважыўшы, як гуляюць на вуліцы дзеці, пабег да іх. Дзед таксама падняўся і патупаў да сядзібы.

Хутка насунуліся цёмныя хмары, ляснуў пярун і сяканўў спорны дождж. Унук, падобны на мокрае кураня, стралой уляцеў у хату.

— Адкуль ты ведаў пра дождж, дзядуля?

— Кузуркі падказалі.

— А ім скуль вядома?

— Трэба ў іх спытаць.

— Не смейся: яны ж не ўмеюць гаварыць.

— Гэтыя, здавалася б, бязглуздыя стварэнні могуць шмат чаго, што нам не пад сілу, хоць яны і не галоўныя, як мы з табою, — хітравата падміргнуў Косціку стары.

**38**

Косця прачнуўся ад нейкай валтузні ў хаце. Хвіліну-другую ляжаў, прыслухоўваўся і раптам пачуў:

— Ме-э!

Ён кумільгом зляцеў з печы і знерухомеў. Унізе ляжала загорнутае ў хабаўздзё мокрае цяля. Маці рушніком выцірала ягоную пыску. Пахла цёплым сырадоем.

— Толькі што карова ацялілася, — з радасцю паведаміла яна. — Панаглядай пакуль за ім, а я ў хлеў на хвілінку.

Цялятка дрыжала і аблізвалася. Косця ўсміхнуўся і з пяшчотаю пагладзіў яго па галоўцы.

Нечакана яно страпянулася і заварушылася, аслабаняючыся ад рыззя. Паціху апрастала ножкі, закоўзала імі па масніцах і памкнулася падняцца. Толькі паслізнулася і ўпала. Але не страціла жадання і тут жа паспрабавала зноўку ўстаць. На гэты раз атрымалася. Пахістваючыся, цяля пастаяла якую хвілінку і няўклюдна зрабіла першы крок. Затым — другі, трэці. Упэўненасць расла ўвачавідкі — і ўжо хутка яно смела дыбала.

Знянацку ў калысцы, што стаяла ля печы, завіскатала, патрабуючы ўвагі і прыгляду, немаўля. Косцік павярнуўся, даў яму смактаць пустышку і пачаў калыхаць.

Брацiку было каля годзiка. Ён яшчэ нічога не цяміў, не хадзiў i ўсяго дамагаўся крыкам. Соска яго сцішыла ненадоўга. Праз колькi імгненняў ён выплюнуў яе i завiшчаў яшчэ гучней.

Кастусь нездаволена ўздыхнуў i пабег клiкаць мацi.

А цяля ўжо гулялася, падкiдвала азадак i брыкала ножкамi.

**39**

Як толькі кукурузнiк зрабiў чарговы заход i выпусцiў над полем паласу з хiмiкатамi, дзецi з радасцю пачалi лямантаваць i падскокваць.

Статак таксама ўсхваляваўся i стаў рассыпацца. Каровы пужлiва зiркалi ў неба i разбягалiся. Сабраць iх у такi час было надта складана.

— Косця, забягай ад балота, халера iх бяры! — крыкнуў стары i ляснуў пугаю.

Хлопчык, махаючы дратаванкаю, панёсся напярэхватки адурэлай скацiне.

Сябрукi з ахвотаю далучылiся i заўзята зазбiралi чараду.

Але некалькi жывёлiн усё ж збiлiся на беразе, а адна дык сiганула проста ў багну.

Пярэпалах сцiнуў дух людзей.

Яны ўжо нiчым не маглi ёй дапамагчы i толькi назiралi, як небарака цялёпкалася, шалёна раўла, умольна зiркаючы на бераг, i хутка знiкала ў твані.

Калi ўсё скончылася i ў паветры павiс смутак, дзед са шкадаваннем вымавiў:

— Каб жа было якое знаццё пра гэтую бяду…

**40**

На гэты раз заняткi праходзiлi незвычайна.

Настаўнiк Iкар прапанаваў кожнаму абраць мясцiну на ўлоннi прыроды i знаходзiцца там у поўнай адзiноце.

Iдэя вучням спадабалася, i яны, радуючыся, з вялiкiм iмпэтам распачалi выбар, таячы свае запаветныя надзеi, галоўная з якiх была — свабода: нарэшце iства разняволiцца i будзе самiм сабою.

Цiкава, што настаўнiк поспех практыкаванняў звязваў таксама з гэтым, але сваёй задумы не выдаваў.

У прызначаны час ён паслаў у эфiр агульны сiгнал, i юнакi, аддаленыя адно ад аднаго на сотнi метраў, аднолькава адчулi ўнутраную вiбрацыю. Гэта iх збянтэжыла, бо кожны разлiчваў на нейкi iндывiдуальны падыход i штосьцi нечаканае.

— Сёння вы будзеце лятаць, — абвясцiў Iкар, i яны яшчэ больш разгубiлiся: неабавязкова было апрычнiчаць дзеля такой звыклай справы.

Настаўнiк адгадаў iхнi стан беспараднасцi i растлумачыў:

— Пранiкаць у сутнасную прыроду рэчываў мы не будзем — гэтаму вы навучылiся. Нам неабходна асвоiць птушыны палёт. Чалавек заўсёды зайдросцiў птушкам i марыў узняцца ў паветра, як яны!? Але нiчога вартага для гэтага не рабiў, пераканаы, што няздольны. Цягам мiльёнаў гадоў ён стварыў у сабе даволi трывалую абарону ад неба i назаўжды згарнуў крылы. I толькi адзiнкi апантана спрабавалi распасцерцi iх i палятаць. Але цяжар кожны раз вяртаў смельчакоў на зямлю.

Iкар замоўк, i вучнi адчулi ягонае хваляванне, якое перадалося i iм.

— Яна моцна трымае нас i не адпускае. I ўсё ж такi сродак адарвацца ад яе ёсць.

Голасам ён узбадзёрыўся i натхнёна працягнуў:

— Амаль кожны адчуваў яго ў сне, але ніколі не задумваўся над гэтым. Сон пашырае нашую свядомасць, выслабаняе дух і робіць нас іншымі. Ці льга такі стан выклікаць наяве? Безумоўна, нават больш за тое. Але гэта няпроста, інакш усе ўжо даўно б лёталі.

Настаўнік зноўку спыніўся, згрупаваў юнацкія парывы ў адну вялікую хвалю зацікаўленасці, дадаў да яе сваёй упэўненасці ды рашучасці і накіраваў назад, да кожнага.

— Дух можа ўсё. У рэальнасці ён дзейнічае пераважна цераз думкі, пачуцці, таму мы гэтак свабодна мыслім, летуценім, адчуваем. Але да нашае фізікі дабіраецца ледзь-ледзь, чаго не хапае для поўнага разнявольвання. Калі мы адважымся і вырашым аддаць яму ўсё сваё цела, учынкі, тады станем лунаць бесперашкодна ад аднае думкі. Як гэта зрабіць? — пытаецеся вы.

Ікар узмацніў пасыланыя хвалі сваёй энергіяй і адчуў, як пакрысе, адмыслова адкрываецца дар кожнага.

— Цікаўлюся і я: з чаго пачынаецца ваш палёт падчас сну?

— З жадання, намеру.

— А чаму ў рэальнасці, колькі ні думай і ні намагайся, гэтага не адбываецца?

— Як вы ведаеце, увесь Сусвет — ілюзія. У нашай дойснасці яна матэрыяльная, а ў сне — астральна-ментальная, вобразная, — распачаў тлумачэнне настаўнік. — Цэнтр прыцягнення першай — Зямля, другой — Космас. Касмічнае ўздзеянне мацнейшае за зямное, але людзьмі валодае адваротная залежнасць, таму яны цалкам падпарадкаваліся планеце. Калі хто сябе адасобіць і ўявіць самастойнаю, незалежнаю крупінкай Сусвету, можа ўзнесціся.

— Як гэтага дамагчыся?

— Шляхам паступовага адкрыцця каналаў псіхічнае энергіі.

— Зноў жа: якім чынам?

— Напачатку дазвання адключыцца ад усяго зямнога, абстрагавацца, дайсці да бяспомнасці, але не забыцця, адчуць свой дух — нарэшце ў вас гэта атрымаецца — і злучыцца са сваёю манадаю. Такі рух ліквідуе ўсе вашыя глыбінныя заслоны і выпусціць псіхічную моц на волю. У выніку вашыя цела, пачуцці і розум ідэальна злучацца разам, існасць стане суцэльнай, наладзіцца на ўсекасмічны рытм — і вам будзе пад сілу ведаць альбо ўяўляць кожную часцінку свайго арганізма.

Натхнёнасць Ікара немінуча ўздзейнічала на шкаляроў, і яны жадалі хутчэй дасягнуць гэтага стану, але ўсё-ткі кемілі, што крочыць да яго трэба доўга і пакутліва. Многія ўзгадвалі смелыя палёты старэйшых таварышаў — і дужэлі ў памкненнях.

— Я разумею складанасць задачы і на пачатак не патрабую ад вас чагось звышнатуральнага, — з цеплынёю падтрымліваў настаўнік. — Адразу можа нічога і не адбыцца. Калі на першы раз вы дасягнеце стану адхіленасці, і вас кране Касмічная Радасць, значыць, шлях абралі правільны. Дазваляю рабіць усё магчымае, абы толькі гэта вам дапамагала. Але не губляйце сябе.

Адчуванне бязмежжа захапіла, акрыліла, і шкаляры пахапна ўзяліся за справу.

**41**

Маючы досвед засяроджанасці, Кастусь укульміўся даволі хутка.

У галаве нешта пстрыкнула — і праісначыўся позірк. Вакамер звузіўся да тонкай лініі, якая стала імкліва ўбіраць-усмоктваць у сябе ўсё наваколле. Дзіўным чынам скажаліся і ляцелі ў бяздонне лужок, дрэвы, горы, рэчкі, азёры, вёскі, гарады, кантыненты, моры і акіяны. Калі ўсё зямное было паглынута, лінія ўміг збеглася да

мікраскапічнай кропкі — яна асляпляльна ўспыхнула і стала падобная да звычайнай зіхатлівай зоркі на небе.

Кастусь агаломшана пазіраў на зорную прастрань і адчуваў невераемны ўнутраны ўздым, які спараджалі неабсяжнасць, прыгажосць і ўзнёслая рытміка Космасу. Ніводзін імпульс не паланіў свядомасць, не ўцяжарваў і не азмрочваў дух — такога пачуцця свабоды хлопец яшчэ не зведваў.

Ад радасці ён загарэўся і паляцеў куды хоця.

Раптам яго кранула прыемная хваля — і ён без супраціву, ахвотна даверыўся ёй, адчуваючы роднасную агнявую сутнасць, якая віравала і ўцягвала ў сябе. Пакруціўшыся на арбіце, Кастусь апантана нырнуў у цэнтр, дзе цалкам растварыўся і на свядомым узроўні спазнаў багацце сваіх магчымасцей. Ён убачыў сябе ў процьме частачак і зведаў іхнюю здатнасць. Нават найменшае варушэнне ягонага іства падпарадкоўвала і змушала іх да дзеяння.

З такім пашыраным светаўспрыманнем юнак вярнуўся да пачатку эксперымента.

Знадворна ніякіх перамен не прыкмеціў, затое ўнутрана знайшоў сябе іншым. Нешта нязведанае ўзбуджала і прасілася на волю. Заманулася апрабаваць свае новыя здольнасці.

Зірнуў на квяцісты пагорак — і адарваўся ад зямлі. Ад нечаканасці ахнуў, закалыхаўся ў паветры, перакуліўся і ўпаў далоў.

Памарудзіўшы, паспрабаваў нанова. Думкай задаў сабе раўнавагу, падлучыў рукі, ногі — і нетаропка, хістаючыся, заляцеў на пагорак.

Задаволены, адпачыў і намерыўся да суседняй гары, але на гэты раз вырашыў ляцець не вертыкальна, а птушма. Толькі нічога не атрымалася: як толькі галава мкнулася наперад — цела не слухалася і прызямлялася. Калі ж накіроўваў першымі ногі — палёт адбываўся. Гэта азадачыла Кастуся. Ён стаў выпрабоўваць розныя думкаформы і ў выніку даўмеўся, што фізічны рух чалавека ў масавай свядомасці злучаны менавіта з нагамі, а не з галавою — і каб перавярнуць гэтыя ўяўленні, трэба выдаткоўваць больш энергіі.

Такім чынам хлопец дабраўся да вяршыні гары і пераможна агледзеўся. Бадай, дагэтуль ніхто з людзей не станавіўся на гэтыя недасяжныя камяні. Ад усведамлення сваёй выключнасці аж перахапіла дых. Ён скіраваў позірк у наваколле і захапіўся прыродай. Нечакана на вока трапілі далёкія постаці людзей. Яны паводзілі сябе як дурасліўцы: уздымаліся ў паветра і нязграбна куляліся, некаторыя смешна сутыкаліся і падалі. Кастусь зразумеў, што гэта — шкаляры, і ўзрадаваўся. Яго пацягнула да іх.

— Далучайся! — весела крыкнуў Джордж і ўзвіўся ўвышыню, дзе ўжо блазнавалі Жак і Мікаэль.

Услед за ім шустра ўзняліся над лагчынаю Замба і Генрых.

Кастусь заразіўся іхнім імпэтам і таксама стаў дураваць разам з імі.

Што толькі хлопцы не вычваралі! Як птушаняты, упершыню расправіўшы крылы, вольна гарэзуюць-шчабечуць і прагна ўбіраюць у сябе бясконцасць прасторы, так і яны, глытнуўшы нязведанай радасці палёту, ачмурэла лунаді-свавольнічалі па-над зямлёю і ніяк не маглі наталіцца вабнай стыхіяй.

Кожнае імгненне было нечаканым адкрыццём і ўражвала. Нутро, якое звыклася з зямным кантактным рухам і паўсюдным прыцягненнем, надта развярэдзілася і шугала небывалымі настроямі. Ніхто не мог дый не хацеў даць сабе рады. Усе неяк забыліся пра ўменне валодаць сабою, бо былі ўпэўнены, што гэта не той выпадак.

Сапраўды, як можна стрымлівацца, калі адкрываецца нешта новае, незвычайнае ды яшчэ такое, што па сілах толькі меншасці людзей? Шкаляры адчувалі яго вялі-

кую значнасць, але не да канца разумелі, што разам з ужо набытым у вучэльні яно мусіла даастатку перавярнуць іхнюю свядомасць і рэальна прылучыць да вышэйшай дзейнасці.

Ікар улоўліваў хвалі выхаванцаў і адзначаў асаблівасці кожнага. Можна было б абурыцца і астудзіць запал гарэзнікаў, якія непажадана ўзрушвалі і расхіствалі сваю свядомасць, але не рабіў гэтага, бо ведаў людзей і тое, як цяжка існаваць з абрэзанымі крыламі.

«Калі чалавек, нават цераз памылку і забарону, паспытае вышэйшага сэнсу, ён захавае ў сабе радасць узлёту і абавязкова выправіцца — гэта лепш, чым ісці-спатыкацца, не маючы ўяўленняў пра нябёсы».

— Цяпер я магу ўсё, — гучна і ўзнёсла абвяшчаў усяму свету Замба, стрымгалоў кідаючы сваё цела ў розныя бакі.

— Я — валадар усіх стыхій, — радасна гарланіў Джордж, выпісваючы ў небе дзіўныя фігуры.

— Я не хачу назад, — рагатаў Мікаэль, віхрам узвяваючыся ўверх.

— Гайда да аблокаў! — клікнуў Кастусь, і чародка пракуднікаў ашалела ірванула ўвышыню.

Весела нырнуўшы ў хмары, яны апынуліся ў вільготна-змрочным асяроддзі. Бачнасць была слабой, але скарыстоўваць іншыя магчымасці для прасвятлення не хацелася, бо няўтольна ўсцешвала адвечная прыродная цнота. Хлопцы ўзбуджана мітусіліся ў лёгкіх суцемках, шукалі-ганяліся адзін за адным.

Жак падляцеў да краю воблака, спыніўся і быццам бы сеў.

— Я — БОГ! — закрычаў ён. — Як адсюль усё добра відаць!

— А я цябе зрыну, — страпянуўся Генрых і пхнуў яго. — Нябёсы мае!

Іншыя таксама наблізіліся да іх і пачалі са смехам тузацца нібыта з-за адзінага месца.

Неўспадзеўкі Жак страпянуўся, войкнуў і стаў падаць каменем.

Уражаныя, сябры стралой памчалі за ім, ураз падхапілі яго на рукі і асцярожна сталі спускацца. Ён быў у прытомнасці, але вельмі спалоханы.

— Што адбылося? — спытаў Кастусь.

— Не ведаю, — ужо на зямлі адказаў Жак. — Калі мы таўхаліся, мяне працяла нечым страшным, надта падобным да электрычнага разраду.

— Хіба электрычны разрад мае выгляд? — здзівіўся Замба.

— І чаму ён страшны? — унікаў Генрых.

Жак задуменна паглядзеў на іх і прамовіў:

— Я так адчуў. Мне здаецца: я ведаю, што гэта, але ўспомніць ніяк не магу.

— А як ты пачуваеш сябе? Нічога не турбуе? — пацікавіўся Мікаэль.

— У галаве бязладзіца, а так — нармальна.

— Рухацца можаш? — Джордж паклаў руку на плячо Жака.

— Не смяшыце! Канешне! — той пакрыўджана варухнуў целам, аслабаніўшыся ад цяжару, устаў на ногі і ўпэўнена зрабіў колькі крокаў.

— А лятаць? — выразіў Кастусь агульную занепакоенасць.

Раптоўная цішыня скавала хлопцаў. Жак кінуў насцярожаны погляд на кожнага, засярodзіўся, падняў правіцу і адарваўся ад зямлі. Крыху пакалываўся ў паветры і ўпаў. Усе кінуліся да яго, але ён рукою адхіліў іх, рашуча падняўся і зноўку ўзляцеў. На гэты раз трымаўся ўпэўнена, доўга, нават зрабіў узорны пераварот.

Юнакі задаволена засмяяліся, запляскалі ў далоні.

— А што з астатнімі? — успомніў Замба.

— Шукайма! — гукнуў Кастусь і першым ірвануў у неба.

Усе ахвотна рушылі ўслед.

Каб дазнацца іншых кунпаноў, тое можна было і не рабіць.

Да Ікара мігам дакацілася іхняе агульнае жаданне. Ён належна апрацаваў яго і надаў яму неабходны накірунак. Адразу паўстала карціна супольнае чыннасці, у якой кожны ўбачыў сябе і сваіх таварышаў.

Гэта змусіла ўсіх сабрацца навідавоку на прыгожай горнай даліне.

— Малайчыны! — пахваліў Ікар і абвёў вучняў удзячным позіркам. — Мяне радуе вашая гатовасць да ўдасканальвання. Сёння вы паказалі, за некаторым выключэннем, годныя якасці. Няхай не засмучаецца той, у каго нешта не атрымалася. Галоўнае — вы зрабілі крок наперад. Толькі рух пасоўвае нас да мэты і дае неабходныя набыткі. Хвала таму, хто ідзе! Двайная — таму, які ляціць!

Шкалярам словы настаўніка прыйшліся па душы, асабліва тым, каго напаткала няўдача.

— У кожнага яна была своеасаблівай, але ўва ўсіх спараджалася адным — сумневам, — зацеміў Ікар. — Вы павінны былі адчуць гэты здрадніцкі пазыў і тое неўтаймаванае шуганне касмічных стыхій, якое затым вас ахапіла.

Сапраўды, небаракі ўспомнілі свой недарэчны мысленны капрыз і ліхаманкавы стан пасля яго. Атрымалася, што замест чаканай радасці яны зазналі неспадзеўную непамыслоту. Нейкая невядомая ўладная сіла мігам авалодала іхняй свядомасцю, падпарадкавала сабе нутро і ў асалоду зайграла на ўсе лады, дэманструючы адну несусвеціцу. Напачатку здавалася, што іства затапіў хаос, але паступова праяснілася дзіўная ўпарадкаванасць навалы, якая са звыклай логікай не мела нічога агульнага.

— Вы сутыкнуліся з **іншасцю, якой ў Сусвеце хапае**. Яна падпільноўвае нас падчас разгубленасці альбо сумневу на нечаканых паваротах Космасу і ўзрушвае розум. З якою мэтай? — не заўсёды вядома. Мець пра яе ўяўленне — карысна, але неакрэплай свядомасці лепш не трапляць у гэты палон, бо можна страціць сябе. Як бараніцца? Перш-наперш, пры выкананні нейкай задачы кіравацца думкамі толькі аднаго значэння і напрамку, ясна ўяўляючы, што трэба. Па-другое, падстрахоўвацца і не зачыняцца ад нашае апекі.

Ікар тлумачыў і неяк загадкава, са спадзевам пазіраў на вучняў.

— А дзе Аляксандр? — раптоўна выгукнуў Кастусь, і настаўнік з палёгкай уздыхнуў, пэўна, дачакаўшыся.

І толькі тут усе заўважылі, што Аляксандра няма.

Страсянутыя, апаслівыя позіркі ўміг стрэліся на настаўніку.

— Так, менавіта гэтая сіла захапіла Аляксандра, — Ікар пацвердзіў асцярогу ўсіх. — Як толькі ён адчуў сябе незалежнай адзінкай Сусвету, то ўсумніўся ў сваіх магчымасцях і захацеў максімуму ведаў. Ягоны запыт мігам паляцеў у прастору і адразу знайшоў зацікаўленую сілу. Тая, не марудзячы, усмактала яго.

— Што з ім будзе?

— Невядома.

— Ён вернецца?

— Цяжка сказаць.

— Чаму?

— Мы не ведаем, дзе ён апынуўся. Паўтараю, гэта іншасць. Там усё не так, як у нас. Уявіць яе немагчыма.

— А хто-небудзь адтуль варочаўся?

Ікар задумліва паглядзеў удалячынь і адказаў:

— Было колькі выпадкаў. Але ад тых, хто вярнуўся, нічога даведацца не атрымалася, бо яны адразу звар'яцелі.

Маўклівaю зрабілася даліна. Чародка прагных, неспатоленых юначых думак успырхнула і паляцела ўвышыню.

**42**

— Чаму мы так доўга тут сядзім?
— Чакаем сваёй чаргі.
— А што нам трэба?
— Дровы.
— Дык лес жа адразу за нашай вёскай: паехаў і насек!
— Так нельга. Парадак іншы: трэба напісаць заяву, падаць яе ў выканкам, там разгледзяць, якія дровы нам паложаны, накладуць рэзалюцыю і накіруюць дакумант ў лясгас, дзе таксама будуць вырашаць, чаго і колькі варта даць, як і калі прывезці. Сама меншае праз месяц мы і атрымаем сваю лучыну.
— За гэты час мы акалеем.
— Нічога не зробіш: усе так.
— Амаль як у нашым класе: пакуль з апошняе парты сшытак перададуць, дык добра пашкуматаюць альбо перапынак пачнецца. Лепш самому пайсці і пакласці на стол.
— Правільна, унучак. Хто абыходзіцца без пасярэднікаў, той выйграе і, вельмі важна, ашчаджае час. Наогул, трэцяе звяно ў любых нармальных стасунках лішняе, непатрэбнае. Звычайна, на яго марнуюцца асноўныя сілы. У ім, як ні ў якім іншым адцінку, канцэнтруецца-месціцца ўсялякая нікчэмнасць і погань. Асабліва тут любіць кубліцца ўлада, кожнае рашэнне якой, нават бязглуздае, мы абавязаны выконваць. На жаль, у свеце пераважае менавіта такая канструкцыя.

**43**

— А ты, прыгажуня, чаго нахілілася?.. А-а! Сук перашкаджае. Зараз мы яго адпілуем, тым больш што ён сухі... А цябе выпрастаем, аборачкай падвяжам — і расці з дабром! Як твая харашуха-суседка: вунь якая ладная, штогод плодзіць. А тут што мы маем? Мярэча!.. Прарэдзім. Каб і ягада была, і траўка зелянела…
Косця пачуў голас дзядулі і пабег у сад. Убачыўшы толькі старога, ён спыніўся і здзіўлена спытаў:
— З кім ты размаўляеш?
— З раслінамі, зямлёй…
— А-а, табе няма з кім пагаманіць… Чаму мяне не паклікаў?
— Яны, унучак, таксама нудзяцца без слова, чакаюць ласкі.
— Усё чмуціш. Як быццам я не ведаю, што і зямля, і расліны нічога не кумекаюць і не гутораць.
— Не, Косцік, яны — жывыя, маюць душу, як і мы, перагаворваюцца. Адно што выглядам іншыя, а так — тыя ж Боскія стварэнні. Толькі трэба ўвач**ы**ць гэта, адчуць. Тады і яны адгукнуцца, адкажуць.
— А як? У іх жа языка няма.
— Ён у іх своеасаблівы. Выразны і відавочны.
Косця недаверліва зірнуў на дзядулю, перавёў узрок на сад і, паварочваючы галаву, нахіляючыся, стаў прыглядвацца ды прыслухоўвацца, але хутка здаволіўся, раззлавана кінуў:

— Нічога ў мяне не атрымліваецца!

— Абавязкова атрымаецца, але з цягам часу, бо тут патрэбны цярплівасць і назіральнасць.

— Так нудна!

— Наадварот, цікава. Замінаць табе гэта не будзе. Паслухай.

Стары і малы селі на лаўку, што была побач, каля парэчніку.

— Ты ведаеш, што зямля не паўсюль аднолькавая: на адным месцы растуць клёны, бярозы, сосны, яблыкі, грушы, парэчкі, на другім — пальмы, эўкаліпты, секвоі, апельсіны, бананы, вінаград, на трэцім, чацвёртым, пятым — наогул анічога: ці то пустыня, ці то ледавік, ці то скалы. Адпаведна і людзі розныя. Дарэчы спытаць: чаму?

— Клімат усякі.

— Правільна, унук. Але зноў жа: чаму?

— …

— Так дадзена звыш: кожны лапік зямлі своеасаблівы, бо створаны самастойным нябёсным творцам. На ім жывуць, растуць, паміраюць, радуюцца, гаруюць адменныя ад іншых дрэвы, кузуркі, жывёлы, птушкі, людзі. У іх свае звычкі, традыцыі, гісторыя, культура. Яны дыхаюць адным паветрам, размаўляюць на адной мове, захоўваюць адзін парадак… У ідэале гэта — добрая, цэльная і гарманічная, сістэма, дзе ўсё базуецца на адпаведнасцях, дапаўненнях, разуменні, згодзе. Але ў рэальнасці ўсё іначай. Пра лад і спакой можна толькі марыць. Прычын існуе шмат, але большасць з іх мае адзін адрас, — і дзядуля падняў палец угору. — Мабыць, уверсе, за аблокамі, нешта не стасуецца, бо ўнізе, у нас, усё толькі псуецца. Прычым зараза часцяком напаўзае паступова, непрыкметна і цалкам выяўляецца толькі ў канцы. Вось прыклад. Як табе наш агарод?

— Любата глядзець!

— А суседскі?

— Непрынадлівы: акрамя быльніку нічога не расце.

— А быў жа самавіты, бо нашая зямелька надта здатная і чароўная: ледзь прыкладзеш рукі — і багацце сыплецца.

— А што адбылося?

— Усё пачалося з таго, што гаспадары памерлі і дваром завалодалі заходцы. Раней іх чорт разносіў толькі па гарадох, а тут, наліха, і да вёскі дапёр. Гэтыя зразу ўсяго ачураліся. Нічога талковага не рабілі, усё псавалі. Земку зганодалі мо за год. Ты б, унучак, бачыў, як яны на агарод выходзілі: паперадзе брыдкаслоўе, за ім — звяга і падчас працы — усялякія хабалы і непрыстойнасці. І заўсёды п’яныя. Нашыя дзівіліся: як можна **так** жыць і да зямлі ставіцца? Ды ім было ўсё роўна. Хутка яны ўсім ачамярэлі.

— Узялі б ды выгналі іх, як чужынцаў.

— Шкада, што так не зрабілі, бо дале-боле. З цягам часу яны закажанелі, абарваліся і зусім згалелі, але такіх, відаць, і трасца ніякая не бярэ: п’юць і вяселяцца! І што ты думаеш? Сёй-той з тутэйшых пазайдросціў і ўпадабаў такую жытку. Спачатку спачуваў капцанам, заходзіў да іх, пасобстваваў, а ў выніку злёгся з імі — урэшце бяздолле паглынула і яго. А благое, як вядома, заразлівае. Так і пайшло гуляць па вёсцы ўсялякае непатрэбства. Стала знікаць працавітасць, зычлівасць, добрае слова.

Дзед уздыхнуў, на хвіліну задумаўся і, пазіраючы ў неба, прыхінуў да сябе ўнука.

— Што да **слова** — дык з ім сапраўдная бяда. Раней і там, і сям чулася нашая гаворка, прыгожыя трапныя звароты, усё ў наваколлі мела зычныя пекныя назвы,

абазначэнні, а тут з’явіўся чужы, несугучны язык, які, нібы пачвара, пакрысе паглынаў розум тубыльцаў. Ён адымаў сэрца, абражаў і зневажаў — люд гэта разумеў, але па звычцы цярпеў. Трава, кветкі, кусты, дрэвы, звяры, птушкі больш не чулі роднае мовы, паветра тужыла па любасных гуках і водары, зямля халаднела ад няроднага голасу і духу…

Косця адчуваў балючую занепакоенасць дзядулі і таксама хваляваўся. Яму хацелася неяк адгукнуцца, нешта зрабіць, але ён не ведаў, што менавіта.

— Пра шчаслівы канец гэтай гісторыі я табе не распавяду. Бо яго пакуль няма, дый наўрад ці будзе. Як абмежаваныя істоты, мы не ўяўляем усіх маштабаў **гэтай трагедыі**. Галоўнае — мы яе не заўважаем, **не жадаем заўважаць**. Вось адкажы мне: ты — хоць і малы, але спрытны, дапытлівы — калі-небудзь чуў дома, у школе, на вуліцы, каб зацікаўлена абмяркоўвалі альбо проста краналі гэтую тэму?

— Не.

— Раўнадушша да роднай мовы — найважная перамога ворага. Не здзіўляйся — я ўсё называю сваімі імёнамі. Ён заўсёды хлусіць, калі гаворыць, што мова, гістарычныя сымболі не маюць вялікага значэння для асобы, прытым сам, земляед, настырна і злосна навязвае свае. Мова — гэта нашая сутнасць, адчуванне, розум. Адбяры яе — і нас не стане. Яна дадзена нам, каб адрозніваცца ад іншых, каб мець свой адметны голас у БОСКІМ Хоры, каб годна зносіцца з Вышынямі. Там, за межамі нашага свету, у раі ці пекле, **нас успрымаюць толькі па прыналежнасці да мовы**. Як выявімся, так і атрымаем. Нашым нябёсным уладарам вельмі баліць ад таго, што мы ўсё радзей і радзей ужываем роднае слова. Яны не ўспрымаюць і дужа пакутуюць, калі мы ўслаўляем сваю краіну, сябе на чужой мове, і адпаведна рэагуюць на гэта — адсюль нашыя шматлікія няшчасці, пакуты, нядужасці, бо ўсё пад сонцам узаемазлучанае, вынікае адно з аднаго. У выніку ў метагістарычным ракурсе — ёсць такое сусветнае вызначэнне, унучак, — утвараецца звыродлівая, пачварная выява нашае Вялікае Радзімы.

Дзядуля распаліўся, пасвятлеў чалом — і ўнук на імгненне ўбачыў натхнёнага сівавалосага прарока, з якога струменілася жыватворная праўда.

— Дык што рабіць, дзядуля? — спытаў уражаны Косця.

— Размаўляць на роднай мове, — радасна адказаў Міхал, — вось з гэтым садам, небам, зямлёю, людзьмі.

**44**

Гэты неверагодны луг быў адзін такі на Зямлі. Ён цвіў вельмі рэдка, не па сезоне і здзіўляў-зачароўваў сваёй адметнасцю.

Разнастайныя краскі, якія ў звычайных умовах ніколі не суседнічалі, тут палалі побач, ахвотна даючы адна адной волю і радасць. Ніщто не парушала іхняе ўлагоджанасці. Нават грозныя прыродныя стыхіі, здольныя ўзрушыць і перайначыць усё на свеце, не маглі яе ўскалыхнуць, хоць і ўражвалі своеасаблівай звычкай: амаль не турбуючы пожню ў іншы час, яны распачыналі свае забавы, як толькі кветкі ўспыхвалі прыгажосцю. То па чарзе, то разам над раслінамі гулялі ветравеі, навальніцы, дажджы, снягі, гарачыня і гэтым іх надта даймалі.

— Пакуты вам толькі на карысць, — казала Геката, назіраючы за лугам і паддаючы непагадзі. — Яны дапамагаюць адчыняць Свет. Не зведаўшы іх, не атрымаеце ключы ад Праўды. Зазнавайце — і станеце вынослівымі. Трыванне — першая прыступка валодання сабою. Не будзе іншых — змітрэнжыце сябе, як людзі. Каб гэтак не сталася — пераапрацоўвайце цярпенне на дужасць.

Яна павялічылася, распасцерлася над лугам усёю сваёю істасцю і замаўляла далей:

— Напружанне нарастае — моцаю наліваецца вашая сутнасць — і знікаюць межы адчуванняў. Няма болей ні мучэнняў, ні асалоды, ні гора, ні радасці — усё адно. Ёсць толькі вы, ад каго яно залежыць і ад чыйго пахацення пераўтвараецца. Жадайце — і свет будзе вашым. Думайце — і ён стане такім, як вы.

Кветкі хваляваліся, шалпаталі пялёсткамі і шчодра пырскалі красою, ад чаго ў паветры ўзнікла пярэстая і духмяная імга.

— Люблю прыгажосць! — захаплялася Геката і працягвала чараваць.

Мроіва стала гусцець, рухацца-клубіцца і ў выніку ператварылася ў змрочную і смуродную каламуту, у якой затыхаліся і марнелі краскі.

— Люблю агіднасць! — з ранейшым натхненнем ірмілася Геката.

Адзін яе мысленны ўзмах — і ўсялякая аблога мігам развеялася.

— Нічога не люблю! — грымнула яна і набыла звычайны выгляд.

— Аслабаняю! — ад гэтага яе загаду луг узрушыўся і пачаў змяняцца.

Травы ўвачавідкі выпрасталіся і ярка зазелянелі, кветкі — радасна праісначыліся.

Кудысьці падзеліся ружы, лілеі, хрызантэмы, вяргіні, пралескі, астры, ландышы, рамонкі, півоні, васількі, гваздзікі, верас, чабор і многія іншыя. Замест іх паўстала цэлая раць хвацкіх малойцаў, праўда, крыху збянтэжаных.

— Адкуль такое непатрэбства? — жартаўліва ўкалола пытаннем Геката. — Не спадабалася? Дарма. Вы — творцы. А творцу па сэрцы ўсё, што ён ажыццяўляе. Калі не, тады ён — адрачэнец, чалавек, і яму не месца сярод нас.

Яна, як калі-нікалі і іншыя настаўнікі, знарок кранула шчымлівыя асацыяцыі хлопцаў з надзеяй узрушыць іхняе самалюбства і дапамагчы ім канчаткова пазбавіцца прыкрай мінуўшчыны, бо ведала, што нікому з іх пакуль гэтага не хацелася.

Шкаляры ўстрапянуліся, нібы атрэслі з сябе азёл[1], і разгублена ўтаропіліся на Гекату, імкнучыся, па звычцы, глыбей схаваць свае патаемныя думкі.

— Не трэба затойвацца, — распазнала іх Геката. — Не той выпадак. Вы перада мною як на далоні і ўсе разгадныя — пара б ужо даўно прывыкнуць да гэтага. Для засваення маёй навукі лепей разняволіцца і раскрыцца. Усе агоўталіся?

Юнакі пачалі пераглядвацца, як бы шукаючы адно аднаго, і неўзабаве ўстрывожыліся.

— Кагосьці няма? — спытала Геката.

Прагучала некалькі імёнаў, у тым ліку Замба, Барыс, Генрых, Лао, Андрэй.

Усе позіркамі паімчалі на луг і толькі цяпер заўважылі, што сям-там ляжалі зламаныя і абвялыя кветкі. Жах ураз абхапіў кожнага і горкім парывам павярнуў да Гекаты.

— Шкада красак, — спакойна адрэагавала тая. — Але збыт журбоціцца, перажываць не варта: невялікая страта.

Хлопцаў уразіла яе раўнадушша. Яны асалапелі і не маглі гаварыць. Геката тым часам працягвала:

— Гэтае выпрабаванне вашыя дружбакі не вытрымалі. Хацела ўсіх улагодзіць цвіценнем — такім дзівосным спосабам пераўтварэння — і паназіраць, як вы жывяце ў прыгажосці… На жаль, атрымалася не ўва ўсіх. Мабыць, надвор’е паўздзейнічала. А без яго, усялякага, як вядома, нішто не існуе. Трэба абвыкаць, загартоўвацца… Ну, ды не бяда.

[1] Азёл — чары, чараванне.

Яе разважанні здаваліся здзеклівымі і ўсё больш турбавалі юнакоў. Ім было балюча і крыўдна.

— За зніклых не трывожцеся. Духам яны жывыя, толькі крыху зніякавелі, рассыпаліся, і кожнаму патрэбен нейкі час, каб сабрацца і адчуць сябе. Я іх бачу і дапамагу ім.

Хлопцы з палёгкай уздыхнулі, але неўразуменне не прайшло.

— Чараваць — нялёгкая справа. Яна не для ўсіх, — адзначыла Геката. — Ёсць універсальная, **абсалютная навука**, з дапамогай якой створаны Сусвет, зоркі, планеты, чалавек. Магія — адгалінаванне гэтае навукі. Яна не мае межаў. Карыстаючыся ёю, можна зрабіць **усё** — ад найпростых да самых складаных асобін, у тым ліку і самастойныя іхнія часткі. **Гісторыя Космасу, чалавецтва — гэта летапіс Вялікай Магіі**. Яе сакрэты дасяжныя толькі дасведчаным, абраным. Разумець іх — вялізная здольнасць і адказнасць. Трэба помніць, што, як любая сапраўдная навука, магія любіць дасканаласць, глыбокія веды і жорстка карае за павярхоўнасць. Прыкладаў гэтага шмат як у мікра-, так і ў макракосме. Дастаткова звярнуцца да разнастайных малекулярных і галактычных катаклізмаў альбо, чаго далёка хадзіць, узяць наш сённяшні выпадак.

Вучні зноўку заварушыліся, чакаючы чагосьці новага.

— Чаму некаторых напаткала няўдача? — спытала настаўніца.

Шкаляры няўцямна зірнулі адно на аднаго, не ведаючы, што адказаць. Кастусь паспрабаваў неяк растлумачыць усеагульнае замяшанне:

— Вы не паставілі нам канкрэтнае задачы, а толькі прапанавалі папайграць на лузе, што мы і зрабілі. У нейкі момант я адчуў невядомае ўнутранае страсенне — і ачуўся перад вамі ў вось такой грамадзе. Мы нічога не… тварылі.

Геката ўсміхнулася і з лёгкай напускной крыўдай прамовіла:

— Дык вы мяне вінаваціце? Гэта я дапусціла абмах? Маўляў, благая майстрыха?.. Адыліж усё было інакш.

Яна бліснула вачыма — і ўсё вакол дзіўна змянілася, паўстала ў ненатуральна рухомых і зменлівых формах. Сонца, аблокі, горы, расліны спачатку закалываліся, нібы ў марыве, затым зрабіліся светла-празрыстымі і нарэшце наогул растварыліся — і ўсё гэта суправаджалася неверагодным паліфонным гучаннем. Вучні прайшлі цераз такія ж змяненні, але іхнія акорды былі больш мілагучнымі і прыемнымі. У выніку на месцы звычайнага зямнога лугу праказалася нябачаная жывая флюідная сфера, якая гарэла золатам і спараджала прыгожыя мелодыі.

Праз колькі імгненняў з яе нетраў пасыпаліся радасныя юнацкія галасы, якія жадалі аднаго — ператварэння ў кветкі.

Хутка сфера ўзбудзілася, стала калярыстай і, разгарнуўшыся як абрус-самабор, выявіла ранейшы краявід, толькі на лузе з'явілася мноства красак. Яны весяліліся, жартавалі, захапляліся адна адной.

— Які ў цябе слічны бутон!

— А мне дужа падабаюцца твае пялёсткі.

— Як я пахну?

— Ашаламляльна!

— Твой водар аж дурманіць.

— А гэта што за квет? Як ён завецца?

— Васілёк. Падабаецца?

— Вельмі. Не ведаў, што такія ёсць.

— Чаго толькі на свеце няма!

— Усяго багата.

— А нас — мала.
— Прыгажосці заўсёды не хапае.
— Так, мы каштоўныя.
— Дарагія!
— Нам бы крышку руху...
— Я жадаю рухацца!
— І я: скакаць і гарэзаваць.
— Карані перашкаджаюць.
— Заўжды нешта замінае.
— А без іх можна?
— Мабыць, нельга.
— Я паспрабую. Расхістаюся — і…
— Не атрымліваецца.
— А вось і вецер наляцеў. Можа, ён дапаможа?
— Ты загінеш.
— Адраджуся: я ж абраны.
— Віхура страшэнная! Трымайцеся!
— Ой, мае пялёсткі паадрываліся…
— Як нязручна гэтак згінацца да зямлі!
— Навошта мяне так шкуматаюць!?
— Чаму такі сцюдзёны і калючы дождж?
— А мне па душы гэтая нягода.
— Мая сцяблінка ламаецца… Як балюча!
— А-а-а! Мяне выдзіраюць з зямлі, я лячу, чорт яго бяры!
— Бывайце!
— Я замярзаю…
— Ратуйце!
— Ад смерці няма зелля.

Як толькі стыхія сцішылася і луг стаў ажываць, ад пакамячаных кветак пачалі адлятаць чалавечыя фантомы, якія, хто адразу, а хто пазней, набывалі фізічную форму.

Шкаляры здзіўлена сачылі за кудзебствам, і кожны шукаў сваё адлюстраванне. Усе бурна ўзрадаваліся, калі заўважылі ў ліку апошніх сцені Замбы, Барыса, Генрыха, Лао, Андрэя, якія спачатку ўсхвалявана мятушыліся, а затым, увасобіўшыся ў людзей, разгублена і нясмела далучыліся да гурта. Пасля гэтага міраж прапаў.

— Вось як было насамрэч, — скончыла чараваць Геката. — Вы дзеялі — і правільна рабілі. Праўда, бальшынёю несвядома і пад маім уздзеяннем, але волі ў вас было дастаткова. Яна і падвяла некаторых. Ніколі не адключайце свой розум. Што б ні было: нягоды, пакуты, боль, радасць, непрытомнасць, сон ці любая рэальнасць — ваш глузд павінен працаваць безупынна і кантраляваць усю вашую існасць. Гэта не адразу атрымліваецца, але я вас навучу. Напачатку засвойце колькі эзатэрычных аксіём.

Геката спынілася, уважліва паглядзела на вучняў, кінула позірк удалячынь. Усталявалася цішыня. Нават птушкі перасталі цвыркаць. Хлопцам здалося, што і аблокі прытармазілі бег.

— Вы — адначасова тварэнні і творцы. Гэта дае вам мажлівасць змяняць сябе і свет шляхам правільнага і багатага скарыстання розуму. Толькі розумам вы — вечныя касмічныя істоты, усім астатнім — целам, эмоцыямі і г.д. — мінучая ілюзія, часовыя напластаванні. **Розум пануе ў Сусвеце неабмежавана**. Ён разліваецца, як бязмежны акіян, запаўняючы сабою ўсе адгалінаванні Прасторы і Часу. Кроплямі ён прысу-

тнічае і ў кожным з вас. Калі вы глыбока ўсвядоміце і ўявіце гэтую лучнасць, тады цалкам авалодаеце сакрэтамі магіі і цудатворства. Вы ўцяміце, што розумам можна існаваць не толькі ў чалавечым целе, але і ўва ўсіх рэчах і прадметах, што існуюць у Космасе. Сапраўдны маг творыць у любых умовах і ўва ўсякім выглядзе. Але заўжды памятае пра сваю суцэльнасць з Сусветным Розумам і бачыць яе. Інакш ён не здолеў бы паслядоўна і стала праісначвацца. Напрыклад, ператварыўшыся ў кветку, застаўся б ёю назаўсёды. Альбо, калі б змяняў наваколле і атачэнне, то не мог бы вярнуць яго да ранейшага выгляду. Таму перш, чым пераўтварыцца, трэба выразна ўявіць сябе ў непарыўным злучве з Космасам, са сваёй манадай, і адваротны шлях — і ніколі не пакідаць гэты вобраз. У найвышэйшым, абсалютным варыянце Розум існуе без абалонкі, сам па сабе. Гэта цяжка ўцяміць, але я вам зараз прадэманструю.

Юнакі з захапленнем слухалі Гекату і зусім не чакалі новых узрушэнняў, адылі іх раптам скаланула, і яны, на здзіўленне, заўважылі, як знікаюць іхнія целы і пашыраецца, нібы расцякаецца, свядомасць. Кожны адчуў, што ведае значна больш, чым раней, і такое, пра што нават ніколі і не думаў. У нечаканым жывым і рухавым святле паўсталі расліны, камяні, усялякія шчыпулі, гадаўё, звяры, якія дзіўным чынам нешта пра сябе меркавалі і адно з адным зносіліся. Але найбольш уразілі шкаляроў сутыкненні іхніх розумаў. Напачатку кожны быў нябачнай энергетычнай аблачынкай, затым — шырокім і танюсенькім іскрыстым марывам, якое няспынна гуляла хвалямі і галліва мкнула-цягнулася да іншых. Урэшце адбылося неверагоднае суладнае зліццё выяў розуму ўсіх юнакоў. Гэта іх агаломшыла. Яны яшчэ не зазнавалі такіх усеабдымных адчуванняў: аднекуль з'явілася і стала ціснуць кожнага сваёй велічэзнасцю неймаверна поўнае веданне сябе і іншых. Розум нязвыкла непакоіўся і кіпеў.

Геката імгненна згарнула карціну і прамовіла:

— Вам яшчэ цяжка знаходзіцца ў адным розуме без цела. Але паступова вы адолееце ўсялякую прывіднасць і адчуеце сапраўдную свабоду свайго глузду. Радасць творчасці ахопіць вас і ўжо ніколі не пакіне. Можна будзе праісначвацца кім заўгодна, цалкам, часткамі, раскласці сябе і сабраць нанова, адправіць любы ваш орган у самастойнае жыццё куды хоця і на які пажадаецца час. Толькі не трэба забываць наогул пра свае якасці і губляць іх назаўсёды. Інакш вашая сутнасць растрасецца, зменіцца, і вы станеце іншаю істотай, бо кожны з вас — своеасаблівая касмічная формула з непаўторным наборам энергетычных знакаў.

Юначыя сэрцы трапяталі ва ўнісон з хвалюючай казанню Гекаты і адчувалі-ўяўлялі сябе ўсемагутнымі высакароднамі магамі. Іх нясцерпна цягнула да вабнага свету Вялікай Творчасці.

— Для дасканалага мага не існуе перашкод. Яму ўсё падуладна. Але нават і ён непакоіцца, калі трэба ператварыцца ў агонь. Я памятаю выпадкі, калі палымнелі і згаралі самыя таленавітыя чараўнікі, якія не здолелі вынесці пякельнага агню і вярнуцца назад. Сярод магаў існуе правіла: як толькі ты адчуў сябе ідэальным майстрам, дасягнуў вышынь умельства і стварыў усё, што мог, — смела рабіся агнём, каб ужо ў новай выяве крочыць па БОСКАЙ Лесвіцы, але, крый БОЖА, адважыцца на гэта раней: цяжэйшай кармы не бывае. Па гэтай прычыне я пакуль не буду паказваць вам ператварэнне ў агонь. Калі вы добра ўсяму навучыцеся, тады мы тое і зробім.

**45**

— Вялікім ты ўжо стаў, Косця: самастойна чытаеш Біблію.

— Настаўнікі далі заданне.

— Неверагодна! Святое Пісанне — найцікавейшы матэрыял для разважанняў. У ім можна знайсці адказы на ўсе пытанні, але самае галоўнае — не апынуцца ў

палоне абыходкавых тлумачэнняў, нярэдка блытаных, мярэжыстых. Напрыклад, сказана, што **БОГ стварыў чалавека па сваім падабенстве**. Ну і што з таго: Ён усё зрабіў па сваім падабенстве — і расліны, і жывёл? Але на гэта звычайна не зважаюць ды беспадстаўна тлумачаць: значыць, чалавек бліжэйшы за іншых да БОГА — і такім парадкам падманваюцца, бо ў ТВОРЦЫ **ўсе** роўныя, так як **яны** — ягоныя тварэнні, а адлегласць вызначаецца не воблікам, а духам.

— Тады і ў кожнага чалавека свая дыстанцыя?

— Абавязкова! Наогул, гэтае выслоўе трэба разумець інакш, глыбей. Той, хто стварыў нас і намовіў **іменна гэтак** разумець сваю справу, меў важную для сябе задуму. Па-першае, ён жадаў, каб яго шанавалі і адчувалі непасрэдна, фізічна — то бок, **быў дзесьці побач, каля людзей, на Зямлі**. Па-другое, каб лягчэй гэта адбывалася, каб нашыя пацеры, літанні хутчэй даходзілі да яго, зрабіў усё падобным да сябе. Уцяміў? Што з гэтага вынікае? А тое, што **наш Творца жыве на Зямлі**, але ў своеасаблівым недасяжным вобразе. Менавіта Яму мы і пакланяемся. А БОГ — Усепрычынны і Усемагутны Уладар, ТОЙ, ХТО зрабіў увесь Неабдымны Сусвет. І **Выява ЯГО**, як і Справа, насамрэч **нікому невядомая і незразумелая**. Ува ўсякім разе, унучак, яна **не такая, як нашая**.

**46**

Кастусь ішоў па квяцістым і духмяным лузе. Колькі разоў ён тут быў! І заўсёды нутро спявала і хацела лятаць. Сёння яго абхапіла неверагодная сунега, ад якой салодасна трапятала ўсё цела. Прадчуванне чагосьці незвычайнага хвалявала і ўзбуджала надзею на прыемную сустрэчу.

Узышоў на пагорак і на хвіліну затрымаўся, каб азірнуць прасцяг.

Вочы адразу злавілі рухомую постаць непадалёк. Гэта была дзяўчына, якая збірала краскі і травы.

Кастусь пазнаў яе — і сэрца радасна ёкнула.

Яна падняла галаву, паглядзела на яго і хораша ўсміхнулася.

Ён адказаў таксама шырокай шчырай усмешкай і няспешна накіраваўся да яе.

Яска стаяла, мілосна пазірала на Кастуся і ўсім сваім выглядам нібыта мовіла: «Ідзі да мяне, любы».

Хлопец загарэўся пачуццямі і ўз'юрыўся.

Нічога не кажучы, наблізіўся да яе, моцна абняў і пачаў цалаваць.

Дзеўка гэтак жа заірмілася і жарсна прытулілася да яго.

Кастусь на ўвесь ход ірвануў да вяршыні асалоды — і ў юрлівай утрапёнасці хутка дасягнуў яе.

**47**

Адразу прахапіўся, глыбока дыхаючы і млеючы ад зачыснай[1] стомы. Рука міжволі нырнула пад коўдру. Усё было запырскана хуццю. Кастусь пахапліва, пазіраючы на дзверы, выдаліў, як мог, плямкі і зноўку лёг у ложак.

Узбуджэнне спадала. Думкі круціліся вакол сну.

Апошнім часам яму ўсё часцей мроіліся эратычныя сюжэты, большасцю злучаныя з далёкай бацькаўшчынай. Звычайна яны пакідалі адначасна і слодыч, і горыч.

[1] Зачыснай — прыемнай.

Нікому аб гэтым ён не гаварыў, але ведаў, што аднакашнікаў таксама наведваюць падобныя начныя крозы. Яны неаднойчы ўпотайкі абмяркоўвалі гэта і неяк скрушна адзначалі, што ў іхнім становішчы праблема амаль што невырашальная і ім наканавана з-за яе мучыцца.

**48**

— Хто зазнае, той і жыве, — быццам адгадала юначыя хваляванні Афрадыта, як толькі распачала свае заняткі. — Я, бадай, у ліку апошніх выкладаю сваю навуку, бо раней вы былі жэўжыкамі і распавядаць вам пра яе таямніцы не мела сэнсу.

Прыгожымі і панадлівымі вачыма яна абвяла залу, прыемна ўсміхнулася. Хлопцы ў спадзеве заварушыліся і скіравалі на яе свае вогненныя позіркі.

— Вам, без аднае хвіліны багам, няма чаго журыцца наконт кахання і пажадлівасці. Сапраўдны маг не мае такіх праблем, бо ён можа нарадзіць які заўгодна вобраз і распараджацца ім як хаця.

Хлопцы захваляваліся.

— Дык гэта ж ілюзія.

— Фантом.

— Самападман.

— Знявага да сябе.

— Ганебнасць.

— Хамства.

— Пачварны эгаізм.

— Звыродлівасць.

Афрадыта загадкава хмылілася, улоўліваючы і збіраючы ў сваю загадкавую скарбонку шчырыя настроі вучняў — яны ёй падабаліся.

— Як неміласціва вы ставіцеся да сваіх дзяцей! — жартаўліва папракнула іх яна. — Калі такі варыянт не па гусце — выкарыстоўвайце іншы: стварайце з канкрэтных жывых істот альбо прадметаў памысныя выявы, і яны будуць здавацца вам больш цікавымі, глыбокімі і жыццёвымі, дый сумленне не так патрывожыцца. Мне даспадобы ўсе спосабы.

Афрадыта ўзмахнула рукой — і побач з ёю ўзнікла паглядная дзяўчына. Клас здзіўлена ахнуў. Настаўніца пільна ўтаропілася на Мікаэля. Той схамянуўся, выпрастаўся і маўкліва пайшоў да яе. Як толькі ён апынуўся поплеч з ёю, то ператварыўся ў такую ж красуню. Уражаныя малайцы здранцвелі.

— Падабаецца? — інтрыгавальна спытала Афрадыта. — Хто больш?

— Тая, што справа!

— Мне — левая!

— Яны абедзве пекныя!

— Такія лялечкі!

— Мікаэль, ідзі да мяне…

— Не, ён мой!

— Можна іх… пакратаць?

— А абняць?

Меркаванні пераблыталіся, і ў распачатым вясёлым гаме цяжка было вызначыць, хто атрымаў перавагу. Дзяўчаты, змусліва пасміхваючыся, павабна рухаліся і дужа распальвалі юнакоў. Афрадыта ўзняла рукі — і выявы зніклі. Яна акрэсліла ў паветры кола і, як толькі шум суняўся, пранікліва мовіла:

— Каб нікому не было крыўдна і каб усіх прасякла ідэя, жадаю бачыць вас іншымі, — і блiснула вачыма.

Па класе адна за адной пракаціліся пракудныя шапаткія хвалі. Першая ператварыла ўсіх хлопцаў у дзяўчат, другая і трэцяя напераменку зрабілі гэта з паловамі класа, чацвёртая вярнула ўсім першапачатковы выгляд. Узбуджаныя і агаломшаныя, вучні збыт ірміліся і праглі новых эксперыментаў. Не стрымаўшыся, яны дружна запляскалі ў далоні.

Афрадыта мілосна глядзела на іх, патанаючы ў п’янлівай зачысці і пяшчоце. Нечакана яна павярнулася, зграбна ўзмахнула рукамі — і засталася без убораў. Уражаны клас гучна ахнуў. Праз імгненне пачалі ўзнікаць яе копіі, якіх у выніку набралася акурат столькі, колькі было вучняў.

Усе выявы Афрадыты грацыямі паплылі да юнакоў і, ззяючы пажадлівай радасцю, манерна ўселіся ім на калены.

— Не хвалюйцеся, згаршаць вас яны не збіраюцца, — весела заўважыла настаўніца. — З іх дапамогай вы будзеце лепш засвойваць маю навуку. Калі каму не па сэрцы маё адлюстраванне — можаце ўявіць сваіх любых. Я не пакрыўджуся і помсціць не буду.

У абдоймах многіх адразу з’явіліся дзяўчаты, а ў некаторых — прывабныя малойчыкі. Апошняе выклікала непадробнае здзіўленне бальшыні ды спарадзіла колькі непрыстойных хіхотаў і воклічаў.

— Досыць! — нездаволена крыкнула Афрадыта. — Нікчэмныя ахвяры чалавечай маралі. Столькі гадоў мы адахвочваем вас ад мінуўшчыны і ўбіваем у галовы вышэйшыя каноны духоўнасці! А вы не-не ды вырыгваеце гідасныя варацакі, як п’яныя дурні. Датуль, пакуль гэта будзе з вамі адбывацца, сапраўднага стваральніка ад сябе не чакайце.

Усталявалася цішыня, якую вельмі замілоўвала ўсхваляванае тахканне юначых сэрцаў. Настаўніца адчула неабходную наэлектрызаванасць класа і гучным вяшчункавым голасам вымавіла:

— Ніколі тварэнне не пераўзыдзе творцы. Гэта — касмічная аксіёма. Як бы вы не спасцігалі маю навуку, да якіх бы вышыняў не дабіраліся, вам не перасягнуць мяне. Вы ніколі не адчуеце і не пакахаеце так, як я, не вынайдзеце маіх любошчаў і пачуццяў, не будзеце гэтак ягліцца і смакавацца, атрымліваць асалоду. Акрамя мяне ніводная істота ў Сусвеце не здолее ўвасобіць у сабе так поўна і адначасна цнатлівасць ды бязульства. У вас усё будзе сваё. І ў гэтым сваім, адметным, непадобным да іншага, кожнаму трэба быць майстрам.

Афрадыта стала большага ўзросту, прыгажэйшай і набыла светлыя, сонечныя абрысы. Усіх магнезам пацягнула да яе.

— Усе мы — любоў. Усё нашае атачэнне — любоў. Увесь Сусвет — любоў. Каханне і нянавісць, сяброўства і варожасць, павага і пагарда — любоў. Рознімся мы толькі ілюзійна, нейкі час і ў залежнасці ад умоў праяўлення. Таму не трэба вашае мімалётнае, у параўнанні з Вечнасцю, існаванне на зямлі лічыць пастаянным, дадзеным назаўсёды. Усё мяняецца, акрамя Любові. Яна заўжды багатая, невычэрпная, вечная, але формамі можа быць рознай. Кожны з вас — адна з яе форм. Трэба шанаваць гэтую форму, скарыстоўваць яе напоўніцу і дзякаваць Стваральніку, што Ён такім чынам увасобіў Любоў і даручыў несці Яе менавіта вам. Ніколі не забывайце пра гэта. І няхай вас не шакуе тое, што вы зараз пачуеце і пабачыце.

Афрадыта, плыўна ўзмахваючы рукамі, павярнулася ўправа-ўлева — і аднекуль загучала пяшчотная мелодыя, пад якую юнакі ў жарсным парыве абняліся-зліліся са сваімі дрыжонымі. Эфір хіснуўся, і замест кожнай пары паўсталі асобіны, вельмі падобныя да сваіх папярэднікаў.

— Вы — андрагіны, двухполыя стварэнні, — напеўна гаварыла яна. — Ведаю, як узбагаціліся вашыя эмоцыі і як вам захацелася новых адчуванняў. У такім выглядзе ніхто вам не патрэбны, вы самадастатковыя і можаце задавальняць сябе як заўгодна. Хіба калі пажадаеце пералюбу… Тагды можна звярнуцца да суседа — і асалода ўзрасце шматкроць.

Афрадыта ўжо танчыла, узбуджаючы хвалі неверагоднае сунегі, якія каціліся адна мацнейшая за другую і без супраціву забіралі шкаляроў. У іхняй свядомасці ўсё знікла, кудысьці прапала, і толькі неабнімны акіян жарсці калыхаў і цешыў неспатоленыя сэрцы.

— Я ўзлятаю і лунаю над вамі, бачу годнасць, настрой і спрыт кожнага. Дзіклівасці і цнатлівасці няма, як бессаромнасці і разбэшчанасці. Усё — натуральнае, іманентнае. НыРайце ў сябе, смела і глыбока, — там усе адкрыцці і вычыны[1], запаветны сэнс жыцця. Вашае іства праймае салодасная ліхаманка, моцным фантанам пырскае хуць — і забыццё паглынае вас. Цудоўна! Вы на вяршыні шчасця!

Калі зачысная дрымота пачала адступаць, зняможаныя дзецюкі млява ўзнялі галовы і знайшлі сябе ў першапачатковы стане, без сваіх палоўкаў. Спусташэнне кранула сэрцы і сапсавала настрой.

— Там, адкуль вы вярнуліся, стомы няма, — працягнула Афрадыта, набыўшая звычайнае аблічча. — Яна толькі тут, у выяўленым свеце, дзе сілы абмежаваныя і без аднаўлення марнуюцца. Каб вы не маркоціліся і ацанілі тое, што з вамі сталася, прапаную для параўнання яшчэ адзін прыклад Любові.

Гіпнатычным зіркам яна абвяла шэрагі — і хлопцы падрыхтаваліся да чарговай негавілі.

Іх балюча страсянулі, сталі камечыць, трансфармаваць. Нутро спярша выпусташылі, а затым начынілі чымсьці новым, невядомым, якое адразу пачало рухацца і непакоіць. Магутны праРэзлівы лямант скалануў паветра, калі ўсе заўважылі адсутнасць мужчынскіх даспехаў і наогул усялякіх прыкметаў полу. З жахам небаракі ўтаропілі вочы на Афрадыту, а тая, як ніколі нічога, добразычліва ўсміхалася.

Нецекам жываты малойцаў ненатуральна павялічыліся і захадзілі ходырам. Многія ад калаццы пападалі далоў.

— Жыццё Космасу — пакута, якая накшталт усяму існаму бывае рознай і ў безлічы. Да адной вы прызвычаіліся — і яна вас мала турбуе, часам, нават падабаецца; другая, калі ў яе знянацку акунуцца, выклікае нязвыклае страсенне духу — і тады вам баліць. Гэты боль — радасць, якую вы яшчэ не спазналі да канца.

Амаль адначасова жываты ва ўсіх раскрыліся і выпусцілі на свет крыклівых немаўлят. Неймавернае шчасце затапіла нараджальнікаў. Яны ўцешна пазіралі на сваіх дзяцей, якія, на ўсеагульнае здзіўленне, дужэлі на вачах без аніякай старонняй дапамогі. Праз некалькі хвіль усе маладыя бацькі здрыгануліся, знямелі і дзіўным чынам, з радаснай усмешкай на твары, патанулі ў замсце[2].

— Абуджайцеся! — загадала Афрадыта, і клас ажыў, ведаючы пра свае метамарфозы. — У той рэальнасці, што я прадэманстравала, вы паміраеце, даючы жыццё свайму атожылку, — такія тамтэйшыя правілы. Яны вам па гусце?

— Не, — хорам адказалі вучні.

— Дарма. Гэтак паслядоўна і беспраблемна ўдасканальвацца — почырк самавітага творцы. Між іншым ім валодаюць і карыстаюцца многія. Ёсць і іншыя вары-

[1] Вычыны — тут: дасягненні.

[2] Замста — забыццё.

янты жыцця, ці тое існавання Любові. Некаторыя яскрава ўвасабляюць жывёлы і расліны Зямлі, але большасць з іх вам невядомая, бо рэалізуецца за яе межамі. Вы можаце іх вывучаць і прыстасоўваць да сябе. Акрамя таго, кожны з вас у стане вынайсці нешта сваё, адрознае ад ужо існуючага.

Юнакам спадабаліся такія магчымасці, і непрытоенае прадчуванне асалоды ўжо малявалася на іхніх тварах. Афрадыта ведала, як саграваюць сэрцы гэтыя наіўныя спадзяванні, таму не хацела іх развейваць.

— Вашае натхненне будзе багацейшым ад сузірання Любові ў яе вышэйшым аспекце. Дзівіцеся!

Эфір увачавідкі скалануўся і ўзрушыўся. Паласнула бліскаўка — і ён засерабрыўся зорачкамі-макулінкамі, якія ў радасці сутыкаліся, злучаліся, распадаліся, струменячы дурманлівы пах і чароўныя гукі. У нейкі момант, быццам па камандзе, яны збегліся-зліліся ў вязізную залатую галу, якая зырка бліснула і ўміг асляпіла ўсіх. Гмур лінуў у вочы і ў свядомасць.

— Замнога святла — цемра і наадварот, — смяялася Афрадыта, назіраючы нязграбную мітусяніну вучняў і выдаляючы з’явішча.

**49**

Той год быў ураджайным на яблыкі.

Кастусь пакаштаваў усе, якія былі ў садзе, хутка насыціўся і крыху засумаваў, бо ведаў, што праз колькі дзён трэба будзе збіраць паданкі — а гэтага ён не любіў.

Калі ўрэшце на іх прыйшоў час, пад яблынямі гарбеў толькі дзед, бо хлопчык зрання, мігам з’еўшы хлеба з сырадоем, збягаў з дому.

Неяк дзядуля перахапіў унука і прапанаваў:

— Хадзем, я табе пакажу тайну.

Гэтага было дастаткова, каб яго заінтрыгаваць.

Праз хвіліну яны апынуліся ў садзе. Кастусь круціў галавой, зіркаў па баках і нічога не заўважаў.

— Дзе? — спытаў нецярпліва.

— Тут, пад нагамі, — адказаў стары, паставіў кошык каля яблыні і нізка нахіліўся.

Малец быў памкнуўся за ім, але, калі пераканаўся, што дзядуля толькі паднімае паданкі і ні на што іншае не мерыцца, астыў і расчаравана прамовіў:

— І гэта завецца тайнай? Ды ад яе ў мяне ўжо даўно аскома.

— А ты паглядзі шырэй, на ўвесь сад, — ціха, нібыта баючыся кагосьці спудзіць, прапанаваў дзядуля.

Пакрыўджаны ўнук абыякава кідаў яблыкі ў кошык і касавурыўся.

— І што я павінен убачыць? — ужо зусім раззлаваны, спытаў ён.

— Не сярдуй. Злосць — справе не таварыш. Усё трэба рабіць спакойна, з павагай і любоўю, а садавіну збіраць — дык з асаблівым клопатам.

— Гэта чаму ж? Што тут незвычайнага? Бяры і кідай — нудота адна.

— Хіба вырашаць лёс касмічных стварэнняў — нуда?

Дзядуля адумысля паласнуў такім выслоўем, каб страсянуць унука. Той ад нечаканасці падскокнуў і, здранцвеўшы, утаропіўся на яго.

— Ты пра каго, дзеду?

— Пра яблыкі і нас з табою.

— ?..

— Зірні на яблыні, грушы, слівы — якія яны статныя, паважныя, велічныя... І як шчодра, густа, не шкадуючы, раскідваюць свае плады…

— Правільна, нам на карысць.

— Так лічым мы, але не дрэвы. У іх іншы клопат — нараджэнне з мэтай захавання свайго сямейства.

— А мы іх спажываем, знішчаем, пазбаўляем жыцця... Дзядуля, давай не рабіць гэтага! Няхай яны жывуць сваё!

— Ну, ты і малайчына! Паквольны малец! Акурат як я ў тваіх гадах.

Стары, усміхаючыся, палопаў малога па плячы і працягнуў:

— Нават калі мы і не будзем чапаць яблыкаў, яны ўсе згніюць, а з вялікай колькасці семечак толькі адзінкі здолеюць даць усходы і стаць дрэўцамі, астатнія знікнуць, стварыўшы для гэтых шчаслівчыкаў пажыўнае асяроддзе. Так што, унук, сад — таемная і адначасова відавочная лабараторыя адбору і гадавання выбраных. Уяві, колькі задзейнічана сродкаў, каб вылучыць з агульнае масы і адправіць у жыццё толькі адно стварэнне!

— Цяжка: я пра ўсё і не ведаю. Але і мы дапамагаем гэтаму: вунь колькі новых высадкаў прыжылося! Дзякуючы табе, дзядуля.

— Так, мы здольныя, але толькі памагатыя прыроды дый то далёка не ўсе. У гэтым садзе жыцця людзі — толькі яблыкі.

**50**

Ужо якую гадзіну Кастусь нязрушна сядзеў пад шатамі залатога восеньскага саду і шукаў сваё дрэва.

Разгорнутыя плечы, пераплеценыя ногі і хупава злучаныя рукі на каленах падкрэслівалі ненатуральнасць і вычварнасць позы.

Ён асвоіў яе не адразу. Калі вонкавы малюнак даўся проста і лёгка, дык на адпаведную ўнутраную панараму спатрэбілася некалькі гадоў працяглай і пакутнай працы. Не кожны вытрымліваў такую нагрузку. З некалькіх дзясяткаў кандыдатаў засталіся адзінкі. Дый тых было б менш, калі б не мудрасць настаўнікаў. Колькі разоў яны ратавалі выхаванцаў ад неабдуманых учынкаў!

«Намагайцеся думкаю і дасягняце ўсяго на свеце. Яна перамагае і працінае ўсялякую рэч. Для яе няма перашкодаў і сховаў».

Гэтае выслоўе Альгерда ўсплыло ў памяці дарэчы і паскорыла пошук.

Кастусь напружыўся і заўважыў, як у пярэстым карагодзе шматлікіх дрэў адметна і выразна загуляў усімі тонамі вясёлкі малады бухматы клён. Ён узбуджана шумеў лістотай і ўзрушваў наваколле зазыўнымі хвалямі радасці, якія, хоць і несліся далёка і шырока, прызначаліся толькі Кастусю.

Хлопец адчуў родную душу — і мігам паляцеў да яе.

Як толькі ён прызямліўся і крануў далонню гладкі камель, клён сцішыўся і пяшчотна зашалпатаў.

Кастусь сеў спінаю да дрэва, абхапіў яго рукамі, прыхінуўся патыліцай і заплюшчыў вочы.

Абедзве існасці зліліся ў адну энергетычную сферу і глыбока адчулі моц гэтага ўзаемапранікнення і адзінства: эмацыйныя і духоўныя імпульсы, узбагачаныя адно адным, паімчалі ў касмічны прасцяг і прылучыліся да Сусветнага Магніту, які прыцягваў-аб'ядноўваў усё жывое і даваў поўнае ўяўленне кожнаму пра тое, што было, ёсць і будзе.

«Хто ты?»

«Твая выява».

«Не ўцяміў».
«Ты — гэта я, а я — гэта ты».
«Дзіўна. І так усе клёны?»
«Не. Толькі я, астатнія — проста твае зычліўцы».
«Значыць, мы ўдваіх?»
«Не. Нас многа».
«А хто яшчэ?»
«Мы прысутнічаем сярод раслін, жывёл, кузурак, птушак, камянёў і шмат якіх іншых форм жыцця».
«Я іх не ведаю».
«І я таксама».
«А скуль табе ўсё вядома?»
«Ад Магніту».
«Ты раней наведваў яго?»
«Не».
«Тады чаму мяне не асяніла?»
«Не жартуй. Ты адчуваеш тое ж, што і я».
«Сапраўды: якое багацце ведаў! Гэта я па звычцы адасобіўся, таму яны запаволіліся і спазніліся да мяне. А калі жыць і думаць у адзіноцтве, тады і дыяпазон свядомасці будзе шырэйшым».
«Уяўляеш, якім ён будзе, калі стрэцца з астатнімі ўвасабленнямі!»
«Так, але адразу дасягнуць гэтага пакуль нельга».
«Усё прыйдзе спакваля».

**51**

Сонца паліла няшчадна. У спякотным марыве дрыжэла-трымцела наваколле, гуляючы нязвыклымі адценнямі і фарбамі. Усё жывое млела і знемагала ад смагі.

Ратаваннем была рака, да якой, як да запаветнага месца, імкнуліся ўсе.

Кастусь, які ўжо колькі часу спасцігаў свет сваіх незлічоных выяўленняў, не быў выключэннем і шыбка рухаўся да вады, прадчуваючы слодыч наталення. Побач з такім жа спрытам і трапятаннем беглі розныя звяры, ляцелі птушкі, пырхалі матылі. Раз-пораз яны кідалі позіркі на Кастуся, звяраючы свае стан і паводзіны з ягонымі.

Ён радаваўся іхняй згуртаванасці, адзінству, мірнасці, да канца яшчэ не атаясамліваючы сябе з імі.

З гэтымі істотамі яму было вольна і лёгка. Шматлікія думкі, эмоцыі, дзеі, хто б іх ні спараджаў, былі шчырымі, свабоднымі, адкрытымі і прыналежалі адначасова ўсім. Утоенасці не было дый быць не магло, бо яна не адпавядала існасці ўвасабленцаў — адна манада, адзін дух у розных целах.

Грамада наблізілася да ракі і распачала вялікі вадапой.

Кастусь нагамі разбіў плынь і нахіліўся піць.

З вады глядзеў прыгожы і калматы Леў. На яго магутнай шыі вісеў залаты кудмень, які, раз-пораз акунаючыся, хваляваў рачную гладзь.

**52**

Як і прадугледжвала сістэма ведаў, кожны пасля поўнага курса навучання апрабоўваў сябе самастойна, на свой одум. Маладым неафітам гэта падабалася, і яны з вялікай радасцю ды задавальненнем практыкаваліся — часам забыўшыся на сваіх

дружбакоў. Але рэдкія сустрэчы ўсё адно аднаўлялі іхнія гарачыя стасункі, кідалі ў непаўторны свет юнацкай уразлівасці.

— Ніколі не думаў, што можна мець такія неверагодныя стасункі з дрэвамі, — узбуджана ківаў галавою Жак.

— Мой баабаб прылучыў мяне да Сусвету, мабыць, назаўсёды, — адразу зрабіў выснову Замба.

— А ўсялякая жыўнасць? — свяціўся радасцю Мікаэль. — Так выдатна адчуваць сябе адначасова ў розных целах!

— Я дык раздрабніўся і на нейкі момант забыўся, дзе мае столкі і да каго належаць, — адкрыта гаварыў Андрэй.

— Апроч усяго, мяне апанаваў жах, ці вытрымае свядомасць такія метамарфозы, — хваляваўся Барыс.

— Калі б мы не ведалі ўсяго, што нам выкладалі дагэтуль, дык можна было б зглуздзіць ад здарэнняў, — падзяліўся сваімі думкамі Джордж.

— А са мною амаль так і было, — шчыра прызнаўся Кастусь.

Усе з цікавасцю ўтаропіліся на яго.

— Распавядзі! — папрасіў Мікаэль.

— Я доўга гайсаў па садзе і нарэшце знайшоў свой клён, — ахвотна распачаў Кастусь. — Калі мяне ахінулі незвычайныя адчуванні і дрэва загаварыла са мною, я спачатку атарапеў: падумаў, што не туды трапіў. Затым, як мы ўжо паразумеліся, скокнулі разам у Космас і я пачаў натужліва вызнаваць іншыя свае ўвасабленні, мяне наведала дзіўнае пачуццё, вельмі падобнае, як мне цяпер здаецца, да шаленства.

— Я таксама хваляваўся, калі страчаўся са сваімі праявамі, — паведаміў Генрых, — але не лічу, што гэта замарачэнне.

— І мне было не заўсёды ўтульна бачыць сябе ў такім мностве, — падтрымаў яго Лао. — Толькі вар'яцтва тут ніякага няма.

— А мяне дык аж прабірала: так усё падабалася і радавала, — весела прамовіў Раджыў.

— Досыць вам, давайце даслухаем Кастуся, — перапыніў іх Джордж і звярнуўся да яго: — Ты, можа, проста ачмурэў ад відовішчаў, як і ўсе мы?

— Не без гэтага, але было яшчэ нешта іншае, падобнае да пакутнай бяссэнсіцы, — Кастусь крыху задумаўся, зірнуў на дружбакоў і прапанаваў: — Глядзіце!

**53**

Прастора раптоўна разарвалася, утварыўшы чорную прорву, з якой спярша нясмела, марудна, а пасля бурна, напорыста пацякла густая markнакаляровая маса, ашаламляльна поўная ўнутранага руху і пошуму.

Увачавідкі маса стала ператварацца ў галу, якая, круцячыся, хутка рассунула прастору і дасягнула вялізных памераў.

Раз-пораз сферу праціналі бліскавіцы, скалынаў гром — і тады яе энергетычная абалонка зырка ўспыхвала і змяняла афарбоўку. Рух і гукі таксама зыначваліся, утвараючы магутныя эмацыйна-псіхічныя хвалі, якія неслі страх ды боль. Ад уражанняў сапраўды кружылася галава, нудзіла і цямнела ўваччу.

Паступова ў гэтай каламесе сталі з'яўляцца вобразы нейкіх стварэнняў і больш-менш суладнае гучанне. Але ўсё адно няўцямныя метамарфозы трывожылі і выклікалі жудасць. Хацелася крычаць і бегчы. У той жа час розум пераконваў, што ўцякаць глумна, небяспечна дый немагчыма, бо чалавек нейкім чынам знітаваны з гэтым з'явішчам і без яго загіне.

Іство раздзіралі супярэчнасці і ўсеахопная паніка. Перад тым, як абамлець, свядомасць зафіксавала нязвыклы ўнутраны настрой, які раптоўна страпянуўся і паляцеў навонкі. Сфера тут жа, нібы магнэзам, усмактала яго і ярка зіхнула, нібы ад задавальнення.

Свядомасць ажыла ізноў і адчула неймаверную глыбіню пазнання. Адразу і ўсёю паўнатою прыйшло разуменне сваёй незлічонай прысутнасці ў безлічы тварэнняў, якімі поўнілася сфера, — зорках, планетах, каметах, астэроідах, мацерыках, краінах, гарадах, вёсках, жывёлах, птушках, кузурках, дрэвах, раслінах, прадметах, вадкасцях, земенні, паветры. У незнаёмых абрысах паўсталі ўвасабленні з іншых вымярэнняў. Яны ўражвалі сутнасцю ды формамі і, наўздзіў, не толькі не раздражнялі, а, наадварот, выклікалі радасць. У адрозненне ад вонкавага ўспрымання ўсё здавалася абумоўленым, знітаваным і ўпарадкаваным. Усеагульнае імклівае вярчэнне яскрава дэманстравала галоўную асаблівасць Космасу — безупынны рух. Статычных аб'ектаў не было дый не магло быць, бо нязрушнасці ў Сусвеце наогул няма.

Падчас доўгага кружэння ўсе энергетычныя вобразы сферы паступова зліліся ды ўтварылі вялізную і прыгожую апуку, якая імчала ў Вечнасці сярод сабе падобных і пакідала адметны агнявы след.

**54**

Юнакі, зачараваныя такімі ператварэннямі, адразу ніяк не маглі даць веры, што кожны назіраў усеабдымную існасць не Кастуся, а сваю асабістую. І толькі пасля таго, як у паветры на колькі імгненняў з'явіліся мудрыя вочы Альгерда, яны ўспомнілі перажытае, сканфузіліся і з цікавасцю паглядзелі на свайго сябра.

— Ты пра гэта памятаў заўсёды? — спытаў яго Генрых.

— Спачатку было такое адчуванне, — адказаў Кастусь і крыху задумаўся, — як пасля некаторых блытаных сноў: усё нутро вярэдзіць, а чаму — не памятаеш. Затым, калі я напружыўся, выплылі ўспаміны, і карціна хутка праяснілася.

— А нам яе ўбачыць дапамог ты, — прамовіў Джордж і залюбадружна лопнуў яго па плячы. — Дзякуй!

— Мяне таксама нешта турбавала, але я не надаў таму значэння, — згадаў Лао. — Думаў, што гэта — рэакцыя на новыя ўражанні.

— Амаль тое ж самае адчуваў і я, — падтрымаў яго Замба.

— Цяпер нам вядома, **якія** мы, — глыбакадумна падагуліў Жак.

На нейкі момант усталявалася цішыня, падчас якой кожнаму прыйшлі на памяць адныя і тыя ж словы настаўніка:

«Каб вас залішне не ўзрушваць і не траўмаваць, некаторыя веды галоўнага кшталту даюцца вам шляхам глыбіннага ўспрымання, без вашага свядомага ўдзелу. Яны залягаюць у падсвядомасці, абыходзячы вашыя ўчынкі, пачуцці, думкі, і ўсплываюць наверх, уваходзяць у памяць толькі тады, калі вы паспееце для гэтага і адчуеце неабходнасць зрабіць крок наперад, узняцца вышэй на адну прыступку. Страсенні пры гэтым здараюцца, але яны не такія пакутныя, як пры непасрэдным, адкрытым уздзеянні працэсу на вашую існасць».

— Так, мы яшчэ не адмовіліся ад чалавечнасці даастатку, — глыбока ўздыхнуў Раджыў. — Вось таму настаўнікі сочаць за намі і дапамагаюць.

— Мне здаецца, што мы будзем пад пільным наглядам заўсёды, на які б узровень не падняліся, — прамовіў Ахмад.

— Можа, гэтак і лепей, — памяркоўна разважыў Барыс.

— Не трэба пра гэта думаць, — падбадзёрыў усіх Андрэй. — Мы нарадзіліся і

існуем не проста так, а з нейкай задачай, якую абавязаны вырашыць, не зважаючы на тое, цікуе хто за намі альбо не.

— Вось толькі пра гэтую задачу нам нічога невядома, — роспачна ўздыхнуў Лао, і кампанія задумалася.

— Там, у сферы, я бачыў усіх сваякоў, знаёмых і вас таксама, — асцярожна парушыў цішыню Кастусь. — Сярод мноства невядомцаў мне чамусьці запаў у душу адзін, з пранізлівым позіркам, дужа напышлівы і фанабэрысты.

Некалькі хлопцаў узгадалі аналагічныя ўражанні, якія іх чамусьці фатыгавалі.

— Я заўважыў там столькі ўсялякіх стварэнняў, што ўспамінаць іх і турбавацца ад гэтага пакуль не жадаю, — выразіў пазіцыю астатніх Андрэй.

Юнакі зноўку адчулі натхняльны погляд Альгерда з вышыні і, як толькі той знік, убачылі ў паветры спачатку невыразную, а пасля — ярка акрэсленую надта агідную і выродлівую істоту. Як і раней, усе думалі, што яна адна, а насамрэч іх было некалькі, але кожны назіраў толькі тую, што прызначалася менавіта для яго. У інфернальным ракурсе ўсе выявы хаатычна мітусіліся, дуравалі, казалі брыдоты і абражалі. А хлопцы ўспрымалі іх разважлівымі, памяркоўнымі і толькі часткова — хмулаватымі.

— Чаго вылупіў зекры, дурдола? Не падабаюся? Правільна, так і павінна быць. Мы рознай закваскі. Процілегласць — наш прынцып. Нам зліваццa нельга, інакш згубім індывідуальнасць — а гэта вялікі грэх перад БОГАМ. Ха-ха-ха! Не пазнаеш? Не дзіва! Такому дуравею, як ты, неўпрыцям, што ў адной хаце могуць жыць некалькі асоб, не толькі роднасных, але і чужых, і паміж імі не заўсёды бывае згода, хоць да яе яны павінны імкнуцца. Адразу зяпа адвалілася? Дайшло нарэшце! Так і трэба. Ха-ха-ха! А ты думаў, што валодаеш гэтым целам адзін? Дудкі, недарэка! Я таксама хачу ўдасканальвацца, быць мудрай, і такое жытло мне дарэчы. Не хвалюйся! Я нязлосная і нічога дрэннага табе не зраблю. Нам неабходна ладзіць, узаемнічаць. Папярэджваю, калі будзе інакш і штосьці мяне не задаволіць, я не толькі цябе, але і іншых жыхароў… у-ла-го-джу! Ты пакуль не галоўны. Ушалопіў, хаўбень?

Выява пагардліва павяла чырвонымі зіркачамі і здзекліва зарагатала. Як і іншым, Кастусю зрабілася моташна. Але ён здолеў запрацівіцца, адагнаў насланнё і выгукнуў разам з усімі:

— Ведаю!

Нечысць схамянулася, бязрадна войкнула-скурчылася і, вырыгваючы бруд і пагрозы, прапала.

Са свядомасці, як з крыніцы, зацурчалі новыя раўчукі існасці.

— Яна яшчэ вернецца, — упэўнена мовіў Ахмад.

— І неаднойчы, — дадаў Раджыў.

— Ды не толькі яна, — абвясціў Замба.

— Я і не ўяўляў, што маё цела такое ёмістае і змяшчае столькі жыццяў, — здзіўляўся Мікаэль, кранаючы сябе рукамі.

— Атрымліваецца, што ў нашым целе спеюць і іншыя асобіны, якія відавочна ды непасрэдна не праяўляюць сябе, утойваюцца, — разважаў Генрых. — Калі прааналізаваць паводзіны чалавека, логіку, а дакладней — алагічнасць, некаторых ягоных роздумаў, турбацый, то можна выявіць, адчуць і ўспрыняць іх… Тады ўся нашая навука — кату пад хвост.

— Чаму? — насцярожана спытаў Ахмад.

— Таму што мы не ў стане будаваць сваё жыццё са стапрацэнтнай гарантыяй, бо невядома, хто яны, чаго жадаюць і якія неспадзеўкі нам рыхтуюць, — нервова адказаў Генрых. — Тварыць па сваім хаценні бессэнсоўна.

— Лухта! — запярэчыў Лао. — Мы вучымся галоўнаму — дасканалай працы розуму, духоўнаму прадчуванню. Цяпер мы ведаем, што несамотныя ў сваім унутраным сусвеце — целе, і будзем улічваць гэта.

— Але! — падтрымаў яго Жак. — Раней жылі безвач, зараз усё ведаем.

— Калі мы сталі такімі? — усё адно хваляваўся Андрэй.

— А мо ўсё прыдбалі ад стварэння? — меркаваў Джордж.

— І дакуль гэта будзе працягвацца? — хуткім зіркам крануў усіх Барыс.

— Датуль, пакуль задаем пытанні, — загадкава адказаў Кастусь.

Іншым разам на такое банальнае выслоўе ніхто б і не звярнуў увагі, а цяпер школяры адчулі ў ім вабны сэнс і павярнуліся да Кастуся. Той пачаў тлумачыць:

— Я згодны з Лао і лічу, што ўсе, акрамя БОГА, асуджаны на пастаяннае сумеснае жыхарства з кімсьці ў любой фізічнай, эмацыйнай ды псіхічнай форме. Такі парадак вынікае з нашага права выбару. Жыць без сумневу, ваганняў, аднаварыянтна, па адным узоры немагчыма. Мы заўсёды носім у сабе думкі рознага кшталту, часам процілеглыя; вырашаем, сама меней, дылемныя праблемы — а гэта найпершая прыкмета многанаселенасці нашае існасці.

Заслона свядомасці, якую толькі прыўзняў Кастусь, мігам расхінулася — і кожны ўбачыў сапраўдны тэатр свайго нутра.

— Якая неверагодная імпрэза!

— А колькі дзейных асоб!

— І ўсе адразу на сцэне, узаемнічаюць!

— Адзінотных зусім няма.

— Мізансцэны змяняюцца з хуткасцю думкі, і ніхто нікому не перашкаджае!

— Няўжо бываюць такія дэкарацыі? На адным месцы па некалькі!

— Я ніколі не чуў падобных гукаў.

— Мелодыі льюцца адначасова — і ніякага бязладдзя!

— А які дзівосны калейдаскоп утварылі святло і цемра: існуюць упобачкі — і ніякага ўзаемапранікнення!

— Не, я заўважыў світальныя і вечаровыя матывы.

— Гэта пераходы свядомасці і перакрыжаванні розуму.

— Колькі на іх розных стварэнняў!

— Нешта яны не ладзяць.

— Наогул, ніхто нікому не саступае: усе мітусяцца, змагаюцца.

— І хоць бы адзін нерухомы!

— Божа, яны раздвойваюцца амаль на кожным кроку і рухаюцца самі па сабе!

— А калі азіраюцца — адразу марнеюць!

— Як цікава адна з’ява выплывае з другой і змагаецца за месца!

— Пры гэтым мітрэнжыць іншыя.

— Колькі такіх, якія без шкадавання знішчаюць мінуўшчыну!

— І няблага сябе пачуваюць.

— Не, пакараных і нямоглых таксама шмат.

— Увогуле, безліч ахвяр.

— І ніякай жальбы, шкадавання!

— Няпраўда, тут столькі слёз і жалю — аж не верыцца, што гэтак бывае.

— Ніякай карысці ад іх нямашака, адна толькі зруга над сабою і светам.

— Так, яны памнажаюць пакуты, негатыў, гмур, усялякае бадыллё, мярэчу, з-за якіх цяжка рухацца.

— Колькі валяецца нязбыўных мар, кроз, спадзяванняў.

— А як рэальна і гідка выявіліся ўсялякія таемнасці — атрута дый толькі!

— Усё адно шмат чаго я не разумею і не магу назваць.

— Сапраўды, сценяў і прывідаў хапае.

— Хто яны?

— Мне здаецца, гэта — страчаныя і нескарыстаныя энергетычныя імпульсы Космасу.

— А мо неўспрынятыя альбо адкінутыя тым жа Космасам нашыя думкі і памкненні?

— Мабыць, і тыя, і другія разам.

— А раптам **нешта іншае**?

Шквал уражанняў сцішыўся, але віхура перажыванняў яшчэ гуляла ў сярэдзіне кожнага.

— І як цяпер жыць з гэтай унутранай дэмаграфіяй? — на ўсялякі выпадак, бязрадасна запытаў Мікаэль.

— Самавіта і змястоўна, — узнёсла адказаў Раджыў. — Дзякуючы эзатэрычнай навуцы, мы не звар'яцелі, а зразумелі сябе, калі не цалкам, дык большынёю. Да астатняга таксама дойдзем, бо наперадзе — вялікі шлях далейшага самаўдасканалення.

— Сябрукі, — выгукнуў Джордж, — успрымаючы гэтую невераемную касмічную панараму сваёй існасці, я зрабіў адкрыццё: насамрэч кожная разумная істота — вяшчун і прарок.

— І людзі? — са знарочыстым недаверам спытаў Барыс у той час, як астатнія пасміхаліся.

— Без сумневу! — упэўнена пацвердзіў Джордж. — Прыпомнім такі звыклы выраз — «дрэва жыцця чалавека». Вельмі трапны сімвал! Камель — асноўны напрамак нашага існавання; ён каранямі ідзе ад БОГА цераз увесь Космас і завецца манадай. Ад яго адыходзіць моцнае галлё — праявы нашае манады ў шматлікіх вымярэннях прасторы і часу. Буйнейшыя і драбнейшыя галіны сведчаць пра дылемны характар нашага жыцця. Усялякаму выбару адпавядае канкрэтны напрамак — адзін адростак, ад якога таксама бягуць сцябліны. Іх прызначэнне — цягнуцца ўвышыню, спажываць, перапрацоўваць энергію сонца — адной з незлічоных зорак Сусвету — і сілкаваць жыватворным сокам-мудрасцю камель-манаду, якая ў выніку дасягае такой вышыні-дасканаласці, што ў ліку сабе падобных годна паўстае перад Творцам. Дрэва і ўсе ягоныя адгалінаванні — гэта Я ў розных прасторава-часавых напластаваннях, пра якія, прынамсі, гаварыў Плутарх. Такім чынам, мяне многа.

Джордж хваляваўся. Адчуваючы цікавасць і захапленне сяброў, ён на імгненне спыніўся, глыбока ўздыхнуў і працягнуў:

— Што б я ні думаў, ні хацеў і ні казаў — усё набывае адпаведную псіхічную, эмацыйную, фізічную форму і ажыццяўляецца! То на адной галіне-выяве, то на другой у залежнасці ад выбару. Нічога не прападае і не знікае. Вось прыклад. Я перабіраў варыянты і штосьці намысляваў — адразу з'яўляецца атожылак-пласт, пажадаў — другі, прамовіў — трэці. Тое ж самае адбываецца на альтэрнатыўных напрамках. І так усякі раз, калі я нешта вырашаю. Гэтае суправаджэнне бясконцае. У кожным пласце я прысутнічаю асобна і цалкам, адылі крыху перайначаным, чым надоечы, у адпаведнасці з характарам выбару, і адчуваю, як рэалізуецца мая канкрэтная думка (жаданне, слова), але памяць захоўвае і іншыя варыянты мыслення, якія тут не ўвасобіліся — адсюль вельмі ходкае сярод людзей меркаванне пра нязбытнасць летуценняў. Ім суджана сысціся на іншых парастках: кожнае — толькі на сваім. З пазіцыі аднаго сцябла-пласта спраўдзілася ўсяго адна мара. А ў злучве ўсіх маіх выяў усё адбылося так, як я бажаў перад выбарам, — і гэта адлюстроўваецца толькі ў манадзе.

— Дзякуй табе, Джордж, — ветла мовіў Кастусь. — З тваёю дапамогаю мы адчынілі новыя ячкі свядомасці і шырэй паглядзелі на свет. Пабольш бы такіх адкрыццяў. Яны толькі паскорваюць наш рух.

**55**

— Нешта ты хмурны?

— Таварыш пакрыўдзіў. Сказаў, што займеў камп'ютарны ключ, які ўсё адчыняе, і паабяцаў даць яго мне. Я загарэўся, а калі дайшло да справы, дык ён пасмяяўся з мяне: маўляў, нічога такога ў яго няма.

— Дрэнны ў цябе таварыш.

— Дзядуля, чаму людзі падманваюць?

— Усё ідзе ад натуры. А яна ў кожнага розная, з сакрэтам. Бывае, і не разгадаеш. Наогул, Косцік, сучасны чалавек замкнёны, у шкарлупіне. За ўсю гісторыю існавання ўпершыню з ім такое.

— А хіба раней людзі былі іншыя?

— Яшчэ якія! Што да абалонкі — дык гэта напэўна: яна адсутнічала. Жылі навідавоку, без хітрыкаў, у згодзе з сумленнем, з разгорнутай душой. Зла не рабілі. Не хаваліся, не таемнічалі. Цягнуліся адно да аднаго, любілі гурт, талаку, помач.

— Можа, яшчэ і чаравалі?

— Калоць, унук, не трэба. Так, чаравалі, без цяжкасцей выконвалі любыя жаданні.

— Не верыцца, казка дый толькі!

— Не, тады гэта было звычайнай з'явай, рэальнасцю. А казка — цяпер, толькі мы гэтага не ўсведамляем.

— Ох, дзядуля, я ведаю, што ты шмат пабачыў, перажыў і заўсёды кажаш праўду, але ніколі мяне не пераканаеш, што мы жывём у казцы.

— Ты, унук, яшчэ малы. Закон жыцця такі, што нашчадкам заўсягды даецца больш. Таму твой век будзе цікавейшым за мой і ты многае зразумееш сам, а каб табе лягчэй было гэта зрабіць, паслухай яшчэ колькі маёй навукі. Ты — кемлівы хлопчык і ўмееш мысляваць, марыць. Адкажы, тваё жыццё ў думках і наяве аднолькавае?

— Не. У думках цікавейшае.

— Так і ў мяне, і ва ўсіх людзей. То бок кожны з нас жыве, як мінімум, у двух выявах, якія мала адпавядаюць адна адной, а, нярэдка, нават і супярэчаць. Мы настолькі звыкліся з такім станам, што зусім не зважаем на яго. А дарма. Гэта, унук, — аснова нашага існавання, прычына характару як асобы, так і ўсяго грамадства. У сваіх думках, уяўленнях мы сапраўдныя, цалкам незалежныя, свабодныя і можам усё, чаго не скажаш пра нашае быццё, дзе ўсё распісана, вызначана, рэгламентавана і не заўсёды нам падабаецца. Разумовая дзейнасць нябачная, схаваная, таемная і больш важная для нас, чымся фізічная. Яе мы скарыстоўваем напоўніцу, без адпачынку, паўсюль, пры любых абставінах і ніколі не пакінем. Так?

— Канешне, хіба можна зрачыся сябе?

— Менавіта мысленне фарміруе нашую індывідуальнасць. У тых умовах, у якіх яно адбываецца, — замкнёнасці, ізаляванасці, яму ніхто не патрэбны і яго ніхто не пазнае, не выкрые. Таму ўсялякія высілкі задзіночыць, згуртаваць людзей, навязаць нейкія прынцыпы супольнасці, лучнасці, калектывізму і таму падобнае з'яўляюцца ненатуральнымі, марнымі, здзеклівымі і выглядаюць казачна, фантастычна. А калі штосьці такое ўсё-такі і здараецца, то, як правіла, звыродліва і на кароткі тэрмін. Толькі тады, як розум парве ўсе перашкоды, зламае замкі, вырвецца з галавы вонкі

і стане адчувальным для ўсіх, ці калі чалавек зменіцца фізічна, можна будзе рэалізоўваць планы сумеснасці, яднання і многае іншае. А пакуль ніякія запаветы, законы, забароны не здолеюць зліць у адно нашую свядомасць і рэальнасць, тым больш ніхто гэтага не хоча, бо з тайнай, то бок з падманам, жыць зручней. Не шмат я намудрыў, Косцік?

— Трохі. Значыць, трэба быць пільным і гартаваць свае думкі — нашую сілу.

— Малайчына, унук! Правільна, бо **той, хто** кінуў чалавека ў такія ўмовы, не дрэмле і працягвае практыкавацца, маючы на ўвазе нейкую невядомую нам задачу. Мне здаецца, ён запамятаваў, што **чалавек можа правільна дадумацца і да яго.**

**56**

— Шчыра вітаю шаноўных удзельнікаў вялікай збор-дружыны, — распачаў сваё выступленне дырэктар вучэльні Ібаоф. — Кожны цыкл наша alma mater збірае слынных мудрацоў Сусвету і сваіх былых выхаванцаў, каб абмяняцца досведам, узбагаціць дасканалымі ведамі навуку Вялікага Рабення, здзейсніць агледзіны чарговай кагорты неафітаў і прыняць яе ў свае шэрагі. Вось яны, нашыя спадкаемцы, маладыя, гарачыя, натхнёныя! Павіншуем іх з паспяховымі выпрабаваннямі і сканчэннем вучобы!

Дырэктар паказаў рукою на подыум, дзе ў святочных уборах стаялі шчаслівыя юнакі, і з радасцю распачаў гучныя воплескі, якія дружна падхапіла ўся зала.

— Мы даём вам вечнасць, каб спаўна ажыццявіліся ўсе вашыя мары і намыслы, — прадоўжыў Правадыр. — Сусвет разнастайны менавіта дзякуючы творцам. Што б вы ні рабілі, галоўнае — захаваць свой стыль адметным і непадобным да іншых. Толькі тады вы будзеце ў пашане і атрымаеце належнае энергазабеспячэнне. Памятайце: мы — адна сям’я, магутнае дрэва Велічы і Духу. Гэткая лучнасць і ўзаемазалежнасць працінаюць усю нашу існасць. Акурат супольная чыннасць, вернасць традыцыям прыводзяць да вяршынь майстэрства. Кіруйцеся нашымі запаветамі — і дасягняце поспехаў. Не прыспешвайце час, не гвалтуйце прасторы, але і не марудзьце, не баўцеся. Шукайце аптымальныя і гарманічныя шляхі. Прэч мітусяніну! Я жадаю бачыць вас разважлівымі і памяркоўнымі. Той будзе пераможцам, хто пра Найвышэйшае знойдзе самае простае слова.

Ібаоф на імгненне змоўк, паглядзеў у залу і пранікнёна мовіў:

— Дасканаласць — ёсць пазнаванне праз перажыванне. Менавіта гэтую навуку вы спасцігалі ў нашай вучэльні. Той, хто засвоіў яе цалкам і без скажэнняў, ніколі не збочыць з правільнага кірунку. Вечны няспынны рух панясе вас па неабсяжных прасторах Сусвету, але alma mater будзе заўсёды з вамі. І яшчэ неаднойчы вы звернецеся да яе, каб спатоліцца і наталіцца. Здаўна ў нас існуе парадак: выпускнік выбірае сабе вобраз, які на векі вечныя будзе ўвасабляць у касмічнай супольнасці ягоную існасць і па якім яго можна ідэнтыфікаваць. Я мяркую, што кожны з вас ужо ведае, хто ён, і без цяжкасцей адзначыць і занатуе сябе ў Вечнасці. Але перадусім нашая Грамада падорыць вам яшчэ адно вельмі важнае пераўтварэнне.

Юнакі чакалі гэты радасны момант, але ўсё адно зацялі дух у прадчуванні незвычайнага. Дырэктар любіў такое трапятанне маладых сэрцаў, і, счакаўшы хвіліну, узнёсла прамовіў:

— Цяпер, як ніколі, вы адчуваеце цяжар сваіх цел і добра ведаеце, як лёгка дзеяць без іх. Нашыя правілы заўжды патрабавалі ад вас пастаяннага карыстання імі падчас знаходжання ў вучэльні — у такім стане больш грунтоўна і глыбока засвойваюцца

веды і адбываецца працэс пазнання. Вас гняце, вам абрыдла ўласная фізічная абалонка і не церпіцца ад яе пазбавіцца. Дык зробім гэта! Няхай тое адбудзецца цяпер, на вачах усяе Грамады! Прыйдзі, велічнае агнявое імгненне і даастатку прасвятлі маладыя душы! Ад гэтага часу вы — архаты, багі! У добры шлях, нашчадкі!

Эфір ажыў-узбудзіўся мілагучнасцю, прастора здрыганулася-захвалявалася — і зала ператварылася ў зорную шыр. Юнацкія сэрцы ўміг пырснулі настроем і натхнымі токамі паляцелі ў гэтую бязмежнасць.

## ТВОРЦЫ

### 1

Яго прынадзіла адвечная касмічная апантанасць, ад якой радасна трапятала іства і палымнелі думкі. Імчаць, упівацца асалодаю і мілатою Сусвету можна было б бясконца, але неабходнасць собскай творчасці ўсё-ткі змусіла да ўпыну і засяроджанасці.

Гэты стан ахапіў якраз тады, калі з пасторава-часавай засмужы выплыла даўніна.

Ён уключыў усе свае ментальна-псіхічныя цэнтры і ўбачыў зямную юдоль пакутаў ва ўсіх яе праявах. Разнастайнымі і зменлівымі паўсталі вобразы шматлікіх асабістых увасабленняў. Кожнае з іх, безумоўна, узбагаціла ягоную сутнасць адметным досведам і дапамагло ўзняцца духу да самавітых вышынь.

А інкарнацыі іншых людзей? Куды яны вядуць? Да якога выніку?

Шляхоў у Сусвеце безліч, як даасяродкавых, так і цэнтрабежных, як узыходных, так і сыходных.

Ці ўсе яны збягаюцца ў адной кропцы, якая ёсць БОГ? Дзе галоўная пуцявіна? Як не памыліцца, не выбраць ілжывую і не апынуцца на бакавіне? Ці патрэбен павадыр? Як пра яго даведацца?

А раптам няма падмогі ды абароны, і ты зусім адзін? І тваё існаванне беспатольнае, апраўданае толькі табою? Тады права выбару набывае надзвычай жорсткі і драматычны сэнс: альбо апантана згарэць за адно ўвасабленне, не пакінуўшы нават і попелу, альбо цягам доўгага праіснавання шугаць высокім змагарным агнём аж да эмпірэяў. У першым выпадку ты хутка знікаеш — і ўсе твае веды ніколі не будуць касмічна запатрабаванымі. У другім — ідзеш па этапах увасаблення, ад чаго скарбонка тваёй свядомасці ўсё цяжэе і гэтым вельмі дапамагае табе.

З якою думкаю лягчэй жыць чалавеку? Надта многае залежыць ад самаўспрымання, усведамлення свайго месца ў жыцці.

### 2

Скрозь неўглядзь крыўды, каламуць горасці, мінаючы іншыя краіны і мясціны, Кастусь даляцеў да Ліцвініі і мігам адшукаў некалі родны куток.

Калісь, падчас вучобы ў касмічнай вучэльні, выпадкамі зазіраў сюды ў пошуках сардэчнага заспакаення і эпіфаніі душы. Тады ўсё нутро булькатала настальгічнай мітрэнгай.

Цяпер нішто падобнае нават не казытнула — гэтак зоркі, дыхаючы ва ўнісон з Вечнасцю, глядзяць на Зямлю.

Ён вырашыў спусціцца долу і няспешна прайсці вуліцай.

Усё тут знаёмае, адчутае, зазнанае. Колькі разоў Косцік бегаў гэтымі сцежкамі, употай пералазіў цераз чужы плот за яблыкамі і слівамі, гуляў з сябрукамі ў зарасніках бэзу і чаромхі ў хованкі ды цёплымі летнімі вечарамі ляжаў на мяккім мурагу, назіраючы вабнае зорнае неба!

Воблік вёскі змяніўся. Хаты ад часу пакрывіліся, струхлелі, пазмрачнелі, некаторыя мелі дужа заняпалы выгляд і пазіралі на свет вокнамі без шыбаў, іншыя наогул разваліліся. Дрэў значна паменшала, затое рознага кустаўя і бадылля на вуліцы і агародах стала нязвыкла многа. Запусценне і закінутасць былі ва ўсім.

Бацькоўская хата таксама выглядала горка. Было бачна, што яе даўно не кранала рука гаспадара.

І сапраўды, як толькі Кастусь увайшоў унутр, адразу зразумеў, што бацькі няма, некалькі гадоў таму ён памёр. Маці састарэла зусім, але яшчэ мітусілася і завіхалася па гаспадарцы. Нечакана яна спынілася, быццам да чагосьці прыслухоўваючыся, і скіравала позірк менавіта ў тое месца, дзе знаходзіўся нябачны Кастусь.

Браты і сястра, іхнія сужэнцы і дзеці былі дома, прыехалі з горада, каб наведаць старую і сёе-тое зрабіць па гаспадарцы. Усе сядзелі за сталом, частаваліся, размаўлялі. Гаварылі пра цяжкае жыццё, адсутнасць грошай і магчымасцей нешта прыдбаць з-за дарагоўлі, пра нахабства ды амаральнасць начальства і чыноўнікаў, беспрасветнасць і безвыходнасць.

Кастусь спакойна назіраў за імі. Ягонае сэрца ніводным пачуццём не адгукнулася на гэтую сустрэчу. Ён разумеў сваіх родных, успрымаў іхнія глыбінныя настроі, але яны не кранalі яго і не выклікалі спагады. Спачатку быў намер узяць іх з сабою ў свой пласт, але потым думкі зыначыліся. Куды ім прыткнуцца, акрамя гэтае гароты? Цемра ахутвала іхняе жыццё. Ні ў кога з іх не існавала ў галаве ні драбінкі касмічнага кшталту, свядомасць была задаўлена брыдкай зямной рэчаіснасцю, і дачасна ўзрушваць яе было нельга. Тым больш, што свой свет Кастусь толькі пачынаў ствараць, і ўсялякія непрадказальнасці маглі радні нашкодзіць.

Ён бачыў іхнюю будучыню, канец зямнога жыцця, амаль у кожнага драматычны, і шкадаваў гэтых некалі дарагіх яму людзей. Няхай жывуць так, як наканавана, з кармаю барукацца немагчыма, яе можна толькі адпакутаваць.

Каб хоць чымсьці дапамагчы ім, Кастусь на развітанне энергетычна настроіўся і выдаліў з кожнага некаторыя хваробы. Тыя адчулі гэта, здзіўлена паглядзелі адно на аднаго, павесялелі і на свой лад сталі абмяркоўваць цуд.

**3**

Нішто не паўтараецца ў Сусвеце. Аднолькавасці няма. Усялякая творчасць адметная, своеасаблівая.

«Сапраўдны творца, добра ведаючы метагісторыю і законы касмічнага існавання, дзее самабытна, арыгінальна. Калі хтосьці капіруе, ідзе пракладзеным шляхам, то пагражае арыгіналу, шкодзіць агульнаму парадку, бо з-за падабенства варыянты прыцягваюцца, накладваюцца, набываюць выродлівы выгляд і ў выніку, як злаякасная пухліна, хутка і рашуча выдаляюцца Супольнасцю з Тварэння».

Праказанні настаўнікаў заўсёды ўсплывалі дарэчы. Гэта належала Плутарху і тычылася пачатку творчасці. Настаўнік засцерагаў ад шаблонаў, стэрэатыпаў і банальнасцей, якіх у чалавечай гісторыі досыць. Менавіта яны, з’яўляючыся вынікам скажонага разумення людзьмі прынцыпу спіралепадобнага ўзыходжан-

ня, робяць яе пакутнай і трагічнай. Сусветны Парадак дасканалы, няўхільны і патрабуе ад усіх выканання адзінага і ўніверсальнага Боскага Закона **шляхам не падабенства, а разнастайнасці.** Тая ж касмічная спіраль, як бездакорная і ідэальная мадэль Вечнага Руху, няспынна ўшрубоўваецца-пранікае ў Час і Прастору, набываючы ўсё новыя якасці ды адзнакі, і нават у дэталях ніводным сваім вітком не паўтараецца. Толькі ў некаторых вымярэннях, пераважна фізічнага плана, прысутнічае, як парушэнне, асаблівасць — паўторы, якія з'яўляюцца заганнымі і абцяжарваюць жыццё, але насельнікі абыякавыя да гэтага і не лічаць іх прычынай сваіх няшчасцяў.

Кастусь асэнсоўваў такія працэсы і да драбніц бачыў-уяўляў свой свет.

Той месціўся ў ягонай свядомасці як набрынялае зярнятка і чакаў усходу.

Але было рана. Яшчэ не бліснула жыватворчая думка і не з'явілася прасвяднае асяроддзе.

Кастусь яшчэ раз прапусціў ідэю цераз сябе, прагледзеў яе рэалізацыйныя планы — і задаволіўся: усё адпавядала задуме, энергетычнага забеспячэння хапала.

Ён глыбока ўдыхнуў, глынуўшы Касмічнай Чысціні, і натхнёна выдыхнуў.

Хваля ўзбуджэння лінула вонкі і загуляла выяўляльным агнём. Поўны вольнасці і жадання, той радасна зашугаў на ўсю моц, стаў рассоўваць-знішчаць непраглядны хаос. У адчайнай барацьбе за суладдзе і парадак выніклі з нябыту ўсюдыісныя Час і Прастора. Бясконца ёмістыя, уладныя і жыццядайныя, яны доўга аглядаліся ды прыстасоўваліся да новых умоў і толькі пасля, спалучыўшыся ў духу і любові, нарадзілі адмысловы касмічны пласт.

Кастусь адзначыў яго здатнасць ды гожасць і, убачыўшы, як той размясціўся сярод безлічы іншых, ярка бліснуў і надаў яму яшчэ больш асабістых якасцей і энергетычнага каларыту.

«Добра!» — грымнуў стваральнік і абудзіў, заладаваў-страпянуў усе магчымыя формы жыцця.

**4**

Джорджу таксама спадабаўся пачатак, і ён, разняволіўшы свядомасць, рассыпаў па Прасторы і Часе свае запаветныя думкі і вобразы.

Сягаючы ў сваіх магчымасцях аж да манады і прысутнічаючы адразу ў мностве вымярэнняў, Джордж добра памятаў запаветы настаўнікаў і не спяшаўся рэалізавацца адным махам і цалкам.

«Каб не абпаліцца і не знікбіць ідэю, пачынайце з простага, паступова, без рыўкоў, у згодзе з гармоніяй. Акрамя карысці ўсяму Сусвету, гэта прынясе вялікае задавальненне і кожнаму з вас».

Як не пагадзіцца з Альгердам, калі ўсялякая касмічная дзейнасць сапраўды абумоўлена асабістымі матывамі і радасцю творцы? Інакш навокал нічога не было б.

Знаходзячыся ва ўладзе зямнога прыцягнення і разумовай сферы Ібаофа, Джордж вырашыў напачатку прытрымлівацца традыцыйных падыходаў, а затым, калі ўтрываліцца і расквітнее ягоны пласт, укараніць выключна свой парадак. Ён нават падумваў пра эксперымент. Пра гэта нікому не распавядаў, а каб ніхто пра яго намыслы не даведаўся, зашыфраваў іх і схаваў у патаемных ячках свядомасці, як вучылі аднамыснікі, што страчаліся падчас свабоднай вандроўкі па энергетычным прыволлі Сусвету.

**5**

Спаткаўся ён там і з Барысам, якога адразу не пазнаў.

— Мы ўсе змяніліся, як толькі пайшлі ў самастойны свет, — адказаў Барыс на здзіўленне Джорджа. — Ты таксама ззяеш іначай, чым раней.

— Гэта, мабыць, ад уражанняў, якіх я тут набраўся...

— …і якія нарадзілі новыя думкі, — загадкава дадаў Барыс.

Джордж ніяк не адрэагаваў, нібыта не зразумеў, і спытаў нявызначана:

— З кім яшчэ бачыўся?

— Па гэтым Бязмер'і сноўдаецца столькі дасведчаных і мудрацоў, што можна натрапіць на каго заўгодна, — расцягваючы словы, таксама неканкрэтна выказаўся Барыс.

— І на каго натыкнуўся ты?

— Джордж, ты — загартаваны архат і напэўна пераканаўся, што тут не гэта галоўнае. Шкалярства адышло. Цяпер важна: не з кім стрэўся, а што прыдбаў. Можна зносіцца з тузінам калег — і нічога не атрымаць. А іншым разам дастаткова перамовіцца з адным знаўцам — і твая скарбонка перапоўнена.

— Даўно знаёмая практыка.

— Я не зважаю на колькасць і вобразы. Успрымаю толькі багацце натур, якое звычайна паўстае як непераўзыдзеная бурлівая маса свабоднай энергіі.

— Мяне гэта таксама цікавіць.

— Сярод нашых такіх пакуль не заўважаў. Дый тое нядзіўна.

— Чаму?

— Мы, як кажуць, хрышчаныя, наладжаныя і нясём аднолькавы зарад.

— Так, упарадкаваныя, маем мэту, імкнёмся яе ажыццяўляць — дык гэта ж добра!

— Толькі не для такіх, як я.

— А хто ты?

— Як быццам не ведаеш?

— …

— Я і Раджыў закліканы дзеяць у іншых зорных сістэмах.

На міг у прамяністым ззянні з'явілася сцень Раджыва.

— А хіба гэта перашкаджае рэалізацыі? — спытаў Джордж, не пакідаючы без увагі вельмі прыцягальную выяву.

— Часта супярэчыць ёй, стварае цяжкасці.

— Якім чынам?

— Мы маем справу з інакшым парадкам і энергетычным атачэннем.

— Па-мойму, так цікавей: нязвыклая абстаноўка надае справе больш вастрыні, напружанасці, рызыкі.

— І адбірае шмат энергіі, якую я мог бы скарыстаць для чагосьці іншага.

— Няўжо Ібаоф не дамовіўся з гэтымі сістэмамі?

— Сякія-такія пагадненні ёсць, але яны не прадугледжваюць нашае вольнасці і не разлічаны на наш выбар. Мы змушаны дзеяць толькі па законах месцазнаходжання.

— Як вы спраўляецеся?

— Хітруем.

— Хіба такое магчыма? Нас вучылі, што хавацца на разлогах Сусвету бессэнсоўна…

— …калі цябе заўважаюць, а калі не?

— Усе пакідаюць сляды.

Барыс, вобраз якога і дагэтуль жыва мяняўся ў залежнасці ад напрамку гутаркі, імгненна ўзрушыўся духам, здрыгануўся-запярэсціўся ўсім нутром — і знік.

Джордж зніякавеў і ўсхвалявана пачаў яго шукаць. Уяўляючы касмічнае аблічча Барыса і прытрымліваючыся звычайных правілаў пошуку, ён нырнуў у інфармацыйны масіў Сусвету, абшнарыў даступныя вузлы і ячкі, але нічога патрэбнага не знайшоў. Трохі змяніўшы параметры, Джордж выявіў колькі ранейшых выглядаў таго, большасцю падчас вучобы, і яшчэ больш сканфузіўся.

Раптоўна перад ім наноў з’явіўся вясёлы і гарэзлівы Барыс.

— Што ты зрабіў? — стрэліў пытаннем агаломшаны Джордж.

— Нырнуў у Пачатак. Калі нікога яшчэ не было і існавала адна толькі ЯГО Думка. Памятаеш, як нас вучыў Плутарх?

— Так. Гэта значыць, ты апынуўся па-за Сусветам? Напярэдадні Тварэння? У ЯГОНАЙ… — нават, не ведаю, як сказаць. — Галаве?

— Менавіта. Калі я яшчэ не праявіўся і ніводнай інфармацыі ў Касмічным Масіве пра мяне не было!

— Не магу паверыць, што такое магчыма. Але тваё знікненне змушае зрабіць гэта... бо іншага тлумачэння я не знаходжу. Як у цябе атрымалася?

— Я зрабіў так, як раілі мае новыя сябры. Між іншым такіх тут мала. Калі жадаеш, і цябе навучу.

**6**

Лао выспеў, мабыць, першым і добра ўяўляў свой твор, але пачынаць не спяшаўся, марудзіў, нібы чагосьці чакаў. Ён бачыў, як дзеюць іншыя канашы, якія шляхі абіраюць, пра што клапоцяцца, і ўзважваў варыянты. Прыдатнага пакуль не знаходзіў.

Больш за ўсё яго турбавалі вымярэнні Прасторы і Часу, якія ўплывалі на ажыццяўленне планаў, і ад іх выбару залежала многае. Карэктаваць непрадбачаныя змяненні не надта хацелася хоць бы праз тое, што яны патрабавалі дадатковых высілкаў і шмат энергіі. Але іншага шляху не было: яшчэ ніхто не здолеў годна існаваць без Часу і Прасторы, хіба толькі Бог, якога спазнаць нікому не дадзена.

Ведаючы, што ўсе яго думкі і крокі занатоўваюцца на Касмічных Скрыжалях і кожны, хто жадае, можа з імі пазнаёміцца, Лао, каб шмат не патрапляць паквольным, адпрэчыў ваганні і спыніўся на рашэнні, якое ўзнікла імгненна. Ён адразу рынуў у Вышыні і ўзрадавана ўздыхнуў.

**7**

Воля ап’яняла Мікаэля. Ён ніяк не мог здаволіцца самастойнасцю і свабодай пазнання. На колькі хапала думак, на столькі яму адчыняўся Сусвет. А мысляваць ён быў вялікі майстра. Яго не палохалі нецекі і таямніцы Зорнай Пространі. Жаданымі былі любыя з’явы, нават тыя, ад якіх іншых браў упуд, — досвед ад гэтага багацеў адмыслова.

Агазлівы бег па Сусвеце не бывае бясконцым: якім бы талентам ні валодаў адэпт, але і ў яго калісьці вычэрпваюцца думкі. Тады свядомасць упіраецца ў нябачную заслону, і наступае момант апошняга выбару. Якая будзе альтэрнатыва — невядома.

Настаўнікі толькі называлі гэты працэс і ніколі не абмяркоўвалі яго, спараджаючы ў выхаванцаў розныя меркаванні і здагадкі. Ад гэтага той рабіўся дужа прыцягальным і цікавым.

Мікаэль быў упэўнены, што валодае велізарным энергетычным запасам і гэтае вырашальнае імгненне надыдзе няхутка. А, можа, яго зусім няма альбо ён не такі ўжо і важны, інакш навошта было настаўнікам гуляць у маўчанку?

У любым выпадку Мікаэль спяшацца не стане. Свой свет ён створыць у любую хвіліну, калі захоча: той заўсёды з ім, і яго ніхто не адбярэ. А пакуль можна ўволю гойсаць па Велічным Бязмежжы і спазнаваць на ўсю сілу. Калі такое яшчэ будзе?

**8**

А вось Генрых зацята верыў: апошні выбар існуе і ўвесь сэнс творчасці менавіта ў ім. Таму галоўнае — імчаць на ўсю моц і дасягнуць яго як мага хутчэй. Ён разумеў, што пераскочыць цераз этап немагчыма і ягоныя высілкі павінны быць саспелымі ды багатымі на змест — пра гэта, безумоўна, трэба парупіцца — такі парадак, але нейкі няўрымслівы, нецярплівы намысел усё-ткі казытаў нутро, падганяў і настойліва пераконваў: «мэта — усё, сродкі — нішто».

Здалёку данёсся невымоўны, ледзь адчувальны гуд — і нудотна, няўтольна заныла існасць. Так звычайна сігналілі вехавыя з'явы Вечнасці, і толькі падрыхтаваны разумеў іх глыбокі сэнс. Маладыя багі, якія ўспрынялі вестку, былі яшчэ ў пачатку і таму адрэагавалі няпоўна, невыразна, без ваганняў працягнуўшы свой шлях. Генрых таксама, каб не адцягвацца і не марнавацца, адпрэчыў незнаёмы настрой і спешна зрабіў удых-выдых.

**9**

Вучэльня ўсімі высілкамі імкнулася пазбавіць шкаляроў асацыяцый радзімы ў творчасці. Ібаоф лічыў, што трэба пачынаць заўсёды з нуля, ніколі не азірацца і не мець ніякай повязі. Для гэтага карэктавалі памяць і фарміравалі ў свядомасці вышэйшыя касмічныя вобразы, больш моцныя і прыцягальныя, чым зямныя. Але ўсё адно ў нашчадкаў прарываліся, часам неўсвядомлена, бацькоўскія матывы — мабыць, яны мелі глыбокія духоўныя карані і пачыналіся недзе ў галактычных вышынях.

Такая асаблівасць не абмінула і Ахмада. Вось толькі ў адрозненне ад іншых ён адчуваў яе і нават паланіўся ёю. Спачатку гэта крыху турбавала яго, а потым, калі павандраваў па Касмічным Бязмер'і і ўбачыў рэальную шматграннасць жыцця, узрадавала.

Яму заманулася стварыць такі касмічны пласт, які б увасабляў лепшыя здабыткі айчыны і ўмацоўваў-множыў іх на больш высокім узроўні.

Ахмад пазіраў навокал і ва ўсім знаходзіў толькі падтрымку прыемным крозам.

**10**

Затое Замба ні ў якім разе не жадаў падабенства сваіх твораў з колішняй гаротнай радзімай. Яму было балюча за яе аблудны і бязрадны народ, які не меў аніякага таленту жыць, ствараць ды квітнець і валодаў удосталь толькі бязглуздасцю.

Замба ведаў законы развіцця і наканаванасці, мінучасці ўсяго існага, але ўсё адно не прымаў такой долі і адхіляў любое яе паўтарэнне. Свой свет ён бачыў зусім іншым — разумным і ўзорна шчасным.

«Які пачатак — такі і канец».

Творца верыў у сябе, лепшае прыйсце і ўпэўнена зрабіў першы крок.

**11**

«Усё ў Сусвеце апраўдана Вечнасцю. Ёю спрычынены і абаронены які заўгодна выбар, хто б яго ні рабіў. Маральна-этычная ацэнка яму ўзнікае толькі на фазе выяўленага розуму».

Гэта добра разумеў Андрэй. Ён лічыў свой узровень развіцця дастатковым для таго, каб самому не ўзважваць уласныя думкі, а разлічваць у гэтым на Вышэйшую Непамыльнасць. Такі падыход яго нічым не абмяжоўваў і вельмі задавальняў.

Андрэй жадаў пабудаваць не проста адметны свет, пасільны іншым, а менавіта такі, які не адолеў бы ніхто, акрамя яго, і вобраза якога не было нават у Касмічным Масіве. Гэтая задума паланіла ягоную свядомасць, падпарадкоўваючы сабе ўсе іншыя намыслы.

Але ажыццявіць яе было цяжка. Якія б складнікі ён ні браў і як бы іх ні камбінаваў — усё ўжо існавала: альбо ў выглядзе нечага варыянта, альбо ў зародкавым стане, альбо як пакуль незапатрабаваная ідэя. Дарэчы, апошніх было безліч, і многія творцы спажывалі іх па сваіх меркаваннях — такая практыка лічылася нармальнай і была даволі распаўсюджанай. Толькі Андрэй яе ніяк не прымаў і настойліва працягваў шукаць. Ён разглядаў Сусвет як бясконцае ёмішча і зададзеных, і непрадугледжаных форм існавання. Калі першыя прызначаліся для агульнага скарыстання ва ўсіх камбінацыях Прасторы і Часу, то другія нараджаліся як нечае адкрыццё, увасабляліся эксклюзіўна, набіралі сілу і рабіліся шырокадасяжнымі толькі пасля поўнага цыклу развіцця дый то са згоды аўтара.

Андрэй марыў пра сваю незвычайную планіду і спадзяваўся на поспех.

**12**

Калісьці Плутарх прапанаваў шкалярам уявіць **Вечнасць.** Якіх толькі меркаванняў не прагучала! Яе ўспрымалі як бясконцасць, заўсёднасць, усячаснасць, няспыннасць, нязменнасць, неպераходнасць, усёпрычыннасць, усемагчымасць… — гэта значыць, як стан Нейкасці, якую так ніхто і не здолеў вобразна ўбачыць ды вызначыць.

Агульную маркотнасць Плутарх развеяў чарговай навукай:

— Майце на ўвазе: усё, што мы кажам, адчуваем, думаем, мае сваё, адпаведнае асяроддзю, аблічча — фізічнае, астральнае, ментальнае і іншае. Абстракцыі, як бязвобразныя выразы, існуюць толькі на ўзроўні матэрыі і такімі называюцца людзьмі. Вы сягаеце далей і вышэй за чалавека, таму павінны вучыцца адпаведным уяўленням, пачынаючы ад самых простых і звыклых альбо аналагічных. Напрыклад, раку людзі бачаць як стужку вады, што бяжыць. У вышэйшых праекцыях тая выглядае жыватворнай энергетычнай сутнасцю, якая мяняе формы ў залежнасці ад умоў існавання.

Тады Жак прытрызніў, а пасля ўпэўніўся, што Вечнасць — бясконцае адлюстраванне адно аднаго: прадметаў, істот, з'яў — усяго, што існуе. Гэтае адлюстраванне ўтвараюць усепранікальныя інфармацыйныя памяць-часцінкі, якія жвава рухаюцца па Сусвеце, уздзейнічаюць на ўсё існае і аб'ядноўваюцца ў суцэльны вогненны вобраз Касмічнай Маці.

Жак настолькі прасякнуўся гэтаю думкаю, што цягам доўгіх міжзорных падарожжаў толькі і шукаў яе пацвярджэння.

І вось аднойчы перад ім на ўвесь касмічны прасцяг узніклі вялізныя прамяністыя вочы, якія абнадзейвалі і падбадзёрвалі. Гэтага было дастаткова, каб без адвалокі прыступіць да ажыццяўлення сваёй прыгожай мары.

**13**

— А як дзеюць нашыя нашчадкі? — працягваючы размову з Настаўнікамі, Ібаоф спыніў зацікаўлены позірк на Альгердзе.

— Натхнёна і заўзята, — адказаў той. — Вельмі рупяцца за справу. Пачатак сведчыць, што гэтая рацьо — адна з найлепшых. Пакуль мы атрымліваем толькі прыдатныя энергетычныя імпульсы.

— Добра. Напрамкі праглядваюцца?

— Ледзь-ледзь. Яшчэ не надышоў час для прыкметных зрухаў.

— Будзем чакаць. На пераемнікаў мы вельмі разлічваем. Каб толькі іх не заносіла на заваротках. А то можа так стацца, што яны забудуцца, дзеля чаго пакліканы, і нам давядзецца ім нагадваць, можа, і ўшчуваць.

Хваля неўразумення шуснула ў эфір.

— Як гэта? — знерухомеў Геракл.

— Навошта, вашаць? — усклікнула Геката.

— Яны ж толькі паляцелі і набіраюць вышыню! — усхваляваўся Ікар.

— Сродкі ўздзеяння бываюць розныя. Каб толькі не нашкодзіць і не адабраць ахвоту, — мудрагеліста разважыў Асклепій.

— Творчасць нельга выпраўляць, — сekануў Альгерд.

— Мы ўжо на пшык з’ехалі і не верым у нашчадкаў, сумняваемся? — абурана запытала Афрадыта.

— Мне гэта да дзіўнасці нешта нагадвае, — дасціпна выказаўся Плутарх.

Многія іншыя Настаўнікі таксама не хавалі сваёй незадаволенасці. У атмасферы вісела напружанне.

— Прэч усялякія асацыяцыі і выкрутасы! — гневам пырснуў Ібаоф. — Я іх не люблю! Дый вам яны не да твару. У нас усе **ідэі** адметныя і ніяк не паўтараюцца. Чаго вы так узбурыліся? Хіба не ведаеце, у якім мы становішчы і якія парадкі? А мо лічыце, што вас гэта не датычыць і вы па-за справай? Досыць балбатаць і лухту малоць! Трэба пры слове стаяць! Падступства і бунтарства я не стрываю! Зараз, як ніколі, нам патрэбны паразуменне і згода. Дык няхай яны будуць!

**14**

Кастусь духам лунаў у сваім свеце і ад яго прыгажосці патанаў у зачысці.

Ён бачыў наяве ўсе лятункі і знаходзіў іх дасканалымі.

Калі ж недзе чагосьці не хапала альбо штосьці было залішнім — аўтар з задавальненнем папраўляў лёгкім варушэннем свайго іства. Пры гэтым ён не стрымліваў сябе і нават блазнаваў: то пашле прамётную думку, то ўспыхне гарачым пачуццём, то велічна ўзмахне рукой. Іншым разам гарэзліва ўварвецца ў лясны гушчар і загуляе-засваволіць з дрэвамі, пырсне на іх дажджом альбо лясне перуном. І, цешачыся іхнім шчырым сполахам, засмяецца, пабяжыць-паімчыць, нібы той галуза, па-над рэчкай, возерам, нырне ў сцюдзёную глыбіню і ўздыме казачныя хвалі. А потым, зусім ачмурэўшы, пакоціцца дураслівым кулём па квяцістым і духмяным лузе.

Такога шчасця ад творчасці Кастусь не зведваў ніколі. Здавалася, яно будзе бясконцым і нязгасным.

Але нечаканы пошуг чагосьці трывожнага на нейкае імгненне засціў гэты настрой, крыху ўсхваляваў наваколле і пакінуў у ім ледзь прыкметны цень. Чыйсьці цьмяны вобраз, асацыятыўна знаёмы і нават блізкі, вынік з невядомасці. Кастусь,

інтуітыўна не прымаючы любую іншасць, не даў яму сканцэнтравацца — і той неўзабаве прапаў.

Ствральніка зноўку ахінула прыемнасць — і пацяклі, заструменіліся з новаю сілаю Час і Прастора, памнажаючы лепшыя праявы жыцця.

Пяшчота ўсё больш насычала існае і спараджала невераемнае пахаценне, ад якога ўзбуджаўся-віраваў эфір. Дух распаляўся, прагнуў вышэйшай хвалі любові — і яна ўзрастала. Кастусь адчуваў усю цнатлівасць, сараматлівую згодлівасць Прыроды-Матэрыі і моцна ірміўся. Нарэшце ён ірвануў да яе — і яны зліліся ў Міласці і Кунезе. Падчас найвышэйшай асалоды абодвух ахапіў невераемны экстаз, які трымаў іх доўга, да чароўнай знямогі.

«Гэтая **Радасць** уласціва ўсяму, што стварыў БОГ. Адным Яна даецца на імгненне, іншым — на працяглы час, трэцім — на вечнасць. У Ёй, як ні ў чым іншым, аб'ядноўваюцца ўсе якасці, каторыя існуюць у Сусвеце, нават адрозныя і процілеглыя. Ёю абумоўлены Жыццё і Рух. Спазнаўшы Яе хоць раз, кожны прагне салодаснага паўтору шматкроць і да бясконцасці. Але нямногім наканавана спаўна прайсці гэты Шлях. Большасць не вытрымлівае Яго, бо ён складаецца напераменку з **Радасці і Суму** і завецца **Гармоніяй**».

Задаволеная і аплодненая, Прырода стала нараджаць цуды, якіх яшчэ не было ў касмічнай рэальнасці.

## 15

Стромыя горы цягнуліся ў неба вострымі вяршынямі нібы навыперадкі і ні на кога не зважалі. Жак знаходзіўся на адной з іх і дзеля пацехі кпіў:

— Якія ганарыстыя! Нельга і падступіцца! Хоць бы каму іншаму саступілі месца, далі прастор. Так шчыльненька ціснецеся — сапраўдны частакол! Хоць мне такі і патрэбен для аховы майго свету.

Горы крыўдзіліся: ім не падабалася параўнанне з плотам. Узведзеныя па касмічных узорах з трывалых камянёў, яны з'яўляліся апірышчам усяго пласта, таму блазавалі і згорда пазіралі навокал.

— Так, вы — удалае адлюстраванне сусветнай магутнасці! І такімі будзеце заўсёды. Але, можа, досыць імчаць увысь без крылаў? Усё адно ад зямлі вам не адарвацца. Неабходна больш дбаць пра тое, на чым вы ўзраслі. Паглядзіце ўніз. Якая прыгожая даліна! Чаго толькі на ёй няма!

Горы загудзелі і кінулі пагардлівы зірк да падножжа. Нічога вартага там яны не ўбачылі. Мітусяніна была для іх агіднай.

— Паўсюль увасоблены мае запаветныя мары. Але нідзе гэтак багата не раскашуе флора і фаўна, як там. Адтуль крочыць прыгожае жыццё, шырока і прывольна. Яно ўсцешвае і бавіць мяне.

Жак пусціў палымяны погляд удалячынь і паляцеў, на развітанне мовіўшы:

— Між іншым няма гор без далін.

Ніхто на яго не злаваў, бо ўсе ведалі гаспадара і ягоны характар. Ён нікога не крыўдзіў, а проста забаўляўся — гэткім чынам прыглушваў самоту ў сваёй рэаліі. Валадарскую палкасць скіроўваў выключна на ствральніцкія мэты і ганарыўся сваімі поспехамі.

Але яны не былі б такімі значнымі, калі б не Матэрыя. Жак адчуваў яе паўсюль у сваім свеце і бязмерна шанаваў. Жаданая і ўсюдыісная, яна з любасцю назірала за ім, адзначала ягоныя дасягненні і зычыла яму памыснасці. Ён нагадваў ёй мінулае,

падабаўся залётнай апантанасцю і адухоўленасцю, узбуджальным імпэтам. Яны добра спараваліся, смела эксперыментавалі і мелі ад гэтага багаты плён.

І стаічныя горы, і чароўная даліна з яе размаітымі насельнікамі былі асабліва дарагімі Матэрыі, бо ўзніклі ў выніку вялікай узаемай хізі абодвух творцаў і ўвабралі ў сябе лепшыя іхнія якасці. Яна памятала кожнае сваё зліццё з Жакам і нецярпліва чакала новага.

**16**

Нямногім гэтак шанцавала, хоць прыхільнасці і лагоды Матэрыі дабівалася багата адэптаў. Ніхто не мог абысціся без яе. Яна ведала сабе цану, была патрабавальнай, прагавітай, ненаеднай, але ўніклівай і дападнай. Дазваляючы дзеяць у сваіх уладаннях усім, яна толькі некаторым адчыняла самыя патаемныя глыбіні. Таго, хто не лічыўся з ёю і хоць на драбніцу зневажаў, Матэрыя не шкадавала і жорстка карала.

Новыя выпускнікі Ібаофа, як і належыць, былі актыўнымі, неўтаймаванымі і атрымлівалі ад яе ўсё неабходнае. Яна адгукалася на іхнюю стараннасць і рупнасць, спрыяла развіццю, але заўсёды была пільнай і напагатове, бо не жадала новых кавэдзяў, ад якіх некалі пацярпела і якія прыкра паўздзейнічалі на ейную карму.

Неафіты, маючы адметныя касмічныя планы, песцілі надзею на іх бездакорную рэалізацыю і нават не ўяўлялі, што можа быць іначай. Але свет няўмольны: ідэальных умоў не прапануе і без драмы не існуе — такі агульны парадак, таму ў касмічных далях нечаканасцей хапала, балазе, спрыялі гэтаму амаль усе.

Матэрыя прымала бурныя энергетычныя хвалі Андрэя, прапускала іх цераз сябе і, адчуваючы іхнюю здатнасць, надавала ім патрэбныя формы. Працэс быў суладны, і ўсе мыслявыя вобразы знаходзілі адпаведнае ўвасабленне.

Жарсны шквал экстравагантных мрояў напачатку падабаўся Матэрыі і выклікаў у яе цікавасць, нават захапленне. Яна з задавальненнем асаджвала іх гожымі варункамі і сама любавалася сваёю ўдалаю працаю. Але ўтрапёны ўсплёск думак Андрэя раптам шуснуў на яе і балюча перавярнуў успрыманне. Разгулялася зусім іншае надвор’е.

Страшэнны ўраган уварваўся ў пласт і бязлітасна пачаў мітрэнжыць усё без разбору. Увачавідкі знікалі мілагучныя спевы, духмяныя водары, маляўнічыя краявіды.

— Навошта? — грукатала Матэрыя, змушаная знішчаць.

— Мне не падабаецца, — адказаў Андрэй.

— Ты выбраў паспяховы варыянт.

— Гэтага мала.

— Так пачынаюць многія.

— Анягож.

— Тваё рашэнне ўжо занатавана ў Касмічным Летапісе.

— Клопат. Там і не такое запісана.

— Кармы не баішся?

— Перажыву.

— Што будзеш рабіць?

— Ствару новы свет.

Матэрыя напраўду адчула прыліў свежых думак Андрэя і адразу, як і належыць, пачала іх рэалізоўваць. Аднак наступны яго разумовы пасыл зноўку ўсё разбурыў. Яе гэта ўразіла.

— Чаго ты абураешся? — нездаволена адрэагаваў Андрэй. — Твая справа — выконваць усё, што я пажадаю, і не перашкаджаць мне. Абыдуся без парад.

Матэрыя нічога не адказала, але ёй гэта не спадабалася. Якое ж было яе ўзрушэнне, калі Андрэй прадоўжыў паэтапнае стварэнне і вынішчэнне.

**17**

— Наогул, калі такі ідэальны свет і існуе, то не ў маіх уладаннях, — тлумачыла Матэрыя Замбе.

— Дык я ж у планах яго бачу, — пераконваў той і здзіўляўся. — Хіба бывае такое, каб нельга ажыццявіць задуманае?

— Многае залежыць ад варункаў.

— Усе думкі можна з'ісціць незалежна ад умоў выяўлення.

— Гэта — толькі пачатак праўды, а працяг яе гучыць так: калі ты — не вольны творца, а належыш да канкрэтнай школы, то працуеш паводле яе канонаў.

— Так, я — выхаванец Ібаофа.

— Вось ягонымі сігнатурамі і кіруйся.

— Няўжо яны не прадугледжваюць мой варыянт?

Матэрыя чамусьці прамаўчала, пакінуўшы Замбу ў неўразуменні.

**18**

Жыццё ўжо раскашавала, разнастайна выяўлялася і выклікала ў Джорджа задавальненне. Але яго не пакідала думка пра эксперымент, якая пасля сустрэчы з Барысам кіпела з асаблівай сілай і прагла ажыццяўлення.

Свабода, вабная і запаветная, падштурхоўвала — і ён адважыўся.

Глыбока ўдыхнуўшы, Джордж зацяў дыханне, уміг здранцвеў і апынуўся ва ўладзе Велічнай Праны. Яго атачала прасвяднае нуменальнае асяроддзе, у якім было ўсё да Пачатку. Але яму былі патрэбны толькі подыхі сяброў — і ён адчуў іх, клапатліва абрасіў сваім духам. А пасля радасна паімчаў да Зямлі і, выслабаняючыся, выдыхнуў.

Струмень ягонай існасці ўварваўся ў эфір і адразу праліўся ў пластах дружбакоў. Тыя не ведалі пра такое абрашэнне і працягвалі сваю працу.

Ніякіх ваганняў у Джорджа не было. Яму падабалася ўласная вынаходка.

«Чаму ты не паведаміў ім пра гэта?»

«Так будзе лепш».

«А не прасцей было б паразумецца? Яны наўрад ці адмовілі б».

«Тады ўсё выглядала б інакш, — не так, як я задумаў».

**19**

Множнасць разумовых падыходаў бударажыла і Генрыха, але ён пазбавіўся яе падчас вандровак па Бязмер'і, калі ў процьме варыянтаў светабудовы знайшоў свой — той захапіў яго ўсемагутнасцю і імклівасцю. Усё ў ім радавала, натхняла, акрамя аднаго — неадпаведнасці ўмовам зямной брамфатуры[1]. Тады Генрых упершыню пашкадаваў пра сваю планіду.

[1] Брамфатура — планетарная сістэма рознаматэрыяльных пластоў, задзіночаных і абумоўленых агульнасцю працэсаў.

Ён уявіў, як паспяхова рэалізаваў бы свой план і як хутка здабыў бы перамогу, калі б валодаў такім мячом.

Колькі шукаюць разгадак тайн Перштварэння няўрымслівыя і ўніклівыя галовы на Зямлі! Якіх толькі спосабаў не апрабоўваюць! Куды толькі не кідаюцца! Аж да Пачатку (як быццам Ён існуе!) Сусвету мкнуцца сягнуць! А здабыча побач, вабна ўсміхаецца і чакае. Трэба толькі змяніць погляд — і яна перад вачыма.

Безумоўна, на Зямлі, ды і ў навакольных галактычных россыпах, сутнасць многіх з'яў вызначае **святло**, асабліва ягоная хуткасць — яе вымералі і паклалі падмуркам шматлікіх навуковых высноў. Але як жа смешна хістаюцца гэтыя тэорыі, калі ў сваёй веліччы паўстае ўвесь гіганцкі Космас! Яму, каб рухацца, недастаткова светлавой хуткасці, дый, як пераканаўся Генрых, яна для Яго зусім не асноўная. Наогул тое, што можна вызначыць, акрэсліць, вымераць, узважыць, злічыць і г.д., не тлумачыць Сусвет цалкам. Для гэтага існуюць іншыя чыннікі, пакуль неспасціжныя. Дзіўна, але людзі карыстаюцца імі кажначасна, ніяк без іх не абыходзяцца і, разам з тым, не ўсведамляюць іхняе важнае ролі.

Гэта — **думкі**. Няспынныя, імгненныя, усюдыісныя, усёпранікальныя, без цяжару.

Генрых яшчэ ў вучэльні быў уражаны тым, як далёка знаходзіцца чалавек ад разумення сапраўднай прыроды думак і як прымітыўна карыстаецца гэтым багаццем. Апасля, у міжзорных палётах, яго агаломшыла бурнае развіццё касмічных цывілізацый, дзе буялі і квітнелі смелыя **ІДЭІ**, умацоўваючы і ўзнімаючы на небывалыя вышыні дух. Ён назіраў, як разнастайна і ўсебакова скарыстоўваюцца часціцы, што складаюць думкі, для стварэння сусветаў. Гэтыя энергетычныя зарады-кванты валодалі неабмежаванымі магчымасцямі як у часе, так і ў прасторы, і з'яўляліся ўніверсальным будаўнічым матэрыялам Космасу. Іх ужываў розум любой мыслячай асобіны па сваім жаданні і меркаванні.

Майстра прыкмеціў надта важную асаблівасць гэтай працы і ў які раз адрасаваў чалавецтву дакор: у сапраўднасці мозг быў не генератарам, а трансфарматарам квантаў думкі, першым этапам, ад якога пачынаўся працэс ператварэння энергіі ў масу. Кванты даастатку запаўнялі Сусвет і замілоўвалі сваёй дасканаласцю, гармоніяй, прыгажосцю. Бадай, яны былі сутнасцю менавіта таго Вялікага Пачатку, за якім стаяў БОГ. Ні дагэтуль, ні пасля Генрых не зазнаваў такога моцнага ўзрушэння. Ён раз і назаўсёды ўпэўніўся, што ягоны шлях — ні на імгненне не спыняцца, імчаць да БОСКАГА Прыстанку ўсімі магчымымі спосабамі, бо той кліча і чакае яго.

З вялікім задавальненнем Генрых засвойваў практыку майстроў вышэйшага рангу: як яны розумам затрымлівалі цуда-часціцы, як ператваралі іх у вобразы і змяшчалі ў канкрэтнае асяроддзе, абцяжвалі сваім адметным сэнсам. Справа прадугледжвала ролю адначасова і гаспадара, і падначаленага — у творцаў гэта атрымлівалася бліскуча: ім было лёгка ўзбуджаць-накіроўваць свае думкі-ідэі і тут жа няспынна зведваць прысутнасць-уздзеянне іншых.

У гэтай магіі было штосьці загадкавае, прыцягальнае і, як навеяла Генрыху неспадзеўная думка, супярэчнае канцэпцыі Ібаофа.

**20**

Галоўнае — не выбіцца з агульнай рытмікі Космасу. Самае малое адхіленне ад правечных вібрацый можа выклікаць нечаканыя інверсіі і звыродлівасць у пласце. Лао добра памятаў гэтае правіла і, выбраўшы свой варыянт, старанна абмазгоўваў, як лепш яго рэалізаваць.

Ён упэўніўся, што спосаб існавання Сусвету — дыханне, прана. Абсалют-БОГ раўнамерна дыхае — і ў такім жа рытме пульсуе Космас. Усё існае пачынаецца ад выдыху Абсалюта-БОГА і заканчваецца з ЯГОНЫМ уздыхам. То бок Сусвет з'яўляецца выкідам пераапрацаванай энергіі, што прайшла цераз Іства Абсалюта-БОГА, ЯГО вонкавай сутнасцю, з якой усё ўтвараецца. Іманентна яна не можа быць ідэальна чыстай, бездакорнай, як Абсалют-БОГ, і павінна прайсці праз ачышчэнне разнастайным жыццём, выяўленнямі ў Часе і ў Матэрыі, каб потым быць здатнай для чарговага ўздыху-паглынання. Унутры Творцы застаецца самы неабходны, дасканалейшы касмічны матэрыял, а астатні, пераапрацаваны, зноўку выдыхаецца. І гэтак бясконца. Уздых — выдых... Даасяродкавае жыццё — Цэнтрабежнае жыццё...

Атрымліваецца (парадаксальна!), што насамрэч Сусвет, як феномен (у адрозненне ад нумена), значна большы за БОГА: БОГУ дыхаць і жыць трэба глыбока, вечна і ў асяроддзі, якое неабмежавана часам ды прастораю і сілкуе ЯГО САМОГА. Гэта значыць, БОГ наўпрост залежыць ад свайго Тварэння.

Значыць, у Зорным Раздоллі ўсё-такі ёсць тое запаветнае месца, дзе знаходзіцца **ЁН**, адкуль ідзе **ЎСЁ**.

Лао аж закалаціўся ад хвалявання, калі даўмеўся да гэтага. Успыхнула гарачае жаданне ўбачыць СПАДАРА і ЯГОНУЮ МАЙСТЭРНЮ. Пра немагчымасць такой сустрэчы ён не думаў, бо быў перакананы, што насельнікі Сусвету, у тым ліку і БОГ, не могуць існаваць без зносін.

А каб гэтая падзея адбылася хутчэй, Лао распачаў будаўніцтва свайго пласта, арыентуючыся выключна на вышэйшыя каноны.

**21**

Усё існае мае цяжар. У аднаго ён большы, у другога — меншы, раўні тут няма. Менавіта на варыяцыях цяжару грунтуецца прынцып індывідуальнага граху. Самы вялікі грэшнік абцяжараны непад'ёмнай кармай і пакутамі. Хто ён? І дзе ягонае месца ў Сусвеце?

Цікавасць узрушыла Мікаэля і падштурхнула да пошукаў.

З чаго пачаць?

Сусвет — сакраментальная матэматычная формула. Ён будуецца па законах процілегласці і адлюстравання.

Як вядома, кожная геаметрычная фігура імкнецца да акружнасці — гэтак Космас, якія б формы не меў у сваіх выяўленнях, усё адно заканчваецца апукаю. А пачынаецца таксама з апукі, толькі вельмі маленькай — кропкі.

Нуменальна Сусвет — Кропка, фенаменальна — незлічоныя конусы і іх сіметрыі, якія вяршынямі пачынаюцца ад гэтае Кропкі. Кожны конус абавязкова мае свой люстраны адбітак. **Мадэль Космасу нагадвае дзьмухавец**, пялёсткамі якога з'яўляюцца конусы альбо, па звыклай тэрміналогіі, прасторава-часавыя вымярэнні, палова якіх — абавязковыя адкоскі.

**БОГ — гэта разам Усё і Нішто, якія ў Кропцы злітыя ў Абсалют.** Даведацца і ўявіць, што там адбываецца, немагчыма — можа, менавіта таму гэты стан атрымаў назоў — хаос, хоць толкам яго ніхто так і не патлумачыў. У адрозненне ад Кропкі, конусы можна сузіраць і адчуваць — тут праяўляецца жыццё ва ўсёй сваёй бясконцай разнастайнасці як у пазітыўным, так і ў негатыўным кірунках.

Дзіўна, але вызначыць самую дасканалую і самую звыродлівую істоту альбо з'яву немагчыма, бо рух у Сусвеце працягваецца і дасягненні ў абодвух супрацьлеглых напрамках прыспорваюцца.

Мікаэль нават адчуў своеасаблівае замарачэнне, калі паспрабаваў уявіць гэтыя працэсы. Адно што яго заспакоіла, дык гэта сумнеўная наяўнасць нейкай мяжы, ад якой рух калі-нікалі пачнецца назад. Менавіта ў гэтае імгненне і можна будзе адзначыць самае грэшнае стварэнне Космасу.

**22**

Кожны чалавек жыве ва ўласным свеце, але не задумваецца над гэтым і, мабыць, робіць правільна. Ахмад памятаў жудасць, якая апанавала шкалярамі, калі Плутарх для прыкладу расчыніў і прадэманстраваў уяўленні некаторых людзей: такога агіднага бязладдзя, гармідару і бруду цяжка было знайсці яшчэ дзе-небудзь. Нават не верылася, што такія абракадабры здатныя на прыстойнае існаванне.

«Гэты хаос непарыўна злучаны з канкрэтнымі носьбітамі. Не турбуйцеся пра яго і не цягніце ў свой пласт. Няхай разам з людзьмі ён і канае. Іначай парадку ў вас не будзе», — папярэджваў філосаф.

Ахмад гэта ўлічваў, але зусім адмаўляцца ад сваіх намыслаў не збіраўся: надта ўжо хацелася яму ашчасціць былых суайчыннікаў.

Прычынна-выніковыя законы вымагалі паслядоўнасці, і ад першапачатковай руплівасці залежала многае. Галоўнае — выбраць такую хаду жыцця, якая б у далейшым забяспечыла вечны росквіт.

Матэрыя спрыяла Ахмаду за яго гарачы тэмперамент, нястомнасць і няспынную кунегу да яе. Ён шмат выдумляў, ніколі не ўзрушваў і не абураў яе, заўжды шчыра радаваўся сумеснаму творчаму плёну. Яна прымала і ажыццяўляла любыя яго ідэі.

І гэта акрыляла Ахмада. Ён уяўляў сваю далячынь у прыгажосці і кожны крок адцемліваў адменным настроем, які момантамі азмрочвала мітрэнга з-за прысутнасці ці то ўнутры, ці то звонку кагосьці нябачнага, непрыемнага, настырнага.

З памяці вынікалі вобразы незабыўнага краю, якія пасля ўніклівай трансфармацыі шырока размяшчаліся на некранутых аблонях. Па-суседску абавязкова ўпісваліся наватворы — над імі стварэнец шчыраў з асаблівай пахапнасцю. Яму самому ўсё падабалася, і, апантаны творчасцю, ён не задумваўся, ці гарманавалі, напрыклад, скалістыя горы з расліннасцю і дрэвамі, што лятали над імі, альбо як пачувалася ў паветры выспе, калі пад ёю гуляла хвалямі возера.

Часам здавалася, што Ахмад робіць марныя справы. Так, ён даволі працягла і ўтрапёна, поруч са стварэннем у прасторы расліннага і жывёльнага асяроддзяў — абавязковага начыння пласта — дбаў пра падземныя, як казаў, кладоўкі і спраты. Яго канашы дзівіліся: навошта збіраць адусюль формулы разнастайных рэчываў і элементаў, апладняць імі Матэрыю і змушаць яе да радзінаў глыбока ў земенні? Пра нешта такое некалі паклапаціўся сам Ібаоф — і гэтага дастаткова для ўсёй брамфатуры Зямлі.

Ахмад загадкава ўсміхаўся і адказваў:

— Запас бяды не чыніць.

Сваімі дзівацтвамі ён яшчэ неаднаразова будзе ўзрушваць супольнасць.

**23**

— Што табе яшчэ трэба ад мяне? Ты ўжо ўсё атрымаў.

— Не хвалюйся, васпані. Творчасць, як і ўвесь Сусвет, няспынная, бясконцая, ніколі не пакідае мяне і кажначасна будзіць новыя думкі.

— Няўжо яны ў цябе яшчэ ёсць, Ібаоф?

— Ты мяне крыўдзіш, Матэрыя.

— Ніколечкі. За час доўгіх стасункаў з табою я пераканалася, што ты даўно згубіў свежасць намыслаў, а калі што і робіш, дык толькі трансфармуеш і перайначваеш старое, прычым робіш гэта акрутна і несамавіта, як быццам са злосцю.

— Ты ўсё яшчэ мяне ненавідзіш.

— …

— Можа, досыць ужо каты дзерці. Не такі я ліхадзей, як табе ўяўляецца. Хутчэй, наадварот. І ты, як ніхто, пра гэта добра ведаеш. Мы з табой заўсёды працавалі залюбадружна, у згодзе. Былі некаторыя шурпатасці — дзе іх няма, але мы з імі неяк спраўляліся. Галоўнае, яны здарыліся толькі ў адным варыянце выяўлення. У іншых іх нямашака, і надалей, упэўнены, такіх непаразуменняў не будзе. Прабач, але, шчыра кажучы, і ты неаднаразова ініцыявала рызыкоўныя ідэі. Так што, мы з табой — абое рабое. Таму няварта дарма хваляваццца і пакутаваць. Што было, тое сплыло.

— Несусвеціцу нясеш і ведаеш пра гэта. Нішто не знікае. Усё застаецца ў памяці, у Часе, у Прасторы — і такім чынам уздзейнічае на карму. Ты сваімі жаданнямі так змардаваў мяне, што я і дасюль не апрасталася ад пакаранняў за грахі, за такую апантаную творчасць. Табе прасцей…

— Павер, усё ішло ад сэрца… Дый ты была неабыякавай…

— …І мяне не пакідалі пачуцці…

— З іншымі я спрабаваў паўтарыць нашыя кунежныя эцюды, але і блізка нічога падобнага не атрымлівалася. Ты асаблівая і незвычайная.

— Годзе!.. Ты зноў загаварыў, як тады. Няйначай, нешта зноўку надумаў і збыт карціць?

**24**

Колькі часу было прысвечана гэтай тэме ў школе! Найболей. Здавалася, вывучылі і засвоілі ўсё, што тычылася біялогіі жыцця, стварэння жывёльнага свету, у асаблівасці, мыслячых істот. Настаўнікі на ўсе лады паўтаралі, што гэты этап творчасці патрабуе асаблівых высілкаў, лімітавай увагі, дабрародных помыслаў. Тады шкаляры хоць і разумелі важнасць задачы, але ўсё-такі да канца не прачулі яе значэнне і маштаб. А цяпер яна паўстала ва ўсёй сваёй паўнаце.

Кастусь нават разгубіўся, асэнсоўваючы працэс і перспектывы свайго рабення. З неарганічным і раслінным светам было прасцей: тут ён кіраваўся ўяваю, памяццю, натхненнем і з касмічных інфармацыйных масіваў выбіраў належнае весела і на свой густ.

Новая праблема вымагала іншых падыходаў.

Абавязкова неабходна было агледзець пласцені, дзе знаходзіліся ў чаканні ўвасаблення душы людзей ды жывёл, і выбраць прыдатных для сваіх мэт, перадусім распрацаваўшы суналежны касмічны алгарытм.

Міжвольна з памяці выніклі вобразы родных, блізкіх, знаёмых, некаторых гістарычных асоб, а таксама герояў казак, паданняў, міфаў, літаратурных і мастацкіх твораў, якія так і прасіліся да яго. І адразу нутро заказытаў адвечны абязурнік — выбар.

Каго ўзяць? На які лёс выракчы сябе?

Кастусь пашырыў свае думкі і скокнуў у запаветнае асяроддзе. Калі вольна знаёміўся з Сусветам нароўні з іншымі адэптамі, зазіраў сюды, але толькі на некалькі

імгненняў, бо тут яго чамусьці спатыкалі нуда і гмур, тым часам як некаторых (дзіўна?) — радасць і асалода.

Сферы замсты былі перапоўнены душамі, якія знемагалі ад выпрабаванняў і праглі спрыяльнага моманту для новага нараджэння на Зямлі альбо найскорай сустрэчы з якім-небудзь богам, што пачынаў фарміраваць свой пласт. На сустрэчу спадзяваліся асабліва, бо з'яўляўся шанс хутчэйшага выпраўлення грахоў, палягчэння кармы, якія звычайна наступалі з новым гаспадаром у свежых умовах і ў незнаёмым атачэнні.

Як толькі эфір захваляваўся ад прысутнасці Кастуся, душы страпянуліся і ўсёй сваёй існасцю памкнуліся да дабрадзея. Нястрымана, настырна, наўзахваткі, не зважаючы ні на кога, губляючы годнасць, яны літаральна папаўзлі да Кастуся з маленнем аб прыхільнасці і літасцівасці.

Відовішча было жаласным, агідным і яму не падабалася. Ён глядзеў на гаротных і адчуваў, як унутры мімаволі ўзнімаецца хваля ўзрушэння, якая нічога добрага не прадвесціла і магла спарадзіць непажаданую ў такіх абставінах злоснасць. Каб не ўчыняць неразважнае, Кастусь думкай перапыніў спантанны эмацыйны прыліў, абстрагаваўся і ўміг запусціў у інфармацыйна-энергетычнае поле планеты свой алгарытм выбару.

## 25

Замба доўга разважаў і прыйшоў да высновы, што не толькі яго былыя суайчыннікі, але і ўсе людзі недасканалыя ды збэшчаныя, таму, каб свой пласцень зрабіць суладным, не варта поўнасцю арыентавацца на іхнія душы.

Лепш за ўсё было б скарыстаць несапсаваныя ўвасабленні манадаў. Але дзе іх узяць? Тварэнню мільярды гадоў, і ўсё існае ўжо даўно крочыць па інкарнацыі. Толькі ў далёкіх сусветах, якія БОГ выдыхнуў апошнімі, яшчэ можна было стрэць некранутыя іскрынкі жыцця. А як да іх дабрацца? Хто дазволіць і падкажа правільны шлях? Ібаоф дык сапраўды будзе чыніць перашкоды і не выпусціць са сваёй брамфатуры. Нават калі дамагчыся свайго, то невядома, як транспартаваць да Зямлі чыстыя душы, бо кожная з іх ужо мае пэўную задачу і арыентавана на яе выкананне: у школе гэтаму не вучылі. Замба выясняў усе дэталі такой трансфармацыі ў Барыса і Раджыва, але і тыя не здолелі дапамагчы.

І ўсё ж такі выйсце ён знайшоў, але ад гэтага не ўзрадаваўся, а, наадварот, замаркоціўся, бо справа складаная і рызыкоўная: створаныя шляхам магічных маніпуляцый разумныя асобіны асуджаны жыць без душы, пачарговых увасабленняў ды паэтапнага ўзыходжання. Як гэта будзе выглядаць, і які лад усталюецца? У памяці прыкладаў не было. Значыць, Замба — першапраходца, калі не ва ўсім свеце, то ў гэтай брамфатуры дакладна. Унутры аж пацяплела ад усведамлення такой ролі. Трэба ўсё дэталёва абмазгаваць, разгледзець магчымыя варыянты, запусціць у прастору і час неабходныя вобразы і думка-формы, вызначыць перспектывы. Нечаканасцей не павінна быць: ён — уладар пласта, як захоча, так і будзе. Галоўнае — стварыць універсальныя, на ўсе выпадкі жыцця псіхічна-ментальныя тыпы людзей і забяспечыць належны парадак у соцыуме. Як ні прыкра, але давядзецца **падманваць**, таемнічаць, выдумляць ды шырока распаўсюджваць у чалавечым асяроддзі міфы пра замагільнае і вечнае жыццё, веру, Боскую справядлівасць, інакш свет затопіць жорсткасць і хаос. Каб не ўзніклі праблемы ў стасунках і спаборніцтвах з жыхарамі іншых пластоў, неаб-

ходна альбо закрыць свой свет, альбо зрабіць усіх яго людзей няздольнымі да такіх дзеянняў.

А калі нешта не спадабаецца — Замба знішчыць усіх насельнікаў пласта і запачаткуе новую расу: не ён першы, не ён апошні.

**26**

Розум як вада: дзе б ні разліваўся, паўсюль структурна аднакі. Але ў адным месцы яго больш, у другім — менш, у трэцім — зусім няма. Кожны валодае сваёй порцыяй глузду, адрознай ад іншых па колькасці і якасці. Няма аднолькава кемлівых істот — і ў залежнасці ад гэтага па-ўсялякаму творыцца-фарміруецца жыццё ў Космасе.

Лао лічыў, што бальшыні не стае моцы духу. Сябе ён успрымаў самадастатковым і быў перакананы, што здатны на многае.

Яшчэ падчас касмічных падарожжаў і стасункаў з братамі Лао заўважыў, якую ролю іграе талань у творчасці і як важна правільна карыстацца сваім розумам. Колькі дасканалых і не вельмі сусветаў ён бачыў! І ўсё тлумачылася толькі адным — здольнасцямі аўтара. Цяпер архат ведаў шматлікія спосабы рабення і стаяў перад выбарам: пры засяленні свайго пласта кіравацца вядомымі генетычнымі кодамі ці вынайсці свае?

Ужо адно гэтае пытанне выглядала крамольным, бо Ібаоф заўжды быў супраць альтэрнатывы сваім ідэям у межах зямной брамфатуры. Лао паважаў яго як велягурыстага валадара і настаўніка, але ад галоўнага прынцыпу Тварэння — свабоды — адмаўляцца не жадаў.

У Космасе безліч квантаў думкі і духу, якія толькі для таго і прызначаны, каб творцы спаравалі ды лучылі іх па сваім меркаванні і гусце. Не скарыстаць універсальнасць і дасяжнасць гэтых зарадаў энергіі напоўніцу — прадэманстраваць слабасць, баязлівасць і няздарнасць. Некаторых стрымлівала тое, што кванты па змесце процілеглыя, несумяшчальныя, адмаўляюць, а ў злучы альбо знішчаюць, альбо нявечаць адно аднаго, — гэта неймаверная лухта. Існы Сусвет — ад БОГА, які ёсць Магутнасць і Дасканаласць. У Ім усё адзінае, спалучанае гарманічна і суладна. Калі б было інакш — нічога б не існавала. Значыць, ёсць такі стан, дзе ніхто нікому не перашкаджае і не супярэчыць. Трэба толькі зразумець ды ўявіць яго і прыкласці высілкі для рэалізацыі, няхай нават і за кошт свайго энергетычнага дару. Практычна дасягнуць гэтага лягчэй цераз лучнасць незлучальнага, сумяшчэнне несумяшчальнага.

**27**

Сусвет густанаселены. А дакладней — не мае ніводнага месца, у тым ліку мікраскапічнага, дзе б не існавала жыццё. Глыбока памыляюцца тыя, хто бачаць у Космасе пустэчы, вакуум, нежывое асяроддзе. «Яны вартыя шкадобы», — лічыў Джордж, захапляючыся багаццем ды разнастанасцю Боскага Свету.

Асабліва яго зачароўваў Касмічны Парадак, пры якім усе стварэнні незалежна ад месца знаходжання ды прызначэння былі роўныя ў мажлівасцях і, улічваючы дадзены і назапашаны патэнцыял, рабілі свой лёс такім, як пажадаецца. Аб'ектыўных перашкод для гэтага не існавала. Недарэчнасці здараліся толькі на суб'ектыўным узроўні — і іх Джордж зусім не прымаў.

Так, ён быў супраць таго, каб рэінкарнацыя душ адбывалася пераважна ў межах адной тэрыторыі. Гаспадары пластоў увасаблялі «сваіх» дзясяткі, а то і болей разоў, што, на іх думку, змяншала праблемнасць развіцця і садзейнічала хутчэйшай дасканаласці.

— Глупства і забабоны! — не пагаджаўся з артадоксамі Джордж. Ён апошнім прыбыў на чарговы агульны збор і адразу ж уключыўся ў размову. — Цешачы гэтым сваё славалюбства і эгаізм, вы рэальна замахваецеся на волю душ, абмяжоўваеце іхнія магчымасці. Не маючы дастатковых уяўленняў пра іншыя зорныя сістэмы, яны касцянеюць, марнуюцца, становяцца энергетычна мізэрнымі і — галоўнае — забываюцца пра Боскую Сцяжыну. Навошта гэтак знушчацца з іх?

— Не перабольшвай! — перапыніў яго Жак. — Твая тырада аблыжная і не адлюстроўвае рэальнасці. Мы не брыдчэйшыя за цябе і ўяўляем ды скарыстоўваем усялякія шляхі адбору душ.

— Зазіраем не толькі да суседзяў, але і ў іншыя планетарныя і нават зорныя сістэмы, — удакладніў Генрых. — Праўда, рабіць гэта цяжкавата.

— Не кажыце за ўсіх! — запярэчыў Ахмад. — У мяне свае падыходы: я бяру толькі тых, каго ведаю альбо пра каго маю дастаткова інфармацыі, прычым лепшай якасці, а не нейкае там ахрап'е. І атрымліваецца як след.

— Які кіжлун! — абурыўся Лао. — А іншых каму пакідаеш?

— Табе! — разам пырснулі смехам Ахмад і Андрэй.

— Мае метады прадугледжваюць іншае, — загадкава выказаўся Лао.

— Мы ўсе пакліканы здзіўляць, — дадаў агульнага сэнсу Мікаэль.

— А ты, Андрэй, лепш бы не вытыркаўся, — порстка выказаўся Замба, чым усіх уразіў, бо Замба, Андрэй і Ахмад лічыліся моцнай тройкай дружбакоў. — Каму невядомая недалёкасць твайго люду — няма з каго і выбіраць. Таму і гойсаеш па ўсім свеце ды жабруеш, разлічваючы на хоць якую міласць. Ды дзе там: дурняў няшмат.

— А вось і не: хапае! Цябе я ўжо знайшоў, некалькі — у полі зроку. Дэфіцыту няма! — не разгубіўшыся, зноўку засмяяўся Андрэй, хоць унутры злаваў і кіпеў ад крыўды на былога свайго кунпана, якога толькі што знявідзеў. — Кожны мае права рабіць так, як яму закарціць.

— Але не за кошт іншых! — амаль выгукнуў Жак.

— І не шляхам заняволення і рабаўладання, як некаторыя, — узрушыўся Замба, непрыязна зірнуўшы на Джорджа.

— Безумоўна, — штучна пагадзіўся Джордж. — Але не забывайце, шаноўныя, што ўсімі душамі нашай брамфатуры распараджаецца Ібаоф. Гэта ён зрабіў ласку і дазволіў нам скарыстоўваць іх на свой одум. Але ягоныя шляхі нязведаныя і жаданні могуць змяняцца.

Усе прызадумаліся.

— Нам гарантавана свабода на ўсіх узроўнях, — нагадаў Андрэй.

— А ці карыстаўся ёю хто ў поўнай меры? — павярнуў інтрыгу ў іншы бок Генрых.

— Я мяркую, што не, бо мы разумеем сэнс жыцця, — спакойна разважыў Кастусь. — Калі б у нас не было сумлення і думак пра вышэйшую мэтазгоднасць, тады ад нашае вольнасці ў гэтым свеце каменя на камені не засталося б.

— Сапраўды, свабода нікога не шкадуе і не літуе, — успомніў правечную аксіёму і гэтым крыху замаркоціў грамаду Мікаэль.

— Абузная і няскладная гаворка ў нас атрымліваецца, — удумліва прамовіў Кастусь. — Дасюль мы неяк ладзілі. А цяпер — кожны сам за сябе… Штосьці адбываецца. Альбо з намі, альбо наогул…

— Раней у мяне нічога не было, а цяпер я — гаспадар, — патлумачыў сваю пазіцыю Жак.

— Нічога не магу з сабою зрабіць, але ўсе думкі круцяцца вакол майго пласта, — прызнаўся Лао.

— Я таксама з галавой акунуўся ў сваё, — шчыра прызнаўся Замба.

Астатнія, хоць і маўчалі, маглі сказаць тое ж самае.

— Так, напэўна, усе адчулі нязвыклае пачуццё ўласнасці і валадарства, якое, мне падаецца, з'яўляецца абавязковым пры любым будаўніцтве і рабенні, — адзначыў Джордж і дадаў: — Гэтак жа мы асэнсавалі, што поспех прыходзіць тады, калі побач з намі крочаць адказнасць, пільнасць, празорлівасць.

Лёгкае варушэнне ментальных палёў творцаў сведчыла пра аднолькавае разуменне сітуацыі, але рознакаляровыя энергетычныя разрады, што хаатычна паласавалі вакольны эфір, паказвалі на разыходжанні ў поглядах і на ўзніклыя супярэчнасці.

**28**

Яны развіталіся і пахапліва, нават з задавальненнем, разляцеліся. Упершыню пасля збору іх не мітрэнжыў сум расстання, бо іства кожнага запаўняў і радаваў толькі свой пласт.

Але свядомасць бязмежная ў сваіх магчымасцях, да дзіўнага ўсёахопная і ўсюдыісная. Ёй сумна паланіцца чымсьці адным. Толькі шматстайнасць робіць яе натхнёнай ды лёгкакрылай, адкрывае багаты свет спазнання.

Моладзь гэта ведала, верыла ў сваю бяскрайнасць і талент, адыж саманадзейна лічыла, што індывідуальная свядомасць — асабовая ўласнасць, якой можна распараджацца як хоця, смела і безаглядна, турбуючыся толькі пра абарону яе ад абрыдлага пабочнага ўздзеяння і непрадбачаных скажэнняў, што ўзнікалі на любым узроўні касмічнага праяўлення.

«Чым ніжэйшы спуск у глыбіні матэрыяльнасці, тым цяжэйшае змаганне за свабоду свядомасці. Ёсць кропка, за якой наогул знікаюць воля, кантроль над сабой і набывае моц прыўнесеная звонку мэтазгоднасць самазнішчэння».

Кожнае сутыкненне з Матэрыяй міжволі нагадвала архатам гэтае бязлітаснае правіла. Баронячыся, яны стараліся ўзвышаць сябе думкамі, дзеяць узорна, захоўваць традыцыі.

Ды хіба ад усяго ўсцеражэшся? Матэрыя не памятала такога, каб усё было ідэальна і памысна. Безумоўна, майстар можа розумам ахапіць усю панараму сваёй дзейнасці і ўладкаваць жыццё як мае быць. Але сусветная мітульга будзе заўсёды адцягваць і падносіць нечаканасці, добрыя ці благія — без розніцы: усё адно неабходна іх улічваць, нешта змяняць. А мо яму самому пажадаецца турбацый і пераломаў? Колькі такіх прыкладаў! Нават Ібаоф не грэбаваў эксперыментамі і перабудовамі — у гэтым штукарстве наўрад ці хто яго абыдзе: на тое і дадзена творчасць — найважнейшы касмічны рухавік.

Каму, як не Матэрыі, лепш ведаць пра гэта: сама яна — адначасна вытворная Вялікай Задумы і неабсяжная творчая лабараторыя, дзе ўладарыць **Фізіка**.

Менавіта характарам творчасці адрозніваліся паміж сабою матэрыяльная, астральная, ментальная і духоўная сферы жыцця. Матэрыя ганарылася сваёй роляй у Гісторыі: знаходзячыся на самай нізкай прыступцы цыклічнага развіцця, яна расчыняла манадам Запаветную Браму і распачынала іх Велічны Паход да Касмічных

Вышынь. Кожная істота лічыла за абавязак увасобіцца ды набыць багаты плён у свеце форм і рэчываў.

Першы крок адэптаў заўжды вызначаў іх далейшую ходу і кірунак руху. Калі вонкава гэта было амаль неўзаметку, то ўнутрана абавязкова адлюстроўвалася ў псіхічных рэакцыях, якія з цягам часу праступалі ва ўчынках. Матэрыя, як ніхто, магла вызнаваць у творцаў запаветнае па адным іхнім ўздыху, але ніколі не паведамляла пра гэта і не ўмешвалася ў працэс: выбар — сакральны ход планіды, карэктаваць і аспрэчваць які бессэнсоўна.

Матэрыя лічыла за шчасце даць годны прытулак любому жаданню, якое б яно ні было і ад каго б ні выходзіла.

«Марце, летуценьце, трызніце вышынямі — атрымлівайце лёгкія і магутныя крылы, увішныя і борздыя целы, светлыя храмы, велягурныя палацы, суладны побыт. Прагніце зямных дабротаў, жывой населенай прыроды, дзейнасці, выпрабаванняў, барацьбы — бярыце і ўдосталь карыстайцеся мінеральным, раслінным і жывёльным багаццем, будуйце жытло, змагайцеся, заваёўвайце і знішчайце, цешцеся фізічнай сілай. Гуляйце думкамі, настроем, вывучайце і выпрабоўвайце магчымасці, тварыце неверагоднае — усё можна, нічога не забаронена. Але будзьце заўсёды гатовыя прыняць усе вынікі вашых высілкаў і кармічную расплату за зробленае. Якой бы радасцю ці сумам вы ні прасяклі, памятайце: **у маіх уладаннях, як нідзе, усё — тло.** Пакіньце думкі, што я — вечная. Гэта — вялікая аблуднасць. **Працэсам я вечная, а вынікамі — тленная».**

Такое навучанне ад Матэрыі атрымліваў кожны, хто прыходзіў да яе з намерам супольнае творчасці. Для адных гэта было расчараваннем: нішто, у тым ліку і дасканалае, не захоўвалася, для другіх — суцяшэннем: усё, і заганнае таксама, знікала.

Ібаофу імпанавала сутнасць Матэрыі: усе рэаліі, патрэба ў якіх мінала, не працягвалі існаваць абрыдлым і дакучлівым друзам, не назалялі, а лёгка прападалі-сыходзілі з явы, саступаючы месца новым мэтазгодным ажыццяўленням. У выніку агульная карціна тварэння мела прыстойны і гожы выгляд, што надта задавольвала Ібаофа. Яму і думаць не хацелася, што недзе ў Гісторыі ўсё-такі заставаліся вобразы мінуўшчыны — сведкі ягонага мыслення і доследаў, але ён быў абыякавы да іх, бо цікавіўся пераважна сучаснымі фізічнымі працэсамі.

Хоць зрэдзь і набягала хваля нуды па салодасных імгненнях з Матэрыяй.

**29**

…Тады яны толькі пачыналі.

Агонь, жаданне і моц перапаўнялі іхнюю сутнасць, бударажылі дух, узбуджалі ідэі. Усё здавалася магчымым і дасягальным.

Ібаоф імпэтна падкаціўся да Матэрыі і загуляў з ёю ўсімі сваімі настроямі, распальваючы поцяг. Сарамлівая і цнатлівая, тая напачатку стрымлівала свае пачуцці, не спяшалася ірміцца, хоць ёй былі па сэрцы ягоныя залёты. Паступова мілоснік узʼюрыўся і, адчуўшы, што дрыжоная таксама засмагавалася, апантана і жарсна шугануў да яе.

Абодва зліліся ў адзіным хаценні і, быццам ашалелыя, у поўным забыцці дуравалі амаль да бясконцасці.

А калі аргазм страсянуў іхнія столкі — наўкол пачаў зʼяўляцца фізічны свет: паветра, зямля, агонь, вада і мноства ўсяго, што запаўняла гэтыя стыхіі і звалася жыццём.

Ібаоф і Матэрыя ўзрадаваліся, гледзячы на свой плён, і зноўку сталі гуляць ды ласціцца. Навідавоку ўтварыўся новы свет, непадобны да першага, — гэта таксама выклікала бурны прылііў эмоцый.

Каханкам спадабаўся занятак, і яны, азялелыя, прадоўжылі, утрапёна смакуючы дэталі і ад прыемнасці губляючы рацыю.

Рэальнасці множыліся, у залежнасці ад сілы жадання творцаў расквіталі непаўторнасцю, адметным энергетычным бляскам — і гэтаму, здавалася, не будзе канца.

Але ўсё добра ў меру, залішняе вомегам вылазіць.

Ібаоф адчуў энергетычную калдобіну, своечасова агоўтаўся — гэтая здольнасць яго выратоўвала неаднойчы, — і, агледзеўшыся, прыняў неабходныя меры. Толькі тое, што сталася, не пераменіцца.

Мноства разнастайных фізічных пластоў і захапляла (якія патэнцыі, якая творчая моц!), і засмучала (колькі ж патрэбна выдаткаў для іх утрымання!).

— Хоць будзе над чым працаваць! — аптымістычна меркаваў Ібаоф, сунежна гледзячы на Матэрыю.

— Са мной ці без мяне? — хітравата зыркнула яна.

— Што я цяпер без цябе? — шчыра заззяў ён.

— Няўжо? — какетліва здзівілася Матэрыя. — Многія, здзейсніўшы задуму і атрымаўшы асалоду, збягаюць.

— Я не такі! — зноўку загарэўся Ібаоф і памкнуўся да каханай.

— Пачакай, любы! — Матэрыя асадзіла яго і спытала: — Ты не супраць пладзіцца і надалей? Аж да процьмы? Не баішся штурхатні? Энергетычнага дэфіцыту?

— Ані! Суняцца і не тварыць — вось сапраўдная жуда. Існаваць без любові і жадання немагчыма.

— Так, без гэтых пачуццяў жыцця няма.

Матэрыя з захапленнем глядзела на Ібаофа і ўвачавідкі прыгажэла: якое шчасце пачынаць Існую Творчасць з вялікага кахання! Яна залюбавалася мілоснікам і адчула, як паляцела, узнялася ўвысь і дасягнула неспазнаных вышынь. Яе атуліла-працяла Неверагодная Тайна, ад якой зрабілася надзвычай лёгка, светла і радасна. Нейкі час Матэрыя патанала ў гэтым любаценні, а пасля, насычаная і здаволеная, вярнулася да Ібаофа. Той усміхаўся і дзівіўся з перамен. Ёй было зачысна ад гэтага, і яна адкрылася:

— Я была ў Эмпірэі і пачула запаветнае слова. З яго дапамогай мы пазнаем нязведанае і пашырым свае магчымасці.

— А што менавіта?

— Будзем юрыць, смакавацца, задавольваць свае жаданні колькі заўгодна… без апладнення і нараджэння фізічных цел.

Уражаны, ён пазіраў на яе і не мог даць веры.

— Хіба такое магчыма?

— Дазваляецца.

— А не выпрабаванне гэта?

— Я думала і да канкрэтнай высновы не прыйшла.

— Калі мы будзем кунежыцца без заснітку і ўтварэння новых форм, то выключым сябе з галоўнай плыні развіцця — творчасці — і ўзгадуем эгаізм!? Так?

— Мабыць. Разам з тым, мы можам вынайсці такія свабодныя спосабы злучэння, якія непадуладныя звычайным пладаносным дзеянням. Я ўжо не кажу пра асалоду…

— Бязуля, ты шалееш і мяне зводзіш з розуму… Усё, што мы робім, адлюстроўваецца на нашых стварэннях і, наогул, на ўсіх выніках нашае чыннасці… З’явіцца пералюб, блудадзейства…

— Мы пакуль толькі гаворым, не паспрабаваўшы… А раптам усё інакш: нездарма ж у Космасе існуе шматварыянтнасць…

**30**

Ібаофа прыбавіў Энергетычны Акіян Космасу.

Такое адбывалася не так часта і заўсёды па натхненні, унутранай наладаванасці.

Не кожнаму дадзена бачыць гэты Акіян — накшталт як з паветрам на Зямлі: усе ведаюць, што яно ёсць, а вось убачыць яго, адчуць фізічна не можа ніхто.

Валадар зямной брамфатуры бачыў.

Ён успрымаў Энергетычны Акіян як Першасную Прасвядную Субстанцыю, з якой фарміраваўся Сусвет: адсюль бралі пачатак усе плыні жыцця і сюды сцякаліся незлічоныя раўчукі выяўленай існасці.

Жыватворная Энергія няспынна бруіла-разлівалася ва ўсе бакі Тварэння, даючы кожнаму, хто прагнуў і імкнуўся, неабходнае наталенне.

Асноўным яе спажыўцом былі ІДЭІ — Галоўныя Будаўнікі Космасу. Яны ішлі ад **БОГА** і спараджалі галактычныя, зорныя, планетарныя, кантынентальныя, насельніцкія, расавыя, індывідуальныя, у тым ліку чалавечыя, і многія іншыя ідэі па сыходнай лініі ўвасаблення — духоўнасць, розум, свядомасць, любоў, нянавісць, дабро, зло, гармонія, бязладдзе, памяць, забыццё, асалода, боль, смеласць, страх, прыгажосць, звыродлівасць, радасць, смутак, здароўе, хвароба, праца, гультайства, шум, ціша, парадак, гармідар, узрушанасць, спакой, шчодрасць, сквапнасць, моц, слабасць, прыязнасць, дружба, здрада, агіда, пагарда, роспач, абыякавасць, жаданне, лянота, талент, натхненне, зайдрасць, абыякавасць, адзінота, супольнасць, індывідуалізм, эгаізм, калектывізм, забойства, выратаванне, шчырасць, спагада, падзяка, паклёп, бег, хуткасць, маруднасць, актыўнасць, стомленасць, развіццё, заняпад, палітыка, дэмакратыя, дыктатура, эканоміка, мір, вайна, багацце... — усё, што нельга было ўявіць як прадмет альбо вобраз.

Ібаофа не пераставала ўражваць бясконцая шматстайнасць, усюдыіснасць, перапляценне ІДЭЙ і ідэй. З'яўляючыся непераўзыдзенымі майстрамі і стваральнікамі, яны ажыццяўлялі неймаверныя праекты і вялі рэй ва ўсёй касмічнай гульне. Сама Магія слугавала ім, калі яны выбіралі сабе носьбітаў, авалодвалі імі і абцяжарвалі іх канкрэтнымі задачамі, будуючы адметны характар. Гэта маглі быць якія заўгодна стварэнні фізічнага, астральнага, ментальнага сусветаў — людзі, жывёлы, птушкі, рыбы, насякомыя, душы, здані, багі, з'явы, падзеі, тэрыторыі і г. д., — што адпавядалі неабходным патрабаванням. Калі такіх не было — іх стваралі. Атрымаўшы належнае і задаволіўшыся, ідэі пакідалі носьбітаў, як непатрэбны адзетак ці жытло, і набывалі іншых. А носьбіты змяняліся, перайначваліся, прымалі ў сябе новых жыхароў, альбо зусім паміралі, знікалі, калі з іх выдаляліся ўсе ідэі, да запатрабавання ў іншай якасці.

Як правіла, адно і тое ж стварэнне мела у сабе мноства ІДЭЙ і ідэй, якія суседнічалі, суіснавалі, ладзілі ці сварыліся, сябравалі ці варагавалі між сабою. Звычайна, ІДЭІ дамінавалі над ідэямі, кіравалі і вызначалі галоўныя напрамкі развіцця, але, здаралася, што і ідэі шляхам упартага змагання бралі верх над ІДЭЯМІ — і тады нярэдка носьбіт ступаў на скрыўленую сцежку, уваходзіў у супярэчнасць з агульнапрынятымі нормамі, рабіўся ізгоем, адрачэнцам. У шматлікіх выпадках ІДЭІ, ідэі і носьбіты сумяшчаліся ў адной індывідуальнасці, асабліва калі тая валодала пазнаннем. Унутраныя працэсы такога лучэння адрозніваліся незвычайным драматызмам.

Найбольш яскрава гэта праяўлялася ў матэрыяльным свеце. Брамфатура Зямлі была найлепшым таму прыкладам.

Ібаоф добра ведаў сваю метасферу, бо яна стваралася пераважна па яго ідэях.

У Энергетычным Акіяне сярод мноства іншых прысутнічаў і гэты варыянт, які, безумоўна, як лічыў Ібаоф, быў адным з найлепшых, нягледзячы на прыкрыя абставіны, што надарыліся напачатку. Успамін пра іх неяк засваволіў перад ім у акіянскім бязмеры ўражлівым віхарам супярэчлівых ідэй.

**31**

«Якая ІДЭЯ на чарзе?

— А мо дастаткова? Тыя, што ўкараніліся, не ўсе прыйшліся па нашых носьбітах.

— Матэрыя сказіла… Яна не ў стане зрабіць лепш.

— Праўда што. Толькі высільваецца…

— Не нашкодзіць бы Ёй, любай…

— Таму працягваць нявbooарта. Столькі напракудзілі!.. Астатнія ІДЭІ пачакаюць. Хоць бы з гэтымі разабрацца!..

— А як? Хто падкажа? Пустэчы не павінна быць.

— Трэба запускаць свае ідэі, прычым такія, якія б уздзейнічалі на ІДЭІ.

— КАРМА, як галоўная ІДЭЯ, нас не пашкадуе…

— Затое **свой шлях** будзе захаваны. А з КАРМАЮ нам Час дапаможа. З Ім мы абавязкова перамовімся.

— Сапраўды. Гэта ж толькі пачатак! Усё паспрабуем і ўсюды паспеем.

— Імгненныя кванты толькі і чакаюць прыпынку, а якога? — ім усё адно.

— Мы ім дадзім належны прытулак: ідэй у нас хоць дарма аддавай.

— Трэба быць асцярожней з пазнаннем…

— Так, з розумам мы не дагледзелі… Дужа захапіліся напачатку… У нашых умовах кемлівасць носьбітаў дорага каштуе… Адабраць яе цалкам ужо не атрымаецца… Нават калі частку адняць — што замест таго?..

— Выйсце ёсць!

— Якое?

— **Вера!**

— …

— Яна неабавязкова запатрабуе вялікіх ведаў, затое пакрые ўсялякі недахоп, запоўніць пустэчу. Зробім **Веру** крытэрыем духоўнасці, надамо ёй неабходныя энергетычныя атрыбуты…

— Гэта — матэрыяльны свет, тут свае падыходы.

— Усё ўлічым! Нагрувасцім столькі функцый, абавязкаў, мітусяніны, у параўнанні з выкананнем якіх, прытрымліванне ды захаванне **Веры** будзе здавацца лепшай уцехай і самым надзейным ратункам.

— І як тое будзе выглядаць?

— Спярша пабудзем колькі часу фізічна сярод стварэнняў, сваёю прысутнасцю і дзеямі пераканаем, што яны без нас нічога не вартыя, спародзім утрапёнае шанаванне і страх, прыдумаем адпаведныя, насычаныя нашай энергетыкай, парадкі, звычаі, выявы, сімвалы, перад якімі яны б укленчвалі і без якіх не ўяўлялі б свайго існавання, па дажывоцце ўкладзём у іхнія галовы Нашыя Велічныя Вобразы, а затым бачна ўзнясёмся, захаваўшы ў іх памяці і ў ладзе жыцця непарушную лучнасць з намі, надзею на новую сустрэчу».

**32**

Пра што спавяшчаў Энергетычны Акіян на гэты раз? Што абяцаў менавіта яму, Ібаофу?

Як распазнаць у гэтай дзівоснай шматстайнасці сваё, лёсавызначальнае?

Здавалася, усё, як і раней: такія ж неймаверныя, мудрагелістыя перапляценні і хуткасці энергетычных часціц, неверагодныя і нязвыклыя да абсурднасці спалучэнні колераў, гукаў, рытмаў, найбагацейшая і ўвачавідкі зменлівая маляўнічасць, насычанасць усіх з'яў… Але Ібаоф ведаў, што гэты калаварот мяняўся, кожнае імгненне нараджаў нешта новае, непаўторнае і нават такое, чаго ён не мог увабраць і прыняць. **Вечны Генератар Ідэй!**

Іерафант наглядаў, як энергія бясконца ліецца-струменіцца ў сусветы, істоты, рэчывы, пераходзячы з аднаго стану ў другі, як вылучаюцца з усяго існага, вібруюць і змешваюцца з агульнай акіянскай масай, узбагачаючы яе своеасаблівай і непаўторнай выразнасцю, рухавыя токі, зарады, імпульсы.

Ягонае іства плыло ў гэтай вечнасці спакойна, упэўнена, з ахвотай спасцігаючы сусветную творчую практыку і наталяючыся энергетычна. Насцярожанасць, што прысутнічала напачатку ў прадчуванні згаднай атугі альбо непажаданых глабальных працэсаў, знікла, як толькі Ібаоф пераканаўся: нічога такога ў акіяне не з'явілася — значыць, **ЁН** пасля Акта Стварэння ніякіх захадаў яшчэ не прымаў і можна было без хваляванняў, напругі працягваць сваю справу.

З прыўзнятым настроем Ібаоф вярнуўся да роднай брамфатуры і, адчуўшы прыдатны момант, вырашыў сёе-тое выканаць, да чаго ніколі не гарнулася душа, але вымушалі абставіны.

Так, у апошні час яго стала непакоіць празмерная вольнасць нашчадкаў, якая пагражала суцэльнасці сістэмы, і, каб забяспечыць памыснае развіццё ўсіх працэсаў, яе неабходна было стрымаць.

Унутрана настроіўшыся, ён азірнуў свае ўладанні, кінуў погляд у зорную прастрань і ўладна паслаў пераўтваральную энергетычную хвалю, якая нябачнай, ілюзорнай шаллю накрыла ўсё існае і тым самым змяніла ўспрыманне вонкавага свету.

«Адсюль вы не зможаце бачыць Космас у звыклым ракурсе — такой быць мяжы фанабэрыстасці вашай!» — запаветна вымавіў Ібаоф.

**33**

«Усякая ідэя зачароўвае-палоніць творцу і, звычайна, адхіляе яго ад будзённасці. Чаму? Таму што сама стварае новую рэальнасць і ўсталёўвае свае, адметныя правілы. Каб жыць у гармоніі, важна знайсці баланс паміж рэаліямі».

«Ідэалізм», — такую запозненую ацэнку сваім колішнім развагам перад вучнямі даў Альгерд, знаходзячыся ў стане трансу і ўважліва назіраючы за дзеямі былых падапечных.

Ён размножыўся духам на неабходную колькасць выяў, якімі адначасова стаў прысутнічаць у наваствораных пластах, разам адчуваючы ўсе тамтэйшыя працэсы. Такой практыкай валодалі ўсе настаўнікі і раз-пораз прымянялі яе, каб кантраляваць і карэктаваць паводзіны адэптаў. Пры гэтым яны атрымлівалі нямала цікавага і для свайго педагагічнага ўзбагачэння, і для задавальнення ўласных амбіцый.

Альгерд жвава ўзварушыў-узбудзіў сябе і такім чынам пашырыўся ва ўспрыманні розных рэальнасцей. Але нешта замінала, адцягвала…

Хіба можна рабіць нешта здатнае, клапоцячыся пра баланс? Якім бы руплівым ні быў аўтар — не атрымаецца! Бо ён, баланс, — супакаенне, задаволенасць, марнаванне сіл. У ім не твораць. Раўнавага павінна быць толькі як этап, але ні ў якім разе не як працяглыя і нязменныя ўмовы. Інакш згасае барацьба — адзін з асноўных складнікаў свядомай дзейнасці.

Чаго дасягнулі тыя, хто натужваўся дзеля цішы ды роўнядзі? Аднаго — энергетычнай знясіленасці і падманлівай улагоджанасці…

Куды яго так нясе? Чаму ён гэтак усхадзіўся?

Альгерд страсянуў сябе — і ўбачыў прычыну.

Зноў Ібаоф разгуляўся! Колькі можна! Што яго на гэты раз падштурхнула? Навошта яшчэ адна заслона? Няўжо існуе столькі пагроз? І ад каго? Як зменіцца брамфатура?

Тое, што пераўтварэнні крануць усіх, безумоўна. Толькі не кожны гэта заўважыць і зразумее. А калі да каго і дойдзе — дык як бясспрэчная мэтазгоднасць. Галоўнае, усе нацерпяцца і адгоджваць будуць нават не ведаючы, за што.

Падобная вольнасць за кошт іншых ніколі не падабалася Альгерду, хоць Ібаоф такія ўчынкі заўсёды тлумачыў як праявы вышэйшае мудрасці.

Альгерд назіраў за спадкаемцамі і пераконваўся, што тыя асаблівых змен не прыкмецілі і па-ранейшаму захоплена, натхнёна рабілі сваю справу.

Іхнія фантазіі ўражвалі — і міжволі набягала думка, што ў іншых умовах, не матэрыяльных, а больш высокіх, яны б рэалізаваліся ярчэй і цікавей.

Многія, як і трэба было, за аснову ўзялі практыку чалавекабудаўніцтва і багата дапаўнялі яе сваімі арыгінальнымі ўяўленнямі. Іншыя кіраваліся толькі ўласнымі меркаваннямі і ніякіх парад не ўспрымалі. Былі і такія, хто наогул не жадаў альбо не мог будаваць і жыў толькі сабою.

Ніхто стасункаў не цураўся, і ўсе пласты былі адкрытыя для шырокіх зносін. Але дзе-нідзе прыкмячаліся міжпластовыя сцені, якія — выпадкова ці наўмысна? — скажалі ўспрыманне рэальнасці і, як заўважыў Альгерд, сярод насельнікаў запачаткоўвалі абачлівасць і падазронасць.

Энергетычная насычанасць пластоў была рознай і, пераважна, эквівалентнай здольнасцям валадара. Гаварыць пра нейкую аддачу пакуль было рана, бо яны яшчэ знаходзіліся ў стадыі спажывання агульных рэсурсаў, толькі распраўлялі крылы і смялелі ў першых палётах, хоць некаторыя прыкметна выбіваліся з агульнае масы і ўжо маглі сваімі вынікамі папаўняць энергетычную скарбонку брамфатуры.

Так склалася, што настаўнікі ўспрымалі сваіх выхаванцаў больш як уяўных істот, чым **матэматычную наменклатуру**, якая літаральна **царавала** ў Космасе. Лікі, якімі былі пазначаны ўсе стварэнні і з'явы, скарыстоўваліся імі менш, хоць Ібаоф заўсёды падкрэсліваў важнасць першапачатковай алічбоўкі — менавіта па ёй можна было вызначыць сутнасць і месца кожнага ў Сусвеце. Самі носьбіты да пары не ведалі сваіх нумароў, верылі ў іх сакральную сілу, ключом ад якой распараджалася адна найвышэйшая каста канкрэтнага разрада. Тайна строга захоўвалася, адкрывалася ўладальніку толькі з дазволу іерафантаў і то пасля таго, як той дасягаў найвышэйшага ўзроўню пасвячэння.

Наогул, лічбы сведчылі пра ўпарадкаванасць, стройнасць, зададзенасць Космасу. Яны ўвасаблялі Адзіны Закон, Невычэрпныя Веды, Велічную Бясконцасць. Па-за імі не існавала нічога.

Кожны лік быў значным, сістэмным, мэтазгодным і ўплываў на ўвесь Сусвет.

Пра такую высокую рацыянальную абумоўленасць адэптаў Альгерд імкнуўся не думаць, маючы перад сабой іхнія канкрэтныя матэрыяльныя здабыткі, якія, дарэчы, былі паэтапнай распрацоўкай лічбавых планаў зямной брамфатуры.

Ён адцеміў, што пачатак для ўсіх стаўся шчырым, натхнёным, захапляльным.

Прынцып жыцця трывала ўкараніўся ва ўсіх пластах. Іх краявіды адрозніваліся адметным ландшафтам, багатай расліннасцю, маляўнічасцю, прыгажосцю. У большасці сярод навізны гучалі матывы даўніны, былой радзімы: дух мінуўшчыны даастатку не выветраў з маладых сэрцаў і адразу паказаў сябе, ледзь агрубіўшы іхнія высокія і чыстыя галасы.

Але гэта было мізэрным у параўнанні з тым ценем, які навёў сам Ібаоф на ўсё сваё Тварэнне якраз тады, калі толькі пачыналася рассяленне душ: змены кранулі ўсю свядомую і рухавую жыўнасць нават на генетычным узроўні.

Альгерд не ўхваляў такія метамарфозы, бо прадбачыў горкія наступствы, якія будуць цягнуцца аж да скону вякоў. Ніколі не быўшы лісліўцам, ён хацеў адкрыта выказаць свае думкі, але, ведаючы парадкі і натуру валадара брамфатуры, вырашыў зрабіць гэта пасля, як толькі надарыцца зручны момант. Ментальныя пасылы некаторых калег, якія таксама аглядалі новыя землі і клапаталі пра свае інтарэсы, сведчылі аб падтрымцы ягонай пазіцыі.

А неафіты праменілі ўзнёслыя надзеі і веру ў лепшае, бо не ведалі пра турботы свайго настаўніка дый увогуле пра амбарас вакол сябе.

Гэты стваральны настрой прыцягваў Альгерда і лучыў усіх разам.

Як бы там ні было, а новая генерацыя належным чынам выканала першаразрадную задачу, пашырыўшы агульную сферу рэінкарнацыі: у свежыя пласты бурнай плынню лінулі душы.

Адразу радаваліся ўсе: гаспадары таму, што рэалізуюцца іхнія планы, а нававароджаныя — магчымасцям далейшага росту. Але з цягам часу эйфарыя прайшла. Прычына была банальная — інтарэсы. Калі першыя турбаваліся пераважна пра суладдзе сваіх пластоў і належныя ўмовы для развіцця душ пэўнага складу, дык другія былі абыякавымі да агульнага парадку і, насуперак чаканням творцаў, ледзь не ўсе млелі ад жадання атрымаць лепшае, пераважна незаслужанае, фізічнае цела. Усё гэта спараджала кармічныя ўзрушэнні, усялякія неспадзяванкі і дзівацтвы.

Міжволі Альгерд убачыў паралель гэтаму ў працэсах, што адбываліся падчас велічных першасных увасабленняў манадаў: такая ж нястрымная гульня розуму і неспатольная прага жыцця, гэткія ж чароўныя метамарфозы і салодкія адчуванні… Толькі тады было прасцей: усе дух-манады з’яўляліся аднакімі, цнатлівымі і роўнымі па энергетычным напаўненні і падалі ў выяўленае асяроддзе, дзе давядзецца, без разбору, бо наперадзе была толькі неруш і **выбар** яшчэ не існаваў: ён нарадзіўся, як толькі яны адчулі першы дотык пераўтварэння.

А цяпер Сусвет мільгацеў ды ззяў незлічонымі варыянтамі жыцця — і ніхто не мог цалкам уявіць гэты цуд!

Душы, якіх выбралі адэпты, тое не хвалявала. У чарговы раз прайшоўшы цераз жарало Матэрыі і атрымаўшы неабходны дар, яны адчувалі сябе самадастатковымі і паўнавартаснымі насельнікамі новых пластоў — людзьмі. Дазнанне мінулых увасабленняў, з якога былі вытканы іхнія фізічныя целы і свядомасць, дапамагала прыстасоўвацца і абжывацца, фарміраваць адпаведны светапогляд. Памяць карэктавала паводзіны, умацоўвала інстынкт самазахавання. Як і заўсёды, клопат пра сябе пераважаў над усім астатнім. І нічым яго нельга было выпаліць, бо ён вынікаў з непарушнага касмічнага прынцыпу індывідуалізацыі. Нават перад Пасадам БОГА, калі ўжо пройдзены ўвесь шлях выпрабаванняў і засталося толькі зірнуць ЯМУ ў Вочы, іерафант трапятаў з думкай пра свой скон.

Творцы перыядычна расцякаліся сутнасцю па сваіх абшарах і абрашалі ўласнай энергетыкай кожную раслінку, кузурку, жывёлінку, умацоўваючы іх і трымаючы ў неабходнай форме ды выглядзе. Людзям надавалі асаблівую ўвагу з улікам іхніх разумовых мажлівасцей.

Альгерд заўважаў як глабальныя, так і ледзь прыкметныя асаблівасці развіцця кожнага пласта: адны яго радавалі, другія — засмучалі, трэція — выклікалі абыякавасць.

**34**

З прыязнасцю ён успрымаў творчыя пошукі Кастуся, нягледзячы на тое, што знаходзіў у іх некаторыя водзыўкі чалавечай памяркоўнасці і талерантнасці, якія калісь так шчодра буялі ў Ліцвініі: малады бог удала адлюстраваў гэтыя рэмінісцэнцыі.

У цэлым ягоны свет праменіў токі своеасаблівага напружання, хуткасці і каларыту, быў суладным, утульным, прыцягальным.

Даўно прамінуў той час, калі Кастусь, сабраўшыся ў адным фізічным целе і набыўшы выгляд усемагутнага ўладара, сустракаў першых жыхароў свайго пласта, якія па чарзе вынікалі з Нулявой Сферы Быцця, разгубленыя, узрушаныя, агаломшаныя. Ён паліваў іх уласнай энергетыкай, чым адзначаў сваю пажыццёвую ўладу над імі і іхнія асаблівасці, з велічным задавальненнем назіраў, як яны нясмела, азіраючыся, ступалі ў новай выяве па ягонай зямлі.

Кастусь вырашыў не адбіраць у людзей памяць пра былыя ўвасабленні, затое ўклаў у іхнія галовы святы наказ:

«Я прымаю вас розных, разумных і свядомых, і даю вам шырокае права быць самім сабою. Чувайце і памятайце: над вамі заўсёды будзе справядлівая далонь КАРМЫ і мой імгненны меч».

Тады яны з удзячнасцю ўкленчылі перад ім і гучна ляснуў пярун, засведчыўшы важнасць першага паразумення. Увобміг на тым месцы аж да неба вырас агнявы стаўбур, які цераз хвілю ператварыўся ў каменны.

Цяпер тут была процьма камянёў, валуноў і дзічакоў, свежых і зацвілых, наземных і патаеняў. Не мінала і хвіліны, каб нібыта па чараўніцтве, з паветра не вынікаў новы камень. Альгерд ведаў: калі ўкульміцца і паназіраць за мясцовасцю, то можна заўважыць пракудны фізічны рух камянёў, іхняе апрычанне альбо, наадварот, групаванне, утварэнне вялікіх і малых крушняў, нават гор, адчуць плынь асаблівай энергіі — той, якая давала поўнае тлумачэнне гэтай відалі.

Яе сутнасць складалася з таго, што камяні — гэта пераўтвораныя людзі, якія здолелі апраўдаць давер уладара пласта і ад глыбокага ўсведамлення ўсіх ІДЭЙ і ідэй, ускладзеных на іхнія плечы за доўгае метаіснаванне, энергетычна ўзмужнелі, самааддана зракліся свету ды згадзіліся прадоўжыць сваё жыццё ў новай, амаль недатыкальнай выяве, такім чынам захаваўшы сябе для будучых змаганняў на баку Кастуся. Яны былі featureрознага ўзроўню развіцця, некаторыя нават з негатывам, але ўсе спадзяваліся, што верным служэннем Кастусю, актыўным удзелам у ягоных справах змогуць скараціць свой шлях рэінкарнацыі. А Кастусь, узважваючы кармічныя наступствы насельнікаў, кажначасна прымяняў свой імгненны меч і выдаляў душы на запаветнае поле — судны лан, цэнтрам якога быў каменны стаўбур. Клапоцячыся пра вольныя парадкі і традыцыі пласта, малады бог нікому з жывых не забараняў наведваць поле і пакінуў браму замсты адчыненай. Цераз яе безупынна цякла рака людзей, якія звярталіся да валуноў — хто як да родных і блізкіх са слязьмі смутку альбо радасці, а хто як да маўклівых дарадчыкаў і крыніцы энергетычнага наталення.

Альгерд наважыўся перамовіцца з Кастусём, але, убачыўшы ягоных гасцей, вырашыў не перашкаджаць ім і памкнуўся далей.

**35**

І адразу яго прыцягнуў свет Генрыха.

Гаспадар, няўрымслівы і апантаны, ні на хвіліну не спыняўся, шугаў-палымнеў на ўвесь прастор і літаральна бамбаваў ідэямі свой край. Альгерду імпанавала такая актыўнасць: нічога падобнага ў іншых ён пакуль не знаходзіў. Генрых раней за ўсіх зразумеў **мэту і сваю задачу** — але менавіта гэта і турбавала настаўніка: глыбокі розум вучня мог наварочаць неймавернае ды збочыць з кірунку ў любы момант.

Тактыку Генрых абраў уражлівую — адчыніў дзверы ў свой пласт для кожнага, хто пажадае. Рынулі ўсе. Шлях са Сфераў Быцця да ягонага свету стаў самым запатрабаваным, запрудзіўся цалкам і пахадзіў на вялізную бурлівую раку, дзе душы нesліся з неверагоднай хуткасцю, бяздумна, не зважаючы ні на што, сутыкаючыся і наносячы адна адной раны, якія таксама неабходна было кармічна лячыць. Іх не стрымлівала нават тое, што гаспадар стварыў вельмі жорсткія ўмовы — даў параўнальна кароткае і бурнае жыццё: чым мацней яно іх вымотвала, тым лепей адпавядала ягоным задумам і разлікам.

Кунпаны спярша дзівавалі, а потым, калі даўмеліся і знайшлі ў такіх планах пагрозу сваім інтарэсам, — абурыліся.

Адпаведная хваля ўзбудзіла эфір і кранула Генрыха, на што ён адрэагаваў з’едліва-калючай ухмылкай і кепікамі накшталт: «Тады пабачым, як заплачам», ці «Тое яшчэ будзе».

Лішні раз адчуўшы цвёрды нораў сябра, некаторыя адэпты вырашылі нейкім чынам паўздзейнічаць на яго і ўжо мыслявалі над супольнымі санкцыямі, як нечакана прыляцела свежая вестка: Генрых, натхнёны першымі вынікамі свайго рабення і апантанасцю душ, наважыўся ўзмацніць **шчыльнасць умоў інкарнацыі** і ўжо рыхтаваўся да адпаведнай сустрэчы з Матэрыяй.

«ІДЭІ заскачуць ад такога рашэння», — бліснуў ён думкаю і тым страсянуў наваколле.

Барацьбіт па натуры, Альгерд зразумеў свайго выхаванца і пажадаў яму поспехаў.

**36**

Наогул, разумовае скалынанне ў Сусвеце — з’ява нярэдкая, чыста аўтарская і звычайна ахоплівае толькі тых, хто аднолькава вібруе, таму многімі альбо не заўважаецца, альбо ігнаруецца, але пры адпаведным настроі яе можа ўлавіць кожны.

Так, Альгерд, дзейнічаючы ў межах шырокай прыёмнай шкалы, чуйна адрэагаваў на сігналы, што ішлі ад Андрэя.

Гэты юнак здзіўляў яго адпачатку. Няўрымслівы і бунтоўны, ён лез на ражон, адчайна шукаў узорны, непратораны шлях, часам насуперак відавочнай логіцы. У выніку шмат памыляўся, выбіваўся з каляіны, энергетычна знясільваў, хоць і меў вартыя якасці. Вакол яго заўсёды кружылі флюіды ўпартасці, амбітнасці, дзёрзкасці. Настаўнік неяк нацэліўся яму дапамагчы, але тут жа адчуў уладны пасыл Ібаофа:

«Не чапай! Кожны свайго розуму пробуе».

Было вядома: дырэктар кантраляваў свае ўладанні, але да ўзроўню неафітаў апускаўся зрэдку, дый то выбарачна. Альгерд, крыху здзівіўшыся, падумаў, што гэты выпадак мог быць менавіта такім.

Андрэй доўга і ўнікліва прыглядаўся да душ, старанна ацэньваў розныя варыянты ўвасаблення, а калі ўрэшце спыніўся на прыдатным, то ўсё адно надзівачыў, адмовіўшыся ад належных кантактаў з Матэрыяй.

Ён прыдумаў мадэль, простую і жорсткую, прычым ніякага алгарытму не складаў і над парадкам асабліва не чараваў. Паводле яго замыслаў, усё павінна развівацца самацёкам. З усіх прынцыпаў жыцця ён пакінуў толькі адзін — барацьбу, дый то без неабходнага ў такіх выпадках ідэйнага суправаджэння. Упершыню не ўлічваўся кармічны цяжар увасабленцаў, не ажыццяўлялася іх градацыя, адбор і лучэнне па грамадскіх, сацыяльных, псіхалагічных і іншых прыкметах. Пласт Андрэя нагадваў занядбаны і недагледжаны агарод, дзе ўсё было кінута на волю лёсу і расло ўперамешку, змагаючыся за выжыванне.

Творца паклаў падмуркам свайго свету былую квінтэсэнцыю навасельцаў, іх розум і досвед, наўмысна нічога не дадаўшы асабістага, каб без лішніх ўбораў і ўмоў убачыць рэальныя патэнцыі кожнага. Ён разлічваў, што, спадзеючыся толькі на сябе, людзі стануць ходацца між сабою да апошняга і разаўюць менавіта такія якасці, якія патрэбны для далейшага будаўніцтва. Безумоўна, будуць страты і ахвяры, затое ў выніку застануцца самыя цягавітыя, мужныя, выняткoвыя, тыя, каму Андрэй смела даручыць несці ўжо **свае ідэі**.

Настаўнік прыкмеціў унутраную, глыбока затоеную весялосць вучня, калі той у прадчуванні велічнай будучыні лёгка і рашуча крочыў па цаліку, шматкроць узвышаючыся над сваімі падданымі і без шкадавання збіваючы, як ранішнюю расу, іхнія галовы. А яны, дробныя, саступалі, дзе паспявалі, яму месца, з захапленнем глядзелі ўверх, выразна бачачы толькі ягоную мантыю, і адчувалі, як у душы пасяляецца яшчэ адзін страх.

Альгерд раптам схамянуўся ад нявартае думкі пра цяжкі фатум недасканалага духу і адразу ж вырашыў пазбыцца яе. Ён зірнуў на Сонца, убачыў яго залатую глыбіню і мітусенне гарачых промняў. Свядомасць прыняла ачышчальнае святло і вярнулася ў ранейшае рэчышча.

«Ну, цяпер самы час завітаць да Жака», — з палёгкай і надзеяй уздыхнуў Альгерд.

**37**

Гэты крут ніколі не быў згодным, але заўсёды — адкрытым і дасяжным. Лёсіла ды спрыяла яму на кожным кроку — і ўсё ад таго, сцвярджала пагалоска, што ён своечасова і ўдала ўвасобіў у сваіх уладаннях ЛЮБОЎ, а калі адчуў і зразумеў яе вялікую жыватворную сілу, то — і любоў. Менавіта разнастайнасць і багацце апошняй прыцягвала да яго пласта згаладалых і сасмаглых не толькі зямной, але і суседніх брамфатураў, ды рабіла Жака папулярным.

Паважаючы Агульную Метадалогію, якою абавязаны былі кіравацца творцы, Альгерд за канкрэтным здабыткам бачыў у першую чаргу майстра, ягоны талент і высілкі. З ЛЮБОЎЮ працавалі многія, але толькі ў Жака атрымалася ўзняць ЯЕ і яе аж да самых вышынь і асабліва ёй надаць небывалы размах. Настаўнікі ганарыліся сваім выхаванцам і, падкрэсліваючы ягоную значнасць, часам, жартавалі: «Мы без

Жака, што возера без рака». Альгерд ведаў, якою кунегаю для бальшыні з іх зрабіўся свет маладога гарэзы, і вырашыў таксама паспытаць яе з нагоды.

Ён нырнуў у вабны і цнатлівы блакіт, якім быў ахутаны пласт, — і адразу адчуў зачысную дрыготу ва ўсім істве. Так прырода сканавала наведвальнікаў Жака: яны і трапяталі, і калаціліся, і курчыліся… Адных гэта радавала, іншых — засмучала. Хтосьці жадаў паўтору і нават шматразовага, нехта — ні ў якім разе! Былі такія, хто, добра ведаючы асаблівасці абстаноўкі ды перачуўшы пра ўсялякія выпадкі, увогуле цураліся і абміналі свет Жака, і хто, наадварот, — дужа прагнулі яго, але ніяк не маглі туды трапіць.

— А, гэта спадар настаўнік! Шалом! — захоплена выклікнуў Жак.

— Дабрыдзень! — усміхнуўся Альгерд. — Не своечасова?

— Калі ласка. Проста толькі што я падумаў: мабыць, дужа таленавіты і жаданы госць завітаў да мяне, што яго так лагодна прымае мая атмасфера, — і адразу выйшаў насустрач.

— І што — спадзяванні спраўдзіліся?

— З лішкам. Я вельмі рады вашэцю. Самі зірніце, як мы сустракаем.

Жак велічна павёў правіцаю — і наваколле ўраз змянілася.

Калейдаскопам загуляла атмасфера, мілагучна затрымцеў эфір, весялосцю ўспыхнулі насельнікі. Альгерд і Жак зрабіліся цэнтрам прыгожага і захапляльнага дзейства: усё круцілася вакол іх ды з нарастальнай хуткасцю.

— Чаго вашэць пажадае: любацення, непрыемнасці, абыякавасці?..

— Гэтага я за сваё жыццё накаштаваўся ўдосталь. Няхай спрабуюць яны, — і настаўнік паказаў вачыма на людзей, якія да самазабыцця палымнелі рознымі эмоцыямі на ўсім абшары перад імі.

Жак таксама змяніў свой погляд, нейкае імгненне любаваўся відовішчам і, усцешаны, вярнуўся да размовы.

— Як хочаце, паважаны Альгерд! Хоць, мушу адцеміць, што вашэць дасюль магла зведаць усяго, акрамя майго, бо ў мяне ўпершыню. Але не настойваю. Значыць, чагосьці адмысловага, эксклюзіўнага?

— Ты — сапраўдны чарадзей, можаш захапіць каго заўгодна. Так, жадаю супакою.

## 38

Настаўніцтва — ахвярны шлях, на які здольны нямногія. Працей займець уласны свет і валадарыць, чым прысвяціць сябе служэнню і пастаяннай аддачы, знаходзячы ўцеху, галоўным чынам, у вучнях. Затое толькі настаўніку вядома дзіўнае пачуццё сваёй прысутнасці ў іншых — дадатковая жывадзейная і натхняльная сіла ў рэалізацыі і ўзбагачэнні высокіх ведаў.

Дзякуючы менавіта гэтаму адчуванню, Альгерд лепш разумеў учынкі сваіх выхаванцаў і спрыяў ім нават тады, калі не падзяляў іхнія меркаванні, як тое адбывалася ў дачыненні да Ахмада.

Гарачы і выбухны тэмперамент нававога выклікаў неадназначную рэакцыю атачэння, але, бясспрэчна, быў рухаючай сілай ягонага рабення, дапамагаў яму хутка і лёгка здзяйсняць самыя неверагодныя замыслы. Альгерд ва ўсім гэтым бачыў не толькі характар Ахмада, але і прысутнасць чагосьці пабочнага, што пакуль не паддавалася вызначэнню — такой асаблівасцю звычайна валодалі праявы вышэйшых сфер альбо іншасці.

Бадзёры і задаволены пасля магіі Жака, Альгерд вырашыў на гэты раз прапусціць міма ўсе незразумелыя струмені Ахмада і глыбей адчуць рэальнасць яго свету.

А яна была, як заўсёды, уражлівай і нагадвала пракаветныя зямныя пласты.

— Настаўніка зноў засмучаюць мае варыяцыі? — неспадзеўкі ў прасторы прагучаў грамавіты голас Ахмада.

Альгерд здрыгануўся і адразу заўважыў, як з дружынаю знакамітасцей, узвышаючыся над усімі іззяючы ад сваёй велічы, велягуруста крочыў да яго гаспадар.

— Яны па-ранейшаму ўзбуджаюць інтарэс, — лагодна адказаў госць і хуценька выдаліў з эфіру аблачынкі сваёй ніякаватасці.

— Безумоўна! Дзе яшчэ можна знайсці такі прытулак для геніяў? — ганарліва вымавіў Ахмад і чароўным позіркам узбудзіў сярод падданых хвалю захаплення.

Тыя на ўсе лады запелі яму хвалу, спараджаючы неверагодную какафонію, ад якой Альгерд паморшчыўся, а ён, задаволены і фанабэрысты, утрапёна працягваў блазаваць:

— Багаццем розуму славіцца мой свет! Я яго збіраю па ўсёй нашай брамфатуры, не зважаючы ні на якія этычныя асаблівасці, адрозненні, супярэчнасці, перашкоды. Носьбітам клёку — вучоным, мыслярам, творцам, даследчыкам, вынаходцам і многім іншым здольным стварэнням — я не прад'яўляю ніякіх патрабаванняў, акрамя наяўнасці таленту, і бяру іх такімі, якімі яны былі ў апошнім увасабленні, без змяненняў, чым любяць захапляцца мае сябрукі. Я не надзяваю на іх ярмо кармы, каб розум не занядужаў ад цяжару, не турбую залішнімі клопатамі, каб не адцягваць ад галоўнай мэты — асветы майго гістарычнага народу. Зірні, Альгерд, якія выбітныя асобы вакол мяне!

Настаўнік тое прыкмеціў адразу і пра сябе нават здзівіўся. Беглым поглядам ён выхапіў з натоўпу толькі некаторых, якія сваімі справамі ўзвышалі зямныя нацыі і паскаралі гістарычнае развіццё чалавецтва многіх пластоў. Сярод іх былі ўзятыя і з нябыту, і з рэальнага быцця — як гэта адбывалася, можна было толькі здагадвацца.

Ахмад злавіў напрамак думак Альгерда, усміхнуўся і напорыста рушыў далей:

— Як сапраўдныя геніі, усе яны — бажавольнікі, таму нікому не саступяць у сваіх памкненнях, за гэта я іх люблю яшчэ больш. А каб не было бойкі і разні, я зрабіў свет кожнага замкнёным: у сваёй шкарлупіне ім пачуваецца бяспечней дый творчасці ніхто не перашкаджае — а гэта галоўнае. Яны толькі вонкава здаюцца грамадой, задзіночаннем, а насамрэч — адасобленыя ды бесконтактныя асобіны — і менавіта такімі ўспрымаюць адно аднаго. Іх яднае толькі адно — мая воля: што я загадаю, тое яны і зробяць. Унутранае жыццё гэтых светачаў мой народ не цікавіць. Яму патрэбны толькі іхнія мазгі, якія могуць ствараць новыя рэальнасці. Вашэць жадае ведаць, дзе мой народ, чаму не са мной?

Альгерд не без цікавасці слухаў вучня, імкнучыся маскаваць свае думкі і змяшчаць іх у недасяжным для яго полі, і кіўком галавы пацвердзіў сваё жаданне. Ахмад перапыніў тыраду, загадкава паглядзеў на настаўніка і, адвёўшы вочы ўдалеч, мовіў:

— Яе вялікасць Матэрыя неяк падчас стваральнай оргіі пацікавілася: «Якім чынам ты будзеш уводзіць у свой свет людзей?» Я здзівіўся такому, здавалася б, недарэчнаму пытанню і адразу адказаў: «Як і ўсе, звыклым», але адмовіўся, бо імгненна адчуў яе глыбокую і невыказную скруху, спароджаную і аднастайнасцю, і веданнем іншасці, і немагчымасцю штосьці змяніць. Стомленае сэрца Матэрыі

жадала творчай навізны і шчыра пульсавала спавядальнымі токамі. Неаднаразова спазнаўшы яе жарсць і любошчы, я не мог паступіцца нашымі пачуццямі і вырашыў зрабіць інакш, не так, як да мяне.

— Таленавітае рашэнне, вартае адзнакі, — адцеміў Альгерд.

— Дзякуй, настаўнік. Вашэць, несумненна, ведае пра мае справы, але я ўсё адно патлумачу сваю пазіцыю, каб у інфармацыйнай прасторы ўзмацніць яе значнасць. Па шчырасці, мне гэта было зрабіць лягчэй, чым іншым.

— ?

— Не сакрэт, што я трызню сваёй апошняй радзімай і жадаю ашчаслівіць былых суайчыннікаў. Браць іх сюды — задача дужа складаная і не ад аднаго мяне залежыць: каму, як не вашэцю, добра вядома, што б адбылося, калі б я адным рыўком, на вачох у іншых нацый, перакінуў усіх з той рэальнасці, дзе яны існуюць зараз, у маю?

— Так, прыклады былі. Апошні — з народам майя.

— Тады багі хадзілі па Зямлі і кіравалі людзьмі: любое іх рашэнне ўспрымалася звыкла, натуральна, да таго ж, развіццё народаў адбывалася большасцю ізаляцыйна, без шырокага абмену ведамі… Дык вось! Я не складаў алгарытмаў і не шнарыў па астральных сусветах у пошуках патрэбных душ, не майстраваў для іх целы, не лучыў іх у адзіны статак і не надзяваў шоры — гэта ўжо было зроблена. Я захаваў свой народ без змяненняў у тым пласце, адкуль выйшаў сам, накінуў толькі на яго сваю нябачную ўладную сетку, каб інфармацыйна і энергетычна замацаваць за сабой. Пакуль ні ён, ні хто іншы не адчувае гэтага, але з цягам часу перамены будуць відавочнымі. Як толькі служкі майго народу, — Ахмад паслаў вялікасную ўсмешку натоўпу, ад чаго той зноўку страпянуўся, завіраваў, заспяваў гімны, — запрацуюць галавой, пачнуць нараджаць ды ажыццяўляць ідэі, тады і пацякуць па касмічных каналах жывадзейныя сілы, абросяць кожнага майго чалавека, зменяць яго і выведуць наперад.

— Пагражаць тое нікому не будзе?

Ахмад з ухмылкай знаўцы крыху памаўчаў і адказаў пытаннем:

— Ці думаюць пра гэта зоркі, што імчаць па Сусвеце?

Альгерд зразумеў вучня і чамусьці ўспомніў, як выратаваў яго на пачатку вучобы.

***Працяг у наступным нумары***



*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

Пол Дж. УІЛІС

# ЯРКІЯ ПАРАСТКІ ВЕЧНАСЦІ



***Спадар Пол нарадзіўся і вырас у штаце Арыгон побач з чароўнымі Каскаднымі гарамі. З самага дзяцінства ён з братам пачаў пакараць першыя вяршыні, што стала крыніцай натхнення. Усе яго вершы, раманы, апавяданні і эсэ — гэта вандроўкі праз лясы і горы Амерыкі, скрозь час і чалавечыя пачуцці. Цікавымі параўнаннямі і незвычайнымі метафарамі ён пераносіць чытача ў «дзікую Нарнію». Пры гэтым працуе выкладчыкам англійскай мовы ў прыватным каледжы Вестмант. Надрукаваныя тут апавяданні ўзяты са зборніка прыгодніцкіх эсэ «Яркія парасткі вечнасці» (Bright Shoots of Everlastingness).***

## ДАЛІНА

***Чаму ты смутная, душа мая,***
***і чаго ты трывожышся ўва мне?***
Кніга Псальмаў 42:6

### НАТАТКІ ВАНДРОЎНІКА

***Дзень 1. Надвор'е і Уордсуорт***

Калі кроплі дажджу паступова пачалі амываць каньён, я шчыра пашкадаваў, што не ўзяў намёт. «Толькі падумай пра тое, якую вагу ты эканоміш, — кажу я сам сабе. — Толькі падумай пра тое, якім мокрым ты станеш, — адказваю я сам сабе».

Я паскорваю крокі па сцяжынцы, што вядзе мяне праз альховыя гаі, мінае схаваныя між узгоркаў невялічкія азёры і вадаспады ды прыводзіць да месца прывалу ў даліне ракі Манзана. Як і большасць кемпінгаў у дзікай мясцовасці Сан-Рафаэль, гэты меў толькі нешта падобнае на стол — досыць прывабнае месца, каб пасядзець і пачытаць, але не пад дажджом. Я раскручваю мяшок пад прыкрыццем смакоўніцы і хаваюся ў ім пад гукі грому. Прыйдзецца пакінуць томік Уордсуорта на потым.

Але ж я рады быць тут. З таго, што я прачытаў за абедам, адпачываючы ў кустах палыну, я прыгадваю, як Уордсуорт выхвальваў сваё вызваленне з «гарадскіх муроў», ад «цяжкай вагі многіх як адзін стомных дзён чужых», ад «цяжару *майго штучнага я*», калі ён вяртаецца ў Азёрны край, дзе правёў

сваё дзяцінства. Я не быў раней у Сан-Рафаэль, у гэтай дзікай горнай мясцовасці на цэнтральным узбярэжжы Каліфорніі, таму нельга казаць, што я *вярнуўся*. Але ж я рады вярнуцца на Заходняе ўзбярэжжа краіны пасля трох доўгіх гадоў у Нью-Ёрку. Я рады, што выкладаю ў горадзе Санта-Барбара. І ўпершыню пасля майго першага навучальнага года ў каледжы Вестмонт я адчуваю вызваленне ад цяжару *майго выкладчыцкага я* і радасць ад вяртання ў горы. Цягам усяго года я назіраў з кампуса за гэтымі дзікімі месцамі, і мне цікава даведацца, што хаваецца тут. Ад маёй адпраўной кропкі каля гары Фігуэруа я спадзяюся прайсці 70 міль[1] да ракі Санта-Інэз і вярнуцца *ажыўшым*. Такую вандроўку Уордсуорт назваў бы «прыемнае блуканне».

Хмары радзеюць з надыходам вечара, і я спускаюся да неглыбокага возера з вадаспадам. Назіраю, як фарэль хаваецца ад кропель дажджу ў загадкавай воднай глыбіні.

***Дзень 2. Пажаданні для лясной службы***

Ранкам я змагаюся з халоднымі вятрамі за вяршыню з вельмі трапнай назвай Ураганная Палуба. Перада мною ўздымаецца гара Сан-Рафаэль, якая дала імя ўсёй гэтай дзікай мясцовасці. Учарашні буран упрыгожыў яе вяршыню снегам, нібы цукровай пудрай. Дзіўнае пачуццё: пару дзён і міль таму я стаяў пад пякучым сонцам на ўручэнні дыпломаў у горадзе.

З вяршыні голага пясчаніку Палубы я гляджу ўніз на шырокія плыні ракі Сіскуок. Рака і натхняе, і пужае мяне. Не ўпэўнены, што хачу павандраваць там адзін. Па меры спуску я разумею, што не перабольшваю з ацэнкай сітуацыі. Страх, спёка і лаза атрутнага дуба — усё толькі нарастае. Не шмат хто выбіраў гэтую няходжаную сцежку. І я разумею чаму.

На беразе ракі (у гэты сухі год струмень даволі сціплы) знаходзіцца станцыя лясной службы, зараз закінутая. Ва ўліковай кнізе бачу папярэджанне пра тысячы кляшчоў і запісы пра нядаўна забітых паўтараметровых грымучых змеяў. У раздзеле «Пажаданні для лясной службы» запісана: «Калі ласка, дастаўце, нарэшце, больш доўгіх змей».

Уверх па рацэ я спыняюся ва ўтульным маленькім лагеры пасярод таполяў, лісце якіх танчыць высока ў вячэрнім паветры. Тры потныя коннікі праходзяць праз лагер. Яны сабраліся адсвяткаваць стагоддзе з дня заснавання іх альма-матар, школы Тэчэр. Яны ідуць уздоўж ракі ўжо цягам двух дзён і прайшлі трыццаць суворых міль. Тое, што я адзін і вандрую пешшу, падаецца ім вар’яцтвам.



***Дзень 3. Ратавацца ад змей ці баскетбалістаў?***

Грымучыя змеі. Шмат разоў мой шлях пралягае праз зарослыя берагі ракі Сіскуок. Перад кожным сваім крокам я правяраў зямлю. І вось перада мною прапаўзае вялікая змяя — на ўзроўні маіх вачэй.

Так. Згодны. У мяне фобія. Мяне не клапоцяць мядзведзі, нягледзячы на тое, што на станцыі папярэджвалі аб з’яўленні каля ракі. Я не баюся заблукаць ці сустрэць таго самага Ізгоя[2] Флэнэры О’Конар.

[1] Прыкладна 113 км *(тут і далей — каментарыі перакладчыка).*

[2] Адмоўны персанаж з апавядання «Добрага чалавека цяжка знайсці» (1953).



Вышыня не пужае мяне: мае любімыя часткі на гэтым шляху — вузкія выступы на сценах каньёна. Але пакажыце мне змяю, нават «добрую», — і я збялею.

Што б сказаў Фройд? (Насамрэч, не хачу ведаць.) Чым спакусілася Ева? (Няхай Фройд адказвае.) Я толькі ведаю, што ад гэтага бязрукага і бязногага слізкага вітка вяроўкі мяне вароціць. А калі ў мяне з'яўляюцца думкі пра клыкі, атруту і павольную, поўную болю, адзінокую смерць, то такія жахі амаль пераконваюць мяне ў тым, што лепш было б застацца дома і глядзець гульні баскетбольнай каманды Лейкерз з маімі бессаромна нуднымі калегамі.

Але ж толькі «амаль». Пад вечар я адыходжу ад ракі і мінаю некалькі вадаспадаў, што спакойна існуюць у атачэнні старых гігантаў, імя якім Елка, Хвоя, Кедр і Піхта. Спыняюся ў невялічкім гаі каля травяністага луга і халоднага імшарыстага ручая. Я гляджу, як вечаровае сонца купаецца ў даліне пада мной, і паўтараю, як мантру, цудоўныя словы Уордсуорта, якія ён бяздумна патраціў на Лондан — «Зямля не можа з'явіць нешта больш чароўнае».

***Дзень 4. Жанчына з гісторыяй***

Я падымаюся вышэй праз неверагодна высокія дрэвы да іншага ручая. І да старой пліты, зробленай з цэменту і жалеза. На пліце выбіта дата — 4 чэрвеня 1939 года. Побач — пяць імёнаў, але толькі адно захавалася цалкам. (Я запісваю імя па памяці. Мэры Хатчынсан. Але магчыма я памыляюся. Мэры Хатчінсан — імя жонкі Уільяма Уордсуорта, і гэта было б проста нерэальным супадзеннем.)

Пакуль прабіраюся ўверх па ўпрыгожанай залатымі лісткамі сцежцы праз стромкія дубовыя лясы, я думаю пра яе. Я ўяўляю яе маладой і бесклапотнай. Нягледзячы на Вялікаю Дэпрэсію і хуткі пачатак жудаснай вайны, яна атрымлівае асалоду ад гэтай поўнай свабоды ў гарах. Пакуль я ўздымаюся на гару Біг-Пайн, мне пачынае здавацца, што няма нічога больш верагоднага за нашу сустрэчу на вяршыні, дзе яна ўжо спакойна адпачывае і чакае мяне са шчаслівай і хітрай усмешкай на твары.

Сустракаю я аднак толькі рэшткі снегу і від на хрэбет Мішен-Пайн, што хаваецца ў пярыну з аблокаў. Спускаюся да ракі і знаходжу прытулак каля вогнішча ціхага ірландца, з якім пазнаёміўся яшчэ напачатку свайго падарожжа. Эд — бяздомны каталік, які жыве каля горада Санта-Барбара і наведвае набажэнствы кожную раніцу. Два дні ён ехаў сюды аўтаспынам. На сняданак і вячэру ў яго толькі аўсянка. Калі ён даведаўся, што я з каледжа Вестмант, ён з вялікай удзячнасцю пачаў апісваць, як аднойчы група з Вестманта яму вельмі дапамагла. У апісанні таго, хто дапамог, я пазнаю свайго брата Дэйва.

Туман неўзабаве ахутвае вечар, і, як толькі Эд хаваецца ў свай намёт, на небасхіле з'яўляецца яркі паўмесяц. Пада мной дрэвы купаюцца ў акіяне зор і аблокаў.

***Дзень 5. Бяздомнасць і старажытнасць***

Сёння нядзеля, і Эд пытае, ці можам мы разам пачытаць Пісанне ды памаліцца. Яго просьба не была для мяне дзіўнай, нягледзячы на тое, што мы ледзь знаёмыя. Ён выбірае верш з Евангелля паводле Яна з пятнаццатага раздзела, «Каб вы любілі адзін аднаго»[1], а я — восьмую псальму, «Госпадзе, Госпад наш, якое ж дзівоснае імя Тваё па ўсёй зямлі»[2].

Пасля малітвы Эд расказвае пра сваё бяздомнае жыццё. Часам ён думае, што гэта воля Госпада, своеасаблівае пакліканне і служэнне. Ісус быў бяздомны: «Лісы маюць норы, і птушкі нябесныя — гнёзды, а Сын Чалавечы не мае, дзе б галаву прытуліць»[3]. Гэтаксама і Ягоныя бацькі ў Бэтлееме. Госпад забяспечвае патрэбным. Мне цікава, вера гэта ці спроба самаапраўдання, але я не магу судзіць. Адзінае можна сцвярджаць дакладна: Эд адмаўляецца весці гаворку пра пошук працы.

Амаль увесь дзень я блукаю ў тумане па схілах хрыбта Мішен-Пайн. Такую назву[4] хрыбет атрымаў напрыканцы XVIII стагоддзя, калі каталіцкія святары пачалі выкарыстоўваць мясцовыя сосны для сваёй місіянерская працы. Мне цяжка ўявіць, як яны цягнулі гэтыя бярвёны праз мілі калючага хмызняку, каб даставіць іх на ўзбярэжжа. У другой палове дня знаходжу свежыя мядзведзевы сляды. Раптоўна для самога сябе пачынаю ціха спяваць і пасвістваць, асабліва гэта дапамагае на рэзкіх пад'ёмах і крутых паваротах. З туману выплываюць пясчанікі дзівосных форм. Мне падаецца, што я ўжо вандрую па іншай планеце.

Упершыню за апошнія адзінаццаць міль я сустракаю крыніцу. У атачэнні цукровых соснаў і вечназялёных дубоў мне ўтульна і крыху дзіўнавата. Вытаптаная зямля і выгладжаныя каменныя лаўкі кажуць пра шматгадовае служэнне крыніцы. Захутаўшыся ў свой спальны мяшок, я слухаю, як цячэ вадзяны струменьчык. Думаю пра каталіцкіх місіянераў і пра народ Чумашы, што быў яшчэ да іх. Кажуць, што гэты народ цягам васьмі тысяч год жыў на мысе Рынкан, які зусім побач з маім домам. Ці можам мы казаць, пра старажытнасць нашага пражывання тут?

***Дзень 6. Нечаканая глыбіня сувязі***

Сёння — пад'ём на гару Сан-Рафаэль, найвышэйшую кропку. Ранкам я гляджу на яркую пярыну з аблокаў, што засцілае ўсю прастору да Ціхага акіяна. Аблокі то падымаюцца разам са мной, то спускаюцца зверху. На вяршыні адчуваю сябе начыннем для агромністага сэндвіча з аблокаў. Ва ўліковай кнізе на станцыі пісалі, што з вяршыні можна пабачыць выспы Чанэл і горы Сьера-Невада. Замест такіх відаў — завеса з туману і сцэна з аблокаў. Раптоўна пачынаецца дождж, і я збягаю ўніз, каб схавацца за вялікім каменем.

---

[1] Евангелле паводле Яна 15:12 (пераклад У. Чарняўскага).

[2] Кніга Псальмаў 8:2.

[3] Евангелле паводле Лукі 9:58.

[4] Mission Pine Ridge — літаральна перакладаецца як «сасновая місія».



Сёння, як і кожны дзень маёй вандроўкі, я чытаю «Прэлюдыю» Уордсуорта. Я ніколі не бачыў Азёрны край, і тым больш ніколі не пабачу ягоныя абрысы XIX стагоддзя. Уордсуорт ніколі не бачыў горы Каліфорніі, ні ў свой час, ні, тым больш, у мой. Але вандруючы ў гарах і па яго творах адначасова, я нібы праходжу па яго мясцінах і па яго стагоддзі. На атуленай аблокамі вяршыні я маю такі самы від шчасця, што і Уордсуорт на вяршыні гары Сноўдан. Мае стасункі з тым бяздомным каталікам такія ж, як стасункі Уордсуорта са збіральнікам п’явак, салдатам у адстаўцы і з мірыядамі іншых валацуг яго часу. Насамрэч, сама ідэя такой вандроўкі праз дзікія мясціны ў поўнай адзіноце і поўным засяроджанні на прыродзе ўзнікае менавіта ў Уордсуорта. Калі я *гляджу* сваімі вачыма, то *бачу* ягонымі.

***Дзень 7. Мядзведзі і змеі ў супакоі***

Жанчына з імем Кэці, мастачка з вёскі Мантэніко, прыйшла да крыніцы разам са сваім сабакам яшчэ ноччу. Гэтай раніцай мы паразмаўлялі. Задуменна і натхнёна яна расказвала пра сваё дзяцінства на ферме ў даліне Сан-Хаакін. Доўгія летнія вечары яна бавіла ў палях і на цэлыя тыдні з’язджала ў горы Сьера-Невада на рыбалку.

Калі ты расцеш у атачэнні прыроды, яна пашырае тваё ўяўленні і завастрае пачуцці. У гэта верыў Уордсуорт. І расповед Кэці сведчыць пра гэта. Як і маё дзяцінства, з якогая лепш за ўсё памятаю палі і лясы штата Арэгон. Я згодны з Уордсуортам, бо менавіта мае родныя краявіды далі мне ўсю тую глыбіню і разнастайнасць уяўлення, што я маю.

Я думаю пра сваіх дзяцей, Джонатана (4) і Ганну (2), якія растуць зусім па-іншаму. Апошнім часам, ранкам і ў вечары, Джонатан мае адну просьбу: набыць цацку ў «той самай» краме. Крама, а не ручай, на ягонай мапе займае галоўнае месца. Як клапатлівыя бацькі, пасля пераезду на поўнач Каліфорніі, мы баяліся, што нашыя дзеці будуць пазбаўлены лепшай часткі дзяцінства. Шэран, мая жонка, таксама вырасла пасярод гор, дзе кожны дзень гуляла па перадгор’і са сваім сабакам і канём. Напэўна, гэта паўплывала на тое, што мы закахаліся і ажаніліся.

Але ўжо час спускацца праз хмызнякі да рачулкі Кохе, ехаць дадому і ў «тую самую» краму — менавіта ў такім парадку. Мой даведнік кажа, што слова *кохе* па-іспанску азначае «дзікая свіння». Яны вадзіліся тут пару год таму. Прабіраючыся праз зараснікі атрутнага дуба, я вельмі спадзяюся, што больш іх не засталося. Ізноў я пільна гляджу на сцежку ў пошуках змей. На дыбачках і ў трымценні праходжу небяспечныя мясціны, позірк прыкаваны да маіх несхаваных галёнак. Выглядае гэта бязглузда, і я прымушаю сябе глядзець наперад у выпадку, напрыклад, з’яўлення мядзведзя.

Выпадак мне прадставіўся. Наперадзе я чую нейкі трэск у зарасніку, і на сцежцы, у нейкіх трыццаці футах ад мяне, з'яўляецца мядзведзь. Большы за дзіцянё і меншы за дарослага, з залацістай шэрсткай на карку. Ён паварочваецца ў мой бок, кідае погляд на мой разгублены твар і ...з'ядае мяне жыўцом. Не, насамрэч, ён баязліва збягае. Я нястрымна смяюся. Такі «незапланаваны» паварот на сцэне псуе ўвесь фарс. Але мая гісторыя — гэта камедыя са шчаслівым канцом.

З такой поўнай сюрпрызаў сцэны я выходжу ў адкрытае поле белага дзікага аўса. Гэта былое фермерскае ўладанне Флорэс-Флэт. Поле знаходзіцца ў атачэнні дубоў, галінкі якіх нібы фарміруюць купалы. Пад адным з такіх дрэў я знаёмлюся з высокім худым чалавекам па імені Стывен. Ён здзяйсняе свой штовясновы паход. Гэту традыцыю заклалі яны з бацькам яшчэ ў трыццатыя гады. (Я забыўся спытацца, ці ведалі яны «Мэры Хатхінсан».) У тыя гады яны прыходзілі сюды, каб паляваць на аленяў. З тых часоў зараснік толькі часцеў, і ўсе алені пакінулі гэтыя месцы. Ён расказвае пра двух мужчын, што спрабавалі спусціцца сцежкай, якую не чысцілі дваццаць год, і памерлі ад адтрыманых ран. «Няшчасныя сысункі», — кажа ён, і смяецца, як асёл.

Мы сядзелі і няспешна гутарылі, як звычайна робяць адзінокія вандроўнікі, што блукаюць у такой пустыннай мясцовасці і выпадкова сустракаюцца. За ўсе сем дзён я сустрэў толькі восем чалавек. Нас, такіх вандроўнікаў, няшмат, і мы раскіданы па вялікай тэрыторыі. І менавіта гэта нам падабаецца, і менавіта таму мы падабаемся адно аднаму. «Любоў да прыроды стварае любоў да людзей», — павучальна піша Уордсуорт. На наступным прывале я застануся сам-насам. Стывен кажа мне пра гэта, як пра самыя лепшыя навіны.

Праз мілю я ўздымаюся на плато, узгоркі якога параслі платанам. У вячэрнім святле яны выглядаюць асабліва таямніча. Дзьме цёплы вецер, і я спыняюся ў полі, каб паназіраць, як горы пакрысе хаваюцца ў цемру. Стывен паказаў мне месца, дзе раней стаяла хатка і быў водны канал, але ад іх не засталося і следу. Усё знікла. Ёсць толькі я, вецер, плато і поле белага дзікага аўса.

На ноч я спыняюся каля ручая Санта-Круз, у лагчыне пад аркамі, звітымі галінкамі велічэзных дубоў. Я пішу гэта пры святле свечкі, у поўнай адзіноце. Мне здаецца, я чую галасы — у паветры, вадзе, лістоце, сляванні цвыркуноў. Чаму я іх чую? Таму што я *хачу* іх пачуць? Ці таму, што я *баюся* іх пачуць?

***Дзень 8. Канец нашых даследванняў***

Я пакідаю свой лагер, падымаюся наверх і назіраю, як «рукі» туману на ўзбярэжжы працягваюцца да каньёна, што пада мной, і ахутваюць пагоркі залацістай коўдрай з промняў ранішняга сонца. Я спыняюся, каб напісаць санет у натхнёнай манеры Уордсуорта. Так, напэўна гэта тое самае лета, калі я нарэшце пачну пісаць вершы. Калі дасягнуў схілу гары Літл-Пайн, увесь мой рамантычны настрой быў вынішчаны спякотай і машкарой. Але пра гэта я магу ў вершах не пісаць.

Мой шлях канчаецца ля ручая Усо, і я пачынаю чуць галасы — сапраўдныя галасы — тых, каго я люблю больш за ўсё. Я расказваю ім пра мядзведзя. І вось Ганна, на сваіх чатырох, разыгрывае гэтае жудаснае сутыкненне. Джанатан хоча ведаць, як выглядалі ягоныя вочы. І зараз я разважаю над

сур'ёзным пытаннем: якім мядзведзь бачыў мяне, і якая ягоная роля ў гэтай пастаноўцы?

***Дзень 9. Новая хваля любові да людзей***

Сёння разам з Джонатанам я наведваю невялічкую цырульню ў старой частцы горада. Пару месяцаў таму мне рабіў тут стрыжку малады і прыемны сёрфер Марці, сын уладальніка цырульні, якога таксама клічуць Марці. У гэты раз Марці-малодшага нідзе не відаць, толькі ягоны бацька, чалавек сталага веку, бессаромна спіць у крэсле перад тэлевізарам. Пачуўшы нас, Марці-старэйшы падскоквае, прыкідваецца, што не дрэмле, і вельмі энергічна вітаецца. Джонатан пачынае гуляць са сваімі грузавікамі на падлозе, я сядаю ў крэсла.

— Што робім, малады чалавек? — пытае ён.

— Мм, недзе на цалю[1] карацей, — адказваю я.

— А што каля вушэй?

— Там няшмат, — кажу я. — Каля вушэй зусім крыху. І здыміце не больш за палову цалі з барады.

Марці-старэйшы мае шырокі загарэлы твар і кароткі «вожык» на галаве. Калі ён даведваецца пра тое, што я выкладаю ў Вестманце, ён робіць вялікі крок назад.

— І вам дазваляюць выкладаць вось *так*?

— Як *так*? — пытаю я.

— З такімі доўгімі валасамі і такой барадой, — адказвае ён. Мабыць, не жартуе.

— Напэўна, я ніколі не думаю пра іх, як пра *доўгія*, — тлумачу я.

Ён мяняе тэму і працягвае ў энергічнай манеры нешта казаць, пераключаючыся з адной тэмы на іншую. А я заплюшчваю вочы і прымаю эстафету сіесты, якую пачаў сам Марці.

Я ачуньваю крыху толькі тады, калі ён пачынае казаць пра Марці-малодшага і пра тое, што той павінен пайсці ў акцёрскую школу. «Не навучыцца, як паводзіць сябе перад камерай, — гаворыць ён, паказваючы на экран тэлевізара, — але каб навучыцца, як паводзіць сябе сярод іншых людзей. Каб разумець іх і ўзаемадзейнічаць з імі. Навучыцца *саступаць і прабачаць*, разумееце?»

— Некаторыя людзі, — кажа ён, зрабіўшы крок назад і ўзняўшы грабянец і нажніцы высока над галавою. — Некаторыя людзі проста жывуць унутры сваіх галоў. Вы разумееце, што я маю на ўвазе? Сапраўды, паглядзіце на нас, — працягвае ён, гледзячы на мяне. — Мы знаёмыя ўжо дваццаць хвілін, і хіба гэта можна назваць размовай? — у яго голасе я чую ноткі абурэння. — Глядзіце, хто вядзе размову. А мне толькі застаецца думаць, чаму гэты хлопец са мной не размаўляе. Што з ім такое?

Марці-старэйшы робіць паўзу для таго, каб я нешта адказаў.

— Добра, — кажу я, ціха і павольна. — Я вельмі стомлены. Толькі вярнуўся з паходу.

— Ах, зразумела, — адказвае ён весела, нібы гэты факт усё вырашае.

На маё задавальненне, ён вяртаецца да майго крэсла і працягвае сваю працу.

---

[1] Мера даўжыні, адна дванаццатая фута, роўная 2,54 см.

Я мог бы зразумець тое, што Марці сказаў, як неабгрунтаваную абразу. Але я думаю пра апавяданне Флэнэры О'Конар, у якім самазадаволеная жанчына прыходзіць у офіс лекара, дзе на яе накідваецца назнаёмы чалавек у зале чакання і называе яе «пачварай з пекла». Як пасля аказваецца, гэта былі прарочыя словы. Таму, пакуль нажніцы робяць сваю няхітрую працу каля маіх вушэй, я разважаю, ці сапраўды жыву ў сваёй уласнай галаве і ігнарую іншых людзей? Колькі людзей побач са мной адчувала сябе гэтак жа няёмка, як Марці-старэйшы? За час свайго паходу я заўважыў, што жыццё насамрэч не так моцна мяняецца ад таго, дзе ты знаходзішся: дома, на працы ці ў паходзе. Ці сапраўды я настолькі паглыбляюся ў сябе, што наяўнасць або адсутнасць тых ці іншых мала што змяняе? Ці выпадаю я з соцыуму?

Адзін са спосабаў адказаць на гэтыя пытанні — схавацца за маёй ідэнтычнасцю інтраверта. Чалавек, які даў прайсці мне тэст Майерса-Брыгса, сказаў, што інтраверты складаюць толькі чвэрць насельніцтва ў Амерыцы. Астатнія — шалёныя экстраверты. Два народы, два сусветы сутыкаюцца ў цырульні.

Іншы спосаб адказаць на гэтыя пытанні — прызнаць, што я інтраверт і што часам маю абавязак рабіць вылазкі ў свет экстравертаў. Можа, мне трэба прачнуцца і паразмаўляць з гэтым чалавекам, які апошнія хвіліны так падазрона маўчыць? І пакуль я не рашаўся на такія рэформы, Марці-старэйшы ўжо скончыў сваю працу.

— Можаце паглядзець у люстэрка, — кажа ён.

Я насоўваю акуляры і адразу заўважаю, што Марці зрабіў сваю частку сацыяльных рэформ. Мая барада ўяўляе сабой кароткае чырвонае шчаціннe на падбародку, а паміж маімі вушамі і новай рысай валасоў — траса для грузавікоў Джонатана.

Я — поўная бязмоўнасць.

— Добра, добра, — весела кажа ён. Да яго зноў вярнулася яго экстравертная натура. — Валасы — гэта тое, што заўсёды адрастае. Я заўсёды так кажу. *Саступаць і прабачаць*, разумееце?

## УЗГОРКІ

***Будуць струменіцца пустынныя выганы,***
***і ўзгоркі апяражуцца радасцю <...>***

Кніга Псальмаў 65:13

### ПРА ТОЕ, ЯК БЫЦЬ І ЯК СТАЦЬ ГОРНЫМ ВАНДРОЎНІКАМ

***З саду ў сад, з хрыбта на хрыбет, нібы зачараваны крочу я, ...да болі ў вачах гляджу ўдалечыню на халмы і вяршыні, азёры і лясы, і на нібы застылае штармавое мора луга. ...Пасярод такой прыгажосці, прамяні якой прапітваюць усё нутро, тваё цела трымціць ад паўнаты пачуццяў. Хто ж не пажадае быць горным вандроўнікам!***

Джон М'юр. Маё першае лета ў гарах Сьера-Невада.

Адна з цёмных спраў майго далёкага мінулага патрабуе асаблівага пакаяння. Яна заключаецца ў тым, што пэўны час я працаваў загадчыкам кафедры англійскай мовы. Апошняй восенню наш новы прарэк-



тар задаў мне пытанне, якога я баяўся больш за іншыя: «Якое вашае бачанне будучыні кафедры?» Я спрабаваў выйсці з няёмкай сітуацыі і сказаў, што ў мяне і Джорджа Г. У. Буша[1] ёсць нешта агульнае — адсутнасць бачання будучыні. Аднак прарэктар быў настойлівы, і пасля шасці месяцаў разваг над праблемай я адказаў, што маю бачанне, якое гучыць так: «Пабудаваць мост у XIX стагоддзе». Прарэктар знайшоў гэта надзвычай пацешным, а я пачаў тлумачыць, што меў на ўвазе на самай справе. «Што нам трэба рабіць, — казаў я, — дык гэта заахвочваць да засяроджвання ўвагі, што робіць чытанне літаратуры магчымым і прыемным. Каб навучыцца гэтаму, — тлумачыў я, — трэба настроіць жыццё на нетаропкі лад. Пазбягаць сродкаў масавай інфармацыі, заседжвацца на абедах і доўга шпацыраваць паміж заняткамі. Праводзіць доўгія вечары ў чаканні цягнікоў на станцыях, паглыбляючыся ў творы Уордсуорта і Джэйн Осцін. Нават калі цягнікі ўжо не спыняюцца, тым лепш. Чыгуначныя станцыі, менавіта закінутыя, мусяць быць лепшымі месцамі для паэзіі».

У такіх разважаннях я ўзгадваю маё любімае слова — «альпініст» у яго старым значэнні — «горны вандроўнік». Па-англійску гэта слова гучыць амаль як слова «інжынер» (*mountaineer і engineer)*, кім перш за ўсё я марыў стаць. Слова *mountaineer* — слова XIX стагоддзя. У сэра Лэзлі Стывена, як і ў Джона М'юра, слова «альпініст» было звязана хутчэй не са спаборніцтвам і выклікам, але з прыемным вандраваннем. *З саду ў сад, з хрыбта на хрыбет, нібы зачараваны крочу я…* Мне падаецца, гэтае слова саскочыла з моста недзе паміж іх стагоддзем і нашым. У наш час сусвет і яго вяршыні перапоўнены тымі альпіністамі, што шукаюць складанасці і выпрабаванні. І надзвычай мала тых горных вандроўнікаў, што шукаюць прыгажосці і асалоды.

Мне хацелася б шчыра сказаць, што я прадстаўляю горных вандроўнікаў гэтага стагоддзя, але гэта было б поўнай фальсіфікацыяй. Я вырас ля Каскадных гор і з ранняга дзяцінства трызніў горнымі вяршынямі. З борта жарала Паўднёвай Сястры[2], нашага першага трыумфу, мой брат і я бачылі, як на поўнач ад нас уздымаецца пік за пікам. Мы дамовіліся пакарыць усе вяршыні вулкана да заканчэння лета і ледзь не загубілі сябе, спрабуючы гэта зрабіць. З лёгкімі сэрцамі і такім жа рыштункам цягам суровых выходных мы выпрабоўвалі свой лёс на схілах Сярэдняй Сястры, Паўночнай Сястры, гары Вашынгтон, вулкана Джэк-З-Трыма-Пальцамі і гары Джэферсан. Агульная наша ідэя заключалася ў тым, каб скончаць маршрут на прыцемку, купацца ў возеры пры свеце электрычнага ліхтарыка, прачынацца спазаранку, імчацца на бліжэйшую вяршыню, мінаючы любога скалалаза, асабліва тых, што ў гадах, і што спыняліся ў сваім дзівосным жаданні прымацаваць адзін аднаго да вяроўкі. На Джэферсане нас ледзь не знішчыў горны звал, і таму гары Худ, найвышэйшай, а гэта значыла насвяцейшай гары нашага штата, давялося пачакаць да вясны.

---

[1] Джордж Герберт Уокер Буш — 41-ы прэзідэнт ЗША, бацька 43-га прэзідэнта ЗША Джорджа Буша (малодшага).

[2] Паўднёвая Сястра — частка складанага вулкана Тры Сястры, што ў Каскадных горах, ЗША, штат Арэгон.

Зараз я бачу, што мы былі падобны да рухавікоў цягніка. Цягнікі не рухаюцца *зачаравана*; мэтанакіравана па запланаваным маршруце мінаюць яны краявіды, прыносячы шэрасць у гэты каляровы свет. Джон М’юр нядобра выказваўся пра турыстычную індустрыю свайго часу, мэтай якой было даставіць перапоўненыя вагоны турыстаў да агульнапрызнаных прыгожых кропак. Такім чынам вандроўнікі хутка выскоквалі з цягнікоў, разміналі косткі і атрымлівалі магчымасць ганарліва казаць, што вось там яны былі. Насамрэч, наша стаўленне да Каскадных гор было не лепшым.

Мой брат паступіў у каледж і пераехаў у горад Санта-Барбара, дзе лазіў па пясчаніках. А я — у прыгарад Чыкага, дзе лазіў па ліфтавых шахтах. Улетку мы пачалі вадзіць групы ў аддаленыя куткі Іасеміцкага нацыянальнага парку. Каньёны і вяршыні паўночнай часткі парку пачалі дзейнічаць на нас, мы адчулі неахопную бясконцасць спакою гор, але няўпынныя гармоны пыхі ўсё яшчэ напаўнялі нас і прымушалі імчацца ўверх (крыху больш і крыху менш за тую «радасць ад жывёльных рухаў», пра якую апавядаў Уордсуорт у апісанні сваіх «хлапецкіх дзён»). Мы лічылі сваім абавязкам бегчы да межаў знясілення, а пасля лезці на вяршыні вар’яцтва.

Пыха дасягнула свайго апагея ў выправе, што мы арганізавалі ўвесну на гару Мак-Кінлі. Самая халодная і самая высокая вяршыня на кантыненце мела дастаткова, каб падараваць нам апошні шанец самазацвердзіцца. Дасягнуць вяршыні *той* гары і атрымаць права на выхвалянне да канца жыцця. Але так не адбылося. Праз тры тыдні завеі і халадоў я зразумеў, што галюцыніраваю, мае калені самлелі, а да піка яшчэ 800 футаў[1]. Брату было горай. У спробе ўратаваць яшчэ аднаго аслабленага члена групы ён адмарозіў рукі і ступні. А пасля нас яшчэ чакалі тры эпічныя дні змагання на шляху ўніз.

Гэты досвед зрабіў нас горнымі вандроўнікамі. Перамены не адбыліся ў адзін момант, але, магчыма, яны пачаліся ў той дзень, калі кніга Сціва Рупера «Гід па хрыбце Сьера-Невада» з’явілася ў шпіталі горада Анкорыдж. Гартаючы старонкі даведніка, мой брат сказаў нешта накшталт: «Навошта я паехаў у Аляску, калі мог шпацыраваць у шортах па ўзгорках Сьеры і атрымліваць задавальненне?» Мяне не было побач у той момант, напэўна, я вяртаўся ў Сьера-Невада, адказна кіруючы групамі трэкераў. Але ж урэшце я даведаўся пра яго словы. І яны кранулі мяне, прымусілі ўгледзець урок у нашым няшчасці.

Мой брат стаў горным вандроўнікам, калі ў яго з’явіўся конь. Напачатку ён спрабаваў навучыць таго розным альпінісцкім рэчам — такім, якія коні не мусяць звычайна рабіць. Напрыклад, узнімацца на гранітныя пліты і хадзіць па снезе. Аднак праз пэўны час ён пачаў атрымліваць асалоду ад бязмэтных шматдзённых вандровак па лясах і лугах. Асноўнае значэнне слова *mountaineer* у XIX стагоддзі было «альпініст, вандроўнік па гарах». Але яго значэнне ў XVI стагоддзі, напрыклад, у Шэкспіра, было ў нейкім плане нават зняважлівым, накшталт «насельнік гор» («нейкія горныя грубіяны» ці «неабчасаныя, грубыя горныя жыхары» гучала з вуснаў Клатэна ў п’есе «Цымбелін»). Новае значэнне вынаходзіць Джон М’юр, змяняючы сэнс слова з *пражывання ў мясцовасці* на *якасць быцця.* Менавіта такі сэнс я пачынаю разумець.

[1] Прыкладна 244 метра.

Вельмі кранальны момант у знакамітай кнізе «Скрозь рэдкае паветра» Джона Кракаўэра пра трагедыю пакарэння Эверэста ў 1996. Аўтар апісвае апошнюю ноч перад узыходжаннем на вяршыню. З апошнімі намаганнямі група асталёўваецца на адкрытым для вятроў перавале Саўт-Кол і хаваецца ў свае намёты. Аўтар тады разумее, што яны зусім не каманда, а проста згуртаванне кліентаў, якіх яднае толькі ўласная пыха. Жах гэтага разумення пераадолеў нават жах шторму, які прыйшоў на наступны дзень і забраў палову групы. У той момант бачання ўсёй цемры гэтага маральнага бяздоння Кракаўэр і яго спадарожнікі былі простымі альпіністамі, тымі, хто здабыў гару, але згубіў душу.

Па нейкай прычыне я хачу адрознівацца ад тых адзінокіх змерзлых спажывальнікаў на перавале Саўт-Кол. Летась мы з маёй сям'ёй і нашымі сябрамі асталяваліся разам каля возера, далёка ад любых маршрутаў у паўночнай частцы Іасеміцкага парку. Мы ўзялі з сабою рыштунак, каб паспрабаваць пакарыць вяршыню, што чароўна ўздымалася над возерам. Але з-за навальніцы спыніліся на невялікім узгорку. Мы празвалі гэты ўзгорак Гара Эльфаў пасля таго, як нашыя дочкі пачалі шукаць гэтых чароўных істот у кожным каменьчыку, кветцы і ручайку. Нашы дзеці вялі нас самымі вакольнымі шляхамі, якія толькі можна было прыдумаць. Мы сядзелі на вяршыні і назіралі лугі Туалумні так доўга, як самі таго жадалі. Пасля скочваліся па схіле мноства разоў, і нам падавалася, што мы акунаемся ў пясчанае возера, схаванае за хвалістай гранітнай плітой. Перад абедам прасачылі за невялічкім ручаём, што выцякаў пасля серыі каскадаў і вадазбораў. Вярнуўшыся да сваіх рэчаў, мы вярнуліся і да гэтай сур'ёзнай справы — апынуцца падвечар у іншым месцы. Зараз, калі пішу аповед, мне 41 год. Больш чым дастаткова я бачыў вяршынь пасля першага паходу на Паўднёвую Сястру ў свае ўпартыя 14 гадоў. Але, напэўна, толькі на Гары Эльфаў я стаў паўнавартасным горным вандроўнікам.

Гэры Снайдэр у вершы «Для дзетак» піша пра гэта пяшчотна:

Будзьце разам  
вучыцеся ў кветак  
крочце ў святле.

А Джон М'юр піша пра гэта грандыёзна:

*Узбірайцеся на горы і атрымайце іх добрую вестку. Спакой прыроды насыціць вас, як сонечнае святло насычае дрэвы. Вецер надзьме свежасць, а шторм энергію, і пыхі твае ападуць восеньскаю лістотаю.*

Калі М'юр запытліва кажа: «*Хто ж не пажадае быць горным вандроўнікам!*» — ён настолькі ўпэўнены ў правільным адказе, што нават апускае пытальнік. Але большасць з нас, калі спытаць: «Хто ж не пажадае?», адкажа: «Не, не пажадаю»… Бо гэтае запрашэнне да вузкага і невядомага шляху. Сэр Эдмунд Хілары, вяртаючыся з пад'ёму на Эверэст, сказаў сваім спадарожнікам, што ён «скарыў гэтага вырадка». Але нехта іншы, нехта, хто бачыў усе царствы зямныя з вяршыні адной гары, аднойчы сказаў, *як* можна падняцца на сапраўдную вяршыню і ўвайсці ў святое святых — *будучы як дзеці.*

***Пераклад з англійскай Ганны СТАНІСЛАВЕНКА***  
***Крыніца: Bright Shoots Of Everlastingness: Essays On Faith And The American Wild Word Farm (October 30, 2005)***

***Малюнкі Марыны МАРЧЫК***

Анатоль ТРАФІМЧЫК

# ТЭМА САВЕЦКА-ПОЛЬСКАГА ПАДЗЕЛУ БЕЛАРУСІ Ў САВЕЦКАЙ РЭДАКЦЫІ ПАЭМЫ ЯКУБА КОЛАСА «СЫМОН-МУЗЫКА»

## *Да 90-годдзя савецкай рэдакцыі паэмы*

*Якуб Колас да падзелаў роднага краю ставіўся з пазіцый патрыятычных, якія сёння былі б названы беларусацэнтрычнымі[1]. Але калі ў вершах пачатку 1920-х і нават у паэме «Новая зямля» паэтава стаўленне выяўлялася непрыхавана, то пры перапісванні ў 1924—1925 гадах яшчэ адной перліны нашага прыгожага пісьменства — казкі жыцця «Сымон-музыка» — тэма падзелу, канчаткова замацаванага на доўгія гады Рыжскім мірным дагаворам 1921 года, практычна знікае.*

Апошняя, гэтак званая трэцяя рэдакцыя паэмы «Сымон-музыка» — 1925 года — была канцэптуальна трансфармавана ў параўнанні з пачатковай. Найперш Якуб Колас прыбірае рэлігійныя матывы, а таксама выпады супраць расіян (знікае онім «маскаль»). Аўтар перараблівае развязку на аптымістычны лад. Адзін з момантаў перапісвання твора, які меў і прамежкавы варыянт — згубленую ці скрадзеную другую рэдакцыю, — і сёння застаецца дарэшты нявысветленым. І гэты момант звязаны наўпрост з вяртаннем паэта да тэмы падзелу Беларусі ў 1921 годзе.

Ужо ў першай рэдакцыі Якуб Колас зрабіў экскурс у гісторыю, кажучы пра «споркі сілаю» на беларускай зямлі і прыпісваючы ролю галоўнага гвалтаўніка «маскалям»[2]. У моцна змякчонай трэцяй рэдакцыі тым не менш засталіся радкі аб тым, што

З двух бакоў «айцы» дубінай
Заганялі нас у рай!
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрцы кінута была.
<u>І цяпер над вамі, брацце,</u>
<u>Яшчэ ў сіле той раздор</u> —
І папоўскае закляцце
І ксяндзоўскі нагавор[3].

У новым сацыяльна-палітычным кантэксце з улікам стаўлення аўтара да савецка-польскага падзелу яго радзімы і адносін да савецкай улады на той час гэты ўрывак атрымлівае інтэрпрэтацыю, скіраваную супраць абодвух бакоў падзелу. Прынамсі да такога прачытання схіляюць падкрэсленыя намі радкі, у якіх аўтар прызнаецца, што ранейшае становішча застаецца «ў сіле».

Непасрэдна тэма падзелу ўсплывае таксама ў наступных радках паэмы:

Родны край! ты разарваны
І на захад ад мяжы
Пан пыхлівы, надзіманы
Моцна сцягвае гужы…[4]

Гэтая страфа некаторымі даследчыкамі літаратуры, а таксама малодшым сынам Песняра М. Міцкевічам бачыцца зменены праз прыбіранне з кантэксту дзяльбы расійска-

[1] Гл., напрыклад: Трафімчык, А. В. Якуб Колас — вядомы і невядомы. — Мінск: Ковчег, 2012. — 140 с.; Трафімчык, А. Хто чужаніцы? Якуб Колас пра падзел Беларусі 1921 г. // Дзеяслоў. — 2012. — № 5. — С. 279—292.

[2] Гл. падрабязней: Трафімчык, А. В. Якуб Колас пра падзел Беларусі 1921 г. у паэме «Сымон-музыка» // Каласавіны. Якуб Колас і яго сучаснікі: да вывучэння творчых і асабістых узаемасувязей пісьменніка: матэрыялы XXVI навуковай канферэнцыі, Мінск, 4 лістапада 2011 г. / склад.: З. М. Камароўская, Г. І. Зайцава. — Мінск: Ковчег, 2012. — С. 265—275.

[3] Колас, Я. Сымон-музыка / Я. Колас // Зб. Тв.: у 20 т. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — Т. 9. — С. 81.

[4] Колас, Я. Сымон-музыка / Я. Колас // Зб. Тв.: у 20 т. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — Т. 9. — С. 82.

га боку[1]. А. Адамовіч паведамляе, што ў другой рэдакцыі (1924) Якуб Колас пісаў і пра «ляхаў», і пра «маскалёў», кажучы, што «мясціна гэтая сваім часам сталася ведамай у некаторых менскіх навучальных установах, дзе тады выкладаў сам Колас»[2].

Родны край! Ты разарваны,
Паабапал ад мяжы
Лях ліхі, Маскаль паганы
Моцна сцягваюць гужы...[3]

Тым не менш, гэтая версія застаецца дакументальна не пацверджай і з гэтай прычыны не ўводзіцца акадэмічнымі тэксталагамі ў навуковы ўжытак[4], што пакідае яшчэ адну таямніцу гісторыкам літаратуры. Хоць пра тое, што другая рэдакцыя мела, хутчэй за ўсё, яўны антысавецкі змест, сведчаць многія факты і наяўнасць падазроных момантаў на кожным з этапаў загадкавай гісторыі, паводле афіцыйнай версіі другую рэдакцыю скралі падчас вяртання паэта з Кіславодска:

1) этап перапрацоўкі твора ў Мінску, да ад'езду на адпачынак: пасля яго не засталося ні следу ад сур'ёзнай працы (пры захаванні іншых Коласавых рукапісаў);

2) этап перапрацоўкі паэмы ў Кіславодску: гэты хранатоп характарызуецца прысутнасцю прыстаўленай да паэта цэнзуры;

3) этап вяртання з курорта дадому: тэхнічная рэалізацыя крадзяжу выглядае дзіўна, бо скралі так, як зрабіць было практычна немагчыма;

4) этап пошукаў: з'яўленне супрацоўніка ДПУ — сведчанне палітычнай важнасці справы;

5) этап далейшай перапрацоўкі (так званай трэцяй рэдакцыі): наяўнасць нестыковак, а таксама відавочны кантроль Галоўліта[5].

У любым выпадку вонкава тэма падзелу Беларусі ў савецкай рэдакцыі «Сымона-музыкі» рэзка мінімізавалася — як у аб'ёме, так і ў аўтарскай мадальнасці. Аднак нездарма паэма называецца з падачы самога творцы казкай жыцця: гэта схіляе да прачытання вобразнага пласту твора. І тут нас чакаюць пэўныя адкрыцці. Адно з іх датычыцца аўтарскага асэнсавання распалавіненасці роднай краіны.

У «выніковую» рэдакцыю «Сымона» Якуб Колас змог укласці яшчэ некаторыя радкі на тэму падзелу, якіх не было першапачаткова: пятая частка пачынаецца з аповеду пра «вадзіцу, / Што век стаяла пад гарою, / Пад цяжкай цёмнаю карою»:

Яна заззяла, бы зарніца
У цьме вячэрняю парою,
Калі над стомленай зямлёю
Навісне ночка-чараўніца.
Яе з'яўленне ў той краіне
Для ўсіх было вялікім святам,
Для ўсіх жаданаю была там
Рачулкі плынь бліскуча-сіня…[6]

Аднак, маўляў, мароз імкнуўся скаваць тую рэчку. Паміж ім і прыродай пачалося супрацьстаянне. Усё ж сонца спыніла «трасяніну»:

І жывіць рэчка зноў краіну,
Вакол згуртоўвае расліну
І ззяе шчасцем і красою[7].

Такі ход падзей мог цалкам задаволіць цэнзуру: сонца ў абліччы савецкай улады вы-

[1] Міцкевіч, М. К. Пад бацькоўскім дахам. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — С. 70.

[2] Адамовіч, А. Да творчае гісторыі «Сымона-музыкі». — Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2005. — С. 542.

[3] Колас, Я. Сымон-музыка. — Мюнхен: Выдавецтва Бацькаўшчына, 1955. — С. 80.

[4] Мушынскі, М. Мае каласавіны: з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа / М. Мушынскі; навук. рэд. М. А. Тычына. — Мінск: Беларус. навука, 2010. — С. 326.

[5] Гл. падрабязней: Трафімчык, А. Крадзеж ці цэнзура? Развагі пра лёс другой рэдакцыі паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» // ЛіМ. — 2012. — 16 ліст. — С. 7; Трафімчык, А. В. Паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка»: да гісторыі рэдагавання // Творчасць Аркадзя Куляшова ў дыялогу славянскіх літаратур: традыцыі, наватарства, нацыянальная адметнасць: матэрыялы Міжнар. навук. канферэнцыі (да 100-годдзя з дня нараджэння Аркадзя Куляшова), Мінск, 29 студзеня 2014 г. / Цэнтр даследаванняў бел. культуры, мовы і літ. Нац. Акадэміі навук Беларусі. — Мінск: Права і эканоміка, 2014. — С. 383—387.

[6] Колас, Я. Сымон-музыка / Я. Колас // Зб. Тв.: у 20 т. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — Т. 9. — С. 159.

[7] Колас, Я. Сымон-музыка / Я. Колас // Зб. Тв.: у 20 т. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — Т. 9. — С. 161.

вела безназоўную краіну (маецца на ўвазе Беларусь) «на пуціну / Дабра і згоды».

Але раптоўна ў пачатку другога раздзела той жа пятай часткі з'яўляецца яшчэ адно лірычнае адступленне, якое мае працяг праз пару-тройку старонак: «Волі, волі і прастору!» Параўнаўчы аналіз абедзвюх рэдакцый дае падставы казаць, што гэтае адступленне фактычна грае тую самую ролю, да якой была паклікана песня пра імкненне да волі пташкі — метафары Беларусі — у першай рэдакцыі[1]. Песня пташкі была знята, як і яшчэ адна песня Сымона, названая літаратуразнаўцамі «Одай творчасці». Але калі з «одай» «Божы Дух вітаў у высі…» ўсё зразумела: яна прасякнута ад пачатку да канца рэлігійнымі матывамі, дык песня пташкі выглядае даволі нейтральна і можа выклікаць падазрэнні толькі ў святле алегарычнай алюзіі на Беларусь. А гэта — несумненная крамола для палітыкі бальшавікоў, паводле якой нацыянальнае самавызначэнне дапускалася толькі на словах: «Мы за *автономию* **для всех** частей, мы за *право* отделения (а не *за отделение* всех!) <…> В общем, мы против отделения. Но мы стоим за право на отделение. <… > *Ничего*, абсолютно ничего кроме *права* на отделение здесь нет и быть не должно» (усе выдзяленні аўтарскія), — дэкляраваў яшчэ ў 1913 годзе галоўны савецкі ідэолаг і правадыр У. Ленін[2], пасля захопу ўлады радыкалізаваўшы гэты тэзіс разыходжання слоў і спраў[3].

Тым не менш Якуб Колас, прытупіўшы пільнасць цэнзараў праз сачыненне лёгка чытэльнай гісторыі пра рэчку (ідэйна задавальняючай існы рэжым), патрапіў знайсці адпаведнік сваёй задуме — да таго ж кангеніяльны для часавага кантэксту, бо таемны сэнс мінулай песні стаўся анахранізмам — у выглядзе новага фрагмента, у якім адшукала сваё месца тэма падзеленасці Беларусі. Чаго толькі варта лозунгавая фраза «Прэч граніцы!»[4]. Аўтар тут пачынае прамаўляць ад першай асобы (што ў Коласавым выпадку заўсёды набывае асаблівае значэнне) і праводзіць праз тэкст шмат намёкаў. Так, аўтар гаворыць, што недзе «там» ёсць жывыя крыніцы, «ззяюць зоры, бліскавіцы». Адразу далей звяртаецца да «поля шырокага, <u>роднага</u> поля» (падкрэсленне наша. — **А. Т.**), якое, нагадаем, недзе «там». А за зваротам ідзе недвухсэнсоўнае пажаданне:

Хай жа спаткае нас шчырая воля,
Асветліц і хаты
І гумны[5]!

Аўтар прызнаецца ўжо не надта і камуфлюючы свае перажыванні і падзеі асабістага жыцця:

Я — выгнаны сын ваш, так: я — бадзяга,
Без ласкі, без долі;
Я — колас без нівы
Маўклівы[6].

У гэтых словах раскрываецца і валацужнасць жыцця паэта, якая, як можна зразумець, не скончылася з прыездам у Савецкую Беларусь і з'яўляецца актуальнай. Больш за тое, аўтар, называючы адкрыта свой псеўданім, робіць закід наконт сваёй маўклівасці, не называючы, аднак, яе прычыны, але з кантэксту бачыцца вонкавасць дэтэрмінізму маўчання.



[1] Трафімчык, А. Колас прадказаў смерць Мікалая II? // ЛіМ. — 2014. — 3 студз. — С. 15.

[2] Ленин, В. И. Полное собрание сочинений. Т. 48. М.: Государственное издательство политической литературы, 1982. С. 233—236. Гл. падрабязней: Трафімчык, А. В. Бальшавікі і іх адносіны да дзяржаўнасці Беларусі ў першы год рэвалюцыі // Октябрь 1917 года в судьбе мировой цивилизации (к 90-летию Октябрьской революции): материалы Международ. науч.-практ. конф., Минск, 2 ноября 2007 г. / редкол.: М. П. Костюк (гл. ред.), Н. В. Смехович [и др.]. — Минск: Белорус. наука, 2008. — С. 360—368; Трафімчык, А. Да праблемы станаўлення дзяржаўнасці Беларусі (1917—1921): палітыка Крамля // Białoruskie Zeszyty Historyczne. — Białystok, 2009. — № 31. — С. 92—114.

[3] Трафімчык, А. В. «Ленін думае пра Беларусь»: стаўленне У. Леніна да дзяржаўнасці Беларусі // Праблемы гісторыі дзяржавы і права Беларусі: матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф., прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння І. А. Юхо. Мінск, 18—19 сак. 2011 г. / рэдкал. С. А. Балашэнка (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2011. — С. 35—39.

[4] Колас, Я. Сымон-музыка / Я. Колас // Зб. Тв.: у 20 т. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — Т. 9. — С. 166, 170.

[5] Колас, Я. Сымон-музыка / Я. Колас // Зб. Тв.: у 20 т. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — Т. 9. — С. 170.

[6] Колас, Я. Сымон-музыка / Я. Колас // Зб. Тв.: у 20 т. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — Т. 9. — С. 171.

Ірына МІЛЬТО

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ
## пра музыку, моладзь і іншае



*Васіль Быкаў на сваёй дачы.*

Мяркую, трэба патлумачыць, як узнікла такая нечаканая тэма. Я працавала ў музычнай рэдакцыі Беларускага радыё, калі ў 1985-м адзначалася 40-годдзе Вялікай Перамогі. Галоўны рэдактар Мельнікава А. В. даручыла мне з гэтай нагоды ўзяць інтэрв'ю ў славутага пісьменніка (яна ведала, што мы суседзі па дачы). Васіль Уладзіміравіч пагадзіўся, але да юбілейнай даты мы ніяк не маглі сустрэцца, бо яго літаральна рвалі на часткі. Мінула некалькі месяцаў, я ўжо страціла надзею, як раптам Васіль Уладзіміравіч прапанаваў пагутарыць. Паколькі свята Перамогі ўжо адшумела, давялося шукаць для размовы іншы ракурс і прыстасоўваць яе да маёй перадачы «Моладзі пра музычнае мастацтва», таму галоўнымі тэмамі гаворкі сталі музыка, мастацтва і выхаванне моладзі. Тады ў перадачу ўвайшла толькі частка той размовы, ды і тое — растала ў эфіры. Таму сёлета, калі шырока адзначаецца 70-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, калі шмат пішуць і гавораць пра яе ўдзельнікаў, мне падалося дарэчным пазнаёміць чытачоў з поўным варыянтам той размовы. Гэты перанесены на паперу дакументальны магнітафонны запіс захоўвае асаблівасці быкаўскай гаворкі. Спадзяюся, ён дадасць новыя рысы да партрэта знакамітага творцы.

P. S. Размова запісвалася на дачы пісьменніка ў пасёлку № 6 у Ждановічах, на першым паверсе ў гасцёўні, дзе зараз музей Васіля Быкава. Быў канец жніўня, стаяла цёплае надвор'е, вакол панавалі цішыня і спакой — і гэтак жа спакойна, добразычліва мой шаноўны сусед адказваў на шматлікія пытанні.

**— Пачнём, бадай, з канкрэтнага пытання, звязанага з вашай літаратурнай творчасцю. Наколькі я помню, першым музычным творам паводле вашай прозы быў балет Яўгена Глебава «Альпійская балада». Як вам падаецца, ці адпавядае музыка, круг вобразаў балета літаратурнай першакрыніцы?**

— Перш за ўсё я хацеў бы ўдакладніць вось што: балет зусім іншае мастацтва, чым, напрыклад, аповесць — твор літаратуры, таму вельмі важна, каб гэта быў проста харошы твор. Я думаю, што тут неабавязковая яго адпаведнасць першакрыніцы. Што ж датычыцца «Альпійскай балады», то, памойму, музыка балета Глебава — выдатная. Так здарылася, што я паглядзеў яго ў тэатры далёка не ў самым пачатку, потым паслухаў яшчэ, і скажу, што гэта вельмі хараша. Не так, можа быць, як у аповесці, але гэта хараша, здарова, бо кампазітар пранік у драматызм сітуацыі, і я думаю, што сваімі срод-

камі, сродкамі музыкі, выказаў нешта вельмі важнае — іменна баладную гісторыю дзвюх душ, якія недзе заблудзіліся на вайне.

Наогул, павінен сказаць, што тое, што піша Глебаў, мне вельмі імпануе, хоць, хачу агаварыцца, што ў музыцы я проста спажывец, ніякі не цаніцель, а так, як і ўсе — толькі яе слухаю, і адна музыка мне даходзіць да душы, другая не даходзіць. Гэта не значыць, што не даходзіць дрэнная, а даходзіць добрая — проста некаторая трапляе на душу, іншая не трапляе.

Дык вось, у дадзеным выпадку музыка Глебава «Альпійская балада» вельмі сугучная таму, што я адчуваю або адчуваў, пішучы гэтую аповесць. Я думаю, апроч таго, і аб'ектыўна — гэта проста харошы музычны твор. Інакш ён не ішоў бы столькі гадоў.

**— Скажыце, калі ласка, гісторыя Івана і Джуліі — прыдуманая ці заснаваная на нейкім дакументальным факце?**

— Факт быў. Канешне, ён далёка не дакументальны, але была такая… Нават не гісторыя, а здарэнне. Гэта было ў самым канцы вайны, вясной 1945 года ў Аўстрыі. Мы там вызвалілі адзін гарадок невялікі, у якім было многа лагераў. Звычайна ў тыле Трэцяга рэйха існавала розная прамысловасць, ёй патрэбны былі рабочыя, і немцы выкарыстоўвалі для работы на сваіх прадпрыемствах ваеннапалонных, зняволеных канцлагераў, рабочых з усёй Еўропы.

У тым аўстрыйскім гарадку таксама было многа такіх рабочых. З нашым прыходам туды ўсе гэтыя лагеры рассыпаліся, людзі разбрыліся па вуліцах. Мы спыніліся на адной з вуліц, чакалі новага загаду, куды павярнуць (наша невялікая калона, можа, машын 10—12 з гарматамі).

Было рана, салдаты сядзелі ў кузавах, а па тратуарах ішлі розныя групы людзей, якіх мы вызвалілі. Гэта былі італьянцы, французы, аўстрыйцы, палякі і гэтак далей. Яны ўсе збіраліся групамі і кіравалі да сябе на радзіму.

Я звярнуў увагу на тое, што ўздоўж нашай калоны ходзіць дзяўчына, вельмі коратка пастрыжаная. На ёй надзета чорная спаднічка, куртка паласатая, якую насілі звычайна ўсе зняволеныя, і яна ля кожнай машыны нешта пытаецца. Я прыслухаўся, аказваецца, яна пытаецца нейкага Івана. Натуральна, што ў нас там, на гарматах, было на разліку 6—8 чалавек, сярод якіх, звычайна, знаходзіўся Іван. Ёй паказвалі на яго, яна прыглядалася і круціла адмоўна галавой: не, гэта не Іван. Так яна прайшла ўсю калону і не знайшла свайго Івана. Тады мы з адным капітанам падышлі да яе і запыталі, каго яна шукае. Яна, ужываючы такі кангламерат італьянскіх, нямецкіх і рускіх слоў, расказала, што была тут у лагеры. Але ў мінулым годзе, у час бамбёжкі гарадка саюзнай авіяцыяй яна ўцякла ў горы. У гарах яна далучылася да рускага ваеннапалоннага Івана і некалькі дзён яны блукалі па гарах. Яна хацела, вядома, да сябе ў Неапаль, але дзеля гэтага трэба было перайсці праз горы, у Трыест, дзе былі італьянскія і югаслаўскія партызаны. Івана чамусьці гэты варыянт не ўстройваў, ён хацеў на Усходні фронт, але, фронт тады быў далёка. Пакуль яны вырашалі гэта пытанне, трапілі ў засаду, іх праследвалі з сабакамі, яе зноў схапілі і кінулі ў лагер, а што з Іванам, яна не ведае. Дык вось яна цяпер хоча, калі прыйшла Чырвоная Армія, знайсці тут Івана.

Ну, канешне, яна яго не знайшла. Мы паехалі, я хутка пра гэту гісторыю забыўся, а ўспомніў праз 18 гадоў — і напісаў «Альпійскую баладу».

Вось такая была кароценькая гісторыя або выпадак, які папярэднічаў гэтай аповесці.

**— У адным інтэрв'ю я чула, як вы гаварылі, што не вельмі любіце драматычны тэатр. Гэта ж датычыцца і музычнага тэатра?**

— Нельга сказаць, што я наогул не люблю тэатр. Канешне, харошы спектакль мае сваю сілу, але мне здаецца, што тэатр апошняга часу з яго, я б сказаў, вольнай драматургіяй, калі можна паставіць усё — і класічную п'есу, і інсцэніроўку па творах прозы, і наогул — рэжысёры, жартуючы, кажуць, што яны могуць паставіць і газетны артыкул… Я не сумняваюся, што могуць, але мне чамусьці нецікава гэта глядзець.

Ёсць, канешне, харошыя тэатры і харошыя спектаклі, якія я з задавальненнем гляджу, нават некаторыя інсцэніроўкі прозы. Але, мне думаецца, што гэты літаратурны жанр не самы той, што мне па гусце.

**— А Музычны тэатр оперы і балета?**

— Не магу сказаць, што я яго цалкам адмаўляю. Некаторыя рэчы я глядзеў з цікавасцю і гатоў глядзець. Балет я люблю больш, оперу — менш, таму што там умоўнасць праяўляецца ў больш высокай ступені. Такая ўмоўнасць прымаецца мной, калі яна адносіцца да гісторыі, а вось калі опера напісана на тэмы нядаўняга мінулага, яна ніяк не прымаецца мной як слухачом.

**— Якую музыку вы любіце слухаць — народныя песні, эстраду ці нешта іншае?**

— Ёсць пэўныя творы, каторыя я люблю слухаць, — гэта болей усё-такі адносіцца да класікі. Так што, як бачыце, густы ў мяне даволі кансерватыўныя. Але тут я нічога не магу зрабіць, відаць, так уладкавана мая душа, каторая абсалютна спантанна адно прымае (нешта ў музыцы кладзецца на яе даволі лёгка, без усякага майго валявога ўмяшання), а другая музыка не даходзіць. Ну вось, напрыклад, люблю Брамса — гэта праўда. І дзе я яго пачую, адразу адчуваю нешта блізкае і роднае…

**— Нечаканае прызнанне. Я не магла ўявіць, што музыка гэтага нямецкага кампазітара-рамантыка кранае вас — такога знешне строгага, стрыманага чалавека. А можна ўдакладніць, якія яго творы вам падабаюцца?**

— Ну, я не магу што-небудзь выдзеліць, проста вылучаю яго мелодыі і мне падабаецца амаль усё ў Брамса, што даводзілася чуць.

Калі гаварыць пра больш сучасныя творы, вельмі моцнае ўражанне на мяне заўсёды робіць сёмая сімфонія Шастаковіча. Што да беларускай музыкі апошняга часу, дык мне, напрыклад, зразумела, чаму музычны твор Эдуарда Ханка на верш Ніла Гілевіча «Бальшак» (песня называецца «Вы шуміце, бярозы») стаў шлягерам, знайшоў такое шырокае распаўсюджанне. Гэта я разумею. Відаць, у мяне таксама густы тут даволі дэмакратычныя.

**— Васіль Уладзіміравіч, можа, вы прыгадаеце, якая музыка вас вабіла ў маладосці, што слухалі тады?**

— У маладосці, канешне, вялікага выбару не было. У маю маладосць спажыванне музыкі ішло ў асноўным праз кіно. Фільмаў тады, у трыццатыя, выпускалася нямнога, але ў кожным была музыка, была песня, і гэтая песня тут жа станавілася здабыткам шырокіх мас. Так што тут выбіраць не прыходзілася: тое, што тады глядзелі, спявалі, тое слухаў і я.

Пасля, у гады вайны, знайшла свой росквіт лірычная песня, хаця, здавалася б, што ў тых умовах нешта павінна быць зусім іншае, нешта такое, што б мабілізоўвала, адлюстроўвала жорсткасць гэтай барацьбы, жахі вайны, кроў, смерць. Я лічу адной з выдатных песень такога кшталту песню Аляксандрава «Свяшчэнная вайна». Але самую вялікую папулярнасць на фронце і ў тыле мелі ўсё-такі лірычныя песні. Песні, якія ствараліся іменна ў гады вайны і былі звернуты да салдацкага сэрца. Усе іх ведаюць — «Синий платочек», «Тёмная ночь», «Землянка» або, памятаю, на Украіне любілі спяваць «Ой, Дняпро, Дняпро». Можна прыгадаць таксама фенаменальны поспех песні перадваенных, ды і ваенных гадоў — «Кацюша». Проста дзіўная справа, як гэта песня так шырока разышлася не толькі па нашай краіне, але і па ўсёй Еўропе. Яе ведалі ўсе. Мы прыйшлі ў Еўропу і там — у Румыніі, Балгарыі, Венгрыі, на Балканах, літаральна ўсе, думаю, што нават і немцы, ведалі гэту песню. Хаця там самыя просценькія і мелодыя, і словы — тым не менш, аказваецца, што гэта было патрэбна для душы людзей таго часу.

Усе гэтыя песні даходзілі вельмі глыбока да самай душы, да сэрца салдат і народа. Апрача таго, у іх была высокая ступень знітаванасці слоў, песеннага сэнсу і мелодыі. Яны арганічна выражалі нешта тое, што ляжала ў глыбі салдацкай душы.

Пасля, відаць, нічога падобнага не было, ва ўсякім разе, я не ведаю. Мне здаецца, пасля пачалося нейкае раз'яднанне, калі, скажам, ужо няважна, што нясе змест песні, галоўнае, каб была музыка.

**— Можа, вы ўспомніце, у якіх абставінах на фронце гучалі гэтыя песні? Дзе вам у час вайны даводзілася іх слухаць?**

— Канешне, аркестры не гучалі на фронце, але было, напрыклад, радыё. У нас былі

радыёстанцыі, якія час ад часу працавалі на прыём. А па-другое, хоць рэдка — на фарміроўцы, у шпіталі мы глядзелі фільмы, у якіх гучалі гэтыя песні.

Пасля прыязджалі з тылу людзі — і таксама прывозілі з сабой штосьці сваё і часта спявалі. Заўсёды знаходзіўся аматар, каторы ў зручную хвіліну нешта напяваў, і яго або слухалі, або таксама падпявалі, калі гэта было можна.

**— Вы пайшлі на фронт зусім маладым — вам было ўсяго каля 18 гадоў. Напэўна, цяжка прыходзілася, асабліва чалавеку з такім абвостраным успрыманнем… Можа, песні ў нечым дапамагалі, падтрымлівалі?**

— Справа не ў дапамозе. У той жорсткай ваеннай справе, якой мы займаліся, чым маглі дапамагчы песні?

Але. Але проста ў гэтай экстрэмальнай абстаноўцы, у якой было мала ад чалавечнасці, песня была неабходна як нейкі яе кампанент, які быў рэдкім і па якім сумавала чалавечая душа. Гэта, можа быць, адзіны (калі выключыць прыроду, дапусцім) лірычны, паэтычны элемент, каторы быў даступны душы. Таму што іншых элементаў паэтычнасці, мабыць, на вайне не было. Дый прырода, хаця яна заўсёды многа значыць, на вайне ў гэтым сэнсе мінімальна значыла. Таму што, калі, скажам, было нядрэннае надвор’е, не ліў дождж або не пёк мароз, то ўжо было добра.

**— Ці можаце вы назваць музычныя творы, якія адпавядаюць па значнасці такой тэме як вайна? З пасляваенных.**

— Можа быць, ёсць такія творы. Я не магу назваць, апроч тых якія ўжо ўзгадваў. Гэта сёмая сімфонія Шастаковіча, яна ў найбольшай меры перадае драматызм вайны, або «Свяшчэнная вайна» Аляксандрава. Іншага лепшага не ведаю, хаця, можа быць, ёсць такія творы, але я не знаўца ў гэтай сферы. Увогуле ж павінен сказаць, што лепшая для мяне музыка — цішыня…

**— А зараз колькі пытанняў не пра музыку. Васіль Уладзіміравіч, успомніце, калі ласка, дзе і як вы сустракалі Дзень Перамогі?**

— Дзень Перамогі я сустракаў у Аўстрыі, Цэнтральныя Альпы, рака Энс, на якой мы сышліся з амерыканскімі войскамі, і там прастаялі якраз 9 мая. 10-га нас развялі па сваіх раёнах. Гэта быў харошы, сонечны, цёплы майскі дзень. Горы ў той дзень былі вельмі ласкавыя. Хаця снежныя шапкі недзе гарэлі здалёку, але ў даліне было цёпла, хораша і, канешне, вялікі ўздым ахапіў усіх нас. Нават немцаў, якіх там было шмат. Яны здаваліся ў палон цэлымі падраздзяленнямі, часцямі, але і яны таксама перажывалі нешта падобнае, хаця наперадзе ў іх яшчэ былі пэўныя выпрабаванні.

Карацей кажучы, усё лікавала ў той дзень — і салдаты, і прырода, і насельніцтва Аўстрыі, якое з вялікай палёгкай дажыло да канца вайны.

**— Васіль Уладзіміравіч, паколькі гэта размова запісваецца для маладзёжнай музычнай праграмы, хочацца скарыстаць магчымасць абмеркаваць з вамі, мудрым і аўтарытэтным чалавекам, пытанне, звязанае ўжо з сучасным жыццём. Як вам здаецца, якія праблемы ў выхаванні нашай моладзі не закранае, абмінае сучаснае мастацтва?**

— Я хацеў бы сказаць тут вось што. Мы памыляемся, калі думаем так: трэба наладзіць неяк работу, каб выхаваць з моладзі тое, што нам патрэбна. Быццам гэта выхаванне залежыць ад нейкіх мер або пэўным чынам скіраванага мастацтва. Я зыходжу з таго, што моладзь выхоўвае жыццё ва ўсёй яго комплекснасці, гэта значыць, усе драбніцы жыцця, усе яго праявы, усё, што датычыцца эканомікі, мастацтва, духоўнага жыцця, побыту — вуліцы, двара — усё выхоўвае. Гэта вялізны комплекс, мастацтва ж — толькі вузенькі спектр у гэтым вялізным коле выхаваўчай сілы.

Што можа мастацтва ў дадзеным выпадку? Калі сказаць, што мастацтва можа ўсё, гэта будзе наўрад ці правільна.

Калі гаварыць пра старэйшых дзеячоў мастацтва, то, я думаю, іх задача заключаецца ў тым, каб як мага больш сумленна і поўна данесці да моладзі свой жыццёвы вопыт, вопыт сваёй маладосці. Толькі такім чынам мы можам нешта засведчыць. Такое і з такой сілай, што можа падзейнічаць на

моладзь. Таму што наўрад ці якія-небудзь дыдактычныя ісціны могуць рабіць на яе ўплыў. Што трэба і што не трэба — моладзь выдатна ведае. Уся справа ў тым, наколькі яна выконвае тое, што ведае, прытрымліваецца правіл, маральных норм, каторых нам было б пажадана, каб яна прытрымлівалася. Таму ўнушыць тут што-небудзь, відаць, немагчыма, можна толькі сродкамі мастацтва данесці свой прыклад, свой вопыт. Зноў жа з гэтага вопыту яна возьме толькі тое, што захоча ўзяць, і не прыме тое, што ёй не падыходзіць па розных прычынах. Тым не менш у нас, мастакоў сталага пакалення, няма іншага сродку ўздзеяння, апрача толькі як сведчання пра наш вопыт, нашы ідэі, пра тое, што было значным для нас.

Даўно вядома, што кожнае пакаленне павінна выпрацаваць свае жыццёвыя крытэрыі, найперш, канешне, метадам спроб і памылак. Таму засцерагаць моладзь ад нечага, я думаю, марная справа. Але як бы старэйшыя ні крыўдавалі на маладых, якімі б яны ні здаваліся непаслухмянымі і не такімі, як хацелася б старэйшым, усё ж у рэшце рэшт моладзь выходзіць на нейкі ўзровень, што дае гэтаму пакаленню зноў жа выхоўваць і крытычна адносіцца да маладзейшага пакалення. Так што ўсё ідзе па свайму кругу і тут, відаць, нічога іншага зрабіць немагчыма.

Што датычыцца выхавання моладзі, то я, безумоўна, аптыміст, таму што само жыццё аптымістычнае. Вядома, ёсць пэўныя «издержки», па-руску кажучы, а ўвогуле моладзь наша працавітая — яна вунь якія справы праваронае, успомніць хаця б БАМ, які пабудаваны рукамі моладзі, ну і іншае. І калі нават справа дойдзе да нейкіх вялікіх канфліктаў (будзем аднак спадзявацца, што не дойдзе), зноў галоўны цяжар, галоўны груз падзе на маладыя плечы. Я думаю, што наша моладзь вытрымае ўсё ўрэшце. Калі прыходзіць час выпрабавання, і самыя старыя, і самыя маладыя, і самыя (будзем так гаварыць) несур’ёзныя, ветраныя, раптам робяцца вельмі сур’ёзнымі і выконваюць, робяць тое, у самым высокім сэнсе, чаго ад іх нават не чакаюць, пераўзыходзяць самі сябе.

Калі гаварыць пра моладзь і яе праблемы з пункту гледжання чалавека, які значна старэйшы, я б хацеў спыніцца трошкі на адносінах моладзі да мастацтва, да літаратуры. Многія мае назіранні сведчаць пра тое, што ў наш час, іменна ў наш час, раней, магчыма, не так ярка гэта праяўлялася, яна адносіцца да мастацтва як да нечага, што можна выкарыстоўваць для забавы. Канешне, ёсць мастацтва, каторае забаўляе, але галоўная функцыя мастацтва, на мой погляд, — скарачаць дыстанцыю паміж асобай і жыццём, інфармаваць пра складанасці жыцця. Мы маем у гэтым родзе высокае мастацтва ва ўсіх яго відах — у літаратуры ёсць раманы, драмы, ёсць проза, высокая паэзія, таксама і ў кіно, тэатры, музыцы. Мне хацелася б, каб моладзь трошкі з большай сур’ёзнасцю ставілася да мастацтва.

Гумар, нават малейшыя прыцязанні аўтараў на смешнае, ёю з радасцю падхопліваюцца, а вось што-небудзь сур’ёзнае — там, дзе патрэбна пэўная настроенасць душы, — такія моманты неяк праходзяць па-за эмацыянальнай увагай, эмацыянальнай рэакцыяй гледачоў.

Я хацеў бы сказаць, што мастацтва ніколі не мела сваёй асноўнай задачай смяшыць. Наадварот, высокае мастацтва прымушае плакаць, і гэтага няма чаго саромецца. Толькі высокай настроенасці душа можа спасцігнуць і адрэагаваць на трагедыю. Праўда, трагедыі ў нас мала ўжо застаецца ў мастацтве, яна ўжо адносіцца да мінулага, тым не менш, у жыцці хапае трагедыі, і таму малады глядач, слухач, чытач павінен быць гатовы да сустрэчы з трагедыяй хоць бы ў мастацтве і адпаведным чынам рэагаваць на такое высокае мастацтва.

***Нагадаю, што гэта размова з В. У. Быкавым запісана ў 1985 годзе, але, мяркую, развагі выдатнага пісьменніка пра жыццё і мастацтва будуць карысныя і сучаснаму маладому чытачу, дадуць падставу для роздуму*.**

**ДАВЕДКА «М»**

***Мільто Ірына Паўлаўна — журналіст, музыказнаўца, больш за 30 гадоў працавала музычным рэдактарам на Беларускім радыё. Аўтар кніг «Поговорим о музыке», «Валентин Елизарьев — художник и человек».***

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ ПРА МАСТАЦТВА

## ЛЮБОЎ У ЧЫСТЫМ ВЫГЛЯДЗЕ

«Лісты да Андрэя» — нечаканая кніга. Прачытаўшы шмат твораў Грышкаўца, я не думала, што ён можа так прыгожа расказваць пра прыгожае, так неверагодна захапляць, так проста апісваць складанае. Лісты да якога Андрэя? Што гэта за лісты, навошта іх чытаць? І хутчэй не лісты гэта, а нататкі пра мастацтва, як іх назваў сам Грышкавец.

Аўтару кнігі было 19, калі пайшоў з жыцця Андрэй Таркоўскі. Тады Грышкавец і падумаць не мог, што калісьці будзе пісаць да яго лісты. Ён не вызначыўся і цяпер: каму з Андрэяў ён піша? Таркоўскаму? Рублёву? Андрэю, якога ніхто, акрамя самога пісьменніка, не ведае? Гэтая кніга прысвечана мастацтву. Грышкавец кажа, што ён дае адказы на пытанні пра мастацтва, але для мяне гэта былі не адказы, а, наадварот, нешта такое, што яшчэ больш блытае.

«Лісты…» — гэта любоў у чыстым выглядзе. Гэта любоў да мастацтва, гэта любоў да чалавека, гэта любоў да жыцця. Увогуле, сама кніга — гэта прызнанне ў любові да скульптур, твораў жывапісу, музыкі, кіно — усяго, што звязана з творчасцю.

«Я напісаў іх [лісты] у надзеі падтрымаць таго, хто <…> любіць мастацтва, любіць жыццё, і каму патрэбная падтрымка ў гэтай любові». Тут усё сказана. Калі вы — не такі, то і не трэба вам гэта чытаць, быццам папярэджвае Грышкавец.

Але калі вы якраз такі, калі вы пайшлі далей і чытаеце гэты твор, Грышкавец раскажа, што ў гэтым жыцці так шмат перажыванняў, што і само жыццё становіцца перажываннем. А ў гэтым перажыванні, калі прадставіць жыццё ў выглядзе, напрыклад, ягаднага пірага, ёсць ягадкі прыгажосці. Гэта і ёсць мастацтва, тое прыгожае, што сустракаецца нам у жыцці.

Шмат у кнізе сказана пра чалавека творчага, пра мастака, які, па словах аўтара, «занадта чалавек». Ён адчувае свет па-іншаму, не так, як мы, не так ён бачыць наваколле, не можа апісаць яго літаральна. Ён — іншы, і ён стварае для нас іншы свет. Гэты свет для нас адначасова і недасяжны, і блізкі. Гэта свет шэдэўраў.

Грышкавец кажа, што шэдэўр не можа нікому належаць. Мастацтва ўвогуле нельга хаваць. Тут ёсць прыгожы выраз: «Купіў карціну, заплаціў за балет, пабудаваў царкву — вось табе праблемы духоўнасці і духа вырашаныя». Адразу ўспамінаецца «Левіафан» Звягінцава. А ён жа таксама Андрэй! Магчыма, гэтыя лісты і да яго? Чаму гэтыя словы з кнігі так пасуюць яго стужцы? Няма іншага тлумачэння як толькі сам лёс.

Сучаснае мастацтва — гэта што за спалучэнне? Што паказвае яно (не словазлучэнне, а мастацтва)? Грышкавец лічыць, што яно «кожную секунду гатовае да кампрамісу».

У самым кароткім з лістоў я заўважыла сутнасць: людзі часам сляпыя і глухія да мастацтва. Яны раней любілі кіно і музыку, цяпер нават не хочуць іх заўважаць. Яны

Гэтая кніга прысвечана мастацтву. Грышкавец кажа, што ён дае адказы на пытанні пра мастацтва, але для мяне гэта былі не адказы, а, наадварот, нешта такое, што яшчэ больш блытае

адчувалі мастацтва СВАІМ. Пасля працавалі, зараблялі грошы, шукалі адказы, былі занятыя. Пачалі стамляцца. І няма больш месца для прыгожага, няма месца для любові да мастацтва. Так прасцей, бо жыццё занадта хуткае — не да эстэцтва.

Але я не ва ўсім згодная з Грышкаўцом. Ён кажа, што сапраўдны мастак можа ствараць толькі ў адзіноце, і ніхто дапамагчы яму не здольны. Не хочацца гэта разумець! І тым больш пагаджацца з гэтым. Чалавеку патрэбен чалавек. Нават самаму адчувальнаму, самай тонкай душы.

«Часам людзі, якія глядзяць кіно, нават не задумваюцца, што яно можа быць вялікім». Мы развучыліся пазнаваць шэдэўры, разглядаць прыгожае, вызначаць высокае. Мы развучыліся жыць у прыгажосці.

Можа, ёсць іншыя светы? Можа, там мы палюбілі б мастацтва ўсім сэрцам? Пачалі б разумець, што людзі, якія ствараюць для нас, ахвяруюць сваім шчасцем? Ім ніхто гэтага шчасця не абяцаў, яны ведаюць, а для іх і шчасце — гэта не вынік, а працэс. Працэс нашага «закохвання» ў мастацтва. Спадзяюся, калісьці мы ўсе будзем такімі шчаслівымі. Вось і Грышкавец цяпер шчаслівы. Ён напісаў да Андрэя. Напісаў так, што гэтыя лісты хочацца чытаць. І хочацца закахацца. У мастацтва, у людзей, у прыгажосць. Назаўсёды.

### МЕДЭЯ, ЁСЦЬ У СВЕЦЕ СТРАШНЫЯ РЭЧЫ

***Так можно любить лицо матери***
***Или тело жены, наизусть***
***С закрыми глазами, навсегда***
***Медея, есть в мире страшные вещи***
***Они говорят, что это и есть***
***красота…***

Ёсць выпадкі, калі спачатку глядзіш фільм, а потым чытаеш кнігу; ёсць выпадкі, калі глядзіш спектакль, а потым чытаеш кнігу, але са мной упершыню здарылася наступнае — спачатку слухаеш песню, а потым чытаеш кнігу. Упершыню пачуўшы «Медэю», я закахалася канчаткова і беззваротна ў гэты вобраз і гэтае імя, у тэкст, некаторыя фразы якога былі словамі Людмілы Уліцкай з яе кнігі «Медэя і яе дзеці».

**Сучаснае мастацтва — гэта што за спалучэнне? Што паказавае яно (не словазлучэнне, а мастацтва)? Грышкавец лічыць, што яно «кожную секунду гатовае да кампрамісу»**

Медэя Мендэс. Імя гучыць як мёд з мятай. Медэя любіла мёд і збірала травы. Медэя — такая бясстрашная, самастойная, працавітая, рухомая, цаніла прыемныя дробязі і не любіла ўмяшання «ў сваё ўнутранае жыццё». У яе не было дзяцей, але ў яе ёсць дзеці. Яе сям'я — гэта ідэал, гэта тое, пра што марыць кожны. Сумесныя сняданкі, вялікі дом дзесьці далёка-далёка ад гарадской мітусні, шмат любові і пяшчоты. Такім было жыццё Медэі.

У свае гады (пра ўзрост жанчыны казаць непрыстойна) яна выглядала «нібы нейкі ненапісаны Гойя партрэт». Яна была цудоўная, гэта заўважалі ўсё. Акрамя прыгожай знешнасці — прыгожая душа. Яе муж, калі яны толькі пазнаёміліся, сказаў ёй: «Я разумею, што вы ў некаторым родзе каралева». Медэя Мендэс, якая заваявала свайго Самошу, скарыла і ўсіх сваіх родных. Іх было так шмат, што з-за страху не змясціцца ў яе крымскім доме, родныя «рэзервавалі» час, у які будуць прыязджаць у госці. Гэта быў той самы выпадак, калі, як кажуць, дом напаўняўся звонкімі галасамі дзяцей, смачнымі пахамі і нейкім асаблівым шчасцем. У жыцці Медэі ўсё было падобна да карункавага ўзору: «адбываліся маленькія цуды, людзі сыходзіліся і разыходзіліся». Іншымі словамі, ёй не было калі сумаваць. А ў вольныя хвіліны яна думала. Думала пра легкадумнасці, якія, здавалася ёй, прыводзілі толькі да дрэннага, але не думала аб тым, што яны могуць стаць крыніцай шчасця альбо не стаць нічым наогул.

Уся яе сям'я, усе яе «дзеці» былі людзьмі выключнымі, неверагодна цікавымі, з неардынарнымі думкамі, са сваімі страхамі і сумневамі, любоўнымі праблемамі і шчасцем.

«Пакуты і бедствы для таго і даюцца, каб пытанне «за што?» ператварылася ў пытанне «для чаго?», і тады заканчваюцца бясплодныя спробы знайсці вінаватага, апраўдаць сябе». У Нікі і Машы, у Аліка і Георгія, у Гвідаса і Алдоны, — у кожнага былі свае пакуты, усе яны шукалі адказы на свае пытанні, хтосьці іх знаходзіў, а хтосьці так і жыў у пошуках.

Любоўны трохкутнік Машы, Нікі і Бутонава — адна з самых цікавых сюжэтных ліній у рамане. І не таму, што такое чытаецца лягчэй, не таму, што рамантыка такая прывабная і пахне вясной, не таму, што тут і думаць не трэба ні над чым. А таму, што сапраўды камусьці суперажываеш, за кагосьці «хварэеш», камусьці жадаеш справядлівасці.

«Валера, калі ты будзеш такім дасціпным, я ў цябе закахаюся смяротна, а гэта небяспечна», — сказала аднойчы Ніка Бутонаву і закахалася-такі ў гэтага сэрцаеда. А бедная Маша (як правіла, менавіта Машы ў кнігах бываюць беднымі) пакутавала ў недасведчанасці і пісала вершы, якія потым зачытвала Бутонаву, не зразумела для чаго, пісала лісты, у якіх бязвыйсцева пыталася: «Хіба нас з табой нічога не звязвае, акрамя абдымкаў да страты свету?»

Мне, як чытачу, шчыра шкада іх усіх, але як рэцэнзенту мне крыўдна за тое, што яны не разумеюць, што робяць, яны не разумеюць, навошта яны гэта робяць і для каго. Правільна тады Медэя заўважыла, што, калі нешта ўтойваюць ад цябе, то гэта відавочна для ўсіх, але не відавочна для цябе. Мы бачым чужыя праблемы, мы бачым чужую хлусню. Але тыя, каму хлусяць і прычыняюць боль, сляпыя.

А Маша і Алік што ж? Замужняя жанчына, закахалася ў Казанову-Бутонава, але не

**Можа, ёсць іншыя светы? Можа, там мы палюбілі б мастацтва ўсім сэрцам? Пачалі б разумець, што людзі, якія ствараюць для нас, ахвяруюць сваім шчасцем?**

**Ёй не было калі сумаваць. А ў вольныя хвіліны яна думала. Думала пра легкадумнасці, якія, здавалася ёй, прыводзілі толькі да дрэннага, але не думала аб тым, што яны могуць стаць крыніцай шчасця альбо не стаць нічым наогул**

захацела губляць і Аліка. Гэта ўсё павінна быць нам знаёма. Людзі хочуць усё пакінуць пры сабе. Ніка ж, наадварот, марыла ад мужа пазбавіцца, дапамагала ва ўсім Бутонаву, але Машы нічога не расказвала. І пасля гэтага кажуць, што ўсе праблемы ад жанчын.

Можна бясконца разбіраць гэтых герояў, гэтыя сюжэтныя лініі, гэтыя характары, гэтыя неверагодна цікавыя гісторыі жыццяў. Але ўсе яны, як ні круці, звязаны з Медэяй. Пад яе крылом яны жывуць, пад яе наглядам робяць учынкі. Для мяне так і не стала зразумела, чаму ж яе клічуць Медэяй. Няма ў яе нічога агульнага з гэтай міфічнай гераіняй. Галоўнае для Медэі Уліцкай — каханне і спакой, мір у сям'і. І тады тут толькі адно тлумачэнне: наша Медэя — гэта люстраны адбітак той жорсткай жанчыны, пра якую нам лепш і не ведаць. Праўда, наша Медэя, як і тая, нічога не баіцца, няхай гэта будзе адзінае, што іх аб'ядноўвае.

Медэя атрымлівала асалоду ад кахання, у якім не было ніякай заганы; Медэя піла гарбату і булён, звараныя для яе мужам; Медэя любіла ўсіх неабсяжнай любоўю, Медэя была для родных гераіняй. Гэта кніга здольна шмат чаму навучыць. У такой колькасці старонак вельмі шмат сэнсу, шмат задач і іх рашэнняў. Гэты раман прасякнуты любоўю і цеплынёй. І словы тут важныя, і ўчынкі, і ўсе заходзяць у сваіх думках занадта далёка, а потым спрабуюць сябе знайсці, і вучацца кахаць у нянавісці. І маўчанне для іх такое ж важнае, як голас, а здольнасць змірыцца з любоўю іншых — пахвальная.

«Медея, есть в мире страшные вещи, они говорят, что это и есть красота». Медэя пачула, Медэя ведае сама, што страшна, а што прыгожа. У яе свая ўлада.

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# ЧЫМ ГЭТАЯ СТУЖКА ПРАНІЗАНА



## АПАНТАНАСЦЬ І АДДАНАСЦЬ

Калі ў цябе верацьтвае бацькі і ты сам, то шанцаў на поспех безліч. Здаецца, нішто не можа цябе спыніць, здаецца, мэта ўжо амаль дасягнута, здаецца, ты ўжо зорка…

Фільм Дэм’ена Шазела «Апантанасць» пра тое, як чалавек, што мае канкрэтную мэту, сваёй апантанасцю можа руйнаваць свет. Стужка была знята і зманціравана ўсяго за 10 тыдняў, але ўжо паспела «скарыць» Оскар, Залаты глобус, Сандэнс і атрымала яшчэ шмат якіх прэмій.

А гісторыя, між іншым, даволі банальная: Эндру з дзяцінства марыў стаць музыкантам, ён больш за ўсё на свеце любіць барабаны. Паступіўшы ў лепшы музычны каледж Амерыкі, ён хоча стаць такім, як вядомыя, вялікія музыкі. Але шанцаў няшмат: каб стаць сапраўды добрым і знакамітым выканаўцам, трэба, каб цябе заўважылі і паверылі твайму таленту. Але Эндру, на жаль, заўсёды на другіх ролях. Ён яшчэ занадта малады. Але раптам на яго звяртае ўвагу легендарная персона каледжа — дырыжор Флэтчэр. Так Эндру трапляе да яго ў аркестр.

Хто з нас не хацеў дасягнуць чагосьці ў жыцці? Хто з нас не хацеў стаць вядомым, багатым, тым, кім можна ганарыцца і з каго можна браць прыклад? У маладосці многія хочуць стаць зоркамі, не важна нават, касманаўтамі ці балерынамі. Але ў многіх гэтыя мары марамі і застаюцца. Жаданне працаваць, каб мара стала мэтай, выключна ў адзінак. І Эндру быў такой адзінкай. У пачатку фільма гэта падаецца мілым, крыху наіўным і пахвальным. Хлопчык хоча славы, хлопчык хоча вядомасці. А галоўнае — хлопчык можа.

З Эндру ўсё зразумела — ён апантаны марай, ён нешта для гэтага робіць, але ўсё ж падаецца, што апантанасць у гэтай стужцы не зводзіцца да аднаго Эндру. Флэтчэр — таксама апантаны, але незразумела чым. Ён шукае лепшых музыкантаў, каб выступіць з імі на фестывалі, але ягоныя таталітарныя метады даволі сумнеўныя. Ён гатовы вытрасаць з музыкаў душу, каб яны дэманстравалі тое, што ён хоча і чаго прагне.

Калі пачатак фільма нагадвае «Славу» Танчароэна, то пасля «Апантанасць» становіцца ўсё больш падобная да «Чорнай

лебедзі» Аранофскі і месцамі нават да «Бёрдмэна» Ін'ярыту. «Апантанасць» — гэта і своеасаблівая школа для творцаў-пачаткоўцаў, і жаданне быць пачутым і ўбачаным, жаданне быць тым, каго любяць і цэняць. А яшчэ — гэта гісторыя пра прагу славы ды належнай павагі.

Акцёр Майлз Тэлер, які выканаў ролю Эндру, граў на барабанах яшчэ да ўдзелу ў гэтай стужцы. Але, безумоўна, ніякіх навыкаў не хопіць, каб СТАЦЬ Эндру. Ён — гэта ідэальная мадэль, ён — гэта нястомны музыка, які будзе іграць нават з крывёю на руках (наконт гэтага моманту пасля прагляду «Апантанасці» спрачаліся прафесійныя музыканты, кажучы, што з такімі траўмамі ледзь не месяц увогуле нельга дакранацца да барабанных палачак).

Не абышлося і без пэўных пралікаў, калі знакамітае «не веру!» спрацавала. Досыць штучнымі падаюцца моманты, калі, перадольваючы боль, Эндру проста імчыцца (нават слова іншага не падабраць) выступаць. Здаецца, для яго няма ніякіх перашкод. У гэтым, відаць, і ёсць апантанасць героя. Калі б Эндру пераймаўся пытаннем, ці трэба ахвяраваць здароўем, жыццём, каханнем дзеля музыкі, то гэта было б звычайным рамяством, а не апантанасцю. Гэта было б цвяроза і апраўдана, занадта трывіяльна. Але Эндру не проста хоча дасягнуць аўтарытэту, ён прагне гэтага любой цаной. На жаль.

Аркестр пад кіраўніцтвам Флэтчэра канцэртуе, Флэтчэр закідвае крэсламі сваіх музыкантаў, яны трываюць, і трываюць, і трываюць, б'юцца за месца на гэтым полі бою. Гэта тое ж самае, каб нехта біўся за тое, каб пайсці на вайну. Музыканты прагнуць славы, здзяйснення дзіцячых мар, Эндру

**У маладосці многія хочуць стаць зоркамі, не важна нават, касманаўтамі ці балерынамі. Але ў многіх гэтыя мары марамі і застаюцца. Жаданне працаваць, каб мара стала мэтай, выключна ў адзінак**

**Калі б Эндру пераймаўся пытаннем, ці трэба ахвяраваць здароўем, жыццём, каханнем дзеля музыкі, то гэта было б звычайным рамяством, а не апантанасцю**

бясконца слухае запісы вядомых барабаншчыкаў і сцірае рукі ў кроў. І для яго няма пытання: а ці яно таго вартае? Няма аб'ектыўнага адказу.

Аператарская праца бездакорная, фільм зняты неверагодна прыгожа. Кожны момант святло падае менавіта туды, куды трэба, бляск музычных інструментаў такі яркі і асляпляльны, як і ў сапраўднасці, кроплі поту бачны на тварах музыкаў дзеля таго, каб мы пачалі ім спачуваць. Акцёры іграюць так, што мы верым іхнім героям. І любім іх. А некаторых ненавідзім… Робіцца страшна, і пачынаеш хвалявацца, суперажываць. Інтрыга трымаецца да самага канца. Няма нават пытанняў наконт таго, чаму менавіта «Апантанасць» атрымала «Оскар», а не якая-небудзь іншая стужка.

Зрэшты, жаданне авалодвае чалавекам цалкам. Што яно можа зрабіць з намі? Што можа зрабіць жаданне з нашымі роднымі і блізкімі? Што нам рабіць з гэтым жаданнем? Калі вам падабаецца музыка і прыгожае кіно, то «Апантанасць» — гэта адказ.

### НЕЗЯМНОЕ КАХАННЕ

На небе няма праблем. Іх там няма. Адкуль там узяцца праблемам, калі яны ўсе толькі на зямлі? Трэба толькі ўявіць: неба, самалёт, лёгкасць, невыносная лёгкасць. Хоць дзесьці мы павінны адпачываць. Хай гэта будзе неба. Чыстае і мяккае, з аблокамі, якія рэжуць сваімі крыламі самалёты. Фільм Веры Сторажавай «Неба. Самалёт. Дзяўчына» зусім не пра неба, хаця і пра яго, зусім не пра самалёт, але і ён тут будзе. Гэта кіно пра жанчыну і яе рашэнні. Рэмэйк знакамітай карціны 1968 года «Яшчэ раз пра любоў», гэтая стужка 2002 года яшчэ здольная ўражваць нават больш, чым тое,

## На небе няма праблем. Іх там няма. Адкуль там узяцца праблемам, калі яны ўсе толькі на зямлі? Трэба толькі ўявіць: неба, самалёт, лёгкасць, невыносная лёгкасць

што здымаюць цяпер. А чым гэта кіно можа здзівіць?

Па-першае, неверагодная Рэната Літвінава. Колькі стужак з ёй знята, колькі сцэнарыяў ёй напісана, колькі гераінь ёй сыграна, — але яна ўсюды аднолькава розная або па-рознаму аднолькавая. Яе голас, інтанацыя, яе твар, рухі, — усё гэта мы бачылі дзясяткі разоў, але гэта жанчына прыцягвае ўвагу і позіркі гледачоў. У гэтай стужцы яна выканала галоўную ролю сцюардэсы Лары, якая, як і ўсе жанчыны, хоча простага шчасця.

Па-другое, мужчыны. У гэтым фільме яны ўсе (Дзмітрый Арлоў, Яраслаў Бойка, Міхаіл Яфрэмаў, Канстанцін Мурзенка) прыгожыя, разумныя і інтрыгуючыя. Кожны з акцёраў не столькі іграў, колькі жыў сваёй роляй. Не магу нават падумаць пра тое, што ўсе яны не Георгій, у якога закахаецца Лара, не Максім, які можа заўсёды выратаваць, не рамантык-Лёша і не бармэн Ваня, які прынясе гарачую гарбату.

Па-трэцяе, здымкі. Нягледзячы на тое, што фільм зняты адносна даўно (усё ж такі ў 2002 не было такіх тэхнічных магчымасцей, як цяпер), ён зняты прыгожа. Так прыгожа, як гэта толькі было магчыма. Гэтыя пустыя залы аэрапортаў, гэтыя кафэ, у якія не хочацца заходзіць, гэтыя цёмныя будыніны і няўтульныя кватэры, у якіх не хочацца спаць.

Па-чацвёртае, каханне. Банальная тэма, але такая надзённая, такая салодкая, такая пяшчотная. Тут каханне можна разглядзець не з аднаго, не з двух, а, можа, з трох ці чатырох бакоў. Гэта і Лара, і Георгій, і Алёша, і мілая Мышка. Шчаслівы — нешчаслівы, каханы — некаханы, добры — нядобры. Героі самі на працягу фільма дзеляць сябе на лагеры.

Можна знайсці яшчэ шмат момантаў, якія заахвочваюць. Але трэба пагаварыць пра тое, чым гэтая стужка пранізана. Каханне. Яно ў паветры, яно на небе, яно ў самалёце, яно ў дзяўчыне.

Знаёмая сітуацыя: прыгожая жанчына, якая выбірае аднаго з кавалераў. І гэта, канешне, не будзе той, хто дзеля яе горы пераверне, гэта будзе той, хто яе не кахае. Такая тонкая мяжа — якое слова выбраць: ён яе не ЛЮБІЦЬ ці ён яе не КАХАЕ? Магчымыя дзве версіі.

Лару любіць Лёша. Лёша прыгожы, разумны, Лёша лётчык. «Ідэальны мужчына» — падумае жанчына, і, хутчэй за ўсё, пройдзе міма. А Лёша скажа:

— Я ад цябе ўжо ўвесь амаль у слабых месцах. Нам з табой не трэба размаўляць па вечарах. На самай справе я хачу цябе пацалаваць. Як «добрай ночы». На развітанне. Баішся? Усё-ткі я ніколі не знайду такую, як ты.

Ён з тых мужчын, хто сапраўды цалаваў бы нанач, хто б прыносіў цёплае малако, калі б жанчына захварэла, хто б падарыў ёй увесь свет, але гэты свет ёй непатрэбны.

Ёсць яшчэ Максім. Такі ж прыгожы, такі ж разумны. Толькі не лётчык. Але ж гэта не перашкаджае быць добрым? «А навошта мне добры?» — падумае жанчына і пойдзе далей. А Максім застанецца, так і не атрымаўшы адказ на пытанне: «Растлумач мне, як яны ўзлятаюць, гэтыя вашыя самалёты?»

Застаецца Георгій. Адзінокі, недасяжны, знакаміты. Ён уступае двум папярэднім толькі тым, што не здольны пакахаць (так мне падалося, але ж нельга паверыць на слова). Ён проста бярэ Лару ў палон сваёй халоднай недакранальнасцю. І Лара гэта разумее. Яна разумее, што ён ёй не падыходзіць (але ці магчыма гэта зразумець? Кажуць жа, каханне сляпое):

— Я яго абавязкова кіну. Ён не кахае мяне. У мяне проста зараз вельмі дрэнна з вытрымкай. У мяне ніякага гонару няма. Але я яго абавязкова кіну.

Так Лара ўвесь фільм і думае, каго ёй любіць, каго ёй не любіць, каго ёй кахаць, каго ёй не кахаць. Яна да немагчымасці наіўная, рамантычная. Ёй трэба спытаць тры разы, каб пераканацца, што яе сапраўды кахаюць. І трэба, каб хоць адзін, хоць хтосьці сказаў: «Толькі не кахай нікога, акрамя мяне, калі ласка, інакш я памру».

# ПЛАНЕТА ТДЖ

Рэспубліканская выстава «Маштаб 1:25» з поспехам прайшла ў Палацы мастацтваў гэтай вясной. Экспанавалі на ёй свае працы мастакі тэатра і кіно, творцы ТДЖ — тэатральна-дэкарацыйнага жывапісу. Падобныя выставы — значныя падзеі ў мастацкім жыцці краіны. Невялікія — «Вынікі сезона» ў Музеі гісторыі беларускага музычнага і тэатральнага мастацтва бываюць перыядычна, а вось маштабная, такая, як гэтым разам, была больш чым дзесяць гадоў таму! Экспанаваліся на выставе макеты сцэнаграфічных рашэнняў да спектакляў і кіно, эскізы касцюмаў. Наведвальнікам пашчасціла пабачыць лепшыя мініўвасабленні спектакляў Беларусі, выкананых у маштабе 1:25: «Сны аб Беларусі», «Пан міністр» (сцэнограф Віктар Цімафееў), «Пане Каханку» (сцэнограф Алеся Сарокіна), «Тэатр Уршулі Радзівіл» (сцэнограф Вольга Мацкевіч), а таксама цудоўныя дыпломныя працы «Майстр і Маргарыта» (сцэнограф Вольга Шчарбінская), «Аліса ў Краіне цудаў» (сцэнограф Аляксандр Балдакоў) і шмат іншых.



*Макет да спектакля па п’есе «Запіскі афіцэра Чырвонай арміі» С. Пясецкага. Мастак Кацярына Шымановіч.*

Сярод спецыялістаў-тэатралаў сёння надзвычай актуальныя спрэчкі пра тое, ці патрэбна наогул сцэнаграфія сучаснаму тэатру. На думку адных, галоўнае ў тэатры — якасны драматургічны матэрыял ды ігра акцёраў. На думку іншых — граматнае сцэнаграфічнае рашэнне спектакля дапамагае раскрыць і данесці ідэю спектакля да гледача.

Што ж, спрэчкі — неад’емная частка творчага працэсу, пошукаў новых шляхоў. І выстава «Маштаб 1:25» сталася падставай расказаць аб прафесіі мастака-сцэнографа, а заадно даць магчымасць выказаць свой погляд на сцэнаграфію і мастакам, якія працуюць у прафесіі, і спецыялістам, якія займаюцца тэатрам.

А яшчэ, падаецца, датыкнуцца да азначанай тэмы — шанец кожнаму трапіць у іншае вымярэнне, бо ТДЖ — асобная планета нават у мастацкім свеце. На гэтую спецыяльнасць Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў набірае раз на шэсць гадоў курс усяго з 6-8 чалавек. Сцэнограф — чалавек нібы з Залюстроўя: застаючыся на другім плане, ён, тым не менш, стварае атмасферу спектакля. І перш, чым будуць прамоўлены словы на сцэне, захопіць дзеянне — гледачу даецца візуальная візітка спектакля, створаная мастаком.



***Барыс ГЕРЛАВАН, народны мастак Беларусі, галоўны мастак Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, прафесар.***

***Алеся САРОКІНА, старшыня секцыі мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання, Саюза беларускіх мастакоў, галоўны мастак Рускага драматычнага тэатра імя Горкага, куратар выставы.***



— Сцэнограф — прафесія рэдкая і складаная. Акрамя мастацкага таленту, сцэнографу трэба мець канструктарскае і прасторавае мысленне, тэхнічную граматнасць, уменне працаваць з людзьмі і кіраваць вытворчым працэсам, разумець, як і чым жыве тэатр. Да таго ж сцэнограф — асоба ўсебакова развітая і адукаваная. Трэба шмат чытаць, ведаць гісторыю, бо пастаноўка спектакля вымагае пагружэння ў эпоху, у якой адбывалася дзеянне. Што хацеў сказаць драматург, як бачыць пастаноўку рэжысёр і што ты, мастак, чалавек XXI стагоддзя, хочаш праз сцэнаграфію данесці свету?.. Па-асабліваму цёпла праяўляецца сцэнограф у нацыянальнай драматургіі. Таму ведаць сваю культуру, літаратуру мастак проста абавязаны! Вось пералік задач, далёка не поўны, які стаіць перад сучаснымі сцэнографамі!

Сцэнаграфія — прафесія для моцных духам людзей. А каб маральны дух мацаваўся, творчы настрой быў на вышыні, мастаку патрэбна і ўвага, і падтрымка. Час імклівы, хуткаплынны, людзі так закручаны ў сваіх справах, у працоўных праблемах, што часу на стасункі нестае… Марыцца, каб пры Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы быў створаны цэнтр, які аб'яднае мастакоў-сцэнографаў і прадстаўнікоў іншых тэатральных прафесій Беларусі. Неабходна перыядычна сустракацца, ладзіць дыялог з грамадскасцю, абмяркоўваць прафесійныя праблемы, пастаноўкі, выставы… Такі цэнтр — «Эксперыментальная сцэнічная лабараторыя МХАТ імя Горкага» раней існаваў у Маскве. На маю думку, гэта той выпадак, калі практыку і досвед суседзяў трэба пераймаць!

— Выставу «Маштаб 1:25» мы фарміравалі так, каб паказаць найлепшыя здабыткі сучасных мастакоў тэатра, кіно і мультыплікацыі. Гэта дае магчымасць прасачыць працэс развіцця сцэнаграфіі ў Беларусі, убачыць, як захоўваюцца і развіваюцца традыцыі, што з'явілася новага. На мой погляд, задума ўдалася: годна прадстаўлены нашы вядомыя сцэнографы старэйшага пакалення Уладзімір Чарнышоў, Віктар Цімафееў, Веніямін Маршак, мастак кіно Ніна Гурло, мультыплікатар Дзмітрый Сурыновіч… Пераймаючы іх грунтоўнасць, якасць выканання, моладзь робіць крок насустрач новым тэхналогіям, выкарыстоўвае іх у сваіх працах і — пашырае палітру выяўленчых сродкаў. Але не здраджвае традыцыям, стаўкі на якія заўжды будуць бяспройгрышныя: майстэрства!

У Беларусі адметная школа сцэнаграфіі створана Барысам Герлаванам. На выставе экспануюцца работы шасці пакаленняў сцэнографаў, выхаваных майстрам: Любоў Сядзельнікава, Дар'я Волкава, Андрэй Меранкоў, Валянціна Праўдзіна, Марына Шуста, Вольга Мацкевіч, Ігар Анісенка, Вольга Шчарбінская, Аляксандр Балдакоў, Святлана Кавалеўская, Мікіта Шэршнеў… На выставе экспанаваліся работы мастака кіно Паўла Шапо, мультыплікатара Таццяны Кубліцкай, мастака тэатра лялек Людмілы Скітовіч. Усе названыя творцы аддана працуюць у прафесіі.

Адметнасць беларускай школы сцэнаграфіі грунтуецца на праяўленні індывідуальнасці мастака і якасным выкананнні сваёй працы! Як ні дзіўна, здавалася б, гучыць — у сучасным свеце пералічаныя складнікі сталі

не абавязковымі! Асабліва гэта датычыцца мастакоў кіно, калі праца ў серыялах вымагае ад іх не індывідуальнасці, не мастацкага бачання сцэн, а хуткага запаўнення кадра рэквізітам з крамы. Вынік спешных кіназдымкаў — нізкапробная прадукцыя. У такіх «творах» мастак са сваім індывідуальным бачаннем свету — асоба, якая толькі замінае працэсу!

Згадваецца паездка беларускіх сцэнографаў у 2007 годзе на Пражскае квадрыянале тэатральнага мастацтва — наш стэнд натоўпы збіраў! Сярод пераважнага мастацтва перформенсу, якім была насычана выставачная пляцоўка квадрыянале, беларускі стэнд выглядаў адметна, пазітыўна, аптымістычна, бо менавіта работы нашых мастакоў-сцэнографаў дэманстравалі прафесію!



***Валянціна ПРАЎДЗІНА, мастак-сцэнограф.***

— Сцэнаграфія шчыльна звязана з рэжысёрскай задумай і з'яўляецца адным з самых выразных сродкаў увасаблення ідэйнай канцэпцыі спектакля. Вельмі часта менавіта сцэнаграфія вырашае сэнсавую і эстэтычную адметнасць тэатральнай пастаноўкі.

Галоўная задача мастака — знайсці новую выразную канцэпцыю п'есы, якая дапаможа раскрыць яе сэнс, стварыць пэўную атмасферу, паглыбіць успрыманне думкі спектакля. Таму сцэнограф — мастак асаблівы. Ён здольны ўявіць і ўвасобіць у жыццё неверагодныя сусветы, яму падуладна стварыць на сцэне тую магічную прастору, што існуе па-за рамкамі рэчаіснасці і падпарадкоўваецца іншым, нязвыклым для будзёнага жыцця, правілам і законам. Ужо даўно сышлі тыя часы, калі дэкарацыя выступала ў ролі прыгожай і падрабязнай ілюстрацыі да месца дзеяння, абумоўленага п'есай. Цяпер сцэнограф — заўжды суаўтар. Гэта той чалавек, які дапамагае рэжысёру авалодаць сцэнічнай прасторай, надаць асаблівае гучанне матэрыялу, выявіць і падкрэсліць галоўную сутнасць спектакля. Цяпер кожнае сцэнаграфічнае вырашэнне павінна імкнуцца да «пражывання» свайго часу, абумоўленага спектаклем, і знаходзіцца ў працэсе свайго паступовага развіцця.

Сам па сабе падыход «прыгожай абгорткі» мае мала дачынення да сучаснай сцэнаграфіі. Трэба разумець, што калі над відавочна кепскім матэрыялам будзе працаваць неблагі мастак, то вынік гэткай працы ўсе адно не будзе суцяшальным. «Прыгожая» дэкарацыя ніколі не здолее «схаваць пад грымам» недахопы, яна будзе толькі яшчэ выразней падкрэсліваць іх сваёй недарэчнай прысутнасцю… Я ўдзячна лёсу за тое, што мне давялося працаваць з прафесійнымі і цікавымі рэжысёрамі. Ніколі мы не абмяркоўвалі асобна «дэкарацыі» — як самастойнае ўпрыгожванне альбо як дзівосны дадатак. Заўсёды ў нашай працы на першым месцы было выяўленне сутнасці спектакля, таго, што мы хочам сказаць нашым творам.

Я шчыра пераканана ў тым, што «прыгажосць» на сцэне — далёка не галоўны фактар добрай працы сцэнографа. Часам — наадварот. Так, мастак павінен падпарадкоўваць сцэнічную прастору законам кампазіцыі, ён павінен валодаць тымі прафесійнымі якасцямі, што дазваляюць яму стварыць выразную і эстэтычную сцэнаграфію як твор мастацтва. Аднак тэатр — магічная прастора. Яна апелюе, у першую чаргу, да пачуццяў сучаснага грамадства. Таму раскрыццё ідэйнага сэнсу і дакладнае вобразнае вырашэнне ў сугучнасці з мастацкай выразнасцю з'яўляюцца тымі адмысловымі рысамі, што адрозніваюць сапраўдную сцэнаграфію ад прыгожай дызайнерскай абгорткі.

Каб якасна ўвасобіць на сцэне свае думкі, дакладна распрацаваныя праз эскізы і макет, мастак-сцэнограф павінен валодаць якасцямі і адметнымі рысамі цэлага шэрагу прафесій. Жывапісец, графік, архітэктар, канструктар, тэхнолаг і нават псіхолаг — усё гэта ў пэўнай ступені адпавядае сцэнографу як практыку сваёй справы.

За прозвішчам мастака ў афішы заўсёды стаіць мноства людзей. Яму дапамагае складаная тэатральна-вытворчая сістэма. Мастакі па святле, грымёры, бутафоры, касцюмеры, манціроўшчыкі і яшчэ шмат іншых прафесіяналаў укладаюць сваю працу ў стварэнне спектакля. Аднак менавіта мастак-пастаноўшчык з'яўляецца агульным ідэйным кіраўніком усяго мастацка-вытворчага працэсу. Ён кантралюе кожны этап, накіроўвае і выпраўляе асобныя дэталі, каб потым, быццам мазаіку, сабраць на сцэне па маленькіх кавалачках увесь складаны магічны ўзор.

Кожны спектакль — гэта вынік жыцця асаблівага творчага працэсу. Ён народжаны дзякуючы сінтэзу мастацкіх поглядаў розных асоб. Кожны спектакль — гэта Жыццё. Трэба імкнуцца, каб жыццё гэта мела сэнс і адпавядала пэўнаму мастацка-прафесійнаму ўзроўню, каб яно было запатрабаваным.



***Анатоль ТРАФІМЧЫК, кандыдат гістарычных і філалагічных навук, даследчык дзіцячай драматургіі.***

— Сцэнаграфія ў любым тэатры займае месца не першае, але прынцыпова важнае. Зразумела, спачатку было слова — п'еса. Затым — яе рэалізацыя на сцэне, дзе рэжысура і акцёрская ігра выходзяць, прабачце за таўталагічны каламбур, на авансцэну. Канешне, тут не абысціся без адэкватнай абстаноўкі. Гэта як у футболе, калі балельшчыкі становяцца 12-м іграком. Так і добрая сцэнаграфія ўзмацняе спектакль. Але ж і перабор — калі дэкарацыі ўвагу гледачоў перацягваюць на сябе — будзе глядзецца перакосам. Усё павінна гарманіраваць. Калі прадоўжыць параўнанне з футболам, дык у ім добры суддзя — непрыкметны, незаўважны, ён клапоціцца пра гульню. Дый пры самым добрым сцэнічным і касцюмерным афармленні не «выцягнуць» твор тэатральнага мастацтва, калі не будзе стрыжня — мастацтва акцёрскага. Думаецца, любы спектакль драматычнага тэатра — гэта фрагмент жыцця. У ім дэкарацыі не заўсёды адпавядаюць сітуацыі. Затое ў жыцці не бывае сітуацый нежыццёвых (бо жыццё ж)! Да таго ж сцэнаграфія пры параўнанні з акцёрскай ігрой валодае большай ступенню сімвалізацыі. Гэта значыць, што той ці іншы прадмет можа замяніць рэчаіснасць праз яе абазначэнне. А пачуцці словамі ці рухамі, прызначанымі толькі для намінальнай наяўнасці, тэхнічна перадаць можна, але хто паверыць?

Трэба сказаць, што розныя жанры будуць патрабаваць і розных падыходаў да абсталявання сцэны. Думаецца, могуць быць і адмысловыя акцэнты менавіта на сцэнаграфіі, калі, да прыкладу, твор будзе з прэтэнзіяй на мадэрністычнасць, авангарднасць. Яшчэ больш тонка і складана, я лічу, аформіць сцэну ў спектаклях для дзяцей. Тут стаіць задача данесці да рэцыпіента твор, пабудаваны ў многім на ўмоўнасцях. З аднаго боку, нельга «перабаршчыць», з іншага — збаналізаваць фон дзейства. Але зноўтакі — дзеці скіроўваюць увагу на герояў, і калі іх паводзіны будуць у мастацкім плане «кульгаць», то гледачы не павераць.



***Марына ШУСТА, галоўны мастак Новага драматычнага тэатра.***

— Я не толькі як мастак, але і як маці хачу сказаць асобна пра важнасць вобразаў, створаных для дзіцячых спектакляў. Працаваць над імі няпроста, але вельмі цікава. Перш за ўсё таму, што ў гэтым выпадку погляд на свет спектакля павінен быць іншым, бо маленькі глядач сам — іншы. І зацікавіць яго, і данесці думку, ідэю бывае куды складаней, бо раз-

мова з дзецьмі вымагае прастаты. Як маці, я разумею, што матэрыял, які не нясе ў сабе зерне святла, не павінен наогул да дзяцей даходзіць. Дзеці ўбіраюць у сябе ўсё, што ім прапануецца, — і добрае, і кепскае. Я думаю, што галоўнае — гэта напоўніць дзяцей святлом! Астатняе яны самі возьмуць, але месца ў душы ўжо будзе занята добрымі развагамі. Асабіста я адмаўляюся ад прапаноў паставіць што-небудзь абы паставіць, калі матэрыял нясе негатыў. Дзеці занадта каштоўны дар, каб над імі праводзіць эксперыменты. Вельмі нестае добрых п'ес для дзяцей, а таксама рэжысёраў, якія могуць паставіць дзіцячы спектакль. Гэта асаблівы дар — ствараць для маленькіх гледачоў, ім валодаюць адзінкі. Бывае, трапіш на школьны спектакль, які самі дзеці ставяць, і так цудоўна ў іх усё атрымліваецца — і без дэкарацый, і са сціплымі касцюмамі… А бывае, у вялікім прыгожым тэатры адчуваеш пустату… Наша сям'я любіць сталічны тэатр лялек — ім удаецца глядзець на свет праз прызму дзіцячага ўспрыняцця і дарыць маленькім гледачам часцінку дабрыні і прыгажосці.



***Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ, тэатральны крытык.***

— Сучасны тэатральны працэс дазваляе мастаку праявіць сябе ў розных якасцях: ад чалавека, які толькі «абслугоўвае» задуму рэжысёра, да пераўтварэння ў гэтага самага рэжысёра. Узгадаем, да прыкладу, тэатр мастака, дзе спектакль ствараецца па законах выяўленчага мастацтва, і такіх яго яркіх прадстаўнікоў, як італьянец Рамэа Кастэлучы і расіянін Дзмітрый Крымаў. Абодва — найперш мастакі, аднак з часам сталі стваральнікамі спектакляў. Выбар сваёй «сцэнаграфічнай» ролі ў тэатральным свеце, на маю думку, сёння залежыць толькі ад перыпітый лёсу ды асабістых мастацкіх перакананняў.

Што датычыцца непасрэдна тэндэнцый сучаснай сцэнаграфіі, то тут для мастака адкрываецца безліч шляхоў для вырашэння прасторы. Гэта можа быць і стварэнне візуальнага тэатра (у самых розных праявах: ад візіянерскага тэатра да тэатра аб'екта). І выкарыстанне рэдзі-мэйда (гатовых рэчаў: мэблі, прадметаў інтэр'еру і г.д.). І выхад у нетэатральную прастору (напрыклад, пастаноўка ў будынку закінутага завода).

Тэндэнцыя, якая падаецца асабіста мне найбольш цікавай, — абмежаванне візуальнага складніка для гледача. Гэта адзін з прынцыпаў працы расійскага тэатральнага мастака КсенііПератрухінай. Так, у спектаклі па п'есе беларускага драматурга Паўла Пражко, які рэжысёр Дзмітрый Валкастрэлаў паставіў у маскоўскім Тэатры Нацый,Ператрухіна рассадзіла гледачоў па трох палатках. Пераходзіць падчас спектакля з адной у другую было нельга, выходзіць са сваёй палаткі таксама. І гледачам заставалася толькі здагадвацца пра тое, што адбываецца за межамі іх «залы», калі яе пакідалі акцёры, што перамяшчаліся паміж трыма «сцэнамі». Яшчэ адзін праграмны спектакль КсенііПератрухінай — «Казка пра тое, што мы можам, а што не» ў МХТ імя А.П. Чэхава паводле прозы Пятра Луцыка і Аляксея Самарадава ў апрацоўцы Міхаіла Дурнянкова (рэжысёр Марат Гацалаў). Мастак падзяляе сцэнічную прастору на чатыры часткі, па якіх, нібыта па аддзяленні міліцыі перамяшчаюцца акцёры. Аднак гледачы, заняўшы месца ў адной з частак, не маюць магчымасці яго змяніць, а значыць, пабачыць дзеянне цалкам. Пра тое, што адбываецца за сценкай з героем, якога яны толькі што бачылі, гледачам застаецца здагадвацца па гуках і шолахах. Так значная частка дзеяння паўстае не ў сцэнічнай прасторы, а ва ўяўленні гледача. І гэта прынцыповая пазіцыя мастака ў свеце, які перанасычаны візуальнай інфармацыяй. Папулярнасць сцэнаграфіі ў галаве, дый увогуле тэатра ў галаве пацвярджае і любоў сучаснага гледача да сцэнічных чытанняў п'есы, на якіх звычайна акцёры выходзяць на сцэну і чытаюць тэкст, а астатняе трэба ўявіць і дадумаць.

***Падрыхтавала Алена МАСЛА***

***Дадатковыя ілюстрацыі прадстаўлены на 2-й і 3-й старонках вокладкі***

# ЭКСПРЭСІЎНЫ МІНІМАЛІЗМ

Праект «Белае чорнае» наш выдатны мастак, дызайнер Руслан Найдзен і ягоныя студэнты з кафедры графічнага дызайну Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, якая рыхтуецца адзначыць 70-годдзе, прэзентавалі ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Студэнты Інстытута журналістыкі БДУ прапануюць творы, якія нарадзіліся ў іх пасля сустрэчы з плакатамі. Яны, як і маладыя дызайнеры-плакатысты, вельмі востра адчуваюць час і прагнуць зрабіць яго больш прыдатным для жыцця. Шчаслівага жыцця. Для гэтага не трэба шмат слоў. Дастаткова двух колераў, якія здольны хаваць у сабе бездань пачуццяў. Людзі XXI стагоддзя лягчэй успрымаюць не вербальную, а візуальную інфармацыю, скіраваную наўпрост да душы. А літаратура, журналістыка, мастацтвазнаўства маюць магчымасць пашыраць асацыятыўнае кола кожнага. Чым больш вольна мы навучымся асацыіраваць, тым цікавей нам будзе жыць…

Мяркуйце самі. Плакат Яны Герасімовіч «Не спатыкніся!» быў падрыхтаваны да конкурсу плакатаў па барацьбе са СНІДам. Ён мусіў папярэджваць: вучыся разбірацца ў тых, хто побач! Але ж мы ўсе жывыя людзі. І вакол нас няма адназначнасці… Нават мінімалістычныя плакаты, якія мусілі б прамаўляць наўпрост, нараджаюць самыя нечаканыя асацыяцыі і экспрэсіі. А пра што вы задумаліся, што адчулі, калі ўбачылі гэтыя плакаты?

### ВЫКЛЮЧАЛЬНІК НАВЯДЗЕ ПАРАДАК

Цемра нагадвае чорную посцілку. Яна грузам кладзецца на прастору і запаўняе сабою пакой. Часам нават здаецца, што квадратныя метры ўмірг заліла вада. Вочы бяссільныя ўбачыць што-небудзь, а дыхаць робіцца ўсё цяжэй…

Такія пачуцці выклікае гэта праца. Плакат чорна-белы, на светлым баку бачу выключальнік асвятлення, а на цёмным — нічога. Толькі шчыльную цемру. Можа быць, гэта «да» і «пасля»?




*Плакат Яны Герасімовіч «Не спатыкніся!»*

Сапраўды, клавішы не ў аднолькавым становішчы, з левага боку ўключана. Таму і светла. Шчоўкні я ёю — і будзе тое ж самае, што на правым баку плаката. Стане цёмна.

Атрымліваецца, што цэнтральны аб'ект, паказаны на гэтай рабоце, — звычайны выключальнік, які можна ўбачыць, бадай, у кожным доме. І гэты пластмасавы квадрат на сцяне ў цёмную пару сутак выконвае ролю «праваднiка» са свету цемры ў свет фарбаў і святла. Адзіны націск змяняе рэчаіснасць, пераўтварае памяшканне.

А калі зірнуць на аб'ект мастацтва з іншага боку… Надпісы пад «тумблерам» падштурхоўваюць да яшчэ адной думкі. «Маша + Паша» — гэта новая сэнсавая зачэпка.

Чорны і белы — дзве колеравыя супрацьлегласці. Уключана і выключана — гэтаксама абсалютна, як «+» і «-». Маша і Паша, пэўна ж, закаханыя адно ў аднаго. Яны — пара. Мы ведаем, што супрацьлегласці прыцягваюцца. Людзі з рознымі тыпамі псіхалогіі і рознымі норавамі вельмі часта ствараюць моцныя сем'і.

Невыпадкова пад выключальнікам напісаны гэтыя імёны. Клавішы выключальніка вырашаюць у гэтым творы ўсё. Яны задаюць агульную праграму. Як, напрыклад, ключ запальвання аўтамабіля. Павернеш яго напаўабароту — рухавік завядзецца, засвецяцца лямпачкі на прыборнай панэлі. Сістэма ажыве. Вернеш ключ у зыходнае становішча — і зараз жа ў салоне зробіцца ціха і цёмна…

***Ігар МАТЭЛЕНАК***

**СКАРБ**

*Плакат Наталлі Гаеўскай «У асяроддзі чалавека, які скончыў жыццё самагубствам, застаецца як мінімум 6 чалавек, для якіх яго смерць становіцца душэўнай траўмай».*

Крыжам на мапе адмыслова перапляценых чалавечых шляхоў адзначана месца пахавання скарбу.

Ён стаміўся ісці.

Ногі намулялі красоўкі, крутыя, з неверагоднай паласатай падэшвай, на якія Трэй пазычыў яму апошнія свае «падземныя» капейкі, заробленыя ім і ягоным сітарам у пераходзе разам з крэўнымі музычнымі братамі Трэя. Ён сказаў: «Ты можаш быць распранутым, у тваім страўніку можа гуляць вецер, але нават валацуга мае на нагах надзейны абутак, які яго носіць па свеце». Ён часта ненаўмысна выказваўся вершамі. І лёгка аддаваў патэнцыйныя харчы на тыдзень чарговаму фрыку, не знаёмаму і не сябру, проста выпадковаму спадарожнаму.

Спынілі сваё ваганне стрэлкі на старым вайсковым компасе, які дапамагаў дзедуразведчыку знаходзіць бяспечныя пуцявіны да варожага браняванага сэрца. Як мог ён размагніціцца цяпер? Даведаўся б бацька… «Гэта ўсяго толькі рэч. Яна вяла майго бацьку ў пекле. І прывяла жывым да маёй маці, да мяне, да цябе…» Так ён прамовіў і, ужо не гледзячы на сына, паклаў яму ў руку цёплую, нагрэтую далонню, квадратную скрыначку. Зараз проста скрыначку ў яго кішэні.

Зусім смешна, што ў той жа кішэні ў яго валяецца пакамечаны кавалак кардону з нейкім лабастым барадатым мужыком. Ён адышоў ад дому даволі далёка, калі яго дагнала маці, таропка сунула кардонны прамавугольнічак. «Вазьмі… Святы Мікалай абароніць цябе. Мне… так будзе спакайней. Ну, вазьмі, што, цяжка табе? Хай будзе. Хай будзе». І ён узяў, бо як жа інакш, калі яна просіць, калі наіўна верыць, што так з ім нічога не здарыцца? Як ён мог адмовіцца? Як мог сказаць, што больш не верыць ні ў што?

Калі выцягваў з кішэні Святога Мікалая, адтуль разам з цыгарэтай і запальнічкай вываліліся тры цукеркі-карамелькі ў вясёлкава ззяючых абгортках. Нават рознах смакаў. Лепшае з Лёшыкавых салодкіх запасаў. Вось шустры малы! Як толькі паспеў напхаць, ды так, што ён дагэтуль не заўважыў братавага шчодрага падарунка? «Лацік, лацік, не дзі, не дзі. А гуляцца? Ці абяцаў!» Дарма, Лёшык, ты ўпрошваў і румзаў. Ведаеш, любы мурзаты, не сталей. Каб не зразумеў лішняга, не пакінуў самотную маці і не пайшоў, як старэйшы, у страшнае невядомае.

Але ён хутка стаміўся. Рука ледзь паднімаецца, запясцем ён дрыготка выцірае-размазвае светлую палоску поту на ілбе з бруднай пячаткай пройдзенага шляху. Падносіць запясце да вачэй, разглядвае напульснік са складаным жоўта-чырвоным арнаментам і

вывязанным надпісам-заклікам: «GO ON!» «Скажы, табе падабаецца? Думала, з глузду з’еду, пакуль скончу. З такім матыватарам на руцэ ты не маеш права здавацца, зразумеў?» Ён зразумеў цябе, яго рок-н-рол куін, але не трэба прасіць немагчымага ад чалавека, які так далёка, што наўрад ці пачуе каго з вас, прывідаў мінулага.

Так, вы таксама прывід, дарагі настаўнік. Гэтая недарэчная, напаўспарахнелая мапа, якую вы выцягнулі са стосу такіх жа самых і ўручылі, нібы нейкую святыню, чарговаму вучню з невырашальнымі пытаннямі ў галаве, яшчэ не сведчанне вашага сапраўднага існавання, але сведчанне вашых найлепшых спадзяванняў. На тое, што гэты, з яснымі вачыма, нарэшце расшыфруе таемныя знакі і малюнкі, здолее ўбачыць за старой схемай уласная арыенціры, на тое, што ў гэтага хопіць энергіі ісці дастаткова доўга, каб знайсці скарб.

І ён знайшоў. Тое месца, дзе яго збілі, пазначана на асфальце асляпляльна белым крыжам. Дзесьці за паваротам мінулага засталіся шэсць палосак бяспечнай «зебры». Бацька і Маці, Лёшык і Каралева, Трэй і Настаўнік.

Але яго шлях быў завершаны.

***Паліна ПІТКЕВІЧ***

## БЕЛАЯ ПТУШКА З ІДЭЯЙ

*Плакаты Фёдара Шурмялёва «Калектыў топіць індывідуальнасць...» і Святланы Дзянісавай «Калі ўсе думаюць аднолькава, не думае ніхто...»*

Запісы ў дзённіку Агаты







Іншы раз мы забываемся пра сябе, сваю індывідуальнасць. Мы губляемся ў масе ідэй, але, на жаль, не сваіх... Мы быццам баімся паказацца, выйсці са свайго крыштальнага панцыра. Робіцца смешна ад таго, што клапоцімся пра твар, фігуру, каб выглядаць прыстойна, а, насамрэч, баімся паказацца людзям. Раскрыцца. Таму надзяваем розныя маскі-абліччы. Маскі характары. Маскі прыгажосці. Маскі нашых ідэалаў.

Некаторыя любяць падстройвацца, як прыстаўкі да ўжо вядомых слоў (каб за «сваіх» прынялі). І вось гэтыя «іншыя» (іх заўсёды больш) топяць індывідуальнасць, топяць тое добрае і таленавітае, што не раскрыта… Альбо ідэю, альбо мару. Мы (творчыя людзі) жадаем вылучыцца, штосьці данесці іншым. Жадаем, каб нас пачулі, прачыталі, а галоўнае — зразумелі... Баімся быць «белымі птушкамі», але жадаем... Дзесьці ўсярэдзіне, далёка-далёка, але, на самай справе, шлях да гэтага жадання самі не ведаем.

## ПТУШКА Ў БЕЛЫМ ПАЛІТО

— Я жадаю змяніцца!

— Хто табе перашкаджае?

— Ніхто... Але баюся быць незразумелай.

* * *

Па адзенні сустракаюць... Але гэтае адзенне, каляровая гама, розныя шалікі складаюць твой вобраз. Ён — частка тваёй індывідуальнасці. Дэталі складаюць цэлас-

ны вобраз, а ён дапаўняе ўнутраны стан. Ты такая, якая ёсць. Незразумелая? Няхай! Хто захоча той і зразумее. Але не злівайся з шэрымі плямамі.

### ЯК БЕЛАЯ ПТУШКА

Думай. Заўсёды думай, але не так, як усе. Шукай іншыя шляхі.

І толькі адна ідэя будзе геніяльнай. Адзін маленькі шарык зможа змяніць усё, нават жыццё.

Знайдзі шарык ідэі сярод хаосу ліній.

Думай.

***Вольга РОПАТ***

### ЖЫЦЬ З ЗАПЛЮШЧАНЫМІ ВАЧЫМА?

*Плакат Андрэя Пячэрскага «Снід».*

Нейкая ўнутраная, нябачная для астатніх цемра абрынулася на яго пасля слоў урача. Ні тлумачэнняў, ні суцяшэнняў, ні парад ён ужо не чуў. Пляваць! Што яны разумеюць, яны, якія толькі і могуць, што суцяшаць ды раіць, нічога такога не перажыўшы!

А так добра было ўсё хвіліну таму… А ён не заўважаў, дурны. Абураўся на лёс за нецікавую працу, надаедлівых бацькоў, істэрычку-дзяўчыну і недахоп часу на тое, чаго сапраўды хочацца.

Чаго-чаго, а часу ў яго цяпер будзе дастаткова. Кажуць, шмат год чалавек можа пражыць з гэтай хваробай, назву якой ён чамусьці не наважваўся прымаць нават у думках. Але ўсе гэтыя гады яму давядзецца пражыць аднаму. Ён упэнены: бацькі, дзяўчына, сябры кінуць яго, як толькі даведаюцца. Нават на працы не атрымаецца доўга трымаць гэта ў сакрэце. Як-небудзь хто-небудзь калі-небудзь даведаецца пра тое, што ў яго… СНІД — так, ён нарэшце здолеў вымавіць гэта ў сваіх думках.

— Снід — вымавіў ён уголас.

Урач глядзеў на яго без асаблівага жалю — колькі ўжо пацыентаў і рэакцый бачыў ён у жыцці.

Але адсутнасць жалю хворы прыняў за маўклівы папрок. Сам, маўляў, вінаваты. Спачатку захацелася апраўдацца. Але крыўда на сябе за такое прыніжэнне вылілася ў выразны позірк: «А калі і вінаваты, табе што!» Такую рэакцыю ўрач таксама бачыў. Ціхенечка, моўчкі адышоўся ад дзвярэй — даў прайсці.

А як добра было ўсяго толькі ўчора! Усё мінулае цяпер здаецца такім светлым і яркім. Яно нібы асвечана яркім летнім сонцам. А тое, што сёння, тое, што будзе заўтра… Змрочнае, цёмнае, безвыходнае…

На двары было ўсё тое ж лета. Усё тое ж сонца сагравала зямлю. Усё тыя ж людзі хадзілі па ёй і не заўважалі сонца. Дурныя! Шчаслівыя і дурныя! Бясклапотныя. Шчаслівыя. І дурныя. Чаму вы не ўсміхаецеся таму, што вакол вас? Чаму вы не радуецеся? Чаму вы такія заклапочаныя? А-а-а, у вас шмат праблем, нявырашаных пытанняў, безвыходная сітуацыя? Што вы, шчаслівыя і дурныя, ведаеце пра безвыходныя сітуацыі? Цьху!

Не хочацца бачыць іх! Не хочацца зайздросціць ім.

Вочы на жыццё адкрыліся, але чаму толькі зараз? Чаму толькі тады, калі сам ён у цемры, ён можа ўбачыць свет, для яго зараз недасяжны? Не хоча ён бачыць яго! Не хоча зайздросціць яму!

Ён заплюшчыць вочы на гэтае святло, на наваколле, на ўсё, што не разумее і не можа зразумець яго! Для яго болей няма ні жыцця, ні сонечнага святла. Ён выгнаннік жыцця, якому толькі дадзена бачыць яго. Бачыць тое, што ён страціў. Дык ці не лепей жыць з заплюшчанымі вачыма?

***Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

### МЫ ВАЧЫМА ДАМАВІЧКА…

**Казка**

*Плакат Юрыя Лемішава. «Людзі заблыталіся ў масе лішніх слоў…»*

Бульк…

Начны парк ніяк не паказвае, што заўважыў маё невялікае свавольства. Ён спіць. Як спяць мамы з калясками і тыя, хто важна ехаў у калясках, старыя, школьнікі, студэнты, рабочыя з суседняй будоўлі і знерваваныя чыноўнікі з цэнтральных гарадскіх офісаў. Удзень яны прабягаюць міма ці паважна


People got confused in the mass of excess words
Люди запутались в массе лишних слов

шпацыруюць па сцяжынках, але цяпер глухая ноч, і я выходжу пакідаць каменьчыкі ў дэкаратыўную саджалку. Усё роўна заняцца больш няма чым.

Бульк…

Не, не ўсе глядзяць дзясятыя сны. Вунь, насупраць, акно. Святло патушана, але я ж адчуваю, што за карункавай фіранкай хаваюцца яе стомленыя вочы. Угглядаюцца ў парк, у зялёныя ліхтары, магчыма, у хвалі ад маіх каменьчыкаў. Вось жа надакучыла, не дае адзінокаму дамавічку крыху пасваволіць!

Непрыемная цётка. У парк ніколі не зойдзе, на лавачцы не пасядзіць, з сяброўкай не пагутарыць. Наогул, сябры ў людзей — гэта такі грамаадвод эмоцый. Не задаўся дзень — раскажы пра гэта сябру, здарылася радасць — не забудзься пахваліцца. Прычым няважна, што сябар адказвае на абавязковае пытанне: «Як твае справы?», галоўнае — схапіць прывід спачування і ўважлівасці, ашукаць самога сябе, што нехта цябе пачуў і зразумеў. Лепей за жывых сяброў толькі тэлефон дзейнічае. Разумная штуковіна, чалавек пастаянна ці да вуха яе прыціскае, ці ў кнопкі тыкае, ці праз правадкі-рагулькі нешта слухае. Напэўна, каб увесь час нешта слухаць, трэба ведаць многа-многа слоў. Вось толькі цётка ў акне аддае перавагу маўчанню.

Бульк…

А толку з гэтых слоў, усё роўна карыстацца імі не ўмеюць. Смехата адна. Пазаўчора сядзела ў альтанцы жанчына, чытала адну з тых кніг, дзе палова тэксту — прызнанне ў каханні паміж галоўнымі героямі. А ўчора на гэтым жа месцы цалавалася маладая пара. І размаўляла тымі ж самымі словамі, што былі ў кнізе, быццам бы перад спатканнем на памяць старонкі завучвалі. А сапраўднага пачуцця ў душы ні ў аднаго з іх і не было. Дзяўчына, наогул, пакуль прамаўляла: «Жыць без цябе, мой любы, не змагу» — думала пра згублены шалік і што купіць на вячэру.

Ці яшчэ. Ішоў па сцяжынцы студэнт з маці, яна да сына з далёкай вёсачкі прыехала. Не бачыліся даўно, а пра што гаварыць — не ведаюць. Сказаць многа чаго хацелася б, ды толькі слоў няма, каб сэрца перад іншым адкрыць, дабрынёю блізкага чалавека атуліць. Ім бы абняцца, а гэтыя дзівакі толькі і змаглі, што пра надвор'е, вучобу і «ці не галадуеш ты тут?» перамовіцца. Я пасля доўга над гэтым выпадкам думаў, усё зразумець хацелася, чаму яны так і не насмеліліся галоўнае сказаць. Зразумеў. Словы, якія галоўнымі лічыліся, абясцэніліся.

Бульк… За шклом вочы сочаць, як распаўзаюцца кругі, як маленькія хвалькі моршчаць спакойную ваду. Так і словы здольныя чалавека змяняць. Ці цяжкім каменем у душу ўпасці, смуткам там застацца, ці, нібы на хвальцы, пагушкваць ад радасці. А ці ведаеш ты, жанчына ў акне, колькі разоў за дзень чалавек нешта вымаўляе? І колькі ўсяго чалавек на Зямлі? І якая цана будзе нават самаму цудоўнаму слову, калі яго бяздумна паўтараць мільёны разоў запар? Калі яго прадаваць, перадаваць, нахабна выкарыстоўваць для гульні ў пачуцці?

Бульк… Каменьчыкі скончыліся. Шкада. А гэтая сава ў акне ўсё сядзіць. Назірае. Гэй, сава! Можа, сабаку табе завесці трэба? Ці тэлевізар купіць, усё лепей, чым назіраць у парку няведама за кім. Не, не завядзе. Не купіць. Я добра паспеў вывучыць цябе, аматарка начных пасядзелак перад вокнамі. Ты ведаеш цану сабе, ведаеш цану сваім словам. Вось таму і адна пастаянна: жыць побач ніхто не вытрымлівае. А можа…

Паслухай, цётка, што калі я да цябе перасялюся? Табе падабаецца маўчаць, мне падабаецца думаць, як-небудзь змірымся.

***Рагнеда ЮРГЕЛЬ***

# ІНСТЫТУТ КАНФУЦЫЯ Ў БНТУ, або Набліжэнне да супрацоўніцтва з Кітаем яшчэ на адзін крок

*21 кастрычніка 2014 года ў Мінску адбылося адкрыццё Інстытута Канфуцыя па навуцы і тэхніцы Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Сёння гэта першы і адзіны ў свеце Інстытут Канфуцыя, які мае спецыялізацыю «навука і тэхніка». У Мінску ўжо існуюць два Інстытуты Канфуцыя — у БДУ і МДЛУ, кожны з іх мае гуманітарную накіраванасць. Чым тлумачыцца рашэнне адкрыць Інстытут Канфуцыя са спецыялізацыяй «навука і тэхніка»? Марына Цывес, кіраўнік Беларускага цэнтра навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва з правінцыямі Кітая, адказала на гэта і іншыя нашы пытанні. Да размовы далучаецца таксама Лю Юйін, дырэктар Інстытута Канфуцыя па навуцы і тэхніцы БНТУ з кітайскага боку.*

— Стварэнне Інстытута Канфуцыя ў сценах БНТУ не з'яўляецца спантанным рашэннем. Наш універсітэт на працягу доўгага часу працуе з рознымі ўстановамі і арганізацыямі Кітая ў галіне навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва. Вынікі — гэта і сумесныя праекты, якія ўжо неаднойчы ўваходзілі ў дзяржаўную праграму навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва з Кітаем, і праекты па абмене спецыялістамі, і правядзенне стажыровак для грамадзян Кітая ў галіне навукі, тэхнікі і новых тэхналогій. Увесь гэты час асноўную праблему ў арганізацыі і правядзенні мерапрыемстваў навукова-тэхнічнага характару ўяўляла іх лінгвістычнае суправаджэнне, гэта значыць, забеспячэнне тэхнічнага перакладу з рускай мовы на кітайскую і наадварот. Бо любое сумеснае навуковае даследаванне, бізнес-праект, кантракт па распрацоўцы тэхналогіі або абсталявання — гэта праца спецыялістаў двух бакоў, якія павінны валодаць абедзвюма мовамі на ўзроўні, дастатковым для якаснага забеспячэння работ. Ад кваліфікацыі спецыяліста з веданнем неабходнай тэхнічнай тэрміналогіі на мове партнёра па супрацоўніцтве залежыць поспех праекта або навуковага даследавання. У нашым выпадку гэта павінны быць спецыялісты-перакладчыкі з веданнем кітайскай мовы ў тэхнічнай накіраванасці, якіх не могуць падрыхтаваць у нетэхнічных установах вышэйшай адукацыі. Гэтым і тлумачыцца стварэнне ў БНТУ Інстытута Канфуцыя па навуцы і тэхніцы.



**— Гэта значыць, менавіта тэхнічны складнік пры вывучэнні кітайскай мовы з'яўляецца адметнай рысай Інстытута Канфуцыя па навуцы і тэхніцы БНТУ?**

— Так, гэта адна з важных задач дзейнасці Інстытута, але ў больш шырокім сэнсе адрозненне складаецца ў іншым ракурсе. Акрамя навучання моладзі кітайскай мове з паглыбленым вывучэннем тэхнічнай тэрміналогіі, Інстытут будзе займацца арганізацыяй шырокага спектру мерапрыемстваў навукова-тэхнічнага характару: праводзіць семінары, навукова-практычныя канферэнцыі, стажыроўкі спецыялістаў, форумы інавацый, майстар-класы і іншае.

**— Раскажыце пра гэта больш падрабязна.**

Лю Юйін, дырэктар Інстытута Канфуцыя па навуцы і тэхніцы БНТУ з кітайскага боку:

— Вядома, важна на пачатковым этапе працы Інстытута бліжэй пазнаёміць студэнтаў з багатай кітайскай культурай і гісторыяй. Таму мы надаём увагу правядзенню мерапрыемстваў культурна-асветніцкага характару. Вось, напрыклад, нядаўна ў нашым універсітэце мы святкавалі кітайскі Новы год, падчас якога была арганізавана віктарына, прысвечаная навуковаму і тэхнічнаму развіццю Кітая. Хутка мы адкрыем сайт нашага Інстытута Канфуцыя, на якім студэнты і выкладчыкі змогуць пастаянна знаёміцца з апошнімі навінамі ў жыцці кітайскага грамадства, у тым ліку дасягненнямі Кітая ў навукова-тэхнічнай сферы. Група слухачоў, якая была набрана ў гэтым годзе, мела магчымасць наведаць майстар-клас па чайнай цырымоніі і каліграфіі, паглядзець фільмы пра народныя промыслы Кітая, а таксама ўдзельнічаць у арганізаваных гутарках аб Паднябеснай і перспектывах супрацоўніцтва Беларусі і Кітая ў галіне навукі і тэхнікі.

Інстытут Канфуцыя па навуцы і тэхніцы БНТУ, таксама як і іншыя Інстытуты Канфуцыя, прапануе сваім студэнтам наведаць летнюю школу ў Паўночна-Усходнім універсітэце, які з'яўляецца партнёрам БНТУ па развіцці і функцыянаванні Інстытута Канфуцыя. Заняткі ў летняй школе будуць доўжыцца два тыдні ў ліпені, першы з якіх будзе прысвечаны вывучэнню кітайскай мовы, а другі — знаёмству з культурнай спадчынай Кітая. Слухачы таксама змогуць наведаць тэхнапарк Паўночна-Усходняга ўніверсітэта і азнаёміцца з яго вытворчасцю. Пры гэтым усе выдаткі, за выключэннем авіяпералёту, бярэ на сябе кітайскі бок.

**— Вельмі прывабна. Аднак атрымліваецца, каб стаць студэнтам Інстытута Канфуцыя, трэба першапачаткова мець пэўныя веды ў галіне навукі і тэхнікі...**

**Лю Юйін:** — Вядома, асноўны ўпор мы плануем рабіць на студэнтаў нашага тэхнічнага ўніверсітэта і тых людзей, якія з'яўляюцца інжынерамі па спецыяльнасці. Аднак гэта не азначае, што ўваход да нас зачынены для іншых людзей. Курсы па вывучэнні кітайскай мовы маюць розныя ўзроўні: пачатковы, базавы, «прасунуты» і «тэхнічнай» кітайскай мовы. Для таго, каб стаць слухачом курса з паглыбленым вывучэннем тэхнічнай тэрміналогіі, пажадана валодаць пэўнымі тэхнічнымі ведамі. На курсах жа будзе магчымасць пашырыць межы «тэхнічнай» кітайскай мовы і ў будучыні паспяхова працаваць перакладчыкам у галіне навукі, тэхнікі і інавацый. У перспектыве мы плануем праводзіць перападрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі беларускіх выкладчыкаў кітайскай мовы з упорам на тэхнічную тэрміналогію.

**— Хто ж яны, першыя слухачы Інстытута Канфуцыя па навуцы і тэхніцы БНТУ?**

**Лю Юйін:** — З лютага 2015 года ў нашым Інстытуце Канфуцыя ўжо навучаюцца больш за трыццаць студэнтаў, выкладчыкаў і работнікаў розных структурных падраздзяленняў БНТУ. Яны падзелены на пяць груп, кожная з якіх фарміравалася з улікам узроўню валодання кітайскай мовай і пажаданняў слухачоў па часе правядзення заняткаў.

**Марына Цывес:** — Мы абсалютна ўпэўнены ў тым, што з цягам часу колькасць нашых слухачоў стане большай, таму што навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва з Кітаем у апошнія гады з'яўляецца адным з самых перспектыўных напрамкаў. Таму, калі ў вас ёсць пэўная база ведаў у кітайскай мове і жаданне супрацоўнічаць са спецыялістамі з Кітая ў галіне навукі і тэхнікі, — запрашаем да нас!



*Запісала Ганна ЗАПЛЕЧНІКАВА*

*Віктар ГЕРМЯНЧУК*

# ТЭХНІКА СЭРЦА

У пошуках эфектыўнасці сістэм кіравання сучасная навука даўно звярнула ўвагу на вопыт Паўднёва-Усходняй Азіі. Поспехі Кітая і іншых краін, што наследуюць канфуцыянскія каштоўнасці і традыцыі, прымусілі перагледзець шматлікія ўкаранёныя ўяўленні. Некалі менавіта канфуцыянскі канон лічыўся асноўнай прычынай акасцянення духоўнага жыцця і свядомасці гэтых народаў, іх замаруджанага развіцця. Сёння ж гэта вучэнне падаецца вельмі запатрабаваным і практычным для пабудовы паспяховага і квітнеючага грамадства, бачыцца адным з галоўных рухавікоў прагрэсу. Створаныя на яго глебе сістэмы дзяржаўнага кіравання дэманструюць выдатныя ўзоры эфектыўнасці і канкурэнтаздольнасці.

Сотні навуковых і даследчых арганізацый заняты вывучэннем вопыту сучаснага Кітая. Аднак паўтарыць гэты вопыт у іншых краінах практычна не атрымліваецца. Пранырлівыя аналітыкі даўно заўважылі адну асаблівую рысу нацыянальнага характару кітайцаў. Гэтыя самыя прадпрымальныя ў свеце людзі амаль не асімілююцца ў іншых нацыянальных і культурных асяроддзях. Прыкладна гэтак паводзяць сябе і іхнія сістэмы кіравання. Хоць кітайскае кіраўніцтва даўно абвясціла палітыку «адчыненых дзвярэй», з дзіўнай настойлівасцю вывучае і выкарыстоўвае дасягненні іншых краін, актыўна задзейнічае заходнія тэхналогіі, разнастайныя метады дзяржаўнага і дзелавога кіравання для развіцця сваёй дзяржавы. Адначасова сотні інстытутаў Канфуцыя ў многіх краінах свету і шматмільённыя наклады кніг пра Кітай і кітайцаў займаюцца прапагандай культуры і дасягненняў кітайскага народа. Аднак яны не даюць канчатковага адказу на пытанне пра незвычайную ўстойлівасць, рысы і перавагі нацыянальнага характару, ладу жыцця і паводзін кітайцаў.

На гэтай падставе асобныя прадстаўнікі сіналогіі бачаць у кожным намаганні Кітая схаваны сэнс і злосны намер. Яны распаўсюджваюць міфы пра «кітайскую пагрозу», пераўтварэнні сучаснага Кітая ў непрадказальны «Х-фактар» сусветнай палітыкі і эканомікі. Таму ідэя «вялікага адраджэння нацыі», якая з'яўляецца асновай стратэгіі развіцця КНР, падносіцца чытачам як новы «вялікі паход» і план глабальнага ўзвышэння з мэтай вярнуць і замацаваць у свядомасці свайго народа традыцыйнае ўяўленне пра Кітай як пра Цэнтр Зямлі, прадэманстраваць культурнае першароднiцтва і нацыянальную перавагу. Шырока вядомы стратэгічны план «Прагноз-2050» па будаўніцтве ў краіне развітага і гарманічнага грамадства ацэньваецца як амбіцыйны праект з мэтаю адпомсціць замежнікам за сорам і прыніжэнні ў XIX і XX стагоддзях. У межах такога падыходу кітайская кіраўніцкая культура ператвараецца ва ўсходні варыянт макіявелізму, дзе мэта заўсёды апраўдвае сродкі.

Пад гэтым вуглом зроку разглядаецца і спадчына вялікага кітайскага мудраца Канфуцыя (551—479 гг. да н. э.), павага да якога ператварылася ў сучасным Кітаі ў сапраўдны культ. Яго называюць «настаўнікам сапраўднай мудрасці», «царом без трона», «выхавацелем дзесяці тысяч пакаленняў». Многім людзям у іншых краінах незразумелыя падставы канфуцыянства і прычыны яго папулярнасці на працягу тысячагоддзяў. Справа ў тым, што наш еўрапейскі рацыяналізм сам прэтэндуе на выключную ролю ў развіцці чалавецтва. Усход заўсёды больш крытыкавалі, чым вывучалі. З гэтым звязана слабае веданне дасягненняў яго філасофскай і палітычнай думкі, асаблівай сімволікі і зместу яго культуры і маралі, сістэм улады і кіраўніцкіх практык. Хоць Вальтэр яшчэ ў XVIII стагоддзі заклікаў еўрапейцаў стаць вучнямі Канфуцыя, бо «ў яго кнігах нельга знайсці нічога, акрамя самай чыстай маралі». Цікавым у сувязі з гэтым падаецца меркаванне былога

лідара Сінгапура Лі Куан Ю і яго ацэнка ролі Мао Цзэдуна, у гады кіравання якога канфуцыянства перажывала не лепшы час: «Ён маляваў свае карціны прама паверх мазаікі, якая праіснавала 5 000 гадоў. Але пройдуць дажджы і змыюць усё, што ён маляваў і казаў. Застанецца толькі тое, што пратрымалася 5 000 гадоў. Такое вучэнне Канфуцыя». Культура народа — гэта яго лёс. Аднак выжываюць толькі народы і культуры, адкрытыя для перамен, гатовыя ўвесь час да новых выклікаў.

Шматлікіх даследчыкаў і чытачоў Канфуцыя здзіўляе і нават часам адштурхоўвае простасць стылю падачы яго вучэння. Яны шукаюць у сістэме канфуцыянскіх каштоўнасцей нейкі таемны код ці зашыфраванае пасланне нашчадкам. Не здагадваюцца, што ўся моц яго вучэння менавіта ў гэтай вонкавай простасці. Так заўсёды звярталіся да людзей мудрацы і пракокі, вялікія пасвячоныя, заснавальнікі ўсіх рэлігій свету. Шматаблічны і пераменлівы свет людзей і ідэй. Але нязменныя законы жыцця і простыя словы, што іх тлумачаць. У кнізе «Лунь-Юй» («Размовы і меркаванні»), складзенай вучнямі з выказванняў настаўніка, ён кажа: «Я не ствараю, а толькі перадаю».

Канфуцый прапануе нам не містычныя адкрыцці, не завершаную філасофскую сістэму ці палітычнае вучэнне, а менавіта маральна-этычны грунт і прынцыпы арганізацыі грамадства, якія абапіраюцца на мудрасць і шматвяковы вопыт кітайскага народа, адной з самых старадаўніх чалавечых цывілізацый. Развіццё грамадства на грунце прынцыпаў вышэйшай маралі і духоўнасці, стварэнне царства нябеснага на зямлі забяспечваюцца, паводле яго меркавання, воляй і розумам самога чалавека. Добрае грамадства, годнае жыццё могуць быць забяспечаны з дапамогай парадку, гармоніі, умеранасці, добрых манераў і «залатога правіла» ў фармуліроўцы яго заснавальніка: «Не рабі іншым тое, чаго не хочаш каб іншыя рабілі табе».

Чалавек у такой сістэме робіцца галоўнай мерай усіх рэчаў, з'яў і падзей, цэнтральнай фігурай у рэалізацыі гэтага грамадскага ідэалу. Якая заўгодна ўлада непазбежна пачынае дэградзіраваць ва ўмовах калі кіруючы клас пакідае без увагі патрэбы грамадства і чалавека. Яшчэ ў імператарскія часы ў Кітаі склалася асаблівая філасофія ўлады, дзяржаўнага будаўніцтва і кіравання. Права на ўладу можа сыходзіць з розных крыніц: Бога, народа, выключных асобасных якасцей. Аднак база яе легітымнасці адна, знаходзіцца на зямлі і праяўляецца ў становішчы падданых. Ключавымі паняццямі ў гэтай сістэме поглядаў з'яўляюцца дабрадзейнасць і шляхі дасягнення людзьмі добрапрыстойнасці, каб зрабіць сваё грамадства квітнеючым. Самымі важнымі якасцямі кіраўніка называюцца яго няздольнасць прыносіць людзям пакуты і асабістая адказнасць за пакуты іншых. Імператары, тытул якіх гучаў як Сын Неба, з'яўляліся сувязным элементам паміж зямлёй і небам. Гэтыя пасланнікі нябёс былі прызваны кіраваць усімі нябеснымі і зямнымі стыхіямі ў інтарэсах сваіх падданых. Таму частыя засухі, голад і іншыя бедствы на зямлі разглядаліся простымі людзьмі як сведчанні адсутнасці ў кіраўнікоў названых нябесных прывілеяў і дастатковая падстава для скасавання тытулу. З гэтымі акалічнасцямі звязаны настойлівыя пошукі кітайскім кіраўніцтвам эфектыўнай палітыка-эканамічнай сістэмы для свайго шматлікага насельніцтва, іх асцярожнасць у дачыненні да ліберальнага рэцэпта «скінуць урад з народнай шыі». Гэта «тэхніка сэрца» з'яўляецца асновай даверу, шчырасці і ўзаемаразумення паміж народам і ўладай, адзінства грамадства і патрыятызму грамадзян. Яна ўплывае на тэхніку розуму і тэхніку рук, будучыню краіны і ўсяго чалавецтва.

У такой сістэме грамадскіх стасункаў чалавек абавязаны «быць такім, якім яму трэба быць». Канфуцыянскае грамадства пабудавана на пяці відах стасункаў: бацькі і сына (настаўніка і вучня), правіцеля і падданага, мужа і жонкі, старэйшага брата і малодшага брата, сябра і сябра. Аднак мір, гармонія гарантаваны толькі пры ўзаемнай адказнасці бакоў. Кожны павінен займаць сваё месца, выконваць свае функцыі ў адпаведнасці з абавязкам, прызваннем і здольнасцямі. Таму паняцце «абавязак» — ключавы ў поглядах Канфуцыя. Усё жыццё вартага чалавека — вышэйшы абавязак перад Небам. Вытокі гэтага абавязку ляжаць у грунце грамадскай маралі, патрабаваннях чалавекалюбства і справядлівасці.

Шмат разважае Канфуцый і пра асаблівую місію мудраца (настаўніка), які атрымаў нябеснае блаславенне. Ведаць праўду і не адкрыць яе свету — гэта называецца баязлівасцю. Дрэнны той мудрэц, які дазваляе дзяржаве збіцца са шляху, адмаўляючыся ад актыўнага ўдзелу ў грамадскай і дзяржаў-

най дзейнасці. Яго прынцыповая пазіцыя — гэта філасофія служывага мужа. Канфуцый шукае і «чакае цаніцеля» свайго таленту. Гатовы прапанаваць свае веды на справу служэння любому вартаму кіраўніку. Але, не дачакаўшыся такога запрашэння, некалькі карэкціруе сваю пазіцыю. Для настаўніцтва правіцеляў і выхавання вучняў высокія афіцыйныя пасады ўвогуле непатрэбны. Іх наяўнасць дазваляе быць бліжэй да правіцеля, каб накіроўваць яго дзеянні. Калі іх няма — трэба ўплываць праз вучняў. Пры гэтым выбар павінен заўсёды заставацца за мудрацом: «Птушка выбірае дрэва. Дык як жа дрэва можа выбіраць птушку?»

Навошта і чаму трэба вучыць і настаўляць правіцеляў і чыноўнікаў, гэтых, па вызначэнні канфуцыя, «высакародных мужоў»? Дзяржаўнае кіраванне з'яўляецца самым важным і складаным з усіх відаў чалавечай дзейнасці. «Высакародныя мужы» (добра выхаваныя людзі ў канфуцыянскім сэнсе) павінны стаць інструментамі ўвасаблення Нябеснай волі, нават калі самі пра гэта не здагадваюцца. Не кожны чалавек здольны самастойна зразумець сапраўдную сутнасць рэчаў і дасягнуць неабходнага ўзроўню ведаў, каб прынесці гармонію і энергетыку нябеснай дабрадайнасці ў зямны свет. Для гэтага патрэбны добрая сістэма адукацыі, мудрыя настаўнікі, строгія крытэрыі адбору і праверкі асобасных якасцей і ўзроўню вучэбных дасягненняў прэтэндэнтаў на дзяржаўныя пасады. Стаўка на адукацыю, добрую падрыхтоўку і селекцыю кадраў дзяржаўнага кіравання забяспечвае сёння высокі прэстыж у кітайскім грамадстве прафесій дзяржаўнага чыноўніка і выкладчыка.

Разважаючы пра змест падрыхтоўкі, Канфуцый выказваецца катэгарычна супраць самаўдасканалення як сродка дасягнення якіх бы там ні было мэт. Ён раіць правіцелям займацца не столькі палітыкай і эканомікай, колькі станам душы чалавека. Сапраўдная мудрасць — у ведах людзей. Спачатку трэба выправіць і ачысціць людзей, усё астатняе — прыйдзе само ў раўнавагу. Пры гэтым ён ніяк не спрошчвае рашэнне гэтай задачы. Самыя простыя нормы паводзін укараніць не так лёгка, як здаецца на першы погляд. Галоўнымі стрыжнямі ўзаемадзеяння правіцеля і грамадства з'яўляюцца чалавекалюбства і ўнутраны маральны абавязак. У ідэальнай дзяржаве, як і ў добрай сям'і, павінны панаваць сыноўняя пачцівасць і адданасць у адказ на бацькоўскі клопат, справядлівасць і міласць да падданых. Мудрасць і дабрадзейнасці правіцеля пацвярджаюць яго права на кіраванне людзьмі, а адступленні ад праведнасці вядуць да непавінавення падданых. «Правіцель павінен быць правіцелем, падданы — падданым, бацька — бацькам, сын — сынам».

Не менш патрабавальны Канфуцый у дачыненні да неабходных якасцей «высакароднага мужа». Каб захаваць пастаянную сувязь з Небам, ён павінен валодаць чатырма якасцямі (Дао): здзяйсняючы справы, кіравацца самапавагай; служачы вышэйстаячым, сыходзіць з адказнасці; робячы народу настаўленні, кіравацца дабрынёй, кіруючы народам, адштурхоўвацца ад справядлівасці. Дасканалага чалавека вылучаюць з шэрагу астатніх талент, веды, бескарыслівасць, рашучасць і майстэрства. Заўсёды цяжка разлічваць на наяўнасць вялікай колькасці такіх людзей. Таму можна назваць дасканалым чалавека, які аддае перавагу абавязку замест выгоды, рызыкуе жыццём, сутыкнуўшыся з небяспекай, памятае пра сваё абяцанне нават у цяжкія часы. Канфуцый раіць сваім вучням і паслядоўнікам: «Не журыся, што не займаеш вартай пасады, журыся, калі здольнасці твае не адпавядаюць гэтай пасадзе. Не засмучайся тым, што людзі не ведаюць цябе, рабі так, каб яны маглі пра цябе даведацца».

Сам жа народ патрэбна выхоўваць і накіроўваць. Менавіта выхаванне народа з'яўляецца адным з лейтматываў усёй дзейнасці Канфуцыя. Выхаванне мае, з яго слоў, асаблівы сэнс. Варта, перш за ўсё, прышчэпліваць людзям такія навыкі і нормы паводзін, пры якіх чыноўнік заўсёды будзе чыноўнікам, бацька — бацькам, сын — сынам. Гэта ўзновіць першапачатковы парадак рэчаў у сусвеце і следаванне яму. Выхаванне — не проста перадача ведаў, не навучанне канонам (гэта павінна быць даступна абраным), а выпрацоўка здольнасці чалавека следаваць вышэйшым прадпісанням. Аднак для поспеху ў гэтай важнай справе трэба спачатку народ накарміць, прывесці яго да дабрабыту і працвітання. Галодны і раззлаваны чалавек сваёй энергетыкай здольны толькі разбурыць гармонію Паднябеснай. Таму матэрыяльны дабрабыт — неабходная ўмова для паспяховага выхавання народа. «Быць бедным і не наракаць — цяжка. Быць багатым і не зазнавацца — лёгка». Не менш важную ролю адыгрывае асабісты станоўчы прык-

лад правіцеля і чыноўнікаў. Калі правіцелі самі будуць імкнуцца да добрага, то і народ будзе добрым: «Нораў правіцеля падобны да ветру, а нораў народа — да травы. Куды вецер дзьме, туды трава і хіліцца».

Большасць правіцеляў ва ўсе часы любіла разважаць пра высокую палітыку. Канфуцый прапануе некалькі іншы падыход да кіравання дзяржавай і алгарытма рашэння грамадскіх праблем. Народ, канешне, можна змусіць ісці ўказаным шляхам, але нельга прымусіць яго зразумець, дзеля чаго гэта трэба рабіць. Канфуцый бачыць сутнасць праўлення ў рознага кшталту мерапрыемствах па ўпарадкаванні грамадскіх стасункаў, прыцягненні да кіравання «добрых людзей», «узвышэнні прамых» і «выгнанні крывых». Раіць кіраўнікам адмаўляцца ад паспешлівасці ў пагоні за «малымі выгодамі», набываць уменне «выкарыстоўваць народ своечасова». Прапануе канкрэтныя тэхналогіі кіравання:

*«Натхняй народ сваім асабістым прыкладам, а затым дай яму магчымасць старанна працаваць».*

*«Калі сам правіцель прамы, дык народ усё выконвае і без загадаў. Калі ж правіцель не прамы, дык народ не будзе падпарадкоўвацца, колькі б загадаў ні выдавалася».*

*«Той, хто чэсны і не хітруе, даб’еца таго, што яго настаўленням будуць верыць, яго словы будуць паўтараць, яго ўчынкам будуць падражаць».*

*«Ніколі не лянуйся».*

*«Не спяшайся і не ганіся за дробязямі. Будзеш спяшацца — не дасягнеш мэты. Пагонішся за дробязямі — упусціш вялікую справу».*

*«Спачатку трэба навучыць людзей, а потым меркаваць пра іх».*

*«Будзь прыкладам для тых, хто служыць побач з табою, даруй дробныя памылкі, а таленавітых — прасоўвай».*

*«Прасоўвай толькі тых, каго ведаеш. А калі сярод тых, каго не ведаеш, знойдуцца таленавітыя, дык хіба яны застануцца невядомымі для людзей?»*

Шмат хто спяшаецца назваць сябе «высакародным мужам» і дастойным правіцелем. Аднак не ўсе здольны выконваць гэтыя функцыі. Што патрабуецца для паспяховага кіравання дзяржавай? Для гэтага, на думку Канфуцыя, трэба мець пяць добрых а пазбаўляцца ад чатырох дрэнных якасцей.

Пяць добрых якасцей — гэта калі высакародны муж добры, але не марнатравец. Калі ён заклікае народ да працы, але не выклікае яго гневу на тых, хто стаіць вышэй. Калі ён жадае набыць нешта, не адчуваючы сквапнасці. Калі ён велічны, але не пагардлівы, і, нарэшце, калі грозны, але не свірэпы. Пералічыўшы гэтыя якасці, Канфуцый настойліва тлумачыць вучным, як трэба іх разумець: «Прыносіць народу карысць, сыходзячы з таго, што народу выгодна, — гэта дабрыня, але не марнатраўства, ці не так? Калі народ заклікаць да пасільнай працы, дык хіба ён будзе гневацца? Калі прагнуць чалавекалюбства, ці можна казаць пра сквапнасць? Высакародны муж не выказвае зняваги да людзей, шмат іх ці няшмат, і да спраў, вялікія яны ці малыя, — хіба гэта не веліч без пагарды? Высакародны муж паводле правілаў носіць вопратку і шапку (сімвал свайго становішча ў іерархіі пасад), погляд яго поўніцца вартасці, таму людзі глядзяць на яго з павагай, — гэта і значыць быць грозным, але не свірэпым, ці не так?»

Чатыры дрэнныя якасці — гэта «калі замест таго каб выхоўваць людзей іх караюць — гэта называецца жорсткасцю. Калі, не папярэдзіўшы загадзя, патрабуюць тэрміновага выканання, — гэта называецца гвалтам. Калі марудзяць з распараджэннямі, але настойваюць на іх хуткім выкананні, — гэта называецца згубным для справы. Калі абяцаюць узнагароду, але праяўляюць скнарлівасць пры яе выдачы — гэта чыноўніцкая дробязнасць».

Правіцель абавязаны быць сапраўдным правіцелем, а чыноўнік — праведным чалавекам. Трэба заўсёды памятаць пра існы сэнс гэтых назваў і прывесці іх у суадносіны з унутранай сутнасцю рэчаў: «Чалавек робіць вялікім Шлях, а не Шлях робіць вялікім чалавека».

Веданне і выкананне гэтых парад Канфуцыя — шматвекавая традыцыя служывага саслоўя ўсіх канфуцыянскіх дзяржаў. Відавочна, па гэтай прычыне ў сучасным Кітаі вялікай папулярнасцю карыстаюцца добра падрыхтаваныя кіраўнікі і «канфуцыянскія бізнесмены», удачлівыя і сумленныя спецыялісты. Знакаміты лозунг айца сучасных кітайскіх рэформ Дэн Сяопіна: «Узбагачэнне — справа славы і доблесці» толькі падкрэслівае ў духу канфуцыянскіх канонаў каштоўнасць дзелавой актыўнасці і прэстыж прадпрымальніцтва. На сценах службовых кабінетаў гэтых людзей не прынята вывешваць шматлікія дыпломы і серты-

фікаты, якія пацвярджаюць узровень іх кваліфікацыі. Часцей за ўсё іх замяняюць думкі, меркаванні і парады першанастаўніка, якія адлюстроўваюць сэнс Шляху і асабістай кар’еры, мэты развіцця арганізацыі, сродкі і метады іх дасягнення, якімі яны кіруюцца.

Доўгі цень канфуцыянства праследжваецца літаральна ва ўсіх сферах жыцця. Асабліва трэба адзначыць яго ўплыў на практыку кіравання чалавечымі рэсурсамі, развіццё сістэмы адукацыі і падрыхтоўкі ўпраўленчых кадраў. Стаўленне да адукацыі як рухавіка прагрэсу і асноўнага сродка сацыяльнай мабільнасці падразумявае не столькі набыванне ведаў і прафесійнага майстэрства, колькі фарміраванне характару чалавека. Мастацтва быць чалавекам дапускае валоданне пяцю дабрадзейнасцямі: чалавечнасцю, справядлівасцю, прыстойнасцю, мудрасцю і адданасцю. Асабістыя змены і ўдасканаленне, праца над сабою ацэньваюцца як учынак высакароднага чалавека, які мае важнае грамадскае значэнне, шлях да сацыяльнай гармоніі ў грамадстве і дзяржаве. Адначасова гэтай сістэме поглядаў уласціва пастаянная засяроджанасць на матэрыяльным свеце. Сапраўдны чалавек жыве ў гэтым свеце, а не па-за яго межамі. Зямля — наш дом, а цяперашняе — наш час. Таму канфуцыянскі шлях Неба неаддзяляльны для кітайцаў ад звычайных чалавечых спраў, выдатных поспехаў у вучобе і працы, дасягненняў у палітыцы і эканоміцы, развіцці індустрыяльнай ініцыятывы і прадпрымальніцтва. Гэтыя прынцыпы і падыходы дапоўнены ў наш час вопытам іншых паспяховых дзяржаў, якія найлепшым чынам адказваюць на выклікі глабалізацыі і сусветнай эканомікі. Не дзіўна, што на ўсе папрокі і падазрэнні ў свой адрас кітайцы нешматслоўныя. Яны нагадваюць сваім крытыкам універсальнасць законаў, выведзеных усходнімі мыслярамі, і асноўны прынцып знакамітых кітайскіх стратагем: «Непераможнасць хаваецца ў самім сабе, магчымасць перамогі хаваецца ў праціўніку».

Пастаянны эканамічны рост, сацыяльная гармонія і прагрэс грамадства з’яўляюцца вынікам свядомай палітыкі і разумных рашэнняў дзяржавы. Пачынаючы ўздым да вышыняў эканамічнага росту і развіцця, Кітай і іншыя «азіяцкія тыгры», паводле меркаванняў даследчыкаў, ствараюць тып «разумнай дзяржавы». Яго стрыжнем з’яўляецца своеасаблівая грамадская дамова паміж урадам і кіруемым насельніцтвам у дачыненні мэт развіцця, пераадолення адсталасці, беднасці і няроўнасці. Гэта забяспечыла актыўную падтрымку рэформ, сацыяльны мір і палітычную стабільнасць.

Кансэнсус у дачыненні да мэт развіцця, партнёрства ўлады і грамадства адбіваецца на матывацыі эканамічных паводзін людзей, якія гатовы паверыць, што цяжкасці і невялікія прыбыткі сёння цалкам кампенсуюцца заўтра. Умацоўвае давер да ўлады палітыка падтрымкі дзяржаўнага сектара эканомікі, што дазваляе згладжваць вынікі маёмаснай няроўнасці. Адабраецца насельніцтвам правядзенне справядлівай сацыяльнай палітыкі, прадуманыя ўкладанні капіталу ў развіццё адукацыі, аховы здароўя і жыллёвае будаўніцтва. Вітаюцца меры па змякчэнні вынікаў маёмаснай няроўнасці і розніцы ў даходах, ідэя «чыстага ўрада» і жорсткія меры па барацьбе з карупцыяй.

Сёння пасля сусветнага фінансава-эканамічнага крызісу ўсе гатовы прызнаць што стварэнне ў XXI стагоддзі разумнай дзяржавы ў большасці праблемных рэгіёнаў планеты трэба аднесці да шэрагу наватарскіх шляхоў вырашэння існуючых сусветных праблем. Цікавыя разважанні пра вопыт пабудовы такой дзяржавы пакінуў нам Лі Куан Ю, яркі прыхільнік і прапагандыст азіяцкіх каштоўнасцей. Што людзям трэба? Вы мяркуеце, што ідэі, а ім патрэбна рэальнасць у выглядзе добрай працы, ежы на стале, уласнага дома, машыны. Вы лічыце, што салідныя банкаўскія рахункі, а яны больш заклапочаны сэнсам уласнага быцця. Таму ніколі не трэба зацыклівацца на выключна матэрыяльных аспектах, ацэньваць узровень жыцця выключна праз эканамічныя паказчыкі. Грошы зусім не мерка ўсіх рэчаў. А скнарлівасць — не рухавік прагрэсу. Выбудоўваючы іерархію патрэб, пра гэта ніколі не трэба забываць.

* * *

Сучасны Кітай з’яўляецца адным з важнейшых стратэгічных партнёраў Рэспублікі Беларусь. Гэта партнёрства здымае бар’еры паміж нашымі народамі, вядзе да актыўнага ўзаемадзеяння прынцыпаў паспяховага кіравання сацыяльна-эканамічным развіццём і фарміраваннем універсальнай культуры прагрэсу.

Рубрыка гістарычных факультэтаў краіны

Дзяніс ФІЛІПЧЫК

# МІЖНАРОДНЫ ДОСВЕД У ЗАХАВАННІ НЕМАТЭРЫЯЛЬНАЙ КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ



*Дзяніс Філіпчык нарадзіўся ў 1991 годзе ў Глыбокім. Скончыў беларускамоўную сярэднюю школу з ліцэйскімі класамі і гістарычны факультэт БДУ — з адзнакай, па спецыяльнасці «ахова гісторыка-культурнай спадчыны і турызм». З мінулага года — магістрант гістарычнага факультэта БДУ. Сфера навуковых інтарэсаў — рэлігійны турызм, інтэрпрэтацыя нематэрыяльнай культурнай спадчыны Беларусі, экскурсазнаўства, этналогія і традыцыйная культура.*

У апошні час стала вельмі модна гаварыць пра захаванне нашай спадчыны. Толькі паспявай сачыць за інфармацыяй пра з'яўленне новага помніка, пра рэстаўрацыю (правільную ці няправільную на думку журналіста) архітэктурнага аб'екта, з'яўленне новага музея... І калі да таго, што матэрыяльную спадчыну трэба захоўваць, мы ўжо прызвычаіліся, то да магчымасці захавання нашых нематэрыяльных скарбаў, здаецца, яшчэ не.

Аказваецца, захаваць можна не толькі архітэктуру, матэрыяльныя аб'екты, але і спадчыну духоўную — звычаі, традыцыі, абрады, дыялекты. І рабіць гэта можна не толькі ў дэкларатыўнай форме (узгадаваць такую неабходнасць і нічога не прадпрымаць), але і праз рэальныя крокі.

Менавіта пра гэта і пойдзе наша размова.

## ШЛЯХ ДА ЗГОДЫ

Ужо ў XIX стагоддзі культурную спадчыну пачынаюць разглядаць як нешта ўніверсальнае, што з'яўляецца значным не толькі для людзей, якія ёй валодаюць ці жывуць каля яе, але і для рэгіёна, краіны ці нават усяго чалавецтва. Пытанне міжнароднага супрацоўніцтва ў якасці інструмента захавання культурнай спадчыны разглядалася ў 1920—1930 гады Лігай Нацый і яе Міжнародным інстытутам інтэлектуальнага супрацоўніцтва [1, с. 101].

У адрозненне ад паняццяў «культурная спадчына» і «культурная каштоўнасць», паняцце «нематэрыяльнай спадчыны» (НС) пачынае фарміравацца даволі позна. Толькі калі працэсы трансфармацыі традыцыйнага грамадства і глабалізацыі пачынаюць усё больш уплываць на шматлікія праяўленні традыцыйных культур, паступова прыходзіць усведамленне таго, што гэтыя праяўленні таксама неабходна захоўваць. Востра паўстае і пытанне неабходнасці перадачы элементаў культуры новым пакаленням.

Заходняе разуменне культурнай спадчыны як таго, што ўвасоблена ў матэрыяльных творах мастацтва і архітэктуры, доўгі час

выключала паняцце нематэрыяльнай спадчыны з поля зроку міжнароднага заканадаўства. Але дадзенае пытанне было асабліва актуальным для краін Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, дзе гістарычным вынікам развіцця нацыянальных культур сталі не толькі і не столькі матэрыяльныя каштоўнасці, колькі яскравыя праяўленні менавіта жывой традыцыйнай культуры. Да пытання заканадаўчага рэгулявання сферы нематэрыяльнай культурнай спадчыны адной з першых краін звярнулася Японія: ужо ў 1950 годзе там быў прыняты закон «Аб ахове культурных каштоўнасцей», у які сярод іншых уводзілася паняцце «жывы нацыянальны скарб Японіі» [2]. Падобны закон «Аб ахове культурных каштоўнасцей» быў прыняты ў 1962 годзе ў Паўднёвай Карэі. У ім таксама зафігурыравала паняцце, што датычылася нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Увогуле, лічыцца, што само паняцце «нематэрыяльная культурная спадчына» (далей НКС) з’яўляецца свабодным перакладам японскага выразу *mukei bunkazai*, што ўжываўся ў вышэйзгаданых заканадаўчых актах [3].

З 1970-х пачынае распаўсюджвацца думка, што ахова толькі матэрыяльнай спадчыны прыводзіць да звужэння самога паняцця «культурная спадчына». Таму пачынаюць выказвацца ідэі пра неабходнасць аховы і «духоўнай» культуры. Падчас перамоў і абмеркавання палажэнняў будучай канвенцыі ЮНЕСКА 1972 года «Аб ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны» некалькі краін выступілі з ідэяй пашырэння паняцця «культурная спадчына» і ўключэння ў яго палажэнняў аб НКС. Праз год урад Балівіі выступіў з ініцыятывай аб’яднаць намаганні міжнароднай супольнасці па ахове культурнай спадчыны і ўключыць у канвенцыю 1972 года дадатковы пратакол, які б спрыяў захаванню фальклору [3].

У 1990-х быў ажыццёўлены цэлы шэраг новых ініцыятыў, сярод якіх — запуск праграмы «Жывыя скарбы чалавецтва» (у 1994-м). Праграма прадугледжвала стварэнне двух спісаў жывых скарбаў чалавецтва: нацыянальнага і сусветнага. Жывымі скарбамі чалавецтва аб’яўляліся людзі, якія пераўзыходзяць іншых у выкананні музыкі, танца, гульняў і рытуалаў, што маюць выдатную мастацкую і гістарычную каштоўнасць. Таксама падкрэслівалася, што дадзеныя праяўленні культуры павінны адносіцца да фальклору, адпавядаць яго азначэнню ў Рэкамендацыі, а значыць, перадавацца з пакалення ў пакаленне вусным шляхам.

Яшчэ адна праграма была запушчана ў 1998 годзе, яна называлася «Абвяшчэнне шэдэўраў вуснай і нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва» і мела на мэце пашырэнне ведаў аб НКС шляхам вылучэння яе асобных элементаў. Для вылучэння прадугледжваўся шэраг крытэрыяў. 90 шэдэўраў вуснай і нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва пасля прыняцця канвенцыі 2003 года былі аўтаматычна ўключаны ў рэпрэзентатыўны спіс НКС [4].

У 1999 годзе пры ўдзеле ЮНЕСКА была праведзена канферэнцыя экспертаў з усіх рэгіёнаў свету, пасля чаго зроблена выснова, што падыход да аховы НКС павінен быць менш іерархічным і што неабходна надаваць больш увагі супольнасцям [1, с. 102].

У канцы 1990-х дзяржавы-члены ЮНЕСКА шырока падтрымалі дзейнасць па выпрацоўцы новага стандартызуючага акта.

У сакавіку 2001 года ў Турыне ЮНЕСКА арганізавала пасяджэнне «круглага стала» пад назвай «Нематэрыяльная культурная спадчына: працоўнае азначэнне», дзе сапраўды было дадзена новае азначэнне НКС.

Вынікам міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы захавання НКС стала прыняцце ў кастрычніку 2003 года канвенцыі «Аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны». Канвенцыя ўступіла ў сілу ў чэрвені 2006 года. Рэспубліка Беларусь ратыфікавала канвенцыю ў ліку першых дзесяці краін. Па дадзеных на 15 мая 2014 года канвенцыю ратыфікавала 161 дзяржава.

Паводле Канвенцыі да НКС адносяцца «звычаі, формы прадстаўлення і ўяўлення, веды і навыкі, а таксама звязаныя з імі інструменты, прадметы, артэфакты і культурныя прасторы, якія прызнаюцца супольнасцямі, групамі і, у некаторых выпадках, асобнымі людзьмі ў якасці часткі іх культурнай спадчыны. Такая нематэрыяльная культурная спадчына, якая перадаецца ад пакалення да пакалення, пастаянна ўзнаўляецца супольнасцямі і групамі ў межах іх навакольнага асяроддзя, ва ўзаемадзеянні з прыродай і іх

**Ці добра мы ведаем нашу спадчыну? Ці чулі мы пра абрад «Калядныя цары»? А пра традыцыйную страву «Масляны баран»? Хто бачыў традыцыйныя «выбіванкі» наваградчыны або маляваныя дываны Паазер'я?**

гісторыяй, а таксама фарміруе ў іх пачуццё самабытнасці і пераемнасці, садзейнічаючы тым самым павазе да культурнай разнастайнасці і творчасці чалавека» [4].

### МУЗЕЙНАЕ ЗАХАВАННЕ

Захаванне і зберажэнне НКС — гэта не яе кансервацыя. Калі мы проста запішам тэкст песні, здымем на відэакамеру абрад ці свята, запішам казку ад бабулі, мы нашу спадчыну не захаваем. Галоўным крытэрыем таго, што тая ці іншая з'ява адносіцца да НКС, з'яўляецца яе жыццяздольнасць. Гэта спадчына павінна перадавацца з пакалення ў пакаленне і не можа застыць, ператварыцца ў нешта нязменнае. Таму пры захаванні НКС музейнымі сродкамі неабходна ўлічваць шмат фактараў. Уся дзейнасць музея павінна быць скіравана не столькі на прэзентацыю элемента НКС (напрыклад, абраду), колькі на яго захаванне. Гэта можа рабіцца праз працу з мясцовым насельніцтвам, правядзенне майстар-класаў, чытанне лекцый, арганізацыю фестываляў. Ніжэй разгледзім прыклад новазеландскага музея «Тэ Папа Тангарэва» [5, с. 16].

Гэты музей валодае значнай калекцыяй ціхаакіянскіх матэрыялаў. Але большасць прадметаў была дэкантэкстуалізавана — пазбаўлена кантэксту, як і большасць ціхаакіянскіх калекцый па ўсім свеце. Таму для захавання той НКС, якая была звязана з гэтымі прадметамі, музей выкарыстаў творчы падыход — арганізаваў некалькі незвычайных выстаў і праектаў.

Доўгі час ціхаакіянскія калекцыі ў музеях прадстаўлялі адметныя культуры рэгіёна выключна як статычныя. У шматлікіх выпадках музейныя ўстановы літаральна абмяжоўвалі калекцыі пасіўным кантэкстам сцен. Культуры ж народаў, што насяляюць Новую Зеландыю, з'яўляюцца жывымі і надзвычай дынамічнымі. Таму з цягам часу змяняецца і падыход да іх інтэрпрэтацыі. Змены гэтыя пачалі праглядацца толькі тады, калі музей устанавіў зваротную сувязь з мясцовымі супольнасцямі. Для гэтага была распрацавана адмысловая сетка, што ўключае супрацоўнікаў па ўсім рэгіёне, якія, як правіла, з'яўляюцца прадстаўнікамі мясцовых плямёнаў. Вынікам дзейнасці супрацоўнікаў музея і лакальных супольнасцей стала стварэнне выставы «Культура рухаецца!» [5, с. 18].

Ідэя выставы — паказаць культуру мясцовага племені маоры ў дынаміцы. Як перадаць дынамізм, паказваючы толькі прадметы? Вось гэта і было галоўным пытаннем. І каманда музейных экспертаў паспяхова яго вырашыла. У музеі захоўвалася 13 000 прадметаў, звязаных з культурай маоры. Пасля іх вывучэння было вырашана экспанаваць танцавальны касцюм, ці, кажучы па іншаму, строй. Атрымалася так, што музейная калекцыя, не гледзячы на такую вялікую колькасць прадметаў, не мела поўнага комплексу танцавальных строяў. Таму музей зладзіў некалькі экспедыцый і дапоўніў недахоп «жывым» матэрыялам: касцюмамі, якія выкарыстоўваюцца і сёння ў рытуальных ды танцавальных практыках маоры.

Наступны крок — праектаванне экспазіцыйнай прасторы. Музейныя супрацоўнікі задзейнічалі ўсе магчымыя сродкі: фотаздымкі XIX стагоддзя, што адлюстроўваюць элементы танца або касцюма, танцавальныя строі, відэарад і гукавое суправаджэнне. Падчас адкрыцця выставы не абышлося і без сапраўдных танцаў. Усё гэта агулам спрыяла ўсведамленню ціхаакіянскіх культур як культур дынамічных, жывых.

Музей дасягнуў сваёй мэты і нават перавыканаў задачу. У выніку рэалізацыі шэрагу такіх выстаў узнікла зваротная сувязь з лакальнымі супольнасцямі, вырасла зацікаўленасць з боку грамадскасці. Гэта дазволіла музею павялічыць колькасць персаналу больш чым у два разы [5, с. 22].

## ПРАКТЫЧНАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ

Спадчыну неабходна не проста зберагаць і захоўваць, яе трэба выкарыстоўваць. У гэтым выпадку яна актуалізуецца, становіцца запатрабаванай і ўсведамляецца як сапраўдная каштоўнасць. Існуе шмат прыкладаў выкарыстання НКС у практычных патрэбах, не звязаных з турыстычнай сферай. Мы разгледзім адзін з іх, а менавіта — сістэму традыцыйных ведаў размеркавання вады ў Бахрэйне.

Умовы вядзення сельскай гаспадаркі ў Бахрэйне не самыя спрыяльныя з-за недахопу прэснай вады для арашэння глебы і іншых гаспадарчых патрэб. Таму мясцовае насельніцтва яшчэ ў даісламскі перыяд выпрацавала ўнікальную сістэму воднага размеркавання, якая павінна была ўлічыць вялікую колькасць фактараў. Гэта складаная сістэма перадавалася з пакалення ў пакаленне вусным шляхам, а са з'яўленнем іслама была часткова кадыфікавана і зафіксавана [6, с. 85].

У агульных рысах сістэма выглядае так. Для паліву раслін распрацавана і пабудавана складаная сетка ірыгацыйных каналаў рознай глыбіні і працягласці. Існуюць цэнтральныя (магістральныя) каналы, а ўжо ад іх адыходзяць меншыя. Цэнтральныя каналы знаходзяцца ў агульным карыстанні і звязаны сістэмай своеасаблівых шлюзаў з меншымі. Меншыя належаць канкрэтным гаспадарам. І вось тут узнікае адзін з самых складаных момантаў: неабходна забяспечыць справядлівае і роўнае размеркаванне вады ў гэтай сетцы. Калі адзін гаспадар перавысіць свой ліміт спажывання вады, то іншыя проста адчуюць яе недахоп. Таму на мясцовых радах, дзе збіраліся старэйшыя мужчыны — кіраўнікі гаспадарак, вырашаліся ўсе спрэчныя пытанні. У выніку з'явілася складаная сістэма, якая дазваляла ўлічыць мноства фактараў. Перыяды арашэння рэгуляваліся ў залежнасці ад сезона, часу сутак і перыяду, калі тая ці іншая сельскагаспадарчая культура спажывае асабліва шмат вады. Выпрацоўваўся расклад доступу да водных рэсурсаў. Парушыць яго было магчыма, але гэта лічылася неэтычным і асуджалася грамадствам.

У 1960-х з'явіліся глыбінныя насосы. Здавалася, праблема вырашана. Але праз некаторы час узніклі тыя ж цяжкасці, як і з размеркаваннем вады па каналах: у сістэме не хапала ціску, і калі нехта выкарыстоўваў шмат вады, іншым магло не хапаць яе [6, с. 92].

Для вырашэння гэтай праблемы была створана каманда экспертаў у розных галінах ведаў, у тым ліку і экспертаў па захаванні НКС. Спецыялісты правялі шэраг экспедыцый, знайшлі носьбітаў традыцыйных ведаў па ірыгацыйным праве і сабралі ўнікальны матэрыял. Падчас экспедыцый выявілі яшчэ адну праблему перарасходу вады — адсутнасць сацыяльных і этычных норм, якія б стрымлівалі гаспадароў. А нормы гэтыя пачалі губляцца са знікненнем традыцыйных ведаў і абшчынных сходаў.

У выніку было прынята рашэнне распрацоўкі адмысловай праграмы па падтрымцы НКС Бахрэйна — традыцыйных ведаў аб водным размеркаванні. Захаванне НКС звязана тут не з турызмам ці культурнай разнастайнасцю, а з практычнымі патрэбамі.

## НЕМАТЭРЫЯЛЬНАЯ СПАДЧЫНА І КУЛЬТУРНЫ ТУРЫЗМ

Напэўна, адна з самых прадказальных сфер выкарыстання і захавання НКС — гэта турызм ва ўсіх яго праяўленнях. Разгледзім прыклад выкарыстання НКС для развіцця памежных рэгіёнаў Харватыі і Славеніі. Праект «Крафтэтрэкт» быў рэалізаваны музеем харвацкага Загор'я і партнёрамі са славенскага боку. У шэрагу галоўных мэт рэалізацыі праекта — усебаковае развіццё рэгіёнаў, падтрымка рамеснікаў і прыцягненне турыстаў.

Ідэя праекта ўзнікла ў харвацкім скансэне — музеі «Старая вёска» ў Кумраўцы. Гэты музей быў адным з самых наведваемых у колішняй Югаславіі, а са змяненнем межаў і ідэалогіі попыт на яго паслугі знізіўся. Знізілася і запатрабаванасць прадукцыі мясцовых рамеснікаў. Падобныя праблемы з'явіліся і ў суседніх рэгіёнах Славеніі. Для іх вырашэння і рэалізоўваўся праект.

Падчас рэалізацыі была праведзена значная падрыхтоўчая праца ў выглядзе збору этнаграфічнага матэрыялу, фота- і відэаматэрыялаў і экспанатаў. Вынікам стала стварэнне шматузроўневай базы дадзеных

па традыцыйных рамёствах і промыслах у памежным рэгіёне [7, с. 48].

Пасля прайшоў цэлы шэраг сумесных мерапрыемстваў, якія павінны былі аб'яднаць сектар культуры (музеі, цэнтры рамёстваў), турызму (турыстычныя фірмы) і рамеснікаў. Праводзіліся кірмашы з майстар-класамі рамеснікаў, распрацоўваліся карты рамёстваў і тэматычныя маршруты, ствараўся спецыялізаваны на НКС турыстычны прадукт.

Узнікала шмат цяжкасцей, асабліва ў супрацоўніцтве з майстрамі старэйшага веку і прасоўванні на рынку іх прадукцыі. Не ўсе яны былі пераадолены, асабліва ў кірунку рэалізацыі тэматычных тураў па традыцыйных рамёствах. Але станоўчых вынікаў было нашмат больш.

Пачалася праца па ўключэнні ў навучальныя праграмы прафесійна-тэхнічных навучальных установаў курсаў па традыцыйных рамёствах. Гэта і захаванне НКС, і дадатковы заробак для носьбітаў традыцыі — майстроў.

Два элементы былі ўключаны ў Рэпрэзентатыўны спіс НКС ЮНЭСКА. Гэта тэхналогія вырабу традыцыйных драўляных цацак у Харвацкім Загор'і і тэхналогія прыгатавання пернікаў [7, с. 54].

У праекце актыўны ўдзел прымалі СМІ. Як вынік, з'явілася некалькі спецыялізаваных тэле- і радыёперадач, даступных і для майстроў сталага веку.

## ЗАМЕСТ ЗАКЛЮЧЭННЯ

Відавочна, што ў розных частках свету паступова прыходзяць да адной высновы — захаванне і памнажэнне НКС неабходна. Гэта неабходнасць звязана не толькі з культурнымі аспектамі або пытаннямі развіцця турызму. НКС можа выступаць кансалідуючым фактарам, можа несці этычныя нормы і вырашаць канкрэтныя праблемы лакальных супольнасцей. Хацелася б, каб міжнародны досвед захавання НКС выкарыстоўваўся і ў Рэспубліцы Беларусь. Ці добра мы ведаем нашу спадчыну? Ці чулі мы пра абрад «Калядныя цары»? А пра традыцыйную страву «Масляны баран»? Хто бачыў традыцыйныя «выбіванкі» наваградчыны або маляваныя дываны Паазер'я?

Наша традыцыйная культура валодае неверагодным патэнцыялам для выкарыстання і інтэрпрэтацыі ў сучасных умовах. Яе зберажэнне — гэта наш непасрэдны абавязак і справа гонару. Застанецца наша нацыянальная культура жывой ці ператворыцца ў закансерваваны рэлікт — залежыць толькі ад нас.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ:

1. Имплементация Конвенции ЮНЕСКО об охране нематериального культурного наследия на национальном уровне / [Институт искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы НАН Беларуси]. — Минск : Право и экономика, 2012. — 194 с.

2. Damages to Cultural Properties in the the Great East Japan Earthquake / Commissioner for Cultural Affairs [Electronic resource] — Mode of access: http://www.bunka.go.jp/english/index.html. — Date of access: 10.03.2015.

3. Federico, LIntangible Cultural Heritage: The Living Culture of Peoples / L. Federico // The European Journal of International Law[Electronic resource] — Mode of access: http://www.bunka.go.jp/english/index.html. — Date of access: 12.03.2015.

4. Text of the Convention for the Safeguarding of the Intangible Cultural Heritage / UNESCO[Electronic resource] — Mode of access:http://www.unesco.org/culture/ich/index.php?lg=en&pg=00006. — Date of access: 10.04.2015.

5. Uafa Mahina-Tuai, K. Intangible Heritage: A Pacific Case Study at the Museum of New Zealand Te Papa Tongarewa / K. Uafa Mahina-Tuai // International Journal of Intangible Heritage. — 2006. — Vol. 01. — P. 14—24.

6. Rudolff, B.A network of traditional knowledge: the intangible heritage of water distribution in Bahrain / B.Rudolff, M. aLZekri // International Journal of Intangible Heritage. — 2014. — Vol.9. — P. 84—95.

7. Horjan, G.Traditionnal Crafts as a New Attraction for Cultural Tourism / G. Horjan // International Journal of Intangible Heritage. — 2011. — Vol. 06. — P. 46—55.

Аксана ВАРАТНІКОВА

# ПАЛЕСКІ ЛЯЧЭБНІК-2

Будзем зваць яго так — Мастак. Насуперак падзелу у славян на мясцовыя мовы і сэнсы слоў. Блытаніна ж, і так усё закручана, аж галоўнага не зразумееш.

Ён, Мастак, рабіў не тое, што ўсе. І вучыўся некалі ў мэтра М. Д. І майстэрня пад дахам, рамантычна, з аглядам на поле і лес! І быццам назіраў за ўсім крышку зверху, з Космасу.

Знаёмка Аркуся казала, што калі ты на зямлі, то патрэбна быць з ёю. Часцей хадзіць, фарміраваць садок ці шыкоўны сад, а калі родзіць зямля, то садзіць і глядзець. І ён глядзеў.

— Пашкадуй узгорак, на ўскраі лесу не вырасце, — казала Аркуся.

І Мастак пачаў укопваць сям-там гаршчкі ў сваім гародзе ля лесу. Так рабілі ўсе на вёсачцы: і кабеты, і мужыкі, біты ж посуд заўсёды ёсць! І прыгожа было, пасадзіш туды што-небудзь, форма атрымоўвалася з нечым унутры, не пустэча адно! Ён любіў, каб з пасудзіны тырчаў цвяток-бархаток, шмат бархаткоў, у суседа фіялачкі, анюткі, таксама воку прыемнасць. А аднойчы ля коз, побач, у яго майстэрні пачаў на халсце маміным тыя ж кветкі пісаць. І не так як ў букетах, а па адной. І атрымоўвалася нейкае поле-кветак, болей і болей, і хутка не было і месца, а халсціна ужо зіхацела і гарэла. І тут Космас, яскрава, кветкі-зорачкі!

А потым атрымалася цікавае — суседка Таццяна ўпотай знесла халсціну з выявай любімай казы Вулькі і не прызналася. Ён пайшоў патрабаваць сваё і ўбачыў: стаіць на ўваходзе ў дом, а яе твар смяшлівы, збянтэжаны, радасны. І пайшоў. Раз ёй патрэбна — і людзям спатрэбіцца!

— А на ўзгорку мы паставім цэркаўку! На тры макаўкі! — так і казаў кожнаму, і верылі, прадстаўлялі. І самі стваралі, далучаліся да яго касмічных прыгод, і вобраз жыў, як Фата Маргана, доўгі час, нават айцец Антоній з Айкава прыязджаў паслухаць пражэкты, памаліўся, і хутка храм праваліўся, як шведская магіла, але Мастак плёў свае байкі далей.

Дзівак, яму шмат даравалі! Аднойчы падышоў у полі да жанчыны і абмацаў, каб зразумець форму, не так, як мужык. Не дзеля таго, што мужчына робіць!

— Ух ты, даўно ніхто не цікавіўся, — кабета правяла рукой па шыі і яму нічога не было.

Праслаўны атрымаўся ў яго жаночы партрэт. Сонца зіхаціць, валасы ворахам, верхняя частка рукі як вымя ў каровы! Любата! І яе, дарэчы, Любай клікалі. Яна казала слаўна так:

— Пакліч мяне!

Мастак мяшаў краскі і словы, якіх было шмат, як паролі. Прамовіць спачатку, каб акрэсліць іншы свет. Танчэйшы за наш.

А за штучным святлом хадзіў да дома генеральшы. Так яе празвалі. Некалі ў цэнтры іх сяла ваенны паставіў хату і зараз там дзве, не, тры прыбудоўкі, большыя за саму пабудову. Ваенны даўно ў лепшым свеце, а яна тут. І на сон запальвае начныя лямпачкі. Яны і ствараюць блакітны касмічны фон, свячэнне для душы нашага Мастака, бо загараюцца ў цьме на ўзгорку. Нябёсы побач з чалавекам! Аднойчы запрасіў ён генеральшу, каб кансультавала, які кіцель быў на генерале. І генеральша сказала, што на пагонах зорку трэба прыладзіць, вялікую. І залатыя галінкі з маленькімі зорачкамі. Генеральскі Космас такі! Усе імкнуцца ўверх!

— Нешта шмат баўбатні, — сказаў Мастак услых. — Лепш пагляджу партрэт дзеда, што прыйшоў тады з заказам! Прыйшоў, паказаў фотку зашмальцаваную і пачаў філасофію разводзіць: «Быў я ў арміі і так мне пада-



радзе любімы казёл Ілья. І гэта ўсё адно, козы як частка жыцця, гардэроба! Прыблудзілася шчаня — абазваў Раша. Во як!

А калі затапіла пойму, луг, яго інсталяцыі чамусьці выперла, вылучыла сама стыхія. Яны не толькі не зніклі, а так і стаяць над вадой. Не шкодзіла Вялікая вада, не возьме і Час! Ён спадзяваўся. І думкі выказваў уголас, і побач быў сабака, ягоны Бутон. Суседка празвала яго Батон, батонамі і частавала сабаку, уліваючы курыную юшку. Паеўшы, Бутон, як быццам хацеў чуць апаведы Мастака, клаўся і адпачываў!

— Толькі не глядзі так! — казаў сваё Мастак загадкавай псіне. І працягваў: — Хутка тут, на маім падвор'і, прызямляцца мае браты, і твае таксама.

Бутон глядзеў і, мабыць, разумеў, бо выгляд у яго быў разумны. Вялікія вочы з чорнай акантоўкай, крыху раскосыя, і рыжы чэрап, большы за галаву Мастака, які заўсёды хадзіў у відаўшай лепшае жыццё шапцы, цеснай і паліналай! А людзі, як і чакаліся, былі з іншых вёсак і далёкіх планет, як быццам рэальныя са сваім непаўторным воблікам і высокамаральным парадкам. Так меркавалася.

А пакуль ён усім прапанаваў паглядзець пляцоўку, дзе адбудзецца сустрэча, на тым месцы заўсёды было нарыхтавана шмат дроў для вялікага вогнішча.

— Каб відаць было з Космасу маленькую вёсач-

баўся строй генерала, хоць на старасці павешу сваю выяву ў пакоі і буду глядзець, кім бы я быў, каб дзеткі не высмакталі мае сілы! Во, — і паказаў фотаздымак, — я тут у ваенным, негенеральскім, мундзіры, змяні крыху, ты ж мастак, вольны і магутны дар маеш, людзей нанова ствараеш!» Давялося намагчыся і напісаў жа!

Аднойчы Мастак і сябе ўбачыў! Не, не ў люстэрку. Ішоў ён па дарозе, а бусел сядзеў на зямлі ля разбуранага начным вэрхалам гнязда. Такі ён і ёсць — бусел на зямлі. Зямля ўсё, што ёсць! І птушка з вялікім крылом, а не курыца. Хаця і гэтых ён любіў і песціў!

Складаў камяні ў кампазіцыі, дзе грыб, дзе горка камянёў, адзін на адзін, як у японцаў! Зараз кажуць — медытацыя ля танцуючых камянёў! Таксама і камень на дрэва, а дзе і маляўнічы курганок з камянёў. Археолаг казаў, што ў старажытнасці былі каменныя магілы ў памяць продкаў, так што Мастак быў не гэтага часу. Дзіўна! Лёгка дамаўляўся з камянямі, а з людзьмі…

Дрэвы ён не пілаваў, як звычайна, а з кінутых частак складаў, зрабіўшы фон з жывых. Веткі прыгожа адцянялі шэрыя ствалы і галіны. А галоўнае, прыслухоўваўся, што ў дрэве жывуць жучкі, машкара, папуляцыя мурашоў. Слова «папуляцыя» прыгожае, старамоднае, лацінскае. Мастак разумеў яго як «народ». І ўздыхаў, што народ у мурашоў ёсць, а ў людзей няма.

Нейкія сустрэчнікі. Іх дэвіз: How are you? Такі час зараз! Мастак сёе-тое з моў ведаў.

Каб вы яго бачылі! Ацанілі б выгляд Мастака: звязаны шнурам шалік, на нямытую ніколі працоўную адзежу накінуты модны скураны гарсэт і заўсёды козы за ім. А напе-

ку! І збірала людзей разам. Мастак пералічыў па пальцах, калі збіраліся ўсе: канешне, калі адыходзіць душа чыясьці ў лепшы свет. Потым воўка бачылі ля пасекі, усе сабраліся і сядзелі ноч у Ані Селькі, а ён са стрэльбай. А яшчэ дэпутат гуляў па вёсцы, а вакол людзі пазбіраліся — жывы дэпутат! Пахадзілі за ім. Потым Селька пытае: «А навошта быў?»

І Мастак пісаў карціны, даглядаў лес і чакаў на маленькім плацы невядома чаго!

І вось аднойчы на заходзе сонца ў ягоным схроне — хаваўся ж, чакаючы братоў па розуме, — неяк зашубусцела і затрэскала, а потым паказаўся невядомы і пайшоў у бок яго агарода. Мастак заціх, зрок не дазваляў убачыць, таму і дастаў бінокль, ваенную штуку з нейкай рэдкай лазернай наводкай. Ён бачыў, як ідзе невядомы, як бярэ біты гарлачык і як трасе ў разору.

Выкінутыя кветкі ў змроку як быццам свяціліся. Мастак глядзеў, што будзе далей. Невядомы трос пасудзіну за пасудзінай і скідаў кветкі ў кіпу. Хто як, а Мастак зачаравана глядзеў на кіпку кветак і меркаваў, як гэтую чарнавата-зялёную кіпку з ярка жоўтымі кветачкамі перанесці на халсціну. Гэта тое, што ён бы не зрабіў са сваімі кветкамі, дапамог вось гэты цікавы чалавек-трасун!

Тры невялічкія карціны з каляровымі кропкамі на чорным фоне напісаў хутка, амаль без грунту, як пабачыў уночы. Мастак рабіў нягнуткімі рукамі нейкі феерверк на палатне і чамусьці ў ягонай фірменнай акантоўцы гэта было часцінкай неба, дзе вясёлыя зорачкі рознымі колерамі групаваліся, разыходзіліся. Неба было жывым. Як быццам жывым! Назаўтра ён, яшчэ са сну, паставіў тры карцінкі ля сценкі дома, пасядзеў, паглядзеў на свой Космас і пайшоў даваць корм сваім добрым козам. Мяшалася ўсё, што было, кашы і хлеб, агуркі — і яны ўдзячна хрумкалі. Каб не яны — не выжыў бы Мастак са сваім скудазваным стылем!

Прыязджаў крытык Няхай у зялёных штроксах, на хлеб з маслам зарабляць. Ён піша артыкулы пра ўсіх мастакоў. І да яго, Мастака, чарга дайшла. Угаварыліся на тым, што Валер павёз дваццаць халстоў на выставу і няма, на памяць аб ім застаўся сказ: «Трэба працаваць, бо тое, што нерэалізавана, Бог не бачыць. Бог толькі сілу надае…» І яшчэ сумна сказаў, што Мастак робіць travel first klass.

Дзень быў звычайны. Хадзіў да суседа пагаварыць пра яго непуцёваю дачку: з’ехала ў Германію, ёгурты пакуе. Потым зноў козы, потым сусед з віламі за травой… і так да вечара. Ён згадаў пра карціны і пайшоў забраць, унесці ў майстэрню. Дзве, а не тры стаялі ля сценкі і нават увечары зіхацелі жоўта-чырвонымі кропкамі. Адзін паэт сказаў, што зоркі шэпчуцца. І размова зорак месцілася ў яго, Мастака, ля сэрца. Магічна прыцягвалі яго кавалачкі штучнай рэчаіснасці!

— А дзе ж трэцяя малёўка?

Так і пайшоў спаць. А назаўтра пошукі прывялі да суседкі Таццяны.

— А чаму ты Аскірку даў свежаскос, ён жа твае гаршчкі патрос, шукаючы скарбы з манетак, — начытаўся! — суседка залішне громка сказанула і знікла ў сваім доме. Не запрашае. А ў яе заўсёды такі смачны супчык. Страўнік Мастака нешта падвываў! Га, значыць пасудзінкі трос Аскірка!

І ён тут жа, усё ж недалёка на вёсцы, і ўсе ўсё ведаюць.

— Што, без увагі пойдзеш? А дамоў не пусціць. Я ўчора бачыў, як яна твой шэдэўрык сцягнула, — Аскірка, сам не ведаючы, усё далажыў Мастаку. Хацеў, каб сварыліся, біліся, руху хацеў!

Вёска жыве яшчэ, цепліцца і пераліваецца кроў! Космас абдымае ўсю зямлю, пранізвае танюткімі ніцямі ў адно і трымае моцна.

— Як я іх люблю, — падумаў Мастак. — Што я без іх жывога інтарэсу, без зноснай шкоды і адвечнай вараватасці? Нішто…

Усе па-рознаму залежалі ад зямлі, а яго мастацкая жылка — ад неба, ён адчуваў. Усё прымаў і маляваў, не ўкладвалася ў галаве толькі адно: як так павялося, што пазбягалі мужчыны жанчын, а жанчыны па-традыцыйнаму былі ў адзіноце… Удовы, развядзёнкі, векавухі, феміністачкі, адзінокія палюбоўніцы (найбольш хітрыя). Зараз з’явіўся рух child free. Што будзе? Ён сядзеў ля свайго клёна і думаў. Кожны год яго кляновае дрэўца як Адоніс, той, што восенню паміраў ад паўнаты пачуццяў і любові ды адраджаўся вясной. Мастак плакаў.




АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@bk.ru

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар *К. С. ГОЛУБ*

Падпісана ў друк 09.06.2015. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,34. Тыраж 1895 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 21 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск